# ЗАМЕЖНАЯ БЕЛАРУСЬ

## ЗБОРНІК

## ГІСТОРЫІ, КУЛЬТУРЫ І ЭКАНОМІКІ

ПАД РЭДАКЦЫЕЙ

П. А. КРЭЧЭЎСКАГА

---

КНІЖКА ПЕРШАЯ

ПРАГА

ВЫДАВЕЦТВА ІМЯНІ Ф. СКАРЫНЫ

1926 г.

# ЗЬМЕСТ.



*Типография „ЛЕГИОГРАФИЯ“, Прага-Вршовице 665.*

## АД РЭДАКЦЫІ.

Першы том Зборніка «Замежная Беларусь» выходзіць у самы адпаведны момант дэфэрэнцыяцыі беларускай думкі.

Менск, Вільня, як і беларусы Літвы і Латвіі, не гаворучы ужо аб заграніцы, да Амэрыкі ўключна, стаяць перад дылемай вырашэньня нацыянальнае праблемы:

Ці нацыянальная палітыка мусіць быць толькі формай у дзержаўным зьмесьце пралетарскіх Саветаў, ці форма і зьмест павінны быць беларускімі па істоце, як у нацыянальна-культурнам, так і дзержаўнам жыцьцю народу.

Альбо рамантызм дабравольнай беларусізацыі, разлічаны на салідарнасьць пралетарыяту, які на Беларусі гаворыць чужымі мовамі, альбо рэалізм беларускай мовы, належачай выключна беларускаму селянству.

Ад вырашэньня гэнае справы залежыць будучына беларускай дзержаўнасьці, у якой бы форме яна не выявілась.

За беларусізацыей — ідзе калёнізацыя і эканамічнае паняволеньне краю, за беларускай мовай — ідзе самастойнасьць і поўнае развіцьцё беларускіх сіл.

Рэдакцыя стаіць за апошняе і у гэтым напрамку Зборнік «Замежная Беларусь» будзе вясьці сваю працу.

З народам — за народ, і ні з якой дыктатурай супроць народу.

*Рэдакцыя.*

1525  1925

**25 Сакавік 25**

## БЕЛАРУСКАМУ НАРОДУ.

Дзе слава наша, слаўны род
Славян з прадвеку жыўшых вольна,
Выходзь-жа, беларус — народ,
Са братняй крыўды бэзпатольнай.
Выходзь на сьвет з багна-балот,
Як тыя рэчкі, што нясуцца
З зямлі тваей на поўдзень, ўсход —
Выходзь, выходзь!..

*

Пад сьмех братоў сваіх славян
І помсты ворагаў бязмерных
Дружынай сьмелаю селян
Выходзь на змогу сілай вернай!
Німа той сілы, перашкод:
Паводка устрыму не баіцца,
Упярод-жа, беларус-народ,
Выходзь, выходзь!

*

З пад чорных, курных хат
На волю, на прастор,
Усім на перакор,
Выходзь мой родны брат!
Твой край із края ў край —
Дыван квяток і рэк шумлівых,
Непераходных пушч, — цудоўны гай,
Зуброў прытулак, сэрн пужлівых.
І толькі ты адзін —
Патолі, працы сын —
Не гаспадар — батрак.
Не — не!... не будзе так!
Выходзь жа з чорных хат
На волю, на прастор,
Усім на перакор,
Мой беларускі брат!

*К.*

## СКАРЫНА І НЕЗАЛЕЖНАСЦЬ.

Гісторыя па невядомым нам прычынам, бэз ніякай думкі з боку сучаснікаў, злучыла дні выхаду першай беларускай кніжкі з друкарні Скарыны у Вільні і абвешчэньня незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі на 25 — сакавіка.

У гэты дзень 1525 г. выйшла першая кніжка «Малая падарожная кніжыца», у якой была змешчана — Псалтыр з Пражскай Біблії, Часасловец, Акафісты, Шастаднёў і Саборнік (сьвятцы).

(Гісторыя Беларускае літэратуры М. Гарэцкі. 2 выд. бал. 22).

Тагож самага дня 1918 г. была прагалошана незалежнасьць Беларускай Народнай Рэспублікі, роўна 400-гадоў пазьней, як Скарына пачаў сваю друкарскую працу у Празе Чэшскай.

Выпадковае злучэньне гэных дат у народным жыцьці бэзварункова ня можа лічыцца выпадковым у гісторыі, якая мае свае законы і падставы.

Вынахад друкарства, па выразу самаго пачынальніка і вынаходцы друкарства Іогаганна Гутэнбэрга, — ёсьць найвялікшы вынахад у сьвеце. Само сабой разумеецца, што народы раней другіх прылучыўшыеся да гэтага вялікага вынахаду, маюць права на назову культуртрэгероў у агульна-чалавеччай культуры.

Эўропа у гэтым выпадку далёка аперадзіла славянскую раўніну на ўсходзе, аднак і Беларусь займае тут не апошняе мейсца. На ўсходзе Эўропы у друкарстве ей належыць першынства.

Бацько друку Гутэнбэрг пачаў сваю працу у Нямеччыне у 1456 г. У 1465 г. друкарства зьявілась у Рыме, у 1470 г. — у Францыі, у 1478 — у Швэйцарыі і Чэхіі, у 1480 г. — у Англіі, у 1489 — у Партугаліі, у 1491 — у Кракаве (Польшча), у 1499 г. — у Гішпаніі, у 1525 — у Вільні (Беларусь), у 1564 г. — у Маскве і 1574 г. — Львові (Украіна).

Многа было спрэчак аб друках Скарыны, дзякуючы таму, што старадауная славяншчына служыла падставай мовы усіх славянскіх народаў на ўсходзе і таму прэтэндавалі на-Скарыну у першую чаргу Велікаросы і часткова Украінцы.

Агульна-расейская культура да гэтае пары не дае спакою расейскім прафэсарам; аднак навуковыя доследы срога аб'ектыўных

у навуца асоб змушаны былі прызнаць бэзпадстаўнасьць такіх доследаў ужо па таму, што ва ўсіх яго кнігах уведзяны чыста мяйсцовыя словы беларускае мовы, якія ужываюцца на Беларусі і да гэтае пары: «Борзда, бараніць, вінавацідь, вір, жыта, карагод, пражыцца, пуга, скрыня, цяміць, ўзгорак, віхар і інш.»

Адыграла пэўную ролю у гэтых доследах і паходжэньне Скарыны з Полацку, самага сэрца тагачаснае Беларусі. Калі у часы панаваньня Расеі, было мажліва рэнэгатства і культурная праца на пануючай мове, то у той час, калі працаваў Скарына, мейсца паходжэньня адбівала і яго нацыянальнасьць і залічыць Скарыну з Полацка Маскоўцам, альбо Украінцам — немагчыма. Гэты доказ нікога у правідловасьці перэканаць ня мог і сягоньня аб гэтым сурьёзна ніхто не говорыць.

Нічога не дадае да гэтага і прадмова да надрукованых у Празе 22— кніжак: «Біблія руська, вылажана Доктарам Францыскам Скарынаю із слаўнога града Полоцька, Богу ко чці і людзям посполітым к доброму научэнью.» Назова «русь», якая належала выключна Беларусі і Украіне, паколькі Літоуска-Беларускае Княжства абеднывала гэтыя тэрыторыі за часоў Вітаўта і Альгэрда, ніякім чынам не магла належаць Князям Маскоускім, бо німа ні воднага старога дакумэнту, які бы абшары на ўсход ад Літоуска-Беларускага Княжства называў інакш, як масковіей, Московітамі.

Барацьба за Беларускую «вотчыну» распачалась у 1491 г., пры Іване III з Беларуска-Літоускім Князям Александрам Ягайлавічам. Гэта барацьба дасягае найвялікшага напружэньня у 1500 г., калі Іван III пачынае вайну са сваім зяцям, жанатым на яго дачцы Галене, — Аляксандрам Ягайловічам за тое, што апошні у аднэй з грамат не назваў Івана «Гасударам усея русі».

Разумеецца, што Беларуска-Літоускіе Князі не хацелі аддаваць гэтае назовы Маскоўскім Князям.

Змаганьне за назову «Русь» і першынства ўзнауляюцца у 1508, 1513, 1516, 1518, 1519, 1534, 1535 і 1536 г. Абедзьве стараны змораныя барацьбой заключаюць мір, які трывае 25 гадоў і пачынаецца зноў у 1563 г., пры Іване IV. Грозным, калі ён, варвaушысь у Полацк, абрабаваў і вывяз у Маскву золата, срэрба, гістарычныя памяткі і архівы.

На гэтай падставе і Скарына называе сваю Біблію «руськой», знача беларускай, бо у сваіх прадмовах да друкованых кніг гаворыц ясна: «Понежа от прырожэньня зверы, ходяшчія у пустыні, знають ямы своя; птіцы лятаюшчыя па воздуху, ведають гнезда свая; рыбы, плываюшчыя па мору і у рэках, чуюць віры свая; пчолы і тым падобная бароняць вульлеў сваіх, — также і людзі, ікдзе зрадзіліся і ўскормлены суць па Бозе, к таму месту вялікую ласку імають», (Прадмова да кнігі Юдіф).



Не мог тут Скарына гаварыць аб Маскве, ці той Русі, якой яшчэ не было і да якой Полацк, тое мейсца, якое мела у Скарыны такую ласку, не належала. Тым барджэй гэнай назовы «Руська» не мог Скарына даваць і мове Маскаўскага Княжества, бо у другай прадмове кажа, што распачаў сваю працу друку на беларускай мове «найболе з тое прычыны, іжа мя Міласьцівы Бог з таго языка на сьвет пусьціў». (Прадмова да Псалтыри).

Калі Скарына радзіўся і памёр, мы не знаем. Дапусьціўшы, што Скарыне было у 1504 г. 14 лет, калі ён запісаўся студэнтам у Кракаўскі Унівэрсытэт, заплаціўшы ўступных два грошы, пад назовай Franciscas Luce de Polocko — можна прыгадліва сказаць, што ён радзіўся у 1490—91 г.

Доля Скарыны, як і ўсей беларускай гісторыі занатавала нам найважнейшые моманты народна-палітычнага і культурнага жыцьця, пагубіўшы у архівах нашых насільнікаў, ўсе драбносткі, так дарагіх нам зьявішч на нашай гісторычнай дарозе. Мажліва, што гэтыя дарагія нам памяткі былі папаляны і знішчаны, альбо у часе нападаў на Полацк у 1563 г. Івана Грознага, альбо спаляны Палякамі у Вільні у 1581 г.

Паленьне беларускіх кніг і докумэнтаў прадаўжалась амаль два стагодзьзя і даканчывала гэта барбарства яшчэ у 1860 г. Расейская Улада у Біскупствах — Віленскім, Менскім, Вітэбскім, Валынскім і Падольскім. Колькі іх было спалена нікому не ведама. (Крывіч №1. (7) 1924 г. бал. 59—61.) Але не глядзячы на жорсткую барацьбу з беларускай гісторыяй і культурай, на яе нішчэньне, яна расла і развілась, хоць пакінула па сабе, менш як у другіх народау пісаных памятак і давяла народнае жыцьцё, пасля 300-летняга занепеду да выяўленьня цьвердае волі незалежнага істнаваньня — 25-сакавіка 1918 г.

Асновапаложнікам гэтага быў Скарына з Полацку і яго друк.

Скончыўшы праз два гады, у 1506 г. Кракаўскі Унівэрсытэт Бакалаўрам, Скарына дзесь вандруе па Захадняй Эўропе. Вучыць жыцьцё Эўрапэйскіх народаў і штудуе мэдыцыну, да якой ён меў вялікую прыхільнасьць. Дзе гэта адбывалась і як, гісторыя не мае данных, але у Падую, у Італіі, Скарына зьяўляецца у 1512 г. зусім пэдгатаваным да экзамену на доктора і просіць, каб яго дапусьцілі экзамінавацца бэзплатна, так як ён па беднасьці не мае грошы, каб заплаціць патрэбную суму.

Доктар Мусаті, адзін з прафэсароў Падуанскага Унівэрсытэту надзвычайна спагадліва аднёсься да маладога вучонага Скарыны і запрашаваў яму прыйсьці 5-лістапада, на 5ую гадзіну вечара, у касьцёл Св. Урбана, куды ён склікаў прафэсароў мэдычнага Унівэрсытэту.

На сходзе прафэсар Мусаті абвесьціў, што у Падую прышоў з далёкіх краёў, у адлегласьці 4-х тысяч кілямэтраў надзвычайна

вучоны, але бедны муж, які мае ужо докторскую адзнаку (Eximus artium doktor Franciscus gn. Domini Lucae Skorina de Polocko Ruthenus) і прасіў дазволіць яму «de grata speciali ad amore Dei» бэзплатна экзаменавацца. Пасля докладу прафэсара Мусаті, быў пакліканы і сам Скарына, які горача вылажыў сваю прозьбу, каб яму пазволілі бэзплатна трымаць экзамен на доктора мэдыцыны.

6-лістапада распачаліся ўступныя іспыты у тым самым касьцёле, перад 14- прафэсарамі мэдычнага факультэту, а 9- лістопада у Біскупскам палацы, пад старшынствам вікарнага біскупа П. Забарэллі, у прысутнасьці ўсей калегіі Падуанскага унівэрсытэту з 24-х асоб, пачаліся іспыты на доктарскае званьне.

Іспыты Скарына вытрымаў надзвычайна добра і аднаголосна быў прызнаны годным званьня доктора мэдыцыны, у чым і атрымаў з рук прафэсара Барызоні атэстат.

З гэага часу Скарына до свайго подпісу заужды дадае: «Навук вызваленых і лекарскіх доктар».

Пасля гэтага Скарына зноў знікае з гістарычнай памяці. Разумеецца, ня меўшы грошы на іспыты, ён ня меў іх і на падарожу і хучэй усяго, на пяхоту накіраваўся на бацькаўшчыну. Быў у Чэхах і Нямеччыне, знаёміўся з людзьмі. Пабываў у Полацку і Вільні, прыглядаўся да абставін і рыхтаваўся да працы, якая яшчэ мусіць з Кракова, пад уплывам яго прафэсара Яна Глагоўчыка, які ужо перэкладаў Біблію на рускую мову, цягнула... але адпаведных варункаў для гэтае працы Скарына на бацькаўшчыне не знайшоў і вырашыў падацца у Чэхію, як самую свабодную старану таго часу.

Апрача агульных падстаў, якія змусілі Скарыну узяцца за пераклад і друк Бібліі, як яго прадмовы да выданьня: «Понежэ не только докторове, а люди вчэные в ніх разумеють, но всякий чэловек простый и посполиты чтучы іх, или слухаючи может разумети, что есть потрэбно к душному збавенню его», альбо: «в сей книзе всея прирожоное мудрости зачало і конец, Бог Вседержитель познаван бываеть... В сей книзе вси закони и права, ими же люди на земли справоватися имеют, пописаны суть... В сей книзе вси лекарства душевные и телесные зуполня знойдете... Ту научение седми наук вызволеных достаточное. Хощчеши ли умети граматику или по руски говорячи грамоту, еже добре чести и мовити учить, знойдеши в зупольнои Библии Псалтыру, чти её... Ашчели же кохание имаше ведати о военных а о богатырских делех чти книги судей, или книги Моковеев. Более и справедливее в них знайдеши, нежели во Александрии или во Трои (Крывіч №1. 1924 г. бал. 10).

Але мы не застанаўліваемся на агульных падставах Скарынинскага друку, нас цікавіць маральная і нацыанальная старана працы Скарыны.

Любоў да сваей зямлі — тэрытарыальны нацыаналізм, як я адзначыў раней з яго прадмовы да книгі Юдіф, выяуляюцца яскрава



у словах: «Також и люди и где зродилися и ускормлены суть по Бозе, к тому месту великую ласку имають».

Любоў да народу і сваей мовы, — нацыанальнае усьведомленьне — можна бачыць з прадмовы да Псалтыру: «Я, Францишек Скорынин сын з Полоцька, в лекарских науках доктор, повелел есьми Псалтырю тиснути рускими словами а словенським языком напредꙑко чти и к похвалѣ Богу в Тройци единому и Пречистой Его Матери Марии всем небесным чином святым Божьим, а потом к пожитку посполитаго добраго, найболей с тое прычины, иже мя милостивый Бог с того языка на сьвет пустил».

Запраўды, у чалавека Эўропэйскі асьвечонага, у эпоху барацьбы за свабоду вызнаньня, першай думкай зьяўляецца жаданьне — не пашыраць сваю навуку, не дабівацца высокага становишча паміж другімі, а приблізіць да свайго знаньня свой народ. Скарына спяшаецца даць свайому народу кніжку на сваей роднай мове, ці набліжаючэйся да яе, каб і яго народ мог далучыцца да агульна чалавеччай культуры таго часу.

Агледзіўшысь, што на бацькаушчыне спрыяючых варункаў да друку німа, а можа і баючыся, каб і яго не спаткала доля Фіоля — першапечатніка — друкара Бібліі на славянскай мове у Кракаве у 1491 г., разбурнага фанатычным духовенствам, Скарына едзе у Прагу Чэшскую, дзе панавала поўная рэлігійная свобода і у 1517 г. распачынае працу. Час ня церпіць і Скарына з надзвычайнай быстрынёй выпушчае са сваей друкарні кніжку за кніжкай.

У 1517 г. выйшлі з друку: Псалтыр, кніга Іова, Прытчы, кніга Сіраха; у 1518 г. — Эклезіаст, Песьнь песьняў, Прамудрасьць Саламона, кнігі Царстваў, Ісуса Навіна; у 1519 г. — Юдіф, Суддзяў, Пяцікніжжа Маісея, Руф, Эсфір, Плач Іереміі, Кніга Пророка Данііла.

Праца ідзе шпарка, бо Скарына як найхучэй, корыстаючысь спрыяючымі абставінамі, хоча даць «Вырозуменьня раді простых людзей», Біблейскія кніжкі на беларускай мове нават з малюнкамі.

Мажліва, што абставіны былі ужо не так спрыяючыя, як раней у свободнай Чэхіі, бо мы да гэтае пары ня ведаем дзе і з кім у Празе друкаваў Скарына свае кніжкі. Гэта наводзіць на думку, што друк Скарыны адбываўся патаемна. Сьведчыць аб гэтым і раптоўны зрыў працы, не дакончыўшы яе і переазд у 1519—20 г. Скарыны у Вільню.

Калі ўзяць пад увагу, што ужо у часы пабыту Скарыны у Празе, распачалась барацьба паміж Ягелонамі, пасля сьмерці Людовіка, і Гаўсбургамі - (Фэрдынанд) - за Чэшскую карону, якую і атрымалі немцы у асобе Фэрдынанда 13 сьнежня 1526 г., то стане ясна, што свабоды Гусітаў, Табарытаў і Братоў — скарачаюцца, а павялічываюцца і пашыраюцца правы каталікоў з нямецкімі баронамі, духавенствам і Чэшскай шляхтай па загаду Рыма. Магчыма, што і Скарыне, які Шпайгольту Фіолю у Кракаве — пагражаў арэшт за гэрэтыцтво, чаму ён так хутка і перанёсся у Вільню. А можа яго прымусіў да гэтага мор, быўшы у Празе.

Народны дух і абставіны, сярод свайго народа, у найлепшую пару панаваньня Беларускай культуры, надавалі Скарыне яшчэ больш сілы, каб сваімі рукамі далучыць беларускую мову і культуру да усечалавеччай культуры.

Перакінуўшысь у Вільню, Скарына закладае друкарню: «в дому почцівого мужа Якуба Бабіча, найстаршаго бурмістра славнаго і вялікаго места Віленскаго» і 25 сакавіка 1525 г. выдае «Апостола і Малую падарожную кніжыцу».

Так, на ўсходзе Эуропы першым вучоным докторам Скарыной быў заложаны моцны асяродак культуры у Вільні, у Скарынінскай друкарні. З гэтага асяродку, як іскры з вогнішча, раскідаліcь ва ўсе бакі славянскага міру друкі Скарыны. Кніжкі яго Біблії разыходзіліcь на абшарах Баўгарыі, Сэрбіі, Чэхіі, Польшчы, Украіны, Маскоушчыны, не гаворучы ужо аб Беларуска-Літоўскам Княжстве.

Трэба ведаць, што Скарынінская Біблія зьявілася трэцяй у Эўропе. Першай у 1445 г. была надрукована — Нямецкая, другой — у 1448 г. — Чэшская, і трэцяй — у 1517 г. Беларуская.

І па істоце, і па характеру друку Скарынінскія выданьня былі лепшые за Нюрэнбергскіе і Вэнэціанскіе. Скарынінскі друк браўся за прыклад, а увесь славянскі сьвет карыстаўся імі, як больш зразумелымі, ніж старацаркоўныя рукопісы старого пісьма.

Паволі, ад друкаў Скарыны, пачынае друкарства распаўсюджывацца і на Ўсход. Думка аб друкарні зьяуляецца у Маскве у 1551 г. і зьдзейсніваецца толькі Іваном Грозным у 1563 г., куды былі запрошаны са Скарынінскай друкарні Масковец — Іван Фёдараў і беларус Пётра Мсціславец з Магілёва.

Лёс першых друкароў у Маскве быў кепскім, ім хутка прышлось уцякаць ад цемры Маскоўскай на Беларусь.

Дзякуючы беларускаму Гэтману — Рыгору Хадкевічу, яны змаглі адчыніць друкарню у родным мейсцы Хадкевіча — Заблудаве, дзе у 1569 г. надрукавалі «Паучыцельнае Евангеліе». Гэта «евангеліе» Хадкевіч хацеў надрукаваць на беларускай мове і казаў: «Памыслил же был есьмы же и се, иже бы сию книгу, выразуменьня ради простых людзей, преложици на просту мову.» Але зрабіць гэтага не удалося. Люблінская вунія разбіла пляны Хадкевіча, ярым праціўнікам якое ён быу і друкары, не маючы падтрымкі з боку Хадкевіча, прымушаны былі выехаць з Заблудава.

Фёдараў выезджае у Львоў і з 1572 г. закладае там Украінскую друкарню і выдае у 1574 г. першую кніжку «Апостол», як пачатак Украінскага друку, а Мстіславец пераезджае у Вільню і ўзнаўляе перэрванае пасля Скарыны беларускае друкарства з 1574 г.

Такім чынам першая кніжка друкованая на Беларусі зьявілася 400-га доў таму назад, у Маскве на 40 г., а на Украіне — на 50 гадаў пазней.

400 гадаў таму назад, верны сын свайго народу Скарына, атрымаўшы Эўрапэйскую асьвету і аперэдзіўшы свой народ ня менш як на 100 гадоў не адышоў ад народа, не стаў толькі сьведкай народнай цемры, а адразу панёс сьвятло навукі у свой народ і адкрыў сапраўды на Беларусі залатую эру развіцьця культуры і веды.



Без Скарыны і яго друкаў, ніколі беларуская мова не стала б дзержаунай у Літоуска-Беларускім Княжстве.

Надзвычайны напор польскай культуры са ўсім дзержаўным апаратам і прывілеямі для староннікаў Люблінскай вуніі, толькі таму і не перамог, што народ ўзгадовываўся на друках Скарыны. Як камяннай сьцяной Беларуска-Литоускае Княжства адгарадзілася ад Польшчы і пасля падпісаньня Люблінскай вуніі, тыміж самымі здабыткамі культуры, якія пакінуў свайму народу, на яго роднай мове Скарына. Ня толькі народ, а нават і шляхта, якая разам з Ягайлам у 1380 г. адарвалась ад роднага карэньня, чытаючы кнігі Скарыны, вярталась да роднай мовы і гуртавалась каля Кракаўскага манастыра Грэцкага абраду.

Хадкевічы, Радзівілы, Сапегі, Астрожскіе і інш., як стаўпы стаялі на варце беларускага народу і яго роднай мовы.

Толькі Скарына і яго наступнікі, ўзгадованыя на яго друках спаслі Літоуска-Беларускае Княжства ад поўнага зліцьця з Польшчай, чаго так дабіваліcь палякі.

Творчасьць, выхова народа, звычаі, распарадак жыцьця і судовыя законы — усё апіралась на пройшласьць Скарынінскага друку і тварыла далей беларускую культуру, літэратуру і законы.

Горы спаляных кніг, старых памятак мінуўшчыны, сьведчыць нам аб гэтым, але і тое што засталося, не можа нас выкрэсліць з радоў культурных народаў і цяпер.

Мабыць гісторыя мела свае пляны і законы, выкрэсьліўшы з нашай гісторыі ўсё дробнае і пакінуўшы толькі галоўные фактары народнай творчасьці і культурнай спеласьці.

Ніхто ня ведае напэўна ні дня, ні года калі радзіуся і памёр наш вялікі друкар і вучоны Скарына. Да гэтае пары спрэчаюцца, якога вызнаньня быў Скарына, праваслаўгана, ці каталіцкага. Ніхто ня ведае абставін жыцьця Скарыны у часы яго вучэньня, таксама як у працы. Аддаўшысь друку, як пэўнаму служэньню свайму народу, Скарына ня меў зусім, відаць, свайго асабістага жыцьця. На гэта паказывае той факт, што ён толькі скончыўшы працу у 1529 г., калі яму было каля 40 гадоў, ажаніўся са удавой Юрыя Адверчанкі — Маргарытай. Жыў бедна аж да самай сваей сьмерці...

Аднак усе ведаюць, колькі Скарына у такі кароткі час надрукаваў кніжак. Усе ведаюць, што на падставе Скарынінскіх друкаў беларускі народ захаваў сваю самабытнасьць і ня зліўся з польскай дзержавай, ня гледзячы на тое, што нацыянальнага усьведамленьня, у нашым сэнсе слова, тады яшчэ не было.

Скарынінскім друкам, разам з самабытнасьцю, захаваў беларускі

народ і сваю веру, не раструсіўшысь паміж іншымі каталіцкімі народамі.

Друкі Скарыны перасьцераглі нас і ад навалы Маскоўскай, ня гледзячы на еднасьць рэлігіі, народная беларуская маса не паддалася дэнацыаналізацыі і пад страшэнным уціскам і забаронай вуснага — у царквах і касьцёлах і — пісанага слова — у газэтах, журналах і кніжках, не страціла Скарынінскай беларускай мовы і жывець ею дасюль.

Ці можа быць якое небудзь параўнаньне паміж беларускай культурай апошніх часоў і расейскай. Разумеецца, не — мы толькі пачынаем, а Маскоўцы усімі сіламі свайго дабрабыту, сваей дзяржавы, напрацягу некалькіх сотак гадоў толькі і працавалі над ею, каб гэтай культурай, блескам вялікай дзержавы, задушыць культуры малых народаў. І штож? дасягнулі сваей мэты? Не, — народ беларускі адвярнуўся ад іх вялікай культуры і трымаўся, хоць і малой, але сваей культуры, сваей мовы, якую далі яму Скарынінскіе друкі.

Ні школы, ні унівэрсытэты, ні прымусовае увядзеньне расейскае мовы, таксама як раней і польскай ва усе установы дзержаўнага жыцьця, не перарабілі беларусоў на расейцаў. Ен заўжды заставаўся самабытным, са сваей простай мовай і не прыймаў мовы панскай.

Улада Расейская думала, што ўсё скончана. Мова беларуская застаецца як п535жытак, але душа селяніна ужо перарабілась на расейскую.

65% расейцаў у агульнай статыстыцы былі сьведчэньнем гэтага пагляду. Ні аб якіх беларусах, альбо украінцах успаміну там не было.

Гісторыя, як я казаў раней, па сваім законам укрывала ад людскіх вачэй усе драбязгі нашага жыцьця і на гэты раз у 1917 г. паставіла нават часовы расейскі урад, ужо дэмакратычны, перад фактам існаваньня беларускага народу. Ен голасна загаварыў у Менскай, Віленскай, Вітэбскай, Гродзенскай, Магілеўскай і Смеланскай губерні на мейсцох, і ва ўсіх арміях на фронце.

Дух Скарыны і старых традыцый загаварыў раптоўна ізноў і выдзяліў беларусоў з агульна-расейскай лічбы.

На Кангрэсе у сьнежні 1917 г. зьбіраецца каля 2000 дэлегатаў, якія і абвешчаюць, што Беларусь павінна стаць дэмакратычнай Рэспублікай. Ідзе глухая барацьба паміж астаткамі Расейскай дзержавы і беларусамі у створанам дзержауным органе, выбраным на Конгресе. Расейцы накіроўваюць на фэдэрацыю, Беларусы патрэбуюць незалежнасьці.

Пасля прадажы Захадняй Беларусі немцам у Берэсьці, чаша беларускага цярпеньня перапаўняецца і не бачучы ні адкуль помачы, абарону сваей тэрыторыі Рада Зьезду бярэ на сябе і 25-сакавіка 1918 г. обвешчае Незалежную Беларускую Народную Рэспубліку. Абвешчае якраз у той самы дзень, калі 392 г. таму назад Скарына у Вільні выдаў першую сваю «Малую падарожную кніжыцу», «Абы брацьця моя, русь, людзи паспалитыя, чтучы, магли лепей разумеци; дзецям малым, — пачаток усякое добрае навуки, грамоты, еже



добра чести и мовици вучыць; каб беларусы — падарожники мели па чым малицца на чужой старане, ведалиб, кали сьвяткаваць якие дни». (Гісторыя літэратуры. Гарэцкі, бал. 25).

Знаць добра беларусы чыталі кніжкі свайго першапечатніка-друкара і шанавалі яго запавядзі, калі нават на чужыне, раскідаўшысь па усім фронтам і заграніцай, вучылісь чытаць і гаварыць па своіму, каб у пэўны момант скінуць з сябе чужацкую вопратку і зьявіцца на першы покліч сваей Бацькаўшчыны.

Зьявілісь усе, верные заветам Скарыны, але лёс не судзіў яшчэ нам вярнуць былую славу нашых продкаў. Незалежнасьці мы не дасягнулі, дзякуючы ворогам пераможчыкам, але мы яе дасягнем. Скарына нам у гэтым зарука.

Вось гэны факт інстынктыўнага, магутна-сыхтійнага абуджэньня народных масс, пасля трохсотлетняга занепаду, найяскравей сьведчыць ад нацыанальным пачуцьці беларускага народу.

Верны сваім традыцыям, народ беларускі на працягу 300-гадоў пассыўна бароніцца ад чужацкай навалы, захоўваючы толькі сваю беларускую мову, як галоўную адзнаку свайго нацыанальнага жыцьця.

Бэз мовы — німа нацыі, бэз культуры — німа народу і не можэ быць Незалежнасьці, сваей уласнай дзержавы.

Народную беларускую мову першы зафіксаваў Скарына у сваіх вечных помінках — друках Бібліі на простай мове.

Наступнікі узмацавалі і развілі яе далей, зрабілі мовай дзержаўнай, на якой ня толькі гаварылі, але і пісалі дзержаўные законы — грамоты Літоуска-Беларускіх Князёў і Літоускі Статут.

Беларускі народ пасля таго, як баярэ і нават духавенства адрэклісь ад роднай мовы і культуры, захаваў яе і не страціў у самую жорсткую пару трохсотлетняга панаваньня чужынцоў і перадаў нам да ужытку сягоньняшняга дню.

Хто, любячы свой народ, ці шануючы яго правы на мову і свае звычаі, адважыцца сказаць, што сучаснікі павінны адрэчысь ад гэтай мовы і культуры, бо ёсьць культура выжэйшая, лепшая, а мова прыгажэйшая.

На Парыжскім Конкурсу пекнаты сучасных моў, першую прэмію атрымала мова Эстонская, ціж з гэтага можа хто зрабіць вывад, што іншыя мовы павінны адмовіцца ад сваей і гаварыць толькі на мове Эстонскай.

А між іншым такімі доводамі карыстаюцца Расейцы і Палякі адносна другіх нацый наогул і асабліва беларусоў.

Над такімі доводамі беларускі народ не задумываецца і ідзе сваей дарогай да вольнага і незалежнага жыцьця, пасля якога знойдзя спосабы раўнапраунага сужыцьця са усімі славянскімі народамі на абшарах Эўропы і з тымі неславянскімі народамі, якія рука аб руку ішлі на змагагьне за свою незалежнасьць і памагалі беларускаму народу вызваліцца з няволі.

Дзень абвешчэньня незалежнасьці Беларускай Народнай Рэс-

публікі і дзень 400-летняга Юбілею Скарынінскага друку неразрыўнымі ланцугамі зьвязаны паміж сабой.

Памяць аб слаўнай пройшласьці мінулага, самастойнага істнаваньня Беларусі у часы Скарыны, росквіт і залаты век беларускай культуры вабіць нас і цяпер сваей прыгожасьцю. Ўспамінаючы старыя часы свайго незалежнага і магутнага панаваньня на абшарах беларускай зямлі, мы набіраем усё больш і больш сілы, каб прагалошаную 25 сакавіка 1918 г. Незалежнасьць Беларускай Народнай Рэспублікі абярнуць у рэальны факт часоў Скарыны. Жыцьцё мацней уселякіх выкладаў. Народ, адчуўшы усю пекнату незалежнага істнаваньня, ніколі не згодзіцца на рабства. Мы бачылі у самастойнам істнаваньні росквіт культуры і адраджэньня; таксама, як у братскам еднаньні раней з Польшчай, а потым з Расеяй — занепад і блізка што ня сьмерць нацыі.

Цяпер нам расейскія цэнтралісты бэз рожніцы, як левые так і правые, а таксама і заграніца, якая стаіць на поглядзе, што народы для дзержавы, а не наадварот — вуснамі «непомнящих родства» прафэсароў гаворацъ: «Что понятіе родины, как общее правило входит в понятіе отечества, но что часто незамѣтно для себя в понятіе родины вкладывается понятіе отечества -- это является одной из причин мѣстных сепаратизмов». (Руль 15. III. 25 г. № 1302). Для расейцау гэта так, мы згодны, але — лічыць для усіх славян «Отечеством «Расею рызыкоўна: замест аб'еднаньня, выйдзе раз'еднаньне.

Вось вам уваскрэшеньне ідэі «Pax Ramana» і пазнейшай — панславізму і пангерманізму. Так гаварылі прэдстаунікі Аустра-Вэнгэрскай манархіі славянскім народам да вайны. Інтэрасы «родіны» вы павінны забыць, а адчуваць толькі інтэрэсы «Отечества». Дзержаунасьць на першым мейсцы, а потым народ.

З мэтаў інтэрэса «Отечества» панславізм імкнуўся і імкнецца пад назвай «Адзінства рускай культуры» правесьці граніцу ад Кенігсбэрга да Тріэста і закрэсліць магучай рукой назву «Родіны» для усіх славянскіх народау, не гаворучы ужо аб інародцах.

Мы беларусы ведаем, што для нас «Родина і отечество» — тое самае, за што мы з Масковіей білісь больш як чатырэ стагодзьдзя.

Горы трупаў і рэчкі беларускай крыві навучылі нас цаніць сваю Бацькаўшчыну не як частку Расеі, а як самастойную, раўнапраўную адзінку у сямьі славянскіх народаў і дзержаў.

Цень Скарыны у сягоднішні дзень яшчэ больш ўзмацуе нашы сілы на змаганьне за сваю Незалежнасьць, а ўдзячные сыны Беларусі, прыдапамозе нашых прыяцеляў, яшчэ больш аб'еднаюць навуковыя сілы нашай Бацькаўшчыны у барацьбе за сваю і культурную і палітычную незалежнасьць.

**П. Крэчэўскі.**

15. III. 25 г.
Прага.

# ПЕРЭКЛАДЫ З ЧЭШСКАГА.

## ЧЭШСКІ НАЦЫАНАЛЬНЫ ГІМН.

Дзе мой дом, мая айчына?
Пеняць воды сенажаці,
Скал шумяць зялёных раці,
Вясны кветка ў гаю зяе,
Рай, як сон, нам абяцае,
То айчына, то мой дом,
То айчына, то мой дом!

*

Дзе мой дом, мая айчына?
Знаеш край той, Богу мілы,
Духам цьвёрдых, з воляй сілы
Яснай думкай, — дзе прыхільна
Госьціць моц і творчасьць пільна:
Гэта Чэхаў слаўных племя —
Сярод Чэхаў і мой дом,
Сярод Чэхаў і мой дом!

## СЛОВАЦКІ НАЦЫАНАЛЬНЫ ГІМН.

Над Татрамі бліскавіца, громы дзіка бьюць,
Над Татрамі бліскавіца, громы дзіка бьюць.
Гэй, браты паустанем, прападуць маланкі —
Славакі ідуць!
Славакія наша доўга-доўга спала,
Славакія наша доўга-доўга спала,
Але рэха грому разбудзіла домы
І яна поустала!

*

Яліна расьце шчэ на скале Крывана,
Яліна расьце шчэ на скале Крывана!
Хто славак, як чуе, шаблю хай гатуе
Паміж намі стане!
Славакія ўстала, ланцугі парвала,
Славакія ўстала, ланцугі парвала!
Бацькаушчына міла гадзіна прабіла,
Жыве матка слава!

# УЗАЕМААДНОСІНЫ БЕЛАРУСКА-ЛІТОЎСКАГА КНЯЖСТВА З ЧЭХІЕЙ 500-ГАДОЎ ТАМУ НАЗАД.

Раней, чым закрануць пытаньне узаемаадносін Беларуска-Літоўскага Княжства з Чэхіей у канцы XIV і пачатку XV стагоддзя, неабходна адзначыць агульны стан Эуропы, якая у той момант выяўлялась у асобе Рымскага Імпэратара. Жыгімонц Вэнгэрскі у 1410 г. намінальна зьяўляўся не толькі Імпэратарам Рымскім, але і гаспадаром Нямеччыны, Багэміі і іншых каталіцкіх дзержаў і народаў.

Гэты перыяд сярэднявечча, выяуляе з сябе самую сумную старонку гісторыі чалавецтва, калі Папства, дасягнуўшы найвысшага становішча звонку, страціла амаль аканчальна не толькі цывільны, але і духоўны прэстыж унутры, прымушана было, па прыказу Філіпа IV. — Караля Французскага, пакінуць Рым і пераехаць на жыцьцё у Авіньён (1308 г.). Першым палонным французскага Караля і паслухмяным аружжам у яго руках быў Папа Клімэнт V., які разам з сабой выдаў Філіпу IV і усе багацьця Ордэну Тампліэраў.

Французскіе каралі, марыўшыя пры дапамозе Папы падпарадкаваць сабе усе іншыя краіны, з мэтай захопленьня багацьцяў паднявольных народаў, прымусілі Папу Івана XII — у 1316 г. выдаць булу, якой апавяшчалась, што пасля сьмерці кожнага Імпэратара яго улада пераходзіць да Папы і што, такім чынам, Папа зьяўляецца вярхоўным уладаром і Нямеччыны.

На гэтам грунце разгарэлась барацьба паміж Папай і Нямеччынай. Гэрманскі Імпэратар Людовік у супярэчнасьць Івану XII, Паставіў Папай Пётра Корбарыя, пад імянем Мікалая V, пад прымусам Людовіка, вызнанага потым у 1328 г. і Рымам.

(Моссгейм «De Berghardis», 320).

Барацьба з цывільнай уладай Папы вялась і раней гэтага пэрыаду. Так, Арнольд Брэшыанскі (1145 г.), Дольчіно і Маргарыта (1304 г.) у Рыме, Вальдэнсцы ва Францыі, Бэггарды у Нямеччыне, Лолларды у Англіі (Віклеф), Гусіты і Табарыты у Багэміі — былі ужо не адзінкі, а масавыя барацьбіты супроць Папства.



(Всеобщая исторія. Франкфурт на Майне. 1847 г. стр. 255—252).

Гэты рух выклікаўся непамернай роскашшу папскіх двароў, а дзякуючы гэтаму і тымі агромнымі падаткамі, якія павінны былі плаціць касьцёлы, манастыры і веручыя на карысьць Папы.

Яшчэ у панаваньне Эдуарда III (XIV-век) Ангельскі Парлямант жаліўся, што падаткі, плаченыя на карысьць Папы, у пяць разоў перавышаюць падаткі каралеўскія.

(В. Канінгем «The growth of English Industry and Commerce», Кембридж, 1890 г. I, 253).

Калі да гэтага прылучыць Іерархічны развал каталіцкай царквы і існаваньне у часы Канстанскага Сабору (1415 г.) адначасна трох Пап — італійца Урбана V, француза Клімэнта VII і трэцяга гішпанца, то агульны стан незадаволеньня паміж варожымі старанамі, стане зусім зразумелым. Дзякуючы гэтаму з новым напружэньнем расьце імкненьне ва усіх дзержавах, адчуваючых на сабе Папскую руку, адсэпаравацца ад Папскай апекі і стаць незалежнай дзержавай.

На Канстанскам Саборы раскол быў спыняны і замест быўшых Пап, абраны новы — Папа Марцін V. Выбар Папы адбыўся не толькі 24 Кардыналамі, але і 30 дэлэгатамі ад пяці хрысьцянскіх нацый — Італійцаў, Немцаў, Французаў і Ангельцаў.

«Папства, выйшаўшы з гэтых сабораў, стаяла куды ніжэй таго Папства, якое калісь перамагло Гогэнштаўфэнаў. Папы ад тэй пары былі, праўда, менш залежны ад уплыву паасобнай нацыі, але затое і іх уплыў на кожную асобную нацыю, стаў, меней значным. Стварылісь нацыанальныя царквы, падпарадкаванныя валадарам краін. З гэтае пары Папства павінна было дзяліць панаваньне з імі, калі толькі яно не хацела зусім траціць яго. Яго доля была абмежана і падрабязна азначана асабнымі дзержаўнымі умовамі (Канкардатамі, альбо прагматычнымі санкцыямі) — (Кауцкі. З гісторыі грамадзкіх цячэній т. I. выд. III. бал. 230).

Такім чынам утварылісь нацыанальныя царквы ва Францыі, Англіі, Гішпаніі і Італіі. Нямецкая Імпэрыя у эпоху Сабораў нацыанальнай царквы не атрымала, дзякуючы сваей распарушанасьці на маленькія каралеўства, у каторых Папская улада трымалась яшчэ моцна каля стагоддзя.

Сюды і былі накіраваны усе сілы каталіцкай царквы, як для ўзнаўленьня свайго пахіснуўшагася бюджету, так і пашырэньня духоўнага уплыву Пап у Сярэдняй Эўропе. (Энней Сільвій — Пікколоміні «De ortu et Historia Bohemorum, opera omnia» Базэль, 1551, бал. 109).

Пражскіе Біскупы «Валадалі 17-вялікімі Ваеводствамі у Багэміі і, апроч таго, Ваеводствам Кістэйн у Маравіі, Люгэ — у Баварыі і масай дробных памесьцьяў. Іх двары змагалісь у сваей пышнасьці з каралеўскім дваром і да іх паслуг была заўжды гатова многалікая раць Вассалаў» (Палацкі. «Geschichte von Böhmen, III, 2, бал. 41).

Эннэй Сільвій, у наступнам, Папа Пій II, у сваей «Гісторыі Багэміі» так апісывае пекнату касьцелаў чэхіі: «Мне здаецца, што у наш час не было ва ўсей Эуропе ні воднай стараны, у якой можна былоб спаткаць так многалікіе, так пышныя і багата аздобленыя касьцёлы, як у Богеміі. Касьцелы дасягаюць сваімі купаламі нябес... Высокія алтары лоямцца ад золота і срэбра, адзягаючых рэліквіі сьвятых; рызы ксендзоў вышыты пэрламі, усё убранства блішчыць сваім багацьцем, утвар надзвычайна каштоўна... і такімі касьцёламі вы маглі захапляцца не толькі у гарадох і targowых мястох, а і у вёсках».

І вось гэта прыманка залатымі і срэбнымі руднікамі цягнула у Багэмію, як Гэрманскіх Імпэратараў, так і Рымскіх Пап. Старое славянскае Чэшскае племя, якое у захопленьні сваіх багацьцяў Нямеччынай і Папамі, абачыла небэзпэку і пагрозу сваей нацыі, павяло рашучую барацьбу з тымі і з другімі.

«Чэхі павінны быць надта асьцярожны і усімі сіламі старацца, каб не падпасьці пад уладу Немцаў, бо як даводзяць Багемскія хронікі, іх нацыя зьяўляецца самым страшным ворагам Багемцаў і славян. («Krátké sebrání kronik českých k výstraze věrných Čechův», Палацкі, III. 3, бал. 292—293).

На абарону нацыанальнай царквы, аддзяліўшайся ад Рыму, ўстаў Ян Гус, а на абарону Чэшскай нацыі і ўсяго славянства — Ян Жыжка.

Ўсход Эуропы, асабліва Польшча і Беларуска-Літоўскае Княжства былі вядомы Рыму даўно, але гэтыя дзержавы у разрахунках Нямеччыны і Рыма у той час не адыгрывалі такой ролі, як Чэхія. На Польшчу зьверталі увагу на столькі, па колькі яна магла быць праваднікам каталіцкай веры і нямецкіх ідэй далей на Ўсход, а у першую чаргу — на Беларусь і Літву. Немцы, амаль зьнішчыўшы Лужыцкіх Сэрбаў і Полабскіх славян, разам з тым скараціўшы і межы Польшчы, часта праз свае Лівонскіе Ордэны рабілі набегі на Ўсход і, у перэрвах перамірра, карыстаючысь умовамі, прасоўваліся на Беларускія і Літоўскія землі, то як місіанэры, альбо купцы і стараліся захапіць у свае рукі не толькі рэлігійнае жыцьцё, але і цывільную уладу па агульна прынятаму у іх прыкладу. На чале Лівонскіх ардэноў стаялі выпрабаваныя нямецкія бароны, хоць і меўшые тытулы біскупаў, але лепш спрауляўшыяся з гострай шабляй, ніж маўклівым крыжом.

Польшча, як вядома, прыняла каталіцтва раней. Літва, лежачая у паблізу Нямеччыны, асабліва Жмудзь, ня гледзячы на частыя бунты і забойства каталіцкіх місыанэраў, усёж паддавалась паволі каталіцтву. Зусім іначэй стаяла справа на Беларусі, якая куды раней прыняла хрысьцянства па ўсходняму абраду, са зляжыўшайся ужо рэлігійнай ідэалёгіей і знаёмай з гісторыей разладаў у Рымскай царкве. Да іх трэба было падыходзіць іначэй. Першы крок зробляны у гэтым напрамку адносіцца да 1386 г., калі праз асабістую дынастычную вунію Ягайла з Польшчай, маглі прасочывацца на Беларусь і уплывы Рыма. Аднак, гэта мера закранула толькі баяр і шляхту, уплыву на народ яна амаль ня мела і пытаньне аб больш пляновай вуніі, да якой бы прыстаў і народ, падымалась да дзесяці разоў і толькі у 1569 г., у Любліне і, асабліва рэлігійная вунія 1596 г., у Берасьці, якбыццам, зьдзейсьніла мары Рыму аб падпарадкаваньні Беларусі Папе.



Як бачым з папярэдняга у рожных канцах Нямеччыны адбываліся зьявішча аднаго і таго самага парадку. Праўда, прыцягіваючая сіла была не аднолькова. Багацьце Багэміі, апрача тэрыторыі і паявлічэньня каталіцкага жыхарства, маглі зараз жа даць і вялікія матэрыяльныя прыбыткі заваёўнікам, а Беларусь і Літва, хоць гэтага адразу і не маглі даць, але на будучыну абяцалі не мала выгад.

У першу чаргу вырашана было усе сілы Крыжовых Паходаў накіраваць супроць непакорных гэрэтыкоў Чэхау. Само сабой разумеецца, што у гэтай барацьбе ні на кога у Сярэдняй Эуропе Чэхі спадзявацца не маглі; там для іх помачы не было, бо нават французы і ангельцы, хоць і не былі зьвязаны з Папай як раней, але усёж такі прытрымліваліся Рымска-каталіцкай рэлігіі.

Усе надзеі Чэхаў былі зьвернуты на Ўсход, на тыя славянскія народы, якія ужо па аднаму інстынкту братняй крыві, хутчэй маглі зразумець і памагчы Чэхам у іх цяжкой і вялікай барацьбе.

С пачатку Чэхі, якбыццам, і не адчувалі патрэбы у бэзпасярэдняй помачы, так як Жыжка і яго «Божыі воіны», ня толькі адбілі усе Крыжовыя паходы, але нават самі уварваліся у абшары Нямеччыны, Мадьяршчыны і інш. Жыжка хацеў, раз назаўсёды, скончыць з нямецкай дынастыей на чэшскам троне і прапановаў ўзьвясьці на трон караля братняга народу славянскага, які бы абъеднаў Чэхаў з Палякамі, таксама, як былі объеднаны Беларуска-Літоўскай дынастыей Ягайла — беларусы, палякі і літвіны. Гэты саюз даў бы мажлівасьць славянскім народам праціўстаяць нямецкім заборчым мэтам.

Праўда, у добрую волю для такога абъеднаньня ня верыў і сам Жыжка, але каб не нажываць лішніх ворагаў адправіў пасольства да Уладыслава — Ягайла у Польшчу з прапановай Чэшскай кароны. Кароль Ягайла заявіў Чэшскім паслам, што ён ахвотна згодзіцца прыняць Чэшскую карону, калі Чэхі злучацца з Рымскай царквой. Нажаль, у Ягайла рэлігійныя матывы ўзялі перевагу над нацыянальна-палітычнымі інтэрэсамі. У той момант Ягайла знаходзіўся у руках магнатаў, на чале якіх стаяла высшае польскае духавенства з Кракаўскім Біскупам Збігневам Алесніцкім Гэта былі часы «Rżądów Koscielnych», як аб гэтым гаворыць польскіе гісторыкі. (М. Любавскій. Исторія Западных Славян, стр. 141).

Незадаволяныя і абураныя адказам Ягайлы, Чэшскіе паслы тады адправіліся да дваюроднага брата Ягайлы — Вітаўта — Вялікага Князя Беларуска-Літоўскага і запрапанавалі яму Чэшскую карону.

Вітаўт, з палітычных разрахункаў, жадаючы абцяжыць становішча Імпэратора Жыгімонда Рымскага, падтрымліваўшага варожыя Беларусі і Літве Прускія Ордэны, аканчальнай згоды на прыняцьце Чэшскай кароны не даў, але раней паслаў у Чэхію свайго дваюроднага пляменніка Жыгімонда Карыбутовіча у ролі Рэгента-Намесьніка, для абароны і замірэньня Чэхаў.

Каб не здавалася выпадковым пасольства Чэшскіх паслоў да Вітаўта з прапановай Чэшскай кароны, трэба вярнуцца трохі назад і ўспомніць Гусіцкі рух, які даў магчымасць бліжэй пазнаёміцца Чэхам з Беларускім і Літоўскім народам.

Ян Гус, узгадованы на вучэньні Ангельскага рэфарматара рэлігійнага жыцьця Віклефа, якое у свой час абхапіла амаль усю Эўропу, падняў рэлігійны рух і у Чэхіі. Натуральна, што усе новыя вучэньня прасочываліся у Чэхію праз Прагу, як адзінае мейсца, групаваўшае тады усё вучонае грамадзянства Сярэдняй Эўропы навкал першага Чэшскага Карлава Унівэрсытэту, заснованага у 1348 г. Адным з выдатных прафэсароў, а потым і Рэктарам Унівэрсытэту, быў Ян Гус.

Ян Гус наскрозь быў пpаняты рэлігійным жыцьцём і імкнуўся да рэформы царквы на падставах перша-хрысьцьянскіх.

Ідэі Гусітства былі вядомы Польшчы, Беларусі і Літве. Гэта відаць з таго, што Імпэратар Рымскі Жыгімонд, каб аслабіць уражаньня ад спаленьня Гуса і ня мець лішніх пратэстаў хрысьціян гэтых краін, пасля Канстанскага Сабору 1415 г., тэзісы абвінавачэньня Гуса у гэрэтыцтве паслаў у Польшчу і іншыя славянскія дзержавы. (Яр. Зыка «Mistr Jan Hus», 1903, бал. 40).

Прыяцель Яна Гуса, Геранім Пражскі, яшчэ пры жыцьцю Гуса у 1413 г. навяшчае Кракаў і доўга гасьціць у Полацку, адкуль сумесна з Князям Вітаўтам адбывае паездку у Вітэбск, дзе прапаведуе слова Божые і знаёміць з Гусіцкім рухам, як двор Вітаўта, так і жыхарства.

Вось як адзін з інквізытараў, а потым галоўны сьведка па абвінавачэньню у гэрэсі Яна Гуса і Гэроніма Пражскага на Канстанскам Саборы, гаворыць аб гэтам:

«У рускам краі існуе з прадвеку мнагалюдны горад, называемы Вітэбскам. У гэтам горадзе жыхары па большай частцы рускія, альбо схызматыкі, прытрымліваючыяся грэцкай сэкты, ва многім адхіляющчыйся ад хрысьцянскай веры і заблуждаючыяся. У гэтам горадзе ёсьць саборная царква рускага закону, а таксама існуе манастыр Францісканаў, жывучых па закону праўдзівых хрысьцян. Каля гэтага гораду цячэ судаходная рэчка, па якой зносяцца людзі гэтае мяйсцовасьці.

У лета Гасподне 1413, у красавіку месяцы, Сьвятлейшы Князь Вітаўт, брат Яго Вялікасьці Караля Польскага, прыбыў па той рацэ у адзначаны горад Вітэбск з вялікім войскам і са світаю, у ліку якой асабіста знаходзіўся і Гэронім Пражскі.



Брацьця і Багабойныя хрысьціяне адзначнага гораду выйшлі тагды на сустрэч памянянаму гаспадару Князю з працэсыей і харугвямі і Сьвятымі Машчамі. А выжэй сказаныя рускія, альбо схізматыкі, з іх перакручанымі Машчамі і абразамі, па свайму праклятаму звычаю сваей працэсыей, выйшлі таксама на сутрэч памянянаму гаспадару Князю і прынялі яго пры ўездзе. Выжэй сказаны-жа Гэронім, у часе азначнага ўезду, пакінуў і зганьбіў працэсыю выжэй сказаных манашствуючых братоў і хрысьціян, пайшоў да працэсыі вышесказанных рускіх, схызматычных і няверных людзей. І там у прысутнасьці да 4, альбо 5 тысяч чалавек абояга полу, схыліўшы калені, ён пачаў пакланяцца перавернутым машчам і абразам адзначанных няверных, схызматыкаў і рускіх яўна і ўсенародна, зьвяртаючысь да сэкты тых няверных схызматыкаў і адвярнуўшысь ад вызнаньня верных хрысьціян.

Затым у далейшы час Гэронім пакланяўся яўна і ўсенародна перавернутым машчам і абразам на ганьбу хрысьцянскай веры, даводзячы і гаворачы акрэсляна, наколькі ён мог і ад яго залежала, што азначаная сэкта паменяных рускіх і няверных народаў і іх вера будзе і ёсьць найпраўдзівейшая.

Той жа Гэронім наколькі мог імкнуўся, працаваў і стараўся, каб азначанага гаспадара Князя, са усім яго хрысьцянскім народам, адвярнуць ад хрысьцянскай веры і схіліць заставацца у сказанай сэкце рускіх няверных народаў. І так было і ёсьць у запраўднасьці публічна і адкрыта».

(V. d. Hardt «Constant. Consil. IV, 634; Гільфэрдінг «Гус і яго адношэньне да праваслаўнай царквы» бал. 16; Пэрвольф «Славянская узаемнасьць з даунейшых часоў да XVIII-веку», 1874 г. бал. 57).

Аб адношэньні Яна Гуса і Гэроніма Пражскага да Беларуска-Літоўскага Княжства гаворыць і Палацкі у «Dejinach narodu Českeho IV, 1, 227, 259»). Гэта сувязь амаль не перарывалась да Віленскага Сабору некатолікаў у 1559 г., калі хацелі злучыць Лютэран, Кальвінаў, Чэшскіх Братаў і праваслаўных у адно царкоўнае вобчэства. Гэта зборка адбывалася на прыватнай кватэры Князя Астрожскага. Ад Чэхаў быу прысутным Сымон Турноўскі. Думка а злучэньні дэсыдэнтаў паходзіла таксама ад Чэшскіх Братоў (Лукашэвіч. «Histor. helwet. viyzn. w Litwie», 1, 315).

Весь чаму «Страшны у помсце за Чэшскіх мучанікаў» — Ян Жыжка, які змагаўся ня толькі «За вызваленьне праўды Закона Божжага, але і асабліва мовы чэшскай і славянскай», зьвярнуў сваю увагу на Вітаўта — Вялікага Князя Беларуска-Літоўскага (Archiv Český III, 103, 183).

Жыгімонд Карыбутавіч, Намесьнік Вітаўта, па дарозе у Чэхію, каб паказаць Чэхам сваю блізасьць да зразуменьня іх рэлігійных імкненьняў, яшчэ на Мараве, ва Унічаве прыняў Святое Прычасьце пад абодвымі відамі, як гэта патрэбавалась па звычаю Гусітаў.

Карыбут з войскамі Вітаўта ўступіў на Чэшскую зямлю, для абароны Закона Божжага і грамадзкага дабра у 1422 г. і гас-

падараваў іменем «Krále Českého požádaného» Аляксандра Вітаўта. На Часлаўскам Сойме Карыбут быў прызнаны гаспадаром земскім. Да гэтага прылучыліська Таборы з ваяводамі Жыжкай, Хвалем, Бухавец і гарадскія абшчыны. Карыбута называлі («памоцнікам выжэйшага гаспадара земскага»), з тытулам: Жыгімонд Божіею міласьцю, Князь Літоўскі, назначаны Яснейшым Князям і гаспадаром Аляксандрам Вітаўтам, Божіею міласьцю Князям Вялікім Літоўскім, Каралём Чэшскім, выспрашаным для абароны і вызваленьня Закона Божжага і заспакоеньня і упарадкаваньня зямлі Чэшскай і прызнаны панамі земскімі, панамі Пражанамі, Рыцарамі паношамі (дзяцьмі баярскімі) гарадамі і усімі абшчынамі, Закону Божжаму склоннымі, зусім бэз перашкод і з адзінадушшам (Archiv Český III, 239; Staří letopisové čeští, 52).

Спачатку паміж Корыбутам і Жыжкай былі самыя лепшыя адносіны. Корыбут называў Жыжку бацькам, а Жыжка Корыбута сынам. Іх супольнае кіраваньне Чэхіей прыемна спатыкылась ня толькі Пражанамі, Гусіцкімі панамі і гарадамі, але нават і Табарытамі.

Нажаль, такі стан цягнуўся не доўга. Выжэйшае каталіцкае духавенства Польшчы уплынула на Караля Ягайла і праз яго прымусіла Вялікага Князя Вітаўта, адмовіцца ад падтрымкі «гэрэтычных Чэхаў». У выніку гэтага Корыбут быў павернут з Чэхіі назад. На гэты зварот Корыбута мела уплыў таксама і абяцанка Жыгімонда — Імпэратара Рымскага у лістах да Караля Уладыслава Ягайла і Вялікага Князя Вітаўта не падтрымліваць Прускіх Ордэноў у барацьбе супроць Польшчы і Літвы, калі яны адмовяцца ад падтрымкі Чэхаў. Зноў, як і у дні прапановы кароны, інтэрэсы асабістыя, нават не агульна-дзержаўныя, ўзялі перавагу над агульна-славянскімі і нацыянальнымі інтэрасамі, якія потым так згубна адбіліська і на Польшчы і на Беларуска-Літоўскам Княжестве.

Чэхі за свайго боку былі страшна абражаны такой пастановай справы і Жыжка ужо за адну толькі прапанову Корыбута і Вітаўта прымірыць Чэхаў з Рымам і Нямеччынай, назваў Корыбута не сынам, а «Knížetem vražedlným a paličem proklatým» (D-r. Jaroslav Prokeš «Jan Žižka z Trocnova a jeho doba», 1920 г. бал. 93).

Іначэй не магло і быць. Пасля прыняцьця кароны Вітаўтам і лістоў Корыбута, што Уладыслаў і Вітаўт «Ніяк не хочуць пакінуць Чэхаў, а хочуць памагаць ім, як свайму народу і сваім падданым» і ведаючы настрой народу Беларуска-Літоўскага і нават Польскага, да Чэшскага вызволеньня ад нямецкага засільля, Жыжка іначэй адказаць не мог. Народны настрой у Беларусі, Літве і Польшчы адзін з сучаснікаў Абрам Чорны у лісьце Князю Аламуцкаму Івану, з поваду арышта пасольства, накіраванага да Вітаўта, 23 верэсьня 1421 г., малюе так: «Па усей зямлі Польскай і Літоўска-Беларускай падняуся вялікі шум і крык у абшчынах з-за палону гэтых Чэхаў. Народ гаварыць, хоча Кароль, ці ня хоча, але калі ён (Іван) не адпусьціць іх на свабоду з гэтага палону, то мы хочам памсціцца на ім і нават вялікім кровапраліцьцём таму, што ён хоча разарваць адбыўшаяся ужо злучэньне паміж намі і нашымі братамі Чэхамі».

Так гаварыў народ, але зусім іначэй думалі каралі і выжэйшае каталіцкае духавенства.

З перапіскі Вітаўта з Уладыславам і Жыгімондам Імпэратарам Рымскім відаць, што узаімаадносіны мяняліся у залежнасьці ад асабіста карысных палітычных момантаў, і уплыву прыдворнага духавенства. Агульна нацыянальных інтэрасау ніхто не прыймаў пад увагу (Monumenta medii alvi Historika, res hostos Poloniae illustrantia, Кракаў 1874 г. бал. 96).

Калі успомніць вайсковае супрацоўніцтва Чэшскіх частак з Польскімі і Беларуска-Літоўскімі войскамі пад Грунвальдам, дзе Чэхі біліся у асобным атрадзе Беларуска-Літоўскіх войскаў пад сьцягам Св. Юрыя у 1410 г. і затым прозьбу Ягайла да Гэтмана Косткі у 1413 г. памагчы Палякам і утрымаць тых, хто хацеў-бы ісцьсі з Немцамі, то раптоўнае адклíканьне Корыбута і перарыў гэнага супрацоўніцтва, можна вытлумачыць толькі страхам перад усемагутнасьцю Рыма і духавенствам. (Палацкі «Dějiny doby husitské 1, 171; Качынскі «Codex diplom. Lithuaniae, 170).

Ня гледзячы на дзержаўны і адміністрацыйны розум, як Ягайла, так і Вітаўта, яны увесь час тэрарызуюцца духавенствам і меняюць таксама, як мянялі веру бацькоў, і свае палітычныя пераконаньня згодна моманту.

Вітаўт тры разы меняў рэлігію і усёж такі аканчальна не дагадзіў ні каталікам, ні праваслаўным, а разам з тым, у самы крытыны момант, не здолеўшы выкарыстаць даверра Чэхаў да Беларуска-Літоўскага Княжества, старціў гэна даверра і у Чэхаў.

Я не буду застанаўлівацца на далейшам развою узаемаадносін Беларусі і Літвы з Чэхіей. Для гэтага трэба было б многа часу. Скажу толькі, што наступнік Вітаўта, Свідрыгайло быў у самых сціслых зносінах з кіраўнікамі Гусіцкіх арганізацый і гэтманамі. Уплыў Чэхаў на Беларусь і Літву быў на толькі вялікі, што некаторыя з беларусоў і літвіноў, як і сам Князь Свідрыгайло добра валадалі чэшскай мовай, як гэта мы бачым з ліста Свідрыгайло ад 29 красавіка 1431 г. (Качынскі «Codex diplom. Lithuaniae 351; Первольф «Исторія Западных Славян», 150; Časopis Českého musea 1831, 280).

У гэтыя часы узаемаадносіны былі лепшымі, але як Чэхі, так Беларусы і Літвіны былі абязсіляны ўнутранымі спрэчкамі і вярнуць страчанага ужо не удалося. Я бы не скончыў свайго заданьня, каліб не вярнуўся да таго моманту, калі усёж-такі сумеснае супрацоўніцтва Чэхаў, Беларусоў і Літвіноў, супроць нават волі Ягайла і Вітаўта фактычна адбывалась.

Корыбут, не гледзячы на забарону і злосьць Ягайла і Вітаўта, вярнуўся у 1424 г. самавольна. Ягайла канфіскаваў усю яго маемнасьць і тых яго людзей, якія вярнуліся з ім у Чэхію. Аднак, унутраная сувязь Корыбута з Чэхамі, была натолькі моцнай, што ён

не застанавіўся перад гэтым і зноў стаў кіраўніком Утраквістаў. Кіраўніком Табарытаў быў Жыжка, а потым Пракоп Голы. Праўда, ужо тых прыязных адносін паміж Жыжкай і Карыбутам, а таксама потым і Пракопам, не было, але, не гледзячы на унутраныя разыходжаньня, яны сумесна некалькі разоў адбівалі Крыжовыя паходы.

У гэты час, страціўшы надзею на падтрымку зоўне і узлаваўшысь на увесь каталіцкі сьвет, Табарыты, натхнёныя перавагамі, перакінулі сваю барацьбу за межы Чехіі і залілі крывёю суседнія краіны — Аўстрыю, Мадьярыю, Сылезыю і Нямеччыну, адзначыўшы усюды свой паход пажарамі і поўнай руінацыей вёсак і гарадоў. (Любавскій. Исторія Западных Славян. 1918 г. стр. 142).

Корыбут заставаўся у Чехіі некалькі гадоў і карыстаючысь вялізарнай прыязню Пражан, як іх выбраны «Пан Гаспадар», прыймаў удзел у радах Гусітаў пры войнах. Ён, як іншыя Беларуска-Літоўскія і Галіцкія ваякі, прыймаў удзел у слаўнай пабедзе над Немцамі пад Усьцьем 1426 г.

На чэсьць Корыбута нават была зложана і сьпевалася чэшская песьня (Výbor z liter. české II, 36).

Аднак, і у Корыбута было імкненьне замірыць Чэхаў з Рымам. Гэта жаданьне пазбавіла Корыбута прыязні Пражан. Не гледзячы на папярэднія заслугі і сумесны удзел у бойках, пасля выяўленьня такой думкі, Корыбут быў пасажан у турму і высланы з абшараў Чэхіі.

Каталікі-чэхі гэтым былі страшна занедаволяны і гаварылі: «Папы нас з цэлым сьветам пасварылі; мы пазбавіліс і Польшчы, адкуль нам раней даставалась помач» (Výbor z liter. české II, 310; Staří letopisové čeští, 71 H.).

Але, так гаварылі паны і каталікі, верныя Рыму, паміж тым, як уся Чэхія была не асабліва высокага погляду на польскія войскі і польскую помач, так як Чэхія яе амаль ніколі ня мела, а у апошнія часы, нават і не хацела прыймаць іх, бо ужо у той час была пагаворка, што «Чэх, то гэйтман, што поляк, то пан». Нам вядомы факт звароту польскага войска, ужо быўшага на Мараве, запрошанага Аўстрыйскім Гэрцагам для барацьбы з Гусітамі, якое вярнулася дамоў. (Любавскій. Исторія Западных Славян, бал. 146).

Высылкай Корыбута і закончыўся той першапачатковы пэрыяд узаемаадносін, які я і хацеў даць у сваім аглядзе «500 лет таму назад».

Гэты пэрыяд цягнецца і потым з дынастыей Ягайлавічаў на Чэшскам Троне, але я зараз яго кранаць не буду.

Да гэтае пары я адзначыў узаемаадносіны з боку палітычнага, нацыанальнага і вайсковага жыцьця, але ні адным словам амаль не закрануў узаемаадносін культурных і навуковых, калі не лічыць успаміну аб знаёмстве з чэшскай мовай Князя Свідрыгайла і Беларуска-Літоўскага грамадзянства.

Паміж тым, як узаемаадносіны культурныя і навуковыя былі падставай узаемаадносін іншага характеру; яны былі досыць значнымі і мелі вялікі уплыў на развіцьцё Беларуска-Літоўскага Княжства. Адведзіны выдатнымі прафэсарамі і вучонымі, як Гэронім Пражскі Кракова, Полацку, Вітэбску і іншых гарадоў не заставалася без выследку.



Ня трэба забываць, што у Празе з 1348 г. знаходзіўся адзіны у Сярэдняй Эўропе Унівэрсытэт, на тых самых варунках, на якіх існавалі унівэрсытэты Парыжскі і Болонскі. Пражскі Унівэрсытэт, па думцы заснавацяля, быў створаны для таго, «Каб ім (сынам Чэшскага Каралеўства) не прыходзілась пабірацца у чужых сталоў.

Аднак, Пражскі Унівэрсытэт, узгадоўваючы сваіх сыноў, пагасьцінна адчыніў дзьверы і для іншых славянскіх нацый і у самым хуткім часе, Прага стала адным са значных цэнтраў прасьветы усей Сярэдняй Эўропы. Сюды сталі зьбірацца дзеля духоўнай стравы Немцы, Палякі, Мадьяры, а таксама Беларусы і Літвіны з Вялікага Княжства Беларуска-Літоўскага. (Любавскій — там-жа бал. 114).

Прага, як і хацеў Карл IV, стала запраўды сталіцай свяшченнай Рымскай Імпэрыі, сапраўдным цэнтрам, у якім пачаў біцца пульс жыцьця усяго культурнага міру.

У Чэхіі у гэты час наступіла залатая пара рожнага роду культуры і мастацтва, як прыкмета і наследак матэрыяльнага дабрабыту і ўзвышанага ладу думак і пачуцьця.

Не дзіўна, што пасля гэтага, туды шырокай хваляй пацягнуліся усе, маючыя смагу да навукі і веды.

Так, па весткам таго часу, (Кауцкі лічыць перавялічаным) у 1408 г. у Празе знаходзілася 200 дактароў, 500 бакалаўраў і 30.000 студэнтаў. Калі у 1409 г. Нямецкія студэнты пакінулі Прагу, то у адзін дзень, як павядамляе Эннэй Сільвій у гісторыі Богэміі, пакінула сталіцу 2000 чалавек. 3000 адыйшло за імі праз некалькі дзён і, перабраўшысь у Нямеччыну, заснавалі Універсытэт Лейпцыгскі.

Некаторыя аўтары даюць яшчэ большыя цыфры гэтага перасялення, даводзячы цыфру студэнтаў да 40.000 і паведамляюць, што адразу пакінула Прагу 20.000 студэнтаў, якія і заснавалі у Лейпцыгу Унівэрсытэт. (Фінкельштэйн «Historie von Erffurth» бал. 290).

Ягайла — Вялікі Князь Беларуска-Літоўскі — падпісаў з Польшчай дынастычную вунію в 1386 г. Гэта вунія была забэзпечана жаніцьбай Ягайла на Польскай Каралеве Ядвізе і прыняцьцем каталіцтва. Толькі пад гэтым варункам і была аддана Ягайлу Польская Карона.

Аднак Ягайла, як сын Беларуска-Літоўскага народу, валадаўшы выключна толькі беларускай мовай, паволі гэту мову уводзіў у агульнае карыстаньне і пры дварэ польскам, таксама як і не забываў сваіх родічаў.

Пад тым, ці іншым варункам, Ягайла, як і Каралева Ядвіга хацелі сьцісьлей злучыць гэты тры народы шляхом вуніі рэлігійнай.

У Кракаве у 1390 г. Ягайла і Ядвіга заснавалі славянскі манастыр, па прыкладу Эмаускага манастыра у Празе, дзе харватскія Бэнэдыктынцы адпраўлялі Богаслужбу на славянскай мове — гла-

голіцэй. (Пэрвольф. Славянская взаймность с древнейших времён до XVIII века. С.П.Б. 1874 г. стр. 91).

Імкненьне, як польскай так і беларуска-літоўскай моладзі у Прагу не было застаўлена бэз увагі з боку Ягайла і Ядвігі.

Калі і цяпер надта трудна папасьці у замежны Унівэрсытэт, а яшчэ трудней вучыцца і утрымлівацъ сябе далёка ад бацькаўшчыны, то у тыя старыя часы гэта было злучана з надзвичайнымі труднасьцямі.

Ідучы на сустрэч моладзі, Каралева Ядвіга засноўвае у 1397 г. у Празе для Беларуска-Літоуских студэнтаў асобную калегію (Сэмінар), якая была даручана нагляду 4-х манахаў — Івана са Шчэкні і Пражскіх мяшчан — Крыжа і Непра (Monumenta histor. univers. Prag. — I; аб Літоуска-Беларускай калегіі, Monumenta II.

Амаль цэлае стагоддзя, з 1367 па 1469, Беларуска-Літоўская моладзь вучылася у Пражскам Універсытэце, пакуль Папская Булла не забараніла паступаць у Гэрэтычны Унівэрсытэт Пражскі («Teiner-Monumenta Polon. Histor.» II, 164; Scrip. rer. husit., 155).

Апрача бэзпасярэднае крыніцы навукі у Пражскам унівэрсытэце, моладзь Беларуска-Літоўскага Княжества атрымлівала і тэхнічную падгатоўку да кнігадрукаў. Так у 1517 г. мы бачым беларускага доктара Францішка Скарыну за працай друку Бібліі на беларускай мове па прыкладу Бібліі Чэшскай. Наколькі чэшскі уплыў быў моцны у Беларуска-Літоўскам Княжстве бачым з таго, што у свой перэклад Скарына уводзіць надта многа чэхізмаў, як агульна зразумелых беларускай мове.

Усе гістарычныя памятнікі, як сучаснага Скарыне, так і наступных часоў паказываюць на вялікую культурную сувязь Чэхіі з Княжствам Беларуска-Літоускім.

Аб гэтым сьведчыць пазней і Сэрбскі вучоны Крыжаніч у сваей граматыцы. (Пэрвольф. Там-же стр. 122).

Здаецца дзіуным, што у тыя старажытныя часы, пры адсутнасьці чугунак, тэлеграфаў, тэлефонаў і іншых вынаходаў сучаснасьці, людзі толькі з аднаго інстынкту нацыянальнага адзінства, знаходзілі спосабы і сродкі зблізкэньня на такіх агромных разлегласьцях куды лепш, чым цяпер. Чым далей ішла культура, тым грубей станавіўся чалавек і усё больш і больш увыходзіў у свае матэрыяльныя выгады і адгаражываўся кітайскай сьцяной ад другіх людзей.

Толькі пасля вялікай і крывавай войны 1914 г., дзякуючы самаакрэсьляньню народаў і выяўленьню нацыянальных імкненьняў усіх бэз выключэньня нацый, народы зноў успомнілі старыя лёзунгі обеднаньня, хоць пакуль толькі у сфэры эканамічнай.

Нацыяналізм, як зьявішча здаровае, стварае дзержаву са усімі яго бытавымі, нацыянальнымі і эканамічнымі асаблівасьцямі.

Аднак дзержава, заложаная на гэтых падвалінах, не можа зачыніцца у самой сабе. Яна патрэбуе, як свайго вызнаньня з боку іншых дзержаў, так і раўнапраўнага адношэньня да другіх нацыянальнасьцяў у сябе унутры. Ні адна дзержава не можэ цяпер сказаць, што яна існуе толькі для сябе. Шовінізм нацыянальны, вялікадержауны, эканамічны і нават клясавы жорстка караецца гісторыей, перарабляючы народную уладу у олігархію, як гэта было у XVI стагоддзі у Польшчы і цяпер у Савецкай Расеі. Нават, супроць жаданьня, кожная дзержава павінна стаць інтэрнацыянальнай, разумеецца, не у сэнсе камуністычнам, а у сэнче міжнарадовых узаемаадносін. Чым шовіністычней нацыя, тым яна менш нацыянальна і чым інтернацыянальней, тым больш нацыянальна. Гэта не парадокс, а гістарычная праўда.



Шовіністычная нацыя любіць і цэніць толькі сваю нацыю, лічыць яе самай лепшай у сьвеце і адносіцца з пагардай да іншых нацый у тым выпадку, калі не можа ім нічога зрабіць і пры першай мажлівасьці стараецца знішчыць усякую другую нацыю, калі толькі мае сілу.

Адна нацыя ёсьць мінімум нацыянальнасьці.

Наадварот інтэрнацыянальнасьць — ёсьць вызнаньне раўнапраўя і раўнацэннасьці усіх нацый, якія толькі існуюць у сьвеце, бэз паніжэньня іх бытавых і нацыянальных асаблівасьцяў, паміж якімі бы народамі яны не жылі. Гэта і ёсьць максымум нацыянальнасьці.

Рана, ці позна, а усе народы прыдуць да пераконаньня, што сілай ассыміляваць нацыі нельга, таксама як пераканалася хрысьціянства, што усіх нельга прывясьці да аднаго значніка.

Старая палітыка гвалту і паняволеньня павінна адыйсьці у мінулае. На змену мусіць прыйсьці братэрства, роўнасьць і свабода, аб якіх марылі нашы продкі 500 лет таму назад, а зьдзейсьніць прыдзецца сучаснікам.

Верныя заветам нашых народаў, выстрадаўшых сваё шчасьце на незалежнае існаваньне, паможам і другім устаць на ногі і у агульнам саюзе пойдзем да лепшай і сьветлай будучыны.

**Я. Г.**

## АГУЛЬНА-СЛАВЯНСКІ ГІМН.

Гэй славяне! яшчэ наша
Славян мова льецца,
Пакуль наша шчыра сэрца
За народ свой бьецца!
Жыць і жыць наш дух славянскі
Будзе слаўна, вечна.
Гром і пекла вашай злосьці
Абмінем бэзпэчна!
Мовы нашай найдарогшай,
Што здарыў Бог — кажам,
Вырваць з нас ніхто на сьвеце
Мусіць не дакажа.
Колькі ёсьць людзей на сьвеце, —
Вораг быць нам можа,
Але-ж з намі Бог — не страшна,
Бог іх персаможа!

# БЕЛАРУСЬ У МІНУЛАМ І СУЧАСНАМ.

(Нарыс географічнага, гістарычнага і эканамічнага доследу.).

*Географичнае палажэньне.*

Беларусы, патомкі Крывічоў, Дрэговічоў і Радзімічоў, пачалі свае гісторычнае жыцьцё з IX стагодзьдзя, на сярэдняй частцы вялікага воднага шляху з «Вараг у Грэкі». Шлях гэты у той самы час быў таксама шляхом культуры і таргоўлі. У цэнтры яго ляжала Беларускае Княжство Полацкае. Побач з ім развіваліся княжства — Смаленскае, Турава-Пінскае і другія.

Этнографічнае разселеньне беларускіх плямён не зьмянілася у працягу усяго гістарычнага жыцьця. Ні вялікае перасяленьне народаў, ні татарская навала, не зьмянілі рубяжоў беларускага разселеньня і беларусы да гэтай пары застаюцца у сваіх старых этнаграфічных межах і захоўваюць самы старажытны і несапсованы, прышлымі уплывамі, славянскі тып.

Тэрыторыя Беларусі ляжыць паміж 40 і 52° усходняй даўжыні (ад Фэрро) і паміж 51 і 57° паўночнай шырыні. У заходняй частцы Беларусі, паміж 42 і 54°, знаходзіцца географічны цэнтр Эўропы.

Тэрыторыя Беларусі абыймае поўнасьцю 6 губэрняў: — Віленскую, Вітэбскую, Гродзенскую, Менскую, Магілеўскую і Смаленскую і часткова: 6 паветаў Чарнігаускай губэрні, па 3 паветы Арлоўскай, Цвярскай і Пскоўскай губ., па 2 паветы Калужскай і Сувалкскай губ. і па 1 павету Ковенскай і Курляндскай губерні. Площа, якую займае Беларусь, раўняецца 364.433 кв. вёрстаў.

На заходзе з Беларусьсю мяжуецца: Польшча ад места Мельніка праз Лапы, Асавец і Шчучын, на працягу 200 вёрстау; Нямеччына — ад Шчучына праз Граева да Сувалак, на процягу 100 вёр.; Літва — ад Сувалак, праз Сэйны, Трокі, Еўе да Нова-Александраўска, на процягу 500 вёрстаў, і Латвія — ад Нова-Александроуска, праз Ілукшты да Корсаўкі, на процягу 150 вёрстаў.

На поўначы і ўсходзе ад Корсаукі, праз Вялікія Лукі, Заходнюю Дзьвіну, Рожно, Ржэў, Ізьдзяшково, Усходы, Бранск да Грэмяча, на процягу 900 вёр. — Вялікарасея, і на поўдню — ад Грэмяча, праз Горадно, Любеч, уніз па Дняпру, дзе ўпадае у яго Прыпяць, праз

пустынныя лясы і балоты, на межах Менскай і Гродненскай губэрні да рэчкі — Буга і места Мельнікі, на працягу 1000 вёрстаў — Украіна.

## НАСЕЛЕНЬНЕ.

Племянны склад старой царскай Расеі быў надзвычайна разматіты. Па данным рускай статыстыкі ён выяўляўся у наступным відзе:

| | | | |
|---|---|---|---|
| Вялікарссаў .. | 65,5% | — | 99.560.000 |
| Тюрко-татараў | 10,6 | — | 16.112.000 |
| Палякоў .... | 6,2 | — | 9.424.000 |
| Фінаў ........ | 4,5 | — | 6.840.000 |
| Жыдоў ...... | 3,9 | — | 5.928.000 |
| Літвіноў ...... | 1,0 | — | 1.520.000 |
| Латышоў .... | 1,0 | — | 1.520.000 |
| Эстонцаў .... | 0,4 | — | 608.000 |
| Немцаў ...... | 1,6 | — | 2.432.000 |
| Картвэлаў .... | 1,1 | — | 1.672.000 |
| Горцаў ...... | 0,9 | — | 1.368.000 |
| Армян ........ | 0,9 | — | 1.368.000 |
| Манголаў .... | 0,4 | — | 608.000 |
| Іншых ........ | 2,0 | — | 3.040.000 |
| Агулам .. | | — | 152.000.000 |

Мы не будзем датыкацца агульнай класыфікацыі гэных данных: яны самі гавараць за тую стракатую рожнароднасьць, якую выяўляла з сябе старая Расея.

Нам неабходна адзначыць самую грубую абмылку, якая дапушчана у гэтых падліках. Усе рускія падручнікі географіі і гісторыі, пры агульнай класыфікацыі славянскіх племенаў, выдзяляюць, як асобныя плямёны — Украінцаў і Беларусоў. Афіцыйная статыстыка гэтага не робіць і ўсіх іх залічывае у рубрыку Вялікаросаў, якая і складае 65,5% усяго населеньня.

Неабходна гэту рубрыку разлажыць на першапачатковыя элемэнты.

На тэрыторыі Украіны жыве не менш 46 мільёнаў населеньня, а на тэрыторыі Беларусі каля 16 мільёнаў, што стварае тэрытарыяльны процэнт населеньня на Украіне у 30,5 і на Беларусі 10,5.

Калі з гэтай лічбы адкінуць сярэдні процент другіх нацыянальнасьсяў у 30%, то чысты процэнт Украінцаў, жывучых на Украіне да усяго населеньня старой Расеі выявіцца не менш, як у 20%, а на Беларусі — беларусоў 6%. Выключыўшы гэтыя цыфры з агульнага ліку, Вялікаросаў атрымаецца не больш 39,5%.

Беларусы, жывучыя агульнай массай на сваей этнаграфічнай тэрыторыі, могуць зкласьці дзержаву, якая павінна на ліку жыхарства заняць — 9-е мейсца у Эуропе.



Па ліку населеньня дзержавы Эўропы можна раздзяліць так:

| | |
|---|---|
| Нямеччына .................. | 60,0 |
| Расея ........................ | 52,0 |
| Англія ...................... | 47,3 |
| Украіна .................... | 46,0 |
| Італія ...................... | 39,5 |
| Францыя .................. | 39,2 |
| Гішпанія .................. | 20,0 |
| Польшча .................... | 17,0 |
| Беларусь .................... | 16,0 |

Усе іншыя дзержавы Эўропы па ліку жыхарства меншыя. Беларусь залюдняе 15.521,9 жыхароў. Па нацыянальнаму складу яны дзеляцца так:

| | |
|---|---|
| Беларусоў .................. | 63,8% |
| Вялікаросаў ................ | 13,8 |
| Украінцаў .................. | 2,1 |
| Палякоў .................... | 2,6 |
| Фінаў ...................... | 0,7 |
| Жыдоў .................... | 7,6 |
| Літвіноў .................... | 4,5 |
| Латышоў .................. | 3,1 |
| Немцау ...................... | 1,1 |
| Іншых ...................... | 0,7 |

Беларускае населеньне па рэлігіі дзеліцца на праваслаўных і каталікоў. Праваслауных лічыцца 79%, каталікоу — 18%.

Гушчыня населеньня Беларусі незначная, на адну квадратную вярсту прыходзіцца:

| | |
|---|---|
| у Віленскай губ. ............ | 58,8 |
| ,, Вітэбскай ,, .............. | 49,3 |
| ,, Гродзенскай ,, .............. | 59,7 |
| ,, Менскай ,, .............. | 36,9 |
| ,, Магілёускай ,, .............. | 55,4 |
| ,, Смаленскай .............. | 41,4 |

Уся Беларусь маэ 112 гарадоў, 16 пасадаў 115.963 залюдняных вёсак. У вёсках жыве 13.864,7 жыхароў, у гарадох — 1.556,6.

## НАТУРАЛЬНЫЯ РУБЯЖЫ І МЕЖЫ.

На ўсходзе Беларусь аддзялае ад Расеі Валдайская узвышанасьць, выяўляючая з сябе вялізарнае пласкагорье, пакрытае драмучымі лясамі, пад назвай «Окоўскага леса» у Смаленскай губэрні і зналыя Бранскія лясы у Арлоўскай губэрні. Ад Украіны Беларусь аддзеляюць непраходныя лясы і балоты Прыпяцкага Басэйну і ад Польшчы рэчкі Буг і Нараў і пушчы і балоты Гродзенскай губ.: Белавежская пушча, Гродзенская і другія.

З Літвой і Латвіей межы адкрыты, але яны для Беларусі не выяўляюць ніякай небэзпэкі, так як у канечным разрахунку Літва і Латвія, нават з Эстоніей будуць імкнуцца да саюзу з Беларусьсю у мэтах вытварэньня адзінага эканамічнага арганізму на Балтыцкім ўзбярэжжу.

Уся площа Беларусі выяўляе з сябе вялізарную раўніну, перасечаную множеством рэчак, ручьёў і вазёр і пакрытую драмучымі лясамі і балотамі. Ўзвышанасьці адмяжоўваюць Беларусь ад Расеі і захоўваюць ад халодных паўночна-ўсходніх вятроў.

Паміж імі вядомы: пласкагорья «Окоўскага лесў». Самае высокае мейсца у Смаленскай губэрніі называецца «Ельнінскім вузлом», каля гораду Ельні.

У Вітэбскай губэрні, Невельскага павету, на поўнач ад Вітэбска, ляжаць «Райскія горы», а у Лепельскім павеце, на заход ад Лепеля, «Пышнагоры», на ўсходзе «Катарсы».

Агульную раўніну Беларусі пэрэсякаюць ўзвышанасьці, ляжачыя па цячэньню ракі Нёмана і яго прытокаў у Віленскай, Менскай і часткова Гродзенскай губэрніі.

У Віленскай губэрні, на заход ад Вільні, над рэчкай Вільёй цягнуцца высокія прыгожыя абрывістыя горы «Панары». У самым месьце Вільні вядомы – Замкавая, Бэкешовая і Трох-Крыжовыя горы.

Самае высокае мейсца на Беларусі знаходзіцца у Менскай губэрніі на поўнач ад Менску, каля вёскі Карпілаўка Радашкоўскага павету і называецца «Лысай Гарой» (1130 фут.).

## РЭКІ.

Раўніна Беларусі абводнена многалікай сыстэмай рэк і рэчак, цякучых у рожных напрамках — на поўнач, поўдзень, ўсход і заход.

Ні водная старана, здаецца, у сьвеце не мае такой выгоды прыроджаных водных шляхоў, як Беларусь, якая яшчэ у першы пэрыяд свайго гісторычнага жыцьця, была адзначана водным шляхом «З Вараг у Грэкі». Па гэтаму шляху багатая і культурная Візантыя абдзяляла, як вырабамі сваей вытворчасьці, так і культурай, усю Эўропу.

Галаунейшыя з рэк: Д н е п р, бяручы пачатак з паўднёвых адрогаў Валдайскай узвышанасьці. Беларусі належыць вярхоўе Дняпра на працягу 640 вёрстаў. На гэтым працягу Днепр прыймае у сябе 97 рэк і 152 рэчкі. Важнейшыя з прытокаў: С о ж (300 вёр.), прыймаючы 88 рэк і 245 рэчак; Б я р э з і н а — (590 вёр.) прымаючая 146 рэк і рэчак; П р ы п я ц ь — (770 вёр.), прыймаючая 123 ракі і рэчкі; С в і с л а ч (211 вёр.), ды іншыя. Левыя прытокі Дняпра, як і Днепр бяруць пачатак у пауднёвых адрогах В а л д а й с к а й у з в ы ш а н а с ь ц і, а правыя — у заходніх. Прыток Дняпра — П р ы п я ц ь, не уступаючая Дняпру, бяре пачатак з балот, разлеглых паміж адрогамі Карпатскіх гор. Левыя прытокі Прыпяці бяруць усе пачатак з балот Менскай губэрні. Правідловая навігацыя адбываецца па Дняпру, Сожу, Бярэзіне і Прыпяці.



Н е м а н бярэ пачатак з Ігуменскага павету Менскай губэрні (730 вёр.). Яго прытокі: Вільля (600 в.) і Шчара (270 в.). Шчара праз Агінскі канал ($44^1/_2$ вёр.) злучае Нёман з Ясельдай і Прыпацьцю. У Нёман уліваюцца сплаўныя рэкі: Лома, Уса, Сула, Сэрвеч і Эсса, прыймаючая у свае усьцье Варопскі канал (2 вёр. 228 саж.), злучаючый Заходнюю Дзвіну з Бярэзіной.

Сваей заходняй часткай Беларусь прылучаецца да Басэйну ракі Віслы. Прытокі Заходняга Буга: Нараў, Супрасль і Бобр бяруць пачатак у Гродзенскай Губэрні. Дняпроўска-Бугскім Каналам Басэйн Віслы злучаецца з Прыпяцьцю і Дняпром.

З а х о д н я я Д з ь в і н а (680 вёр.) бярэ пачатак у паўднёвай частцы Валдайскай узвышанасьці, недалёка ад вярхоўя Волгі. Тут-жа бяруць пачатак і яе правыя прытокі: Торопа, Усьвят, Полота і друг.; левыя прытокі: Льема, Лучэса, Обшчая, Касппя, Ула і Дісна бяруць пачатак з Сярэдня-Рускай узвышанасьці.

Сяргучоўскім каналам рака Ула злучае Заходнюю Дзьвіну з Бярэзінай і Прыпяцьцю.

Дзякуючы незначным водараздзелам паміж Заходняй Дзьвіной і рэкамі Ловацьцю і Вялікай, беларусы у старыя часы па гэтаму воднаму шляху лёгка распаусюджываліcь па вярхоўям апошніх і нават прабіраліcь да вярхоуяў Волгі па рэчкам — Тут, Кама, Ітомля і левым прытокам Акі — Цырэ і Жыздрэ.

«Гэрадотава мора» басэйн Прыпяцкай даліны рэдкае зьявішча не толькі на Беларусі, але і ва ўсей Эўропе. З гэтей мяйсцовасьцю у паняцьці Эўропэйцау звязываецца выбражэньне аб Пінскіх балотах, як старане вечных туманаў, трасцы і іншага.

Паміж тым, у запраўднасьці гэта ёсьць галузіны і пры тым самыя рожнавідныя рэк і рэчак — прытокаў Прыпяці. Цэнтр Палесься — горад Пінск, гаворыц А. К. Кіркор, можа быць для Беларусі тым, чым Ніжні-Ноўгарад для Вялікарасеі. Такі лёс Пінску прараквала і Ангельская Камісыя, рабіўшая досьледы гэтай мяйсцовасьці у 60—70 гадох. Рэкі Случ, Горынь, Стыр дастауляюць у Пінск вырабы Валыні, Прыпяць — прадукты Кіеўскай, Палтаўскай, часткова Менскай, а таксама Чарнігаўскай, Магілёускай і іншых губэрняў.

У Пінск прывозіцца рожнага гатунку хлеб, прызначаны дзеля адпраўкі праз Балтыцкія парты, а таксама — Крымская соль, Данецкі вугаль, сала, лён, пенька, табак і іншыя. Заходняя Дзьвіна і яе прытокі: Ула, Оболь, Полота, даюць Беларусі прадукты поўначы і задавальняюць поўнач сваімі.

Заходні Буг, Мухавец і другія абменіваюцца прадуктамі з Польшчай і служаць транзытам паміж Польшчай і Украінай.

Павярхоўны погляд на мапу яскрава абрысоўвае Беларусь, як цэнтр, ад якога радіусамі ва усе бакі цякуць рэкі і рэчкі, звязываючыя Беларусь эканамічна са ўсім сьветам. На заход цячэць Буг і яго прытокі, на поўдзень -ўсход і поўдзень-Прыпяць і Днепр, на поўнач — Нёман і Заходняя Дзьвіна.

Каналы яшчэ больш павялічываюць водную сыстэму зносін і злучаюць два галоуных мора — Балтыцкае з Чорным.

Існуе чатыры праэкты злучэньня Балтыцкага мора з Чорным:

1. Заходняя Дзьвіна, Полацк, Вітэбск, Ворша і па Дняпру у Чорнае мора.

2. Прэгель, Кенігсбэрг, Мазурскія вазёры, Аўгустоускі Канал, Нёман, Шчара, Агінскі Канал, Ясельда, Прыпяць, Днепр і Чорнае мора.

3. Мэмэль, Нёман, Масты, Слонім, Выганоўскае возера, Агінскі Канал, Ясельда, Прыпяць, Днепр і Чорнае мора і

4. Вісла, Буг, Мухавец, Дняпроўска-Бугскі Канал, Піна, Прыпяць, Днепр і Чорнае мора.

Усе чатыры праэкты абавязкова павінны прайсьці праз беларускую тэрыторыю, што сьведчыць аб надзвычайным значэньні Беларусі у якасьці ўсесьветнага эканамічнага фактара.

## ВАЗЕРЫ.

Апрача рэк, на Беларусі маецца надзвычайна многа вазёр. Поўнач-Заход Беларусі можа быць названы вазёрным краем. У адным Лепэльскам павеце Вітэбскай губэрні маецца каля 900 вазёр, а ва ўсей губэрні іх налічываецца да 2500 Віленская губ. мае 400 вазёр. Усе вазёры, як і рэкі Беларусі, багаты рожнага гатунку рыбай.

Самым вялікім возерам на Беларусі лічыцца «Нарач», у Віленскай губэрні і мае каля 80 кв. вёр. (7+13). У Палесьсі — возера «Князь»(каля 50 кв. в.).

Мядзельскае возера Вілейскага павету славіцца сваей селявай.

У возеры «Чарэя» Сенненскага павету ловіцца рыба, залатая луска якой у свой час патрэбовалась на аздобу балёвых вопраток для кабет і у вялікам ліку экспартавалась заграніцу. Усе вазёры карыстаюцца падглебнай вадой і пры злучэньні каналамі Балтыцкага мора з Чорным не будзе паграажаць рэчкам небзэпэка страчэньня глыбокай вады на ўсім працягу.

## БАЛОТЫ.

Па абодвым берегам Прыпяці балоты займаюць вялізарныя абшары. Балота «Грычын» на сумежжу Слуцкага, Пінскага і Мазырскага паветаў заимае плошчу у 500 кв. вёрстау) (50.000 кв. дзес.). На правам берагу Прыпяці паміж Гарыньню і Сьцівягай ляжыць вялізарнае балота «Вялікія Галы» заросшае лазняком.

На поўдзень ад Пінска ляжыць самае вялікае балота «Зарэчча», каля 1.200 кв. в. (100.000 кв. дзесяцін). Пінскае балота значную часьць года бывае пакрыта вадою і выяуляе з сябе якбыццам, возера, па якому у рожных напрамках ездзяць на чаўнах. Летам яно зарастае буйнай балотнай травой і чаротам. На больш узвышаных мейсцах знаходзяцца астраўкі, паросшыя багатай і больш дэлікатнай травой.



Самая большая вучоная пробная балотная станцыя знаходзіцца каля Менску на Камароўскам балоце. Другой станцыей зьяуляецца Брэменская. Перэд вайной хацелі адчыніць Акадэмію для барацьбы з балотамі у Бабруйску, дзе каля гораду маецца звыш 500 дзесяцін балот рожнага гатунку.

Балоты Беларусі па сутнасьці у сваей большасьці тарфяныя. Акром скрытай мажлівасьці, шляхом асушкі, перарабіць балоты у сенажаці і палеткі, самі па сабе тарфяныя балоты выяуляюць вялізарную цэннасьць у якасьці залежаў торфу.

Па вырахаваньню інжынера Арнацкага на Беларусі маецца да 20 мільярдаў пудоў сухога торфу.

Калі пры эксплаатацыі торфу прыняць пад увагу натуральны прырост гэнага «чорнага золота», то процэнт нарастаньня па вырахаваньню таго-ж самага інжынера, з лішкай можа пакрыць патрэбу шырока наладжанай беларускай прамысловасьці, без шкоды для грунтоўнага запасу торфа.

Тысячы фабрык і электрычных станцый, пры вялікім ліку таксама белага вугля на Беларусі, можна было б пусьціць у ход гэтым танным топлівам, даючым пры згараньні аднаго кілограму торфу — 4.500 адзініц цяплыні, на 400 адзініц больш, чым пры згаранні тагож самага ліку дрэвясіны.

Цьвёрды, слаісты торф у вялікім ліку маецца на Прыпяці, каля Мазыра і вёсак — Лясковічы і Пруткі. Горы гэтага торфу падыймаюцца на 3—4 сажні па берагам рэчкі і ідуць на дно. Самы глыбокі торф знаходзіцца каля станцыі Васілевічы при горадзе Рэчыца.

У балотах Беларусі маецца таксама балотная жалезная руда. Фіалетавыя пяскі возераДрысьвят маюць 15% магнэзістага жэлезняку У Налібоках, Менскай губэрні у свой час былі капальні і рудні. Доменныя печы з гэтых заводаў былі вывезены на Урал. Былі рудні таксама у Барысаўскам павеце у маёнтку Князя Радзівілла. Супроць Старобыхова у Магілёўскай губэрні праз Днепр праходзяць залежы жалезнай руды пад назвай — «Скала».

Тарфяныя балоты, па вырахаваньню нямецкага прафэсара Брукнэра, выдзеляюць у тры разы менш вады, чым балоты пясчаныя. Рэкі Беларусі, як Днепр, Дзьвіна, Нёман, Прыпяць і другія, дзякуючы гэтаму, не мялеюць, ад асушкі балот і страх, што з асушкай балот Днепр абернецца у плыткую несудаходную рэчачку — дарэмны. — Акром таго, як я сказаў раней, злучэньне вазёр з рэкамі праз каналы може зрабіць іх судаходнымі і для параходаў больш цяжкага тоннажу.

Балоты на Беларусі займаюць каля 17% ўсей тэрыторыі. Экспэдыцией Жылінскага, пачынаючы з 1873 па 1902 г. прокопана каналаў і каналізавана рэчак на працягу 4.500 вёр. Усяго асушана 350.000 дзесяцін.

Як павядамляюць Савецкія журналы «Народнае Хазяйства Беларусі № 1. январ 1922 г. стр. 38», пракопана яшчэ 4.212 вёр. каналаў і асушана 2.780.000 дз., з якіх 349.000 балот зусім непраходных

абернута у сенажаці; 510.000 дзесяцін мокрых зарасляў і лясоў атрымалі больш правідловы і паспешны рост; 625.000 дзесяцін лясоў атрымалі выгадны збыт; 114.000 дзесяцін аромай і агароднай зямлі, церпячых ад падмочкі і неапрацовывючыхся, дзякуючы таму, што ляжалі сярод балот, сёньня маюць да сябе доступ, абрабляюцца і выяўляюць лепшыя зямельныя вучасткі; 1.182.000 дзесяцін пастаўляны у лепшыя варункі у параўнаньню з пройшлай эксплоатацыей.

За той жа самы час нівэліравала не менш 38.500 вёр.

Разумеецца, справа асушкі балот на Беларусі гэтым яшчэ не скончана і абяцае у будучыне даць вялікі прыбытак, як аромай так і сенакоснай зямлі.

## КЛІМАТ.

Клімат на Беларусі умяркаваны. Блізкая прысутнасьць Балтыцкага ўзбярэжжа з цёплым цячэньнем Гольфштрэма змягчае яго яшчэ болей у зімовы час. Ад халодных паўночна-ўсходніх вятроў Беларусь закрыта Валдайскай узвышаносьцю і лясамі.

Перамагаюць ветры заходні і паўднёвы. Лета бывае цёплае і роунае, з часта праходзячымі дажджамі. Гарачыня не перавышае 30⁰. Атмосфэрных асадкаў, дзякуючы вялізарнаму ліку рэчак, вазёр і лясоў бывае даволі. Засухі і поўнага недароду на Беларусі не бывае. Вясна пачынаецца з месяца красавіка. Цяпло адразу зьменяе зімні холад. Лонкі і лясы хутка пакрываюцца раслінамі і кветкамі. Восень наступае паволі, цяпло цягнецца да кастрычніка месяца. У васеньні пэрыад дажджы праходзяць радчэй, чым вясной і летам. З кастрычніка месяца пачынаецца зіма. Снегу выпадае досыць многа і ляжыць да сакавіка месяца. Марозы даходзяць да 25⁰, але гэта бывае надта рэдка, натуральнае зьявішча 15—20⁰.

Мягкі клімат і роўнае распрадзеленьне атмасфэрных асадкаў пышна уздабляе беларускую прыроду рожнароднымі гатункамі дрэў: дуб, клён, вяз, ліпа, бяроза, вольха, яліна, сасна і асіна, а таксама кустарнікау, раслін і кветак. Пестрыня красак беларускіх лясоў і лонак надзвычайна рожнаколярова, у якіх пераважае дэлікатная зелень «рунь», як эмблема беларускай надзеі, у непраходных, крыючых таемніцы, пушчах Беларусі.

Рожнароднасьць умяркаванага клімату дае тую самую рожнароднасьць і у стане фауны. У лясах Беларусі водзяцца рэдкія пароды звярыны: зубры, лосі, алені, дзікія козы, бабры, дзікія кабаны, мядзведзі рысі, куніцы, ваўкі, лісіцы, зайцы і другія. Не меншая прыкмечаецца рожнароднасьць і паміж беларускіх птушак, пачынаючы ад дзікіх качак, і гусей, цецярукоў, глухароў, фазанаў да салаўьеў уключна. Сьпевы лясных пявуноў гучна пакрываюцца песьней салаўя, які не змаўкае ад зары да зары.

## ГРУНТ.

Грунт Беларусі дзярнова-падзолісты. Перамагаюць пясок і гліна, другія пароды сустрэкаюцца рэдка. Чарназём сустрэкаецца у Чарнігаўскай губэрні, Слуцкам і Мазырскам паветах Менскай і у некатарых паветах Магілёўскай губэрні. Уражайнасьць грунту сярэдняя. Урожай многа залежыць ад угноеньня і апрацоўкі зямлі. І тое і другое стаіць пакуль што, у Беларусі на надта нізкам ступню.



## ПАДВАЛІНЫ ДЗЕРЖАЎНАСЬЦІ.

Барацьба народаў і нацый за сваю незалежнасьць не цяпер пачалась і мусіць не хутка скончыцца. Бэзканечныя магілы сьведчаць аб гэтай барацьбе, кроў'ю паліта усё мінулае жыцьцё народаў за свае нацыанальнае адраджэньне і будзе праліваца яе яшчэ не мала.

Нажаль і Заходняя Эуропа і нават тыя рускія групы і партыі, якія недаўна выйшлі з гэнай барацьбы, надта мала знаюць аб ей, правідловей кажучы, не хочуць знаць, а яна так даступна і зразумела кожнаму, хто захоцеў бы адчыніць любую старонку гісторыі першага папаўшагося пад руку народа быўшае Расеі.

Я застанаўлюсь на гісторыі народу Беларускага. Неусьвядомленасьць Заходняй Эуропы у беларускам пытаньні даходзіць да таго, што адны Беларусь гатовы лічыць ўзбярэжжам Белага мора, другія — непераходныя Пінскія балоты і толькі, некаторыя, як пытаньне, перашкаджаючае вырэшэньню польскай і рускай праблемы на Ўсходзе Эуропы.

Ня ўсім вядома, што географічнае паложэньне Беларусі не мянялась ад самага пачатку існаваньня беларускіх плямён, а беларуская гісторыя была неупыннай барацьбой за сваю нацынальную незалежнасьць, пачынаючы з VII века да гэтае пары. Кажу з VII века таму, што першыя успаміны аб беларускіх плямёнах мы знаходзім у гэтым стагоддзі, хоць пісьменнік VI века па нараджэньню Хрыста Іорнанд (De Getarum sive Gotorum origine et rebus gestis, с. 5.) гаворыць, што Скловіны жывуць па Прыпяці і на паўнач ад яе, а Анты на поўдзень ад Чорнага мора. Сучаснік Іорнанда — Пракоп Кесарыйскі адзначае у нашай майсцовасьці таксама народы славянскага племені, якія жывуць тут, па яго словам, зпрадвеку. ***Εκ τοῦ παλαιοῦ*** (Карскі «Беларусы», кн. І бал. 41, выд. 1904 г.).

VII стагоддзе адзначае першы раз і асобнасьці языка продкаў беларускага народу. Частка племені Дрэговічаў, адарваушысь ад мэтрополіі у пэрыяд перасяленьня народаў, перабралась на Балканскі поўостраў і асела у ваколіцах Салонік. Грэкі называлі іх Дрэговітамі. Іх мове учылісь сьвятые Кірылл і Мефодый (Прафэс. Доўнар-Запольскі «Асновы беларускай дзержаунасьці» выд. 1919 года Гродна, бал. 2).

У IX стагоддзі беларускія плямёны: Крывічы (Родные по крыві), Дрэговічы, жывучыя на дрыгве (балоты Прыпяці) і Радзімічы (родные-родічы) — засновалі свае княжства — Полацка-Вітэбскае, Турово-Пінскае і Смоленскае і пачалі барацьбу за сваю незалежнасьць з Кіеўскімі князямі. Барацьба была доўгая і упартая і кашталава беларускім плямёнам многа крыві і народнага багацьця, але

затое захавала у недатыкальнасьці тэрыторыю, заселяную беларускімі плямёнамі.

Думка стаць даннікам Кіеўскага князя і зьмяніць дынастыю князёў Рагвалодавічоў на Рурыкавічоў была ненавісна Крывічам. Св. Уладзімірам князем Кіеўскім вядзецца доўгая і упартая барацьба з Полацкам; паляцца гарады і вёскі, забіваецца Князь Рагвалод і яго сямья, а дачка Рагнеда гвалтоўна бярэцца у жонкі; нават будучы жонкай, Рагнеда хоча памсціцца на Уладзіміру за забойство бацькі і спусташэньне роднай зямлі Полацкай, але неўдало. Народ увесь час не пакідае барацьбы і дабіваецца звароту Рагвалодава ўнука — Ізьяслава на княжэньне, а з ім разам і сваей незалежнасьці ад Кіева. Мала па малу вызваляюцца з пад уладства Кіеўскага князя і княжства Турава-Пінскае і Смаленскае.

Княжествы беларускія абьедныюцца і дасягаюць свайго росквіту у часы княжэньня Усеслава-Чардзея з 1044 па 1101 г. і у той самы час вядуць бэзканечную барацьбу ўнукі Рагвалода Ізьяслававіча з Кіеускімі Яраславовічамі. Паўстае, добра вядомы Палачанам, Кіеўскі Князь Уладзімір Манамах, які, абьеднаўшы паўднёвых князёў, накіровывае іх на руйнацыю Полацкіх зямель і на здабычу палонных, каб імі запаўняць паўднёвыя рынкі.

Пасля неўдалага паходу Кіеўскага князя Ізьяслава на Полаўцаў, Кіеўляне прагналі Ізьяслава і запрапанавалі Кіеўскае Княжства, сідзячаму у той час у Кіеускай вязніцы — Усеславу-Чарадзею. Але не доўга, усяго сем месяцаў, прабыў Усеслаў князям Кіеўскім, кінуў увесь пачот і багацьця і уцёк у Полацк, куды, як гаворыць летапісец, клікалі яго званы Св. Зофіі Полацкай.

Апошні, самы жорсткі паход на Полацкую зямлю адбыўся ў 1084 г. Уладзімір Манамах, набраўшы вялізарнае войска, павёў яго на поўнач. Дайшлі да Менска. Горад быў узяты і зусім зьнішчаны. Войскі Уладзіміра, як гаворыць летапісь, «Не оставіша ні челядіна, ні скотіны, вся разграбіша і пожгоша» (Гісторыя Беларусі, Ігнатоускі, выд. 1921 г. бал. 22).

Пасля смерці Усеслава пачынаецца распад Беларускіх Княжств, чым карыстаюцца Кіеўскіе князі — Уладзімір Манамах і Мсціслаў у 1127—1129 г.г. Зноў нішчацца агнём і мячом гарады — Менск, Друцк, Ворша, Капыль, Полацк, Лагойск, Ізьяслаўль. У 1129 годзе Мсьціслаў выганае з Полацка і Менска Ізьяслававічоў, унукаў Рагвалода і садзіць на Княжства сваіх сыноў і родных, якія давадзяць край паборамі і рабункамі да жабрацтва. Жыхарамі полацкай зямлі запаўняюцца рынкі нявольнікаў у Азіі і Кіеўшчыне.

Народ не сьцярпеў і у 1132 г. падняў паустаньне, выгнаў чужых князьёў і іх прыслужнікаў і зноў вярнуў на княжства унукаў Рагвалода. Зноў жыцьцё пацякло мірным тэмпам, Кіеў не так ужо непакоіць Полацк, так як быў заняты барацьбой з Суздальскімі князямі, новай сілай паўстаючай на поўначы. У Полацкім княжстве разцветае культура і навука. XII век дае нам усясьветна вядомых вучоных — Клімэнта Смалятіча, Беларускага Златауста — Кірыла Тураускага і Прадславу — Еўфрасінію Полацкую.



Пасля смерці Усеслава Васільлевіча у 1180 годзе, з павагі да памяці памёршага Князя, за яго мудрае гаспадарэньне і дабрату да народу, народ не пожадаў выбіраць новага князя і абвесьціў Рэспубліку, якой кіровала 30 Старшын. Полацкая Рэспубліка праіснавала 9 лет да 1190 г. Гаспадарэньне Баяр (Олігархія) не спадабалася народу і яны зноў вярнуліць да дынастыі Рагвалодавічаў.

Бэзупынныя войны з Кіеўскімі князямі страшэнна нішчылі Полацкую зямлю і не давалі магчымасьці узмацавацца ні сельскай гаспадарцы, ні наогул эканамічнаму стану краю. Спрэчкі паміж асобнымі князямі, барацьба іх паміж сабою і частая зьмена князёў у княжствах прымушала многіх уцякаць на Заход, у Літву. Тудыж накіровываліся, каб захаваць сваё багацьце і таргоўцы, а за імі эміґравала і беднота, каб знайсьці больш спакойныя варункі жыцьця. Прыносячы з сабой культуру, вайсковы вопыт, капітал і працоўную сілу эміґранты з кожным годам узмацовывалі Літву і аслаблялі Полацкія Княжества. Самостойнасьць Княжств беларускіх плямён траціла сваю сілу і яны усё больш і больш падпадалі пад уплыў, хоць і малакультурных, але больш моцных Літоўскіх князёў. Апошніе бралі з ахватай беларускую культуру, а давалі ім уладу і ахарону ад ворагаў.

Так скончыўся першы самастойны пэрыад Баларускіх Княжстваў.

## II.

З XIII века пачынаецца пэрыад Літоўска-Рускага, правідловей-Беларускага Вялікага Княжества.

У той час, як абьеднаньне Славянскіх плямён на поўдні прахадзіла пад уплывам Кіеўскіх князёў, на поўначы — Маскоускіх, на Заходзе — яно зьдзеисьнівалась пад уплывам Літоуска-Беларускіх Князёў.

Да XIV веку уплыў Кіеўскага князя занік зусім. Масква чуць пачала выяўляць сябе і толькі Літоўска-Беларускае Вялікае Княжства у гэты час ня мела супярэчнікаў у гэтам напрамку. Толькі у канцы XIV стагоддзя Маскоўскае Княжества пачынае выяўляць надзвычайную дзеяльнасьць у справе абьеднаньня Славян ва ўсходняй частцы. З гэтага моманту і пачынаецца барацьба паміж Беларуска-Літоўскім Княжествам з аднаго боку, і Масквой — з другога.

Утварэньне Літоўска-Рускага, альбо Беларускага Княжства насіла назву Рускага таму, што тэрмін «Русь» Належаў выключна Беларусам і Украінцам. Масква пачала называцца Русьсю куды пазней.

Абьеднаньне Беларускіх Княжств з Літоўскімі было зроблена не заваёвай, а дабравольнай згодай, дзе ўровень з Князямі Літоўскімі і нават перэважна — Княжылі Беларускіе Князі і афіцыйнай дзержаўнай моваю у Княжстве была мова беларуская.

Літоуска-Беларускае Княжества усё цьвярдзей і цьвярдзей становіцца на ногі і паспешна вядзе барацьбу з Масквой. Цвярское княжства становіцца яблыкам спрэчак паміж Літоўска-Беларускім і Маскоўскім княжствам. Войскі Альгерда два разы бьюцца з войскамі Маскоўскага Вялікага Князя Дзьмітрыя Данскога. Першы раз перамог Альгэрд, друг раз Дзьмітры Данскі. Літва і Беларусь, занятыя у гэты час барацьбой з нямецкімі ордэнамі, спынілі барацьбу з Масквой і пасля замірэньня, Альгэрд выдаў сваю дачкv замуж за Уладзіміра Андрэевіча — брата Дзьмітрыя Данскога.

Пры Вітаўце спакой быу парушаны і пачалася спрэчка за уладаньне Смеланскам і Ноўгарадам. Толькі татары, перамогшы Літву і Беларусь на берагох ракі Ворсклы, не далі магчымасьці Вітаўту пашырыць свой уплыу далёка на ўсход. Алеж усё такі Ноўгарад і Смаленск павінны былі прызнаць сваю залежнасьць ад Вітаўта.

У 1396 годзе Вітаўт і Васіль І Маскоўскі, зьехаўшысь у Смаленску усталілі межы паміж Літоўска-Беларускім і Маскоўскім Княжствам па рэчцы Угры. Для замацаваньня дагавору дачка Вітаўта Анасазія была выдана замуж за Васіля І.

У гэты момант Літоўска-Беларускае Княжства уключала у свой склад вялізарную тэрыторыю губэрняў: Віленскай, Гродзенскай, Ковенскай, Сувалкскай, Падольскай, Валынскай, Менскай, Магілёўскай, Вітэбскай, Смаленскай, Кіеўскай, Чарнігаўскай, Кацярынаслаўскай, Хэрсонскай, Арлоўскай і частку Калужскай і Тульскай. На ўсход яго граніца даходзіла да гораду Мажайску у 107 вёр. ад Масквы.

Масква гэтага пэрыяду яшчэ ня мела сілы. Скінуўшы з сябе татарскае ярмо у 1480 г., яна хутка абьеднывае усе княжства і ужо лічыць, што усе землі славян ёсьць яе «вотчына».

«Вся руская земля Божіею Волею из старины наша вотчина» і запамятаваўшы аб тым, што ім належаў толькі маленькі удзел, Маскоўскіе князі, ужо лічаць сябе князямі «Всея Руси». Стары тытул князя Маскоўскага іх не задавальняе і княць прымае тытул Вялікага Князя, Государа Маскоўскага і «Всея Руси».

Барацьба за Беларусь, як «Вотчину» цягнецца больш 150 гадоў, Бацькаўшчына наша нішчыцца, палеткі зарастаюць лесам і угноіваюцца крывёю.

У 1491 г. у часы гаспадарэньня Аляксандра Ягайлавіча — Князя Літоўска-Беларускага, Іван III, Князь Маскоўскі, карыстаючысь спрэчкамі Беларусі і Літвы з Польшчай, пачаў вайну за Беларускую «Вотчыну», якой ні ён, ні яго бацькі не бачылі. На падмогу сабе Іван III паклікаў Крымскага татарскага Хана — Менглы-Гірэя і пачаўся пагром Беларуска-Літоўскага Княжства з поўначы і са ўсходу. Асабліва быў разбураны горад Рогачоў, багацьце яго былі зрабаваны, горад спаляны, а жыхары пацягняны у палон да Масквы. Літоўска-Белагускае Княжства запрасіла міру. Мір быў падпісаны і Іван III вярнуў назад горад Мсьціслаў.



Гэты мір обыдва князі хацелі зрабіць трывалым і доўгім. Аляксандр Ягайлавіч хацеў замацаваць яго і крэўным пабрацімствам, заслаўшы сватоў да дачкі Івана III. Галены, на якой потым і жаніўся, але і гэта не замацавала міру.

У аднэй з грамат Аляксандр не назваў Івана III «Государем Всея Русі». У адказ на гэта, Іван III прыслаў Аляксандру «Складную» Грамату», абяшчаўшую вайну. Вайна пачалася у 1500 годзе.

Каля Дарагабужа адбылася страшэнная бойка. Восем тысяч народу палягло на гэтым полі. Літоўска-Беларускія войскі былі разбіты — Ваевода Астрожскі папаў в палон. Тры годы пасля гэтага войскі Івана III нішчылі Беларусь. Днём неба курылась чорным дымам, а ноччу вогнішчам пажараў. Лілася ракой чалавечча кроў, нішчылась багацьце і маемнасьць. Толькі голад, у імі самімі спустошанам краі, прымусіў маскоўскія войскі пакінуць Беларусь. У 1503 годзе было падпісана перамірра і мір, па якому да Масквы адыйшоў Гомэль і некалькі мяйсцовасьцяў цяперашняга Рагачоўскага павету. У 1506 годзе памерлі і цесьць і зяць.

Пасля іх смерці, на Беларусі і Літве княжыў брат Александра, Жыгімонд II, стары, а у Маскве Васіль III, сын Івана III.

У 1508 годзе перабег з Літвы у Маскву варожа настрояны да Жыгімунда князь Глінскі, які падбіў Васіля III на вайну з Жыгімундам. Зноў маскоускія войскі урываюцца у Беларусь, але Жыгімунд, з вялікім войскам, выходзіць насустрэч і пачынае гнаць яго на ўсход. Васіль III, змушаны быу прасіць міру, і ўзапрауды быў падпісаны «Вечны мір», які цягнуўся толькі пяць гадоў. У 1513 годзе зноў пачалась вайнэ пад Смаленскам і Воршай. Пад Воршай Воевода Астрожскі атрымаў дзьве перамогі, не гледзячы на тое, што яго войскі былі у два разы слабшыя маскоўскіх. Ад Воршы Астрожскі гнаў маскоускія войскі да Дарагобужа. 30 тысяч трупаў — беларусоў, літвіноў і маскоуцаў, усьцілалі гэту плошчу. Гарады — Полацк, Мсьціслаў, Магілёў, Ворша, Рогачоў, Гомэль, Вітэбск і Смаленск, руйнуюцца па некалікі разоў. Трудна злічыць бэзканечны рад вёсак і маленькіх сяліб, зруйнованых за гэты час. Усё, што была зроблена многовяковай народнай працай, гіне: аромая зямля зарастае лесам, жыхарства блудзіць па лясох і пушчах, хаваючысь ад забойстваў і рабункаў. Народная творчасьць спыняецца. Жыхарства края, бачучы што німа канца гвалтам і паняволеньням, пакідае зруйнованыя гнёзды, сваю родную зямлю і бяжыць на Украіну.

А барацьба ідзе далей. Войны узнауляюцца у 1516, 1518, 1519, 1534, 1535 і 1536 г.г. І тая і другая старана, змучаная барацьбой, заключае мір, які прадаужаецца 25 гадоў.

Пры Іване IV Грозным, у 1561 г. зноў пачынаецца т. наз. Лівонская вайна, якая адбываецца на тэрыторыі Беларусі.

Дорога каштавала нешчаснаму беларускаму народу імпэрыялістычная думка маскоўскіх князёў — зьбірацялёў, аб тым, што Беларусь ёсьць іх «Вотчина» і што Літоўска-Беларускія князі не хацелі іх называць князямі «Всея Русі».

## III.

Дынастычная вунія Ягайлы з Польшчай 1386 г. не зліла Літвы і Беларусі з Польшчай. Абедзьве дзержавы захавалі сваё палітычнае і культурнае аблічча. Вуніі, пасля гэтага, паўтараюцца некалькі разоў, што паказывае на тое, што яны жыцьцёвай сілы ня мелі. Усёж такі былі некатарыя дзержаўныя, палітычныя і культурныя зьявішча, якія зьбліжалі Літву і Беларусь з Польшчай. Гэта залежала у некаторых выпадках ад паступовага руху у жыцьці самага Княжства, як і ад польскага ўплыву. Гарады атрымалі Магдэбургскае права, шляхта заняла такое становішча, пры якіх трацілась улада Караля і правы іншых клясаў насельніцтва дзержавы. У выжэйшыя клясы прасочывалась культура польская і выціскала культуру беларускую. Усё гэта падгатовывала грунт для рэальнай вуніі. Да гэтагаж самага вялі і чыста надворныя, часам выпадковыя, зьявішча у абодвых дзержавах.

Нам вядома, што, пачынаючы з конца XIV веку, на Літву і Беларусь неўпынна ідзе націск са ўсходу, з боку Маскоўскага княжства. Гэта навала спусташае і руйнуе асабліва беларускія землі. У другой палове XVI стагоддзя (1558—1582) з перэрвай і пераменным шчасьцем цягнулася, так называемая, Лівонская вайна, распачатая Іванам Грозным. Лівонія, разбітая Маскоўскімі войскамі, перэдалась пад ахарону Літвы і Беларусі і Іван Грозны накіраваў свае войскі на Літоўска-Беларускае Княжства.

Маскоуская армада, больш 250.000 салдат у 1563 годзе аблажыла і забрала Полацк. Многа народу загінула, вялізарны лік золата, серабра і дарагіх каштоўных рэчаў быў забраны і вывязены у Маскву. Вывязены былі усе гістарычныя памятнікі і архівы. Золата і серабро было, з працягам часу, зьвернута, але дакумэнты і архівы, выкрываючыя самазванства Маскоўскіх Князёў на Беларускую «Вотчыну», часткова ьнішчаны, а рэшта пакінута у Маскве.

Шукаючы збаўленьня ад Масквы, Літва і Беларусь, пачалі думаць аб помачы з боку Польшчы.

Веручы польскаму народу, баярэ Літвы і Беларусі думалі, што Польшча згодзіцца на добрахотную вунію з асобнымі соймамі у гэтых дзержавах. Яны нават былі згодны і на адзін Сойм, але каб ён збіраўся па чарзе, то у Літве і Беларусі, то у Польчшы.

Кароль павінен быў выбірацца адной і другой стараной асаобна. Урадовыя мейсцы у кожным Княжстве павінны былі давацца толькі тубыльцам.

Дзеля вырашэньня гэтага пытаньня быў скліканы Сойм на 23 сьнежня 1568 г. у Люблін. Літоўска-Беларускія паслы збіраліся марудна. Больш значная частка іх сабралась толькі на 10 сьнежня 1569 года. Ні адна са старон не хацела уступаць сваіх пазыцый. Бачучы, што з гэтага нічага не выходзіць, Літоўска-Беларускія паслы выехалі дамоу. Тады Палякі, апіраючысь на тое, што паўночна-беларускія землі Падлясься, Валыні і Падолі былі калісь прылучаны



да Літоўска-Беларускага Княжства, продкамі Ягелонаў, прасілі апошняга Ягелона, падараваць гэтыя землі Польшчы.

Жыгімонд так і зрабіў. Даведаўшысь аб гэтым Літоўска-Беларускія паслы зноў зьявілісь у Люблін. Яны пратэставалі супроць таго, што была зроблена. Польшча ня мела права прылучаць да сваей тэрыторы землі, якія адвеку належалі Літве і Беларусі.

Палякі не згаджалісь паправіць зьневагі і крыўды, нанесянай Беларусам. Яны бачылі, што Літва і Беларусь знаходзяцца у цяжкіх варунках і не могуць ужо аружжам бараніць свае правы, скарысталі становішча і прымусілі згодзіцца на такую несправядлівую і крыўдную для беларускага народу вунію. У гэты самы час Літоўска-Беларускаму Княжству на ўсходзе пагражала Масква, а на поўдні татары і туркі. Апроч таго і Польшча сталаб ворагам, каліб гэта вунія не была падпісана.

Іншага выхаду не было. Літоўска-Беларускія паслы — Хадкевіч, Радзівіл і друг. упрашалі палякоў і свайго апошняга Вялікага Князя з роду Ягелонаў, каб яны не рабілі крыўд іх Княжству, не паніжалі яго і не адрывалі ад яго векачевных яго зямель. З плачам і жальбой, яны кінулісь на калені перад Жыгімондам, просячы яго, не губіць Княжства і не аддаваць беларускага народу у польскую няволю. Але Кароль і палякі не выказалі спачуцьця. Жыгімонд прыказаў прыняць вунію і прысягнуць Польшчы. Гэта прысяга і адбылась 1 ліпня 1569 г.

З гэтага году Літва і Беларусь надворна перэстаюць існаваць самастойна і быццам уліваюцца у арганізм Рэчы Польскай Паспалітай, але унутранна сваей самостойнасьці не трацяць.

З актам вуніі пачынаецца страшэнная паланізацыя, нішчыцца беларуская культура і заменяецца польскай. Руйнуюцца эканамічныя устоі краю, усё цягнецца у Варшаву. Выжэйшыя клясы — баярства, духавенства пераходзяць на-бок палякоў. Іезуіты адыймаюць у народа яго душу — веру, але народ супраціўляецца. Астаўшысь адзін, бэз інтэлігенцыі, бэз кіраўнікоў, толькі сілай свайго нацыянальнага інстынкту змагаецца за захаваньне свайго нацыянальнага віду і, разумееца, не маючы магчымасьці утрымаць на належным узроўне свае культурныя заваёвы старых часоў, — усёж захоўвае нам да сяго часу веру бацькоў, сваю нацыянальнасьць і родную беларускую мову.

Калі набегі Кіеўскіх і Маскоўскіх Князёў былі пэрыадычнымі і пасля руйнацыі і барацьбы, наступала некаторая перадышка і магчымасьць узнаўленьня эканамічных і культурных багацьцяў, то пасля Люблінскай вуніі наступіла бэзпрасьветная цемра польскага уціску, які у карэню душыў усё жывое беларускае. Іезуітамі усенародна у Вільні, на Юрьеўскам пляцу, паліліся астаткі культуры і пісьменнасьці беларускай, як гэрэтычнай. Агнём і мячом насаджаўся каталіцызм. Беларускі народ, спасаючысь ад Маскоўскай навалы, папаў яшчэ у горшую небэзпэку — польскую і амаль зусім не страціў сваю самастойнасьць і незалежнасьць. Жахі уціску і насільства

польскай шляхты не падаюцца апісаньню. Народ ўзапрауды абяртаецца у «быдла» — рабочую жывёлу, якіх то прадаюць, то меняюць на сабак польскіе паны. Аднак воля народу да жыцьця і самастоянага існаваньня не была задушана і народ увесь час жыў надзеяй на свае уваскрэшэньне. 226 лет да апошняга падзелу Польшчы цягнецца гэта мука. Стогны і праклёны нясуцца да неба. Нарэшце пасля трэццяга падзелу Польшчы, якбыццам, прыходзіць вызваленьне.

## IV.

Праўда, пасля прылучэньня Беларусі, Кацярына II прыказала Пскоўскаму і Магілёўскаму губэрнатарам абвесьціць усім жыхарам краю, што яны маюць усе правы і вольнасьці, якімі карыстаюцца і іншыя падданыя Расеі: «Каждое состояніе на жителей присоединённых земель вступает с самаго сего дня во все свойственныя оному выгоды по всему пространству Имперіи Россійской».

Правыж і вольнасьці рускага мужыка тых часоў усім добра вядомы. Вось іх то і атрымаў беларускі мужык. Што датычыцца польскіх паноў на Беларусі, то яны не маглі нарэкаць на сваю долю таму, што іх правы і вольнасьці былі шмат прыемней, чым мужыцкія яны і не жалілісь.

У канцы XVIII веку, шляхта прылучаных да Расеі зямель Рэчы Паспалітай падала рускаму ураду адрэс, дзе пісала: «Жывя не в Польше, мы чувствуем себя как-бы в Польше і даже лучше, чем в настоящей Польше». Так адчувалі сябе паны на Беларусі. (Гісторыя Беларусі. Ігнатоускі выд. II. 1921 г. Вільня, бал. 107).

Эканамічнае становішча беларускага селяніна у той час, нават у афіцыйных данясеньнях, малюецца самай чорнай барвай. Галоўны начальнік краю у сваім усепадданнейшам данясеньні у 1855 годзе піша: «В Витебской губерніи крестьяне почти не знают хлеба, питаются грибами и разными сырыми веществами, порождающими болезни; нищета страшная, а рядом роскошь помещиков. Жизненные силы края совершенно истощились в нравственном и физическом отношении; разслабленіе достигло крайних пределов. (Там-же, бал. 108).

Вядомы рускі эмігрант, сучаснік дэкабрыстаў, І. Тургэнеў, у сваіх запісках так малюе жыцьцё беларускага мужыка: «Одно из самых возмутительных злоупотреблений заключается в белоруских провинциях (Витебской и Могилевской), где крестьяне так несчастны, что вызывали сострадание даже русских крепостных. В этих провинціях помещики оддавали своих крепостных сотнями и тысячами подрядчикам, которые исполняли землекопные работы во всех концах Империи. Эти бедные люди употребляются главным образом на постройку больших дорог и каналов. Помещик берёт обязательство поставить такое-то количество людей по установленной плате, а подрядчик обязуется кормить их во время работы. Правительственные инженеры, наблюдающие за работами не требуют от подрядчика в пользу этих несчастных ничего сверх того, что требуется для поддержания их жизни. Что же касается до денег, которые получает за них помещик, то Правительство не вмешивается в это. Эти несчастные провели дороги в окрестностях Царского Села».



Да гэтых малюнкаў мы нічога прыдаць не можэм. У Польшчы беларус быў «быдлам», а у Царскай Расеі зрабіўся «рабочым скотом» лепш ад гэтага, працуючаму беларускаму народу, не стала. (Там-же 108).

Адносіны да Беларусі трошкі зьмяніліcь у часы царэньня Паўла I, які дазволіў кіравацца Беларусі Літоўскім Статутам, замест агульна-рускіх законаў Аляксея Міхайлавіча. Гэта пастанова была карысна для Беларусі тым, што лічылась з гістарычна-юрыючнымі традыцыямі краю.

Той самы напрамак быў і у часы царэньня Аляксандра I. Ён, спачуваючы Польшчы, памог перарабіць Вілянскую Іезуіцкую Акадэмію ва Унівэрсытэт, які стаў, праўда цэнтрам не беларускай, а польскай прасьветы і адраджэньня.

Беларуская інтэлігэнтная шляхта тут рабілась польскай інтэлігэнцыей, але усёж такі і у ей прабуджалась часамі любаведасьць да Беларусі. Вілянскі Унівэрсытэт даў многа палякоў, якія можа і супроць сваей волі, зрабілісь піанэрамі беларускага культурнага руху. Разумеецца, стварэньне замест польскага, беларускага Унівэрсытэту у Вільні, далоб куды лепшыя і прыемнейшыя карысьці Расеі, але такой дальназоркасьці ні у Аляксандра I, ні у яго супрацоўнікаў не было.

Вайна 1812 году змусіла Беларусь перанясьці цяжкія часы. Раней тут стаялі рускія войскі. Пасля іх адыходу пацягнуліcь на Маскву сілы Наполеона. Пасля некатарага часу, у жэбрацкам стану, тая самая армія пацягнулася на заход, а следам за ею зноў ішлі рускія войскі. Усе гэтыя арміі рабавалі і руйнавалі край. Беларусь зусім зжэбрачэла. Пустыя хаты стаялі у вёсках, селяне уміралі ад голаду, а застаўшыяся, хаваліся па лясох і балотах. Доўга памятаў беларускі народ часы вялікай барацьбы вялікіх народаў і ідэй.

У часы царэньня Мікалая I пачалося першае польскае паўстаньне. I паустанцы і рускі урад стараліcь перацягнуць на свой бок беларускага селяніна. Рускі урад, у асобе Галоўнакамандуючага усімі рускімі сіламі, абяцаў нават мужыкам вызваленьне ад паншчыны. Гэта абяцанка засталася пустым словам. Перамогшы паустаньне, рускі урад узяўся за самую ярую русыфікацыю краю.

Зноў паўтарылася тая самая абмылка, што і пры Аляксандру I, з Унівэрсытэтам. Знішчаны былі польскія школы, але заменяны былі не беларускімі, а рускімі. Замест польскага Віленскага Унівэрсытэту ня быў адчыняны Унівэрсытэт Беларускі, а ўсе навуковыя каштоўнасьці Унівэрсытэту былі перавезяны у Кіеў. Так беларусы і не дачакаліся свайго Унівэрсытэту.

За паўстаньне некаторыя з палякоў былі выгнаны з краю, альбо высланы у Сібір, але землякарыстаньне польскіх паноў не было скасавана. Літоускі Статут быў выкрэслян з судагаварэньня і у ва

ўсіх урадовых установах была гвалтоўна уведзяна мова расейская, замест беларускай.

Замест таго, каб залечываць раны Люблінскай вуніі і падтрымаць беларускі дух у царкве уніацкай, не даушы ім мажлівасьці, хоць вярнуцца у каталіцызм, адным росчэркам пяра падпісываецца рэскрыпт, па дакладу Епіскапа Язэпа Семашко, аб злучэньні вуніатаў і забараняецца карыстаньнэ у царкве і касьцёле беларускай мовай. Старыя вуніяцкія Багаслужбовыя кніжкі на беларускай мове замяняюцца кніжкамі Маскоўскага выданьня.

Другое польскае паўстаньне у 1863 г. пры Александры II прайшло слабей таму, што беларускае селянства амаль ніякага удзелу у ім не прыймала, ня гледзячы на тое, што адозвы пісаліся на беларускай мове і паўстаньню прыдавалась сацыальная афарбоўка. Селянства зусім не верыла польскім панам.

Задушыўшы паўстаньне зноў пачалася тая самая русыфікацыя краю пад кіраўніцтвам вядомага Мураўёва. Першай мэтай ураду было знішчыць польскі уплыў, але нішчачы яго, урад больш руйнаваў культуру беларускую, чым польскую.

Вядома напрыклад, што друкованьне польскіх кніжак забаронена не было, а друк беларускіх кніг быў забаронен Указам 1865 году. Прычынай гэтаму было тое, што за Польшчу заступаліcь замежныя дзержавы, а Беларусь такіх заступнікаў не мела.

Мураўёву не трэба было адыгрываць агіднай, і негоднай чалавека ролі ката і вешаць паноу абшарнікаў, а трэба было пазбавіць іх толькі маёнткаў — гэтых гнёзд паняволеньня беларускага народу і пасля вызваленьня ад паншчыны перадаць зямлю мяйсцоваму жыхарству.

Да вялікай рэвалюцыі 1917 г. становішча не мянялась. Только рэвалюцыя дала мажлівасьць выявіць Беларусі нацыянальна-культурныя і сацыяльна-палітычныя сілы. З гэтага дня настаў для Беларусі час рэвалюцыйнай працы і дзержаўнага будаўніцтва.

## 1905 ГОД.

Не гледзячы на страшэнны уціск і нішчэньне усяго беларускага, нейкія праявы беларускага руху мы бачым і у 40-х гадах. Зьяўляюцца паэты, пісьменнікі, гісторыкі і этнографы, якія будзяць нацыянальную думку, як напрыклад: В. Дунін-Марцінкевіч, Ян Чэчот, Нарбут, Ярашэвіч, Сыракомля, Крашэускі і многія другія. Пасля 1863 года і гэта дзеяльнасьць была спынена. Беларуская літэратура пайшла у падпольле і атуль у рукапісах, перадаваемых з рук у рукі, пападала да народу, які з запалам лавіў кожны родны радок, родны верш і перадаваў яго дзецям. Займаліся чытаньнем гэтае літэратуры, праўда, для забавы і польскія паны, хацяж і пры закрытых дзьверах. Канец 80-х гадоў зноў абуджае нацыянальны рух, але пасля забараны 1865 года, нават бэлетрыстыкі на беларукай мове, ён выліваецца у форме артыкулаў у афіцыйнай і неафіцыйнай мяйсцовай прэсе па беларускаму пытаньню на мове расейскай. (Виленскій Вестник,



Минскій Листок, Гродненскія і Вітебскія Вѣдомости і гэт. д.). Артыкулы найбольш датыкаліcь культуры, гісторыі і этнаграфіі беларускай нацыянальнасьці.

Пачэсныя імёны мяйсцовых этнографоў і гісторыкаў, будзіўшых думку аб Беларусі — Сапунова, Стукаліча, Нікіфароускага, Даўгяло, Раманава і бэзканечны рад многіх другіх, пералічаных у кнізе прафэсара Карскага «Бѣлоруссы» том І, выд. 1904 г., яскрава гаворадь аб тым захопленьні, якое выклікала беларуская нацыя, як старэйшая і амаль у поўнай чыстаце захаваўшаяся галіна славянства у навковых колах. Зьяўляюцца таксама, хоць і нелегальна культурна-прасьветныя гурткі у буйнейшых цэнтрах Расеі і Беларусі вучнёускай моладзі, якія знаходзіліcь у сьціслай сувязі з арганізацыямі такога самага тыпу другіх нацыянальнасьцяў і асабліва Украінскай і Літоўскай.

У 1900 годзе гэтыя гурткі прыймаюць палітычную афарбоўку і выліваюцца у формы партый. Так у 1902 г. была заснована «Беларуская Сацыялістычная Грамада», малолічная з пачатку, але у 1905 г. ужо кіраваўшая народнымі масамі, навокал якой згрупавалась уся прагрэсыўная інтэлігэнцыя Беларусі. (Краткій Очерк возникновенія Бѣлорусской Народной Республикі. А. Цвікевіч, стр. 5.).

Народ, заховываючы, якбыццам, пасыўнасьць, чутка прыслуховываўся да кожнага слова, якое нясла яму кніга, брашура, верш на роднай мове, але пакуль маўчаў і толькі, як гаворыць вядомы беларускі пісьменнік і дзеяч Антон Навіна 1904—5 г. вырваў голас з яго грудзей. Ён пайшоў са сваімі правадырамі. («На дарозе да новага жыцьця». Антон Навіна, бал. 11).

Голасна загаварылі у гэты час паэты і пісьменнікі, падыймаючы самоусьвядамленьне і павагу да сваей роднай мовы. Мацей Бурачок піша: «Наша бацькава прадвечная мова, каторую мы самі, да і не адны мы, а усе людзі цёмныя мужыцкай завуць, завецца Беларускай... ёсць такая-ж людская і панская, як і французская, альбо нямецкая, альбо і іншая якая. Яно добра, а нават і трэба знаць суседскую мову, але найперш трэба знаць сваю»... і горача кідае у народ першы голасны і моцны покліч: «Не кідайце мовы нашай Беларускай, каб не ўмёрлі!...»

Народ шукае духовай стравы у сваей роднай мове, яго ужо не здавальняюць лістоўкі і агітацыіныя брашуркі Сацыялістычнай Грамады ў 1906 г. насустрэч патрэбам народа ідзе стварыўшаеся выдавецкае таварыства «Загляне сонца і ў наша ваконца», якое пачало адразу друкаваць лепшыя творы беларускіх пісьменнікаў. У Вільні выходзіць беларуская народная газэта «Наша Доля». Газэта выходзіла каля двох месяцаў, але з прычыны сталых канфіскацый за рэвалюцыйны напрамак (з 6 NN было канфіскована 5), хоць і зачынілась, але зрабіла дужа многа.

У Менску у тым-жа годзе засноўваецца Беларускі Вучыцельскі Саюз, пачынаецца нацыянальны рух у духоуных і вучыцельскіх сэмінарыях, інстытутах і другіх вучнёўскіх установах.

Сталыпінская рэакцыя не магла ужо стрымаць беларускага руху, хоць многія, бачучы разгром нацыянальных гурткоў і партый і апускалі рукі, але больш вытрыманыя і цьвёрдые кіраўнікі беларускага руху, бачучы што яшче не усё прапала і можна вясьці культурна-нацыянальную працу і друкаваць беларускія кнігі, пачалі выдаваць у Вільні газэту — журнал «Наша Ніва». Адначасна з «Нашай Нівай» працуе выдавецтва «Загляне сонца і ў наша ваконца» у Пецярбурзе, Таварыства «Мінчук» у Менску, «Наша Хата і выдавецтва «Палачанін» - «А. Грыневіч» у Вільні.

За пяць гадоў яны разам надрукавалі каля 200.000 экзэмпляраў кніг рожнага напрямку: — Літературныя творы, школьныя падручнікі, прыкладные, сельска-гаспадарчыя і гістарычныя. У год ішло у народ кала 25.000 кніг. Адкрыліся дзе-не-дзе Беларускія бібліатэкі і нават школы (разумеецца патаемныя). Адчыніўся нават на расейскай мове і вучыцельскі журнал «Бѣлорусскій Учитель», але на другім № скончыў сваё жыцьцё.

У 1910 і 11-м годзе рух разрастаецца. Пачаў адраджацца беларускі народны тэатр і народны хор. У Вільні, Горадні, Слуцку, Капылу, Полацку, Дзісьне, Давід-Гарадке, Пецербурзе і Варшаве стваряюцца драматычные гурткі і хоры, якія улаштовываюць публічныя вечары, ставяць пьесы на беларускай мове, спеваюць беларускія песьні і танцуюць народныя танцы. Зьяўляюцца арыгінальная і у перадруку беларуская драма і другія рэчы сцэнічных твораў. Збіраюцца, апрацоваюцца і друкуюцца песьні беларускага народу, якіх матывы служаць тэмай для вялікіх музыкальных твораў, але пакуль яшчо чужых кампазытараў.

У цэнтры Беларусі у Вільні адчыняецца «Беларускі Музыкальна Драматычны Кружок», які працуе над розвіткам беларускага тэатру, песьні, музыкі і скокаў. Разам з гэтым стварыўся вандроўны беларускі тэатр пад кіраўніцтвам І. Буйніцкага, які абьехаў каля 15 мястэчак Віленскай, Менскай і Вітэбскай губэрні, падымаючы усюды беларускі дух і абуджаючы нацыянальнае самаусьвядамленьне.

У эканамічным жыцьцю таксама прыкмечаецца абуджэньне. Адчыняюцца каапэратнвы спажывецкія крамы, крэдытныя таварыства, сельска-гаспадарчыя кружкі, арганізуюцца селянскія выстаўкі, паказальныя палеткі і інш.

Ва ўсіх галінах і культурнага і эканамічнага жыцьця нарастаюць сілы: за сваю мову і за свой дабрабыт цьвёрда стаіць беларускі селянін. Накапляюцца кадры інтэлігэнцыі, выйшаўшай з таго самага народу, якія і духам і целам прагнуць, як мага хутчэй, памагчы свайму народу скінуць тое непасільнае ярмо і культурнага і нацыянальнага уціску, якое накінулі на яго шыю рускіе цары.

## 1917 ГОД.

Усесьветная вайна 1914 году у першую галаву, як сумежную частку, кінула Беларусь на барацьбу з Нямеччынай. Многа беларускіх касьцей ляжыць у Аўгустоўскіх лясах, Мазурскіх балотах і пад Кенігзбэргам. Беларуская інтэлігэнцыя на вайну ішла ахвотна, бачучы, што вайна заўсёды нясе новыя павеі, ішла, разумецца, не як абаронца, а як удзельніца у працы для зьнішчэньня існуючага ладу і у гэтым напрамку вяла упартую барацьбу. Гэта паражэнства не выліvalася у форме здрады, а мела на відоку толькі развал той турмы народау, пры існаваньні якой ні адна із нацый, населяўшых Расею, а тым больш Беларусь не змогуць вызваліцца з-пад уціску і нацыянальнага і культурнага, не гаворучы ужо аб палітычным.



Падвойны адыход са Усходніх Прусаў, бегства з Галіцыі амаль з голымі рукамі, разгул і недбальства каманднага тылавога саставу — усё гэта моцна уплывала на армію і яшчэ больш яе раскладала. Крок за крокам і армія і народ падыходзілі да вялічэзнага моманту у гісторыі народау — рэвалюцыі, якая і выбухнула у лютым месяцы 1917 году.

Стыхійнасьць гэтага зьявішча незразумела для многіх і цяпер. Як магло здарыцца, што пасля 300 летняй сьпячкі адразу, якбыццам, па узмаху чароўнага жазла паўстаў, як адзін чалавек, увесь народ, усіх нацый і плямён. Не стала грунтоўнага зла самаўладства і трон Мікалая II загінуў, а за ім адыйшлі у вечнасьць, усе ланцугі і уціск. Так здавалась тады усім.

Заварушыліся тады усе народы, у тым ліку і народ беларускі. Ужо у сакавіку месяцу 1917 г. зьезд беларускіх дзеячоў патрэбуе аўтаномнага ладу для Беларусі і увядзеньня у школы беларускай мовы дзеля чаго і пасылае да часовага Ураду дэлегацыю аб зацьверджэньні і правядзеньні у жыцьцё сваіх пастаноў. Результаты ад паездкі у Петраград былі адмоўныя, Зьезд пасля сябе пакідае Нацыянальны Камітэт. У ліпені месяцы Нацыянальны Камітэт замяняецца «Радай беларускіх арганізацый і партый і паралельна з гэтым вядзецца праца сярод арганізацый бежэнскіх. Радай беларускіх арганізацый выносіцца рэзалюцыя аб нацыянальнай дзержаўнай арганізацыі.

Сярод войск таксама стыхійна пашыраецца беларускі нацыянальны рух і склікаюцца зьезды — Заходняга фронту у Менску 5—11 лістапада, пауночнага — у Рызе 2—7 лістопада, Румынскага — у Адэсі 3—8 сьнежня і паўднёвага фронту у Кіеве 3—8 сьнежня. Прэдстаўнічыя органы усіх гэтых зьездаў стваряюць Вялікую Беларускую Раду, складаючуюся з прэдстаунікоў усіх беларускіх арганізацый, як палітычна-грамадзкіх так і вайсковых.

Вайсковая частка Вялікай Рады працуе аўтаномна, як Цэнтральная Вайсковая Беларуская Рада.

Шпаркая концэнтрацыя нацыянальных сіл, нават бэз усякага прымусу зоўне, абапёртая на унутранам самаусьвядамленьні, сьведчыць аб тым, што беларускі рух не быў штучным, як гэта хацелі вытлумачыць нашы ворагі, а быў запраўдным і магутным парывам, зтомленага у няволі, беларускага народу.

Да гэтае пары не усталена каму, альбо якой арганізацыі належала думка аб скліканьні Усебеларускага Зьезду. Мне здаецца яна

належыць усім. Усе адразу прыпомнілі старое Палацкае Веча і захацелі вырашыць сваю долю ўсенародна і Зьезд быў прызначаны на 5 сьнежня 1917 г. па старому стылю.

На Зьезд сабраліся прэдстаўнікі Земстваў губэрскіх, павятовых, валастных; прэдстаўнікі культурна-прасьветных беларускіх арганізацый, палітычных партый, бежэнскіх, вайсковых, коопэратыўных і іншых арганізацый. Усяго прыехала на заезд 1872 дэлегаты, з якіх з правам рашучага голасу — 1167 і з дарадчым — 705.

Дармо было паміж дэлегатамі шукаць прэдстаўнікаў буржуазеі — іх тут не было. Гэта была селянская, рабочая і салдацкая маса беларускага народу, які паслаў іх бараніць свае працоўныя інтэрэсы. Рэнэгаты беларускага народу, адорваныя ад яго — буржуазея і значная частка інтэлігэнцыі, перэкінуўшыеся у польські, албо рускі стан, у гэты гісторычны момант не дала ні воднага голасу. Народ сам, як умеў, вырашаў сваю будучыну.

Аднак моцнай улада народу у гэты момант быць не магла, так як ні Часовы Урад Керэнскага, дазволіўшый фармаваньне польскіх легіонаў, Доўбор-Мусніцкаму на нашай тэрыторыі у Бабруйску і забраніўшый такое фармаваньне нацыанальных частак беларусам, ні Савет Народных Камісараў Заходняй Вобласьці і Фронту, у асобах Ляндэра і Мяснікова, не гледзячы на тое, што Глаўкаверх-Крыленко, гэта фармальне дазволіў.

Не гледзячы на забарону Зьездаў і сабраньняў наогул, Вялікая Беларуская Рада, ігнаруючы уладу акупантаў Вялікаросаў Саветау Народных Камісараў Заходняй Вобласьці і Фронта, склікала Усебеларускі Зьезд і прымусіла замаўчаць Камісараў перад магутнасьцю і ўздоймам беларускага народу.

5 сьнежня (18 па новаму стылю) 1917 г. у Менскім Гарадскім тэатры адчыніўся першы Усебеларускі Зьезд, правідловей кажучы, Установчы Сойм пры самых урачыстых абставінах.

На Зьезде змагаліся дзьве працівулежныя групы — Масквофільская, — начале з Членамі Петраградскага Абласнога Камітэту і Самастійно-незалежніцкая. За першай групай ішло Вітэбскае і Магілёўскае землячэства, за другой групай, Гродзенскаэ, Віленскае, Менскае і Смаленскае. Групу Абласнікоў патаемна падтрымлівалі і бальшэвікі.

Калі бальшэвікі абачылі, што большасьць Зьезда стаіць за самастойную рэспубліку, вырашылі Зьезд разагнаць сілай.

Бальшэвіцкія Камісары Крывашэін і Рэзаускі — пьяньне (канстатую факт) зьявіліся у залю Зьезду якраз у той самы час, калі пасля доўгіх дэбатаў, прыблізна каля часу ночы, меліся прыступіць да галасаваньня рэзалюцыі і абвесьцілі Зьезд распушчаным, а Прэзыдіум арыштаваным. Будынак, дзе адбываўся Зьезд, быў акружаны браневікамі і кулямётамі.

Падняўся страшэнны гвалт, бальшэвіцкіе салдаты са стрэльбамі, стараюцца варвацца у залю Зьезду, дэлегаты строяць барыкады з креслаў і сваімі грудзьмі абараняюць Зьезд і Прэзыдіум Зьезду,



які, не гледзячы на забарону Камісара, вядзе далей сход і галасуе рэзалюцыю.

Зьезд быў разагнаны, але яго дэлегаты 18 сьнежня (31 па новаму ст.) сабраліся у жалезнадарожным Дэпо і перэдалі Радзе Зьезду паўнамоцтвы на далейшую барацьбу за ідэалы беларускай дзержаунасьці. Рада Зьезду выбрала з сябе Спаўняючы Камітэт, які узяў на сябе увесь ціжар беларускай нацыанальна дзержаўнай працы.

Берасьцейскі мір разрезаў Беларусь на часткі. Пратэсты Беларускай дэлегацыі у Берасьці не мелі сілы, так як немцы лічылі Беларусь, у сваіх мэтах, часткай Расеі. А Троцкі у сілу гэтага распараджаўся ею, як сваей «Вотчынай». Пасля заявы Троцкага, што Расея не падпіша міра, але і не будзе ваяваць, немцы пасунулі свае войскі на Усход. Бальшэвікі пасьпешна павінны былі уцякаць з Менску і для Спаўняючага Камітэту Усебеларускага Зьезду настаў момэнт зьдзейсьніць фактычную уладу на Беларусі.

19 лютага 1918 г. бальшэвікі агідна пакінулі Менск, выдаўшы жыхарства на міласьць Вільгельма II. Выходзячы з гэтага становішча і лічучы патрэбным паставіць нямецкую акупацыйную уладу перад фактам існаваньня улады Беларускай, 21- лютага быў выбраны Першы Народны Сэкрэтарыат. Склад яго быў наступны: Старшыня Народнага Сэкрэтарыату — Варонка, Унутраных Спраў — Макрэеў (Расейскі С.-Р.), Народнай Прасьветы Смоліч, Юстыцыі — Белевіч, Народнай Гаспадаркі — Сэрэда, Шляхў — інж. Рэдзько, Фінансаў — Белкінд (расейскі С.-Р.), Апекі — Бадунова, Вялікарускіх Спраў — Злобін (Рас. С.-Р.), Почт і Тэлеграфу — Карач, Вайсковых Спраў — Іезавітаў, Дзержаўнага Кантролю — Крэчэускі, Дзержаўны Сэкрэтар — Заяц.

Тагож 21- лютага была абнародавана і распублікована ад імяні Выканаўчага Камітэту Рады Усебеларускага Зьезду Першая

Устаўная Грамата да народаў Беларусі.

Родная сторонка наша апынулася у новым цяжкім стане.

Дзе цяпер улада, што была тут, не вядома, мы стаімо перад тым, што наш край можэ быць заняты нямецкімі войскамі. Мы павінны узяць свой лёс ва ўласныя рукі.

Беларускі народ павінен зьдзейсьніць сваё права на поўнае самаадзначэньне, а нацыанальныя меншасьці на нацыанальна-пэрсанальную аўтаномію.

Правы нацый павінны знайсьці сваё зьдзейсьненьне шляхом склікаьня на дэмакратычных асновах Установчага Сойму.

Але, і да склікаьня Утаноучага Сойму, уся улада на Беларусі павінна належаць тым народам, якія на ей жывуць.

Выканаўчы Камітэт Рады Першага Усебеларускага Зьезду, папоўнены прэдстаўнікамі рэвалюцыйнай дэмакратыі нацыанальных меншасьцяў, зьдзейсьніваючы мэты зьезду, абвешчае сябе часовай уладай на Беларусі для кіраваньня краям і склікаьня, як можна хутчэй, Усебеларускага Установчага Сойму, на аснове агульнага, простага, роўнага, патаемнага і прапарцыанальнага выбарчага пра-

ва для усякага дарослага, не лічучысь з нацыанальнасьцю, вызнаньнем і полам.

Часовую народную уладу краю, якая ставіць сабе метай абарону і зацьверджэньне заваёваў рэвалюцыі, будзе зьдзейсьняць створаны намі Народны Сэкрэтарыат Беларусі, які з гэтага дня пачаў выконываць свае абавязкі. Пэрсанальны склад Сэкрэтарыату будзе апублікаваны пасля.

Дано у Менску — Беларускам 21- (8) лютага 1918 года.

Выканаучы Камітэт Рады Усебеларускага Зьезду.

Немцы адносіліcь да беларусоў варожа. Беларускі нацыянальны сьцяг 25- лютага быу зьняты немцамі і заменяны нямецкім. Акупацыйнымі уладамі было канфіскавана 300.000 рублёў грошэй, належачых Сэкрэтарыату і іншыя каштоунасьці. Да прыходу немцау легіонамі Доубор-Мусніцкага было абрабована палявое Казначэйства 38 і 2- Каўказкага Корпусу і Менская Паштова-Тэлеграфная кантора на 15.000.000 грошы і рожных каштоунасьцяў.

Праўда, немцы над працай Выканаўчага камітэту і Сэкрэтарыату насільстваў ніякіх не рабілі, але зносін і сувязі безпасярэднай з народам не дапускалі. Сэкрэтарыат быў загнаны у сьціслы круг Менску і распаусюжыць сваю дзеяльнасьць далей легальным шляхом не мог і рабіў гэта нелегальна.

Дзякуючы гэтаму, 9- сакавіка 1918 г. ад імя Выканаучага Камітэту Рады Першага Усебеларускага Зьезду была абнародавана

Другая
Устауная Грамата да народаў Беларусі.

У час усясьветнаи вайны, што разбурывае адны магутныя дзержавы і вызваляе другія, прачнулась Беларусь да дзержаўнага жыцьця. Пасля трох с паловай вякоў няволі, зноў на увесь сьвет гаворыць Беларускі народ об тым, што ён жыве і будзе жыць. Вялікае Народнае Сабраньне — Усебеларусі Зьезд 5—17 сьнежня 1917 г., клапочучысь аб долі Беларусі, зацьвердзіў на яе землях рэспубліканскі лад. Выконываючы волю Зьезду і абараняючы правы народаў, Выканаўчы Камітэт Рады Зьезду так пастанауляе аб дзержаўнам будаваньні Беларусі і аб правох і вольнасьцях яе грамадзян і народаў:

1. Беларусь у межах разселеньня і лічэбнай перавагі беларускага народу збвешчаецца Народнай Рэспублікай.

2. Аснаўныя законы Б. Н. Р. зацьвердзіць Установчы Сойм Беларусі, склікaны на пацставе агульнага, роўнага, простага, патаемнага і прапарцыянальнага выбарчага права, бэз рожніцы полу, нацыанальнасьці і вызнаньня.

3. Да часу, пакуль зьбярэцца Установчы Сойм Беларусі, законадаўчая улада Б. Н. Р., належыць Радзе Усебеларускага Зьезду, папоўненай прэдстаўнікамі нацыанальных меншасьцяў Беларусі.

4. Выканаўчая і адміністратыўная улада у Б. Н. Р., належыць Народнаму Сэкрэтарыату Беларусі, які назначаецца Радай Зьезду і прад ею адказывае.



5. У межах Б. Н. Р. абвешчаецца свабода слова, друку, сабраньняў, забастовак, саюзаў; бэзумоуная свабода вызнаньня, недатыкальнасьць асобы і памешканьня.

6. У межах Б. Н. Р. усе народы маюць права на нацыанальна-пэрсанальную аўтаномію; абвешчаецца раўнапраунасьць усіх моў народаў Беларусі.

7. У межах Б. Н. Р. права прыватнай уласнасьці на землю касуецца. Зямля бэз выкупу перадаецца тым, хто сам на ей працуе. Лясы, вазёры і нутра зямлі абвешчаюцца уласнасьцю Б. Н. Р.

8. У межах Б. Н. Р. устанаўліваецца найбольшы асьмігадзінны дзень працы.

Абвешчаючы усе гэтыя правы і вольнасьці грамадзян і народаў Беларускай Народнай Рэспублікі, мы, Выканаўчы Камітэт Рады Зьезду, заабязоўваемся абараняць законны парадак жыцьця у Рэспубліцы, абараняць інтэрэсы усіх грамадзян і народаў Рэспублікі і заховываць правы і вольнасьці працоўнага народу.

Таксама прыложым усе сілы, каб склікаць у найкарацейшы тэрмін Установчы Сойм Беларусі.

Усіх верных сыноў беларускае зямлі заклікаем памагчы нам у цяжкі і адпаведны момант працы.

Выдана у Менску Беларускам 9- сакавіка 1918 года.

Выпаўняючы Камітэт Рады Першага Усебеларускага Зьезду.

Другая Устаўная Грамата Выканаўчага Камітэту Зьезду усталіла галоўныя пункты Канстытуцы Беларускай Народнай Рэспублікі, хоць яшчэ нічога не сказала аб яе сувэрэннасьці тэрыторы і адношэньню да суседніх Рэспублік. Яна яшчэ не вырвалась з дзяржаунай залежнасьці той дзержавы, у складзе якой была. Над Беларусьсю яшчэ лунае сувэрэнітэт Расеі.

## НОВАЯ ЭРА.

Сувэрэннасьць Расеі над Беларусьсю вісела як Дамоклаў меч, а абставіны патрэбавалі скінуць гэта іга, як мага хутчэй.

Карахан ад імя бальшавіцкага ураду, падпісаў, не чытаючы мірны трактат у Берасьці з немцамі. Апрача лініі руска-нямецкага фронту, якая дзяліла Беларусь на дзьве няроўныя часткі — Усходнюю — большую і Заходнюю — меншую, ствараўся новы нямецка-бальшавіцкі фронт з лініей каля Воршы, які у свой чарод, дзяліў Беларусь на новыя дзьве часткі — невялічкую усходнюю і куды большшую заходнюю.

Па умове немцаў з Украінцамі, некаторыя беларускія паветы перайшлі да Украіны. Па умове з Літвінамі частка Заходняй Беларусі прылучалась да Літвы. Беларусь была парэзана на часткі бэз уселякай згоды з боку беларускага народу. Падвойны нямецка-бальшавіцкі фронт, стары і новы, двума лініямі з поўначы на поудзень рэзаў тэрыторыю Беларусі ўздоуж; хоць бальшавікі адкінуліcь далёка на ўсход ад старога фронту імпэрыялістычнай нямецка-расейскай вайны, аднак немцы трымалі і гэты стары фронт, як моцны кар-

дон, не даючы магчымасьці абьеднацца раней акупаванай частцы Беларусі з галоўнай яе часткай на ўсходзе.

Менск не знаў што рабілася у Вільні, а Вільня не знала што робіцца у Менску.

Немцы дыплематычна не разганялі Рады і Сэкрэтарыату, але разам з тым і не давалі ім магчымасьці зносіцца з правінцыей, каб захаваць сябе ад небэзпекі паўстаньня у тылу сваей арміі.

У гэты час склад Рады Б. Н. Р. быў папоўнены, апрача уваходзячых, прэдстаўнікамі злучанай сацыалістычнай жыдоўскай партыі — Гутманам, Поалей-Ціон — доктарам Зарубовеням, ад польскай партыі П. П. С. — Прыстарам, Літвіноў — Мічулісам і Вялікаросаў — Злобіным, таксама як і прэдстаўнікамі земскіх і гарадскіх самаўрадаў сацыалістамі-рэвалцюыанэрамі часоў Керэнскага.

Агульнай пастановай у залі Менскай губэрнскай Земскай Управы і была прынята назова — Рады Беларускай Народнай Рэспублікі. Народны Сэкрэтарыат адносіўся да Рады, як Урад до Парлямэнту. Але не доўга існавала гэта абьеднаньне. Варункі і таргоўля беларускім народам і тэрыторыей паміж бальшавікамі і немцамі патрэбавалі выяўленьня юрыдычнага абліччa ад Беларусі. Нельга было пратэставаць супроць падзелу, калі дзялілі тыя, каму яшчэ належаў сувэрэнітэт над Беларусьсю і для каго гэны раздзел быў толькі ўнутранай справай Расеі.

Становішча Менскіх нацыанальных беларускіх сіл у як найхутчэйшам прагалошэньні незалежнасьці падмацавалася яшчэ больш Віленскай групай, якая у гэты час змагла ужо прарваць лінію нямецкіх акопаў і злучылася з Менскам. Усе нацыанальныя беларускія сілы стаялі за незалежнасьць, а земства і гарады — (рускія эсэры) таксама, як і меншасьць жыдоуская, былі супроць.

Цэлую ноч з 24 на 25- сакавіка 1918 году адбываліся гарачыя спрэчкі і толькі раніцой, у 6- гадзін, са усходам слонца, большасьцю галасоў была прынята рэзалюцыя аб Незалежнасьці Беларусі.

«Гэта сонца Беларусі!», казалі Члены Рады Б. Н. Р., разыходзячысь па хатам. Ўзапрауды з 25- сакавіка 1918 году Беларусь пачала новую эру сваей гісторыі — Незалежнай Народнай Рэспублікі. Таго самага чысла была апублікавана

Т р э ц я я

У с т а ў н а я Г р а м а т а Б е л а р у с к а й Н а р о д н а й Р э с п у б л і к і.

Год таму назад народы Беларусі, разам з народамі Расеі, скінулі ярмо расейскага царызму, якое найцяжэй з усіх прыдушыла Беларусь; не пытаючысь народу, ён кінуў нащ край у пажар вайны, якая да шчэнту зруйнавала гарады і вёскі беларускія. Цяпер мы, Рада Б. Н. Р., скідаем з роднага краю апошняе ярмо дзяржаунай залежнасьці, якая была накінута расейскім царызмам на наш вольны і незалежны край.

Ад гэтага часу Беларуская Народная Рэспубліка абвешчаецца незалежнай і вольнай дзержавай. Самі народы Беларусі, у асобе



свайго Устаноучага Сойму, пастановяць аб будучых дзержаўных зьвязях Беларусі.

На падставе гэтага, трацяць сілу усе старыя дзержауныя зьвязі, якія далі магчымасьць чужому ураду падпісаць і за Беларусь Трактат у Берасьці, што забівае на сьмерць беларускі народ, дзелячы зямлю яго на часткі. На падставе гэтага Урад Беларускай Народнай Рэспублікі мае увайсьці у зносіны з зацікаўлянымі старанамі, запрапанаваўшы ім пераглядзець тую частку Берасьцейскага трактату, якая датычыцца Беларусі і падпісаць мірную умову са ўсімі ваяваўшымі дзержавамі.

Б. Н. Р. павінна абняць усе землі, дзе жыве і мае лучэбную перавагу беларускі народ, а уласьне: Магілёўшчыну, беларускія часткі Меншчыны, Віленшчыну, Гродзеншчыну, Вітэбшчыну, Смаленшчыну, Чарнігаўшчыну і сумежныя часткі суседніх губэрняй, засялёных беларусамі.

Б. Н. Р. сьцьвержае усе тыя правы і вольнасьці грамадзян і народаў Беларусі, якія абвешчаны Устаўной Граматай ад 9- сакавіка 1918 года.

Абвешчаючы аб Незалежнасьці Б. Н. Р., яе Рада ускладае свае надзеі на тое, што усе, любячыя волю народы, памагуць беларускаму народу у поўнай меры зьдзейсьніць яго палітычна-дзержаўныя ідэалы.

25- сакавіка 1918 г. Менск.

Р а д а Б е л а р у с к а й Н а р о д н а й Р э с п у б л і к і.

Пасля расколу і выхаду са складу Рады Земстваў, гарадоў і жыдоў стварылася адно цьвердае нацыанальнае ядро, якое, не пакідаючы перагавораў з адкалоўшыміся, старалася як-колечы узмацаваць Раду Рэспублікі і змушана было пайсьці на згоду, з так называемым «Беларускім Прэдстауніцтвам», на чале якога стаяў абшарнік Скірмунт. Складзена яно было з мяшчан і паўбеларускай інтэлігэнцыі. Гэта згода прынясла многа непрыемнасьці Радзе Рэспублікі. Быў момант, калі «Прэстаўніцтва» чуць-чуць не майонізіравала Раду і не захапіла уладу у свае рукі.

Адзін дзень нават Скірмунт быў Прэмьерам, але хутка схамянуўшысь, Рада абрала Урад Парлямэнскім спосабам і назначыла Старшынёй грам. Івана Сераду.

У гэты час былі завязаны зносіны з Украінскім Урадам у Кіеве, куды была паслана асобная дэлегацыя.

У кастрычніку 1918 г. быў прыняты новы закон аб канструкцыі Рады Рэспублікі і назова Сэкрэтарыату заменена звычайнай назвай — Рады Міністраў.

Фармаваньне новага габінэту было даручэна А. Луцкевічу.

Нямецкі фронт пачаў падаць, войскі, хоць паволі, сталі адыходзіць, бо і у Нямеччыне ужо пачалася рэвалюцыя. Па слядох немцаў на Беларусь насовываліся бальшавікі.

Радай Міністраў была паслана дэлегацыя у Бэрлін і Берн з

пратэстам, супроць захвату Беларусі бальшавікамі. Такіяж дэлегацыі былі высланы у Польшчу і Літву. Замест унутраняй працы, на тэрыторыі Беларусі, пачынаецца праца заграніцай. Набліжаецца час, калі Беларускі урад і Рада Рэспублікі змушаны будуць спыніць працу і выехаць заграніцу, на эміграцыю. Нямецкі урад не дазволіў акупацыйнай уладзе перэдаць гэту уладу у рукі Беларускага Ураду і памагчы матэрыяльна фармаваньню беларускіх вайсковых частак так, як памог літвінам. Бэз гэтага змаганьне з бальшавікамі было немагчыма. Немцы перэдалі уладу у Менску з рук у рукі бальшавікам.

28- лістапада адбыўся апошні сход чарговай Рады Рэспублікі, на яком было пастоноўлена, каб пазбавіцца небэзпэкі і захаваць уладу Б. Н. Р., выехаць у Вільню, а калі трэба будзе, то і заграніцу Прэзыдіуму Рады і Ураду. Трэцяга сьнежня частка Прэзыдіуму Рады і Урад пакінулі Менск. 9- сьнежня Менск немцамі быў пераданы бальшавікам.

Першага студзеня 1919 г. часовы бальшавіцкі урад Саветаў Беларусі выдаў дэкрэт, у якім гаварылась: «ад сёньняшняга дня і вы разам з працоўным народам Расеі, Літвы, Украіны і Латвіі, становіцесь вольнымі гаспадарамі, вольнай, незалежнай Беларускай Рэспублікі, карыстаючыміся поўнасьцю сваімі правамі»...

Бэзварункова, у гэтым декрэце бальшавікі апіраліс на Грамату Рады Б. Н. Р. 25- сакавіка 1918 г., як падставу Незалежнай Беларусі.

Такім чынам на Беларусі стварылась два урады — адзін Савецкі у Менску, а другі Народны заграніцай.

Кароткі пэрыад часовай працы Ураду Беларускай Народнай Рэспублікі на тэрыторыі Віленшчыны і Гродзеншчыны адбываўся у цяжкіх варунках барацьбы з бальшавікамі і палякамі.

Польшча пачынала мацнець і пасля адыходу нямецкіх войск мало-по-малу захоплівала беларускія землі і выціскала беларускі урад. Адначасова польскія войскі пачалі змагацца і з бальшавікамі. Усюды ішла жорсткая паланізацыя. Вывескі у гарадох перэфарбовываліс на польскія, польскі шовінізм ва ўсіх галінах палітычнага жыцьця не даваў дыхаць беларусам. Немцы таксама больш памагалі палякам, ніж беларусам.

Так былі выцісьняны беларусы з Горадні і Вільні, разам з літвінамі і, павінны былі пераехаць частка у Коўну, а частка у Кіеў.

У палове красавіка 1919 г., якраз на Вялікдзень, палякі штучным манэўрам заваладалі Вільняй і прагналі Камісараў «Літбела» — Літоўска-Беларускай Савецкай Рэспублікі. Летам палякі пачалі прасочывацца да самага Менску.

23- красавіка 1919 г., захапіўшы Вільню, Пільсудскі абнародаваў вядомую адозву да жыхароў быўшага Вялікага Княжства Літоўскага са шляхэтнымі лёзунгамі: «Вольны з вольным, роўны з роўным. — «За нашу і вашу свабоду», які і да гэтай пары застауся не зьдзейсьняным.

Беларусы досыць прыхільна спатыкалі палякоў і гатовы былі верыць у абяцанкі Пілсудскага. Маршалак Пілсудскі у Варшаве і Прэмьер Падарэўскі у Парыжу, абяцаюць Старшыне Рады Б. Н. Р. А. Луцкевічу свабоднае скліка201ньне Рады Рэспублікі у Менску і перэдачу улады беларусам на мяйсцох, але гэта, як аказалась, быў манэўр, каб вышукаць сярод членаў Рады Рэспублікі староннікаў вуніі і прылучэньня Беларусі да Польшчы. За гэту даверчывасць многія члены Ураду у Рады Рэспублікі паплаціліся турмой.



Загранічная праца Б. Н. Р. у гэты час была пастаўлена досыць шырока. У Парыжу працавала дэлэгацыя на мірных перэгаворах пад кіраўніцтвам А. Луцкевіча, на Украіне працуваў А. Смоліч, А. Цвікевіч і Галавінскі. У Нямеччыне — Заяц, Захарко і Белевіч, у Літве — Крэчэўскі, у Латвіі — Езавітау, у Варшаве — Дубейкоўскі, у Празе Чэскай М. Вершынін.

Амаль усюды у гэтых мяйсцох былі адчыняны Беларускія Місіі. Праца галоўным чынам зводзілась да азнаёмленьня замежных дзержаў са станам Беларусі і заваёве ею дзержауна-палітычных правоў у Эўропе. Інфармацыйная праца была вялікая і беларускае пытаньне ужо станавілась пытаньнем не мяйсцовава, а агульна Эўрапэйскага зместу. Барацьба у Парыжу з польскай дэлегацыей за лінію 1772 г. і наогул, з польскімі гвалтамі і паланізацыей, папулярызавалі беларускую справу і дастаўлялі многа непрыемных мінут польскім прэдстаўнікам у Парыжу.

Граніца 1772 г., на якую спадзяваліся палякі звузілася пад уплывам працы беларускай дэлегацыі і агульна Эуропэйскай інфармацыі, да лініі Кэрзона і то, пакінутай пад знакам запытаньня.

У гэты час трэба было уцёрці акуляры беларускаму палітычнаму грамадзянству. Пад уплывам гэтага і была кінута Пільсудскім думка аб скліканьні Рады у Менску і перэдачы улады на мяйсцох.

У Менску у гэты час апрацоўваліс некаторыя колы Рады у сэнсе вуніі Беларусі з Польшчай.

Замежныя прэдстаўнікі Беларусі настаражыліс. Трудна было паверыць, каб Польшча дала магчымасьць самаакрэсліцца Беларусі. Пасля абмену тэлеграмамі і лістамі усёж такі атрымаўся наказ ад Старшыні Луцкевіча выехаць на сэсыю Рады у Менск. Луцкевіч, бачучы абман, у якім апынуўся сам, дзякуючы Падареўскаму і Пілсудскаму, упёрся і павёў неакрэсляную лінію, як у адносінах Беларусоў, так і Палякоў. Ёе думау, што уступкамі Польшчы можна большага дасягнуць і пад страхам чутак, што быццам-бы Антанта аддае Беларусь на 25- гадоў пад пратэктарат Польшчы, гатоў быў згодзіцца на тое, каб пакуль што захаваць за сабой хоць мажлівасьць культурна-прасьветнай працы.

Сабраўшысь у дарогу, замежные беларусы прыймалі у разрахунак усё гэта і былі гатовы да таго, каб стаць твар у твар у Радзе з паланафільствуючымі групамі на барацьбу за сваю незалежнасьць.

Падарож і Варшава яшчэ больш разчаравалі. Аказалась што справа стаіць зусім не так, як паведамляў аб ей Луцкевіч.

Першага сьнежня усе апынуліся у Менску і адразу абачылі, што легальна склікаць Рады нельга. Началася міжфракціонная грызня і за агульныя прынцыпы і за арьентацыі. Польская арьентацыя досыць моцна выяўлялась у хрышчоных дэмакратаў, бэзпартыйных і беларускіх сацыял-демакратаў, на чале з Луцкевічам, якіе стаялі за вунію з Польшчай, хоць для віду і не адрэкаючысь ад незалежнасьці. Беларускія сацыялісты-рэвалюцыанэры і сацыялісты-фэдэралісты, цьвёрда стаялі за незалежнае існаваньне бэз апекі і пратэктарата Польшчы.

Дэбаты цягнуліcь да 13- сьнежня, на якое число і быў назначаны гістарычны сход Рады Беларускай Народнай Рэспублікі.

Першым пунктам павесткі паланафільствующчыя групы хацелі паставіць прывітаньне і падзяку Пільсудскому, незалежная ж група гэты пункт адкідала. Некалькі разоў збіраўся Сэньёрэн-Конвэнт, але ні да чога дагаварыцца не мог.

Калі-ж настаў час адчыненьня сходу, то паланафільствующчыя групы, бачучы, што яны астаюцца у меншасьці, не пайшлі у залю сходу, а зыйшліся на прыватнай кватэры, дзе і хацелі, сарваўшы сход Рады, адчыніць свой сход і выдаць яго за пастанову Рады Рэспублікі.

Запраўдная і большая частка членаў Рады, стоячая за Незалежнасьць Беларусі, зьявілася у памешканьне Юбілейнага Дому і павяла перэгаворы з адкалоўшайся часткай членаў Рады на кватэры Уласава. Тры разы дэлегаты безвыследна хадзілі для перэгавораў і апрача зневагі нічога не атрымлівалі. Характэрна адношеньнэ польскай партыі П. П. С., член якой Якобіні быў пасланы дэлегатам для перэгавораў, але так там і застаўся з правымі групамі, якія ішлі за Польшчай і не пайшоў з сацыялістычнымі групамі, хоць іх партыя і стаяла па праграме за Незалежную Беларусь.

Чекаць больш не было чаго, падлічыўшы кворум, Сэкрэтар Прэзыдіуму Рады П. Крэчэускі, адчыніў сход Рады.

Рада Рэспублікі аднагалосна выбрала новы прэзыдіум у скдалзе: Старшыні — П. А. Крэчэускага і яго таварышчоў — П. Бадунову і В. Захарко і Сэкрэтароў — Козіча і Мамонько, а таксама і новы склад Ураду: Старшынёй Рады Міністраў — В. Ластоўскага, Міністрам Замежных Спраў — Ладнова, Фінансаў — Белевіча, Унутраных Спраў — Грыба, Справядлівасьці — Цвікевіча, Дзержаўнага Кантралёра — Зайца і Дзержаўнага Сэкрэтара — Душэўскага.

Не глядзячы на тое, што сход Рады быў нелегальны, бэз усякіх абвестак, аднак, усе хоры былі запоўнены публікай.

Ахарону будыніны і старажэвыя пасты дабрахоць выставілі члены Вайсковай Камісыі і слухачы беларускіх курсаў.

Урачыстасьць сходу не была парушана ні водным лішнім словам, ні зыкам. Усе адчувалі важнасьць гістарычнага моманту і адносіліcь да яго з надзвычайнай павагай.

Так непачэсна упаў стары прэзыдіум Рады і габінэт Луцкевіча, на які у свой час ускладалась так многа надзей.



Блукаючысь у балоце панскага жыцьця Пільсудскага, чэрапкі паланафільствуюшчых груп у асобых Іваноўскага, Дубейкоўскага, Тэрэшчэнка, Алексюка, Тарашкевіча, Рак-Міхайлоускага і Луцкевіча, намагаліcь выявіць сваю жыцьцёвасьць у форме дзержаўна-прававога органу, так званай, «Найвыжэйшай Рады», але безпасьпешна. Мёртва-роджэных не вызнавалі нават і самі палякі.

Рада-ж Б. Н. Р. за свой рэвалюцыйны крок і засуджэньне польскай палітыкі у адносінах да Беларусі паплацілася досыць жорстка. Члены Прэзыдіуму — П. Бадунова і Сэкрэтары — Козіч і Мамонька, а таксамо Старшыня Рады Міністраў Ластоўскі былі 17- сьнежня арыштаваны і прасядзелі у турме па паўтара месяца.

Старшыня Рады П. Крэчэўскі і яго таварышч В. Захарко, пасля месячнага нелегальнага жыцьця у Менску, патаемна выехалі заграніцу.

Так паралізована была беларуская праца польской уладай. Даверра Луцкевіча не спраўдзілась. Наследкам было тое, што польская прэса досыць значны час магла гаварыць аб беларусах, што хацела, так як усе лепшыя сілы Беларусі былі арыштованы, альбо інтэрнаваны.

Толькі з 1- лютага, 1920 г., пасля прыбыцьця заграніцу Старшыні Рады Крэчэускага і яго Таварышча Захарко, зноў пачалось спраставаньне беларуска-польскіх адносін.

Адзін за другім, вырываючысь з турам, прабіраліся заграніцу члены Прэзыдіуму і Беларускага Ураду. Раўнавага памалу усталівалась і зноў закіпела праца.

Беларускія сілы, трохі аправіўшысь ад нанесянага удару, папаўнялі прабелы страчанага часу. Працаваць праўда, было трудна, бо цяпер ужо Рада і Урад мелі ворагаў не толькі паміж чужынцамі, але і у сваіх беларускіх радах, якія не пайшлі за ім у Менску. Трацячы частку сіл унутры, Рада актам 13 сьнежня знайшла нейкую падтрымку і сымпатыю звонку. Нават, Масква пачала лягчэй адносіцца да нашых працаўнікоў. Гэта было важна таму, што Масква у той час пасілівалась і сурьёзна пагражала польскай акупацыі Менску. Хутка пачалось небачаная бегства польскай арміі пад націскам бальшавікоў.

Тады толькі палякі прызналі сваю абмылку. Прызнаньне Беларускага Ураду магло забэзпэчыць польскую армію ад разгрома, але ужо было позна. Гэта адразу зразумелі бальшавікі і у ліпеню месяцы не так, як 1 студзеня 1919 г., а у «сурьёз і на доўга» абвесьцілі Незалежную Савецкую Сацыялістычную Рэспубліку Беларусі. Так абмылкі адных папаўняюцца другімі. Дакаціўшысь да Варшавы, бальшавікі адхлынулі назад і зноў польская нага пачала таптаць беларускую зямлю, вярнуўшысь да старых, гвалтоўных прыёмаў урадаваньня.

Абязсілеўшы у барацьбе, абедзьве стараны запрасілі міру. Пасля прыватных перэгавораў у Барысаве і Менску, мейсцам Канфэрэнцыі была прызначана Рыга. Незабаўна сюды зьявілась і дэле-

гацыя Б. Н. Р., праўда, у мірных перэгаворах, нелегальна прыймала удзел і дэлегацыя ад Савецкай Беларусі у асобе Чэрвякова, чаму на мірную канфэрэнцыю, не глядзячы, на вялікія спрэчкі паміж дэлегацыямі польскай і расейскай, дэлегацыю Б.Н.Р. туды не дапусьцілі. Аднак пасля пратэсту супроць Рыжскай умовы і падзелу Беларусі, хоць і туманна, § 1 умовы прызнаў незалежнасьць Беларусі і Украіны. Пытаньне пратэста стаяла так гостра што прэдстаўнік Савецкай Беларусі не адважыўся падпісаць умовы аб падзеле Беларусі.

Зноў падставай для § 1 мірнай умовы аб прызнаньні незалежнасьці Беларусі была бэзумоўна паложана Устаўная Грамата Рады Б.Н.Р. ад 25 сакавіка 1918 г., якую аднолькова павінны былі вызнаваць, як палякі, так і бальшавікі.

Але, у адзін і той самы час, вызнаючы Незалежнасьць Беларусі і бальшавікі і палякі дзялілі яе на дзьве часткі, з якіх Гродзенскую і частку Віленскай і Менскай, апрача Сувалкскай і тых, якія ужо раней бальшавікі па міру з Літвой — 12 ліпнеия 1920 г. аддалі Літве, — перадалі палякам, а Смаленскую, Магілёускую і Вітэбскую — бралі сабе. З пяці-ж паветаў Менскай губэрні стварылі Савецкую Беларусь. Чырвоны і чорны імпэрыялізм зыйшліся і сівяткавалі перамогу.

Мала гэтага. Польшча, незадавольняючысь часткамі Віленскай і Гродзенскай губэрні, пажадала захапіць і частку адданую бальшавікам Літве. У галаве Пілсудскага зрадзілася думка захапіць Вільню, дзе ужо сядзелі літвіны і абвесьціць Незалежную Беларусь. Цягнік поўным ходам накіраваўся у Вільню нават, з патрэбнымі грашовымі сродкамі, для утварэньня Беларускай улады. Але пад націскам Варшавы і Рыгі плян быў значна зьменяны. Прыказана было узбунтавацца Жэлігоўскаму і замест Беларусі абвесьціць невыразную «Сярэднюю Літву». Іваноўскі і Тарашкевіч, якія гатавалісь прыняць партфэлі Беларускіх Міністраў апынуліся не там, дзе ім было трэба. Зноў Пілсудскі, пад націскам эндэкаў, адвярнуўся ад Беларусі і на яе абшарах пачалася чыста польская палітыка у Віленскам Краі з закрыцьцём школ, каапэратываў, высылкай беларускіх палітычных дзеячоў, арэштамі, гвалтамі і г. д.

Такі вераломны паступак Польшчы у адношэньні Беларусі і Літвы зблізіў гэныя дзьве Рэспублікі і, пасля Рыжскіх перагавораў, у лістападзе месяцы, 1920 г., Урадамі Літоўскай і Беларускай Рэспублік, была падпісана умова аб узаемнай падтрымцы друг друга.

На літоўска-Беларускую дружбу усе партыі і групы беларускага грамадзянства глядзелі задавальняюча. Праўда, літвіны не зусім шчыра адносілісь да яе і карыстаючысь сваей дзержаўна-юрыдычнай перамогай, хацелі прымусіць Беларускі Урад адмовіцца зусім ад прэтензыі на Віленшчыну і Гродзеншчыну. Але, само сабой, зразумела, што гэтага Урад зрабіць не мог. На гэтай струне гралі як літвіны, так і тая частка беларуская, якая хацела апаганіць беларуска-літоўскую згоду і цягнула да Польшчы.

Разлад паміж партыямі і групамі не даваў магчымасьці працаваць рэальна, а ворагам даваў у рукі аружжа гаварыць, што беларусы і самі не знаюць, чаго яны хочуць. Дасужыя ворагі налічывалі у беларусоў да трынадцаці урадаў. Трэба было гэтаму палажыць канец. Вырэшана было на 25 верасьня 1921 г. склікаць Усебеларускую Канфэрэнцыю у Празе Чэшскай, дзе і прывясьці да аднага значніка усе рожнарожнасьці беларускай думкі. Скліканьне Пражскай Канфэрэнцыі саўпала з самым гострым пэрыядам барацьбы Польшчы за Віленшчыну, фальсіфікаваным бунтам Жэлігоускага, па прыказу Пілсудскага. Палякі, даводзячы свае права на Віленскі край і тую частку Беларусі, якая адыйшла да яе па Рыжскаму Савецка-Польскаму міру, распаўсюджывалі фальшывыя чуткі аб беларускам руху і асабліва беларускай уладзе. Польшча даводзіла, што ніякай улады на Беларусі німа, народ цёмны і выяўляе з сябе этнаграфічную масу, а групы, называючыя сябе уладай на Беларусі, так разбіты і рожнародны, пры чым лік іх даходзіць амаль не да адзінадзаці, што аб іх не варта і гаварыць.



Каб разбіць усе гэтыя фальшывыя чуткі Пражская Канфэрэнцыя вынясла ясную і акрэсляную рэзалюцыю аб дзержаунам ладзе Беларусі:

Беалруская Нацыянальна-Палітычная Нарада у Празе, абмеркаваўшы пытаньне аб дзержаўным будаўніцтве Беларусі, у поўнай сьвядомасьці надзвычайнай вагі гэтага пытаньня, зазначае:

а) Беларусь зьяўляецца краем працоўнага беларускага селянства, рабочых і працоўнай інтэлігенцыі, дзеля чаго Беларусь павінна быць дзержавай працоўнага народу;

б) Беларусь павінна быць дзержавай непадзельнай і ні ад каго незалежнай. Нарада зазначае, што ніякія, гэтак званныя, арыентацыі ня могуць быць падставай дзержаўнага будаўніцтва Беларусі. Адзінай асновай дзержавы, адзінай сілай, якая збудуе Беларусь і забэзпэчыць ей нармальнае развіцьцё, зьяўляецца сам працоўны беларускі народ;

в) Пасля зьдзейсьненьня беларускай Дзержаўнасьці, пасля таго, як на беларускай зямлі запануе уласная, ні ад каго незалежная улада, Беларусь працягне руку згоды дзеля вольнага саюзу усім народам, з якімі жыве побач і якіх яна лічыць за роўных братоў сваіх. Першай мэтай гэткага саюзу павінна быць узаемная абарона народных вольнасьцяў, якія здабудуць народы сваей барацьбой.

Прыймаючы пад увагу сучасны стан Беларусі, Беларуская Нацыянальна-Палітычная Нарада зазначае:

а) што адзіным законадаўчым органам Беларусі зьяуляецца Рада Б.Н.Р., маючая прэемсьцьвеннасьць улады ад Усебеларускага Кангрэсу 1917 г.;

б) што адзінай адказнай уладай Беларусі зьявляецца Урад Б.Н.Р., маючы мандат ад Рады Б.Н.Р.

Прыймаючы пад увагу, што праца Ураду Б.Н.Р. зьяўляецца адпаведаючай тым мэтам, якія прыняты Нарадай і што у першую чаргу, яна кіруецца да абароны непадзельнасьці і незалежнасьці Бела-

русі, Беларуская Нацыянальна-Палітычная Нарада пастанаўляе абьеднаць каля Ураду Б.Н.Р. сілы усіх беларускіх партый, арганізацый і груп дзеля дзержаўнага будаўніцтва Беларусі.

Прага-Чэская, 28-га верасьня 1921 г.

## ЭКАНАМІЧНАЕ СТАНОВІШЧА.

Беларусь — старана выключна землянробская, прычым кожны селянскі надзел, хоць бы і самы малюсенькі, выяуляе з сябе закончаную гаспадарку. Запатрэбаваньняў у Эўрапэйскай індустрыі і ва ўсіх заваёвах культуры, беларускі селянін не бачыў і не знаў. Да роскашы і Эўрапэйскага камфорту яму не было часу прывыкаць, а у звычайным жыцьцю, у апрацоуцы сваей зямлі і іншых жыцьцёвых запросах, ён задавальняўся тым, што давала яму яго гаспадарка і ўласныя рукі. Саху, барану для апрацоўкі зямлі селянін рабіў сам. Граблі, касу, серп, калі не рабіў сам, то заказываў гэта свайму-ж сельскаму кавалю. Часам купляліс у горадзе гвоздзі і кабетам голкі. Нават, пры будове хаты, брускі клаліс на замок і замацоўваліс дрэулянымі клінкамі. Вопратку, бялізну і абутак насілі сваей уласнай работы, так як недастачы у авечай шэрсці, льну не было. Абутак рабілі з лазы і ліпы, ботыж куплялі надзвычайна рэдка і насілі іх толькі па святам. Часта у дзедавых ботах хадзілі ўнукі, за адно пакаленьне ніколі боты не знашываліс.

Для эўрапэйцау такое палоджэньне можэ здавацца сьмешным, але ім жыла, амаль, што уся Расея і да гэтай пары жыве Беларусь.

Гэта не была цемра і нежаданьне прылучыцца да Эўрапэйскай культуры, а інстынктыуная барацьба населеньня з пратэкцыоннай эканамічнай сыстэмай быушай Расеі. Селянін бачыў, што яго збожа, шэрсьць, лён, скуры, лес і інш. прадукты вытворчасьці, за бэзцэнак купляюцца на мяйсцох і вывозяцца у прамысловыя раіоны для апрацоўкі. Куплены танна яго сыры матэрыал у перароблянам відзе з надбаўкай за перавоз на фабрыку і дастауку назад, прапануецца яму даражэй у некалькі разоў, чым бы ён каштаваў на мейсцы.

Пратэст супроць гэтай сыстэмы і змусіў селяніна толькі лішкі для пакрыцьця падаткаў і іншых павіннасьцяў, прадаваць са сваей гаспадаркі, а рэшту выкарыстовываць для сябе.

Гэтая асаблівая палітычная эканомія беларускага селянства, як і селянства Украіны і Расеі захоўвала доўгі час іх ад галоднай і халоднай сьмерці у часы бальшавіцкай рэвалюцыі і грамадзянскай вайны. Каліб не развёрсткі і прадналог, выбіваемыя карнымі атрадамі курсантаў з боку камуністычнай улады, то ужо даўно Савецкая улада і іх цэнтры — гарады, памёрлі бы з голаду і селянства не адчувалаб ніякай патрэбы у іх. У голадзе Расеі выключна вінавата Савецкая улада, якая не хацела ісьці на згоду з селянствам, як дробна-мешчанскай групай і у барацьбе з імі, забірала, не пакідаючы, нават, на насеньне спажывецкія прадукты сельскай гаспадаркі. Мала гэтага, Савецкая улада рэквізавала працу і гвалтам выганяла іх з



вёсак, калі не на фабрыкі і заводы, для папаўненьня, нічога не робячага, пралетарыату, то у чырвоную армію.

Толькі у барацьбе за сваю сыстэму уласных вырабаў і нічога недаваньня дармаедам-камуністам, селянства і заховывае тое нямногае, што яно мае да гэтай пары. Каб не было гэтай ашчаднасьці селянства і упартасьці абараніць сваю вытварчасьць ад камуністычнага захвату, можна не памыліцца, сказаушы, што ад жыхарства Савецкіх Сацыалістычных Рэспублік, засталась бы адна братская магіла.

Гэта сыстэма закончанай гаспадаркі трымаецца упарта да апошніх часоў. З ею шчыльна звязана і думка аб прыватнай уласнасьці на зямлю, бэз якой, пры існуючым нізкам ўзроуне сельска-гаспадарчай культуры селянству прыйшлось бы загінуць.

Гэта кансэрватыўна, але правідлова. Толькі падняцьце сельска-гаспадарчай культуры да Эўрапэйскага ўзроуня маглоб змагацца з гэтым, але там дзе ідзе барацьба за існаваньне, у поўным сэнсе слова, барацьба за апошні кусок хлеба, заховываючы сямью селяніна і яго самога ад смерці — гаварыць аб адмене ўласнасьці і роўным разпрадзяленьні зямнога дабрабыту, пакуль не прыходзіцца. Ад селяніна, як не ўласніка, патрэбуюць аддаць усё, да апошняга зерняці, але яму нічога не даюць і не давалі.

Голад даходзячы да канібальства, жывы сьведак праваты селянства. Нават замежная помач гэтым нешчасным людзям, пры начаная, выключна, ім, не заўжды даходзіла да іх. Елі тыя, хто не прызнаваў уласнасьці усё чужое, па дэкрэту Леніна, лічылі сваім, а тыя, хто працаваў, аддаючы і працу і прадукты дармаедам — галадалі.

Праўду казаў Маркс, што зьдзейсьненьне сацыалізму і камунізму мажліва толькі пры поўным развіцьці прамысловасьці і сельскай гаспадаркі. Каб перацягнуць на сваю старану несьвядомыя і поўсьвядомыя массы, трэба найперш усяго даць ім усё, што ім патрэбна. Абдарыўшы рабочых і селян усім патрэбным, можна патрэбаваць ад іх і працы. Каб гэтыя крыніцы не высыхалі і кажды працуючы мог карыстацца імі бэзканечна, патрэбна Марксава індустрыялізацыя, а калі гэтага німа, то дарэмна зводзіць рабочых і селян незбытачнымі абяцанкамі.

Будаваць сацыалізм і камунізм на жэбрацтве, на рабунках і з пайкоў стварась «свінячае карыта», жалю годнага, існаваньня — не дастойна наступнікаў сацыалізму. Сілай адабраць у рабочага і селяніна тое, што ён мае, можна часова, але пры гэтым трэба упэўніцца, што апроч, абманам адабранага, у яго, больш ён нічога не дасьць і на доўга адвернецца ад сацыалістычнага — «раю».

Рэзультаты мы бачым ужо сягоньня. Не будзем застанаўлівацца на тых выніках, да якіх прыйшлі усе, папрабаваушыя на сабе камунальную гаспадарку, тым барджэй, што на Беларусі яе, амаль што, не было. З першых дзён гаспадарэньня камуністаў, Камісары перэканаліс, што на Беларусі німа нават прымітыўнага грунту

для камунізму, які быў у Вялікарасеі, у форме абшчыны. Рашуча негатыўнае адносшэньне да камуны з боку селян адчулась адразу. Не было нават часовай подтрымкі, так як пралетарыату на Беларусі, не існавала зусім. Былі рабочыя, якія у свабодны ад сельска-гаспадарчых работ час, выезжалі на фабрыкі, заводы і чугункі для заработку, але кваліфікованнымі рабочымі яны ніколі не былі.

Рабочых саматужнікаў, асабліва жыдоў, мелась на Беларусі каля 3%, але гэта былі ўласнікі, якія часта займаліcь і таргоулей. Рабочых у поўнам сэнсе, гэтага слова, незначных па ліку, беларускіх фабрык і заводаў, было не болей 0,5%, у той самы час як сельскай гаспадаркай заўжды займалась не менш 84%, таргоулей 5,3%, службай на чугунках і прыватных і дзержауных установах — 6,9%.

З падстаў чыста земляробскай старaны мы і будзем выводзіць эканамічнае становішча.

Аснаўны недатыкальны капітал Беларусі складае лес і зямля. З агульнага ліку тэрыторыі, пад лесам знаходзіцца 29,2%—8.750.000 дзесянцін. Калі дапусьціць нават, што лік лесу за час вайны, рэвалюцыі і .Савецкай і Польскай акупацыі зменшыўся на палову, то і так, не толькі у Эўропе, але і у Расеі, апроч поўначы і Сібіры, мы канкурэнтаў не знойдзем.

Лясістасьць тэрыторыі можна бачыць з наступнай табліцы:

| | | |
|---|---|---|
| Віленская губэрнія | ........... | 24,3% |
| Вітэбская ,, | ........... | 33,0 |
| Гродзенская ,, | ........... | 25,0 |
| Менская ,, | ........... | 38,0 |
| Магілёуская ,, | ........... | 35,0 |
| Смаленская ,, | ........... | 34,0 |
| Чарнігауская ,, | ........... | 15,0 |

(Е. Карскі. «Бѣлорусы», т. I, стр. 27).

Да вайны рускім урадам лясы Беларусі эксплятаваліcь надзвычайна дрэнна. Кенігсберг, Мэмэль, Гамбург былі заваляны беларускім лесам. Вялічэзныя стромы не майсцы прадаваліся не даражэй 5—6 руб. за штуку, у той самы час, як ужо у Мэмэлі, яны каштавалі не менш 60—100 нямецкіх марак, а далей яшчэ даражэй.

Дзераваабрабляючых фабрык не было, працавалі толькі тартакі і дзе-не-дзе запалачныя, папяровыя і фанэрныя фабрыкі. Замест правідловай эксплёатацыі леса, адбудовы сёл і вёсак фабрычным спосабам, па Амэрыканскаму прыкладу, вывозілась за бэзцэнач народнае багацьце заграніцу. Сыстэма рэчак і жалезных дарог спрыяюць канцэнтрацыі дзерава абробляючэй прамысловасьці на Беларусі, але рускі урад срога сачыў за тым, каб краіны прамыслова не разьвіваліcь, а знаходзіліcь у вечнай залежнасьці ад цэнтру.

Па афіцыальным данным Міністэрства таргоўлі і прамысловасьці за 1913 г. у сямі губэрніях Беларусі было:



| Назва прэдпрыемства | Лік прэдпрыемст. | Сума абароту |
|---|---|---|
| Торговых прэдпрыем. ...... | 35.808 | 264.001.000 руб. |
| Прамысловых ............. | 3.323 | 86.861.000 ,, |
| Усяго ............. | 39.131 | 350.862.000 руб. |

У той самы час як вываз сырцу выяуляў:

| Назва матэрыалау. | Пуды. | Сума. |
|---|---|---|
| Лесу па водным шляхам ...... | 300.000.000 | 60.000.000 руб. |
| Льну ,, ,, ,, ...... | 5.000.000 | 75.000.000 ,, |
| Земляроб. раслін. прадук. ...... | 13.000.000 | 260.000.000 ,, |
| Руды, калчэдану і торфу ........ | 8.500.000 | 40.000.000 ,, |
| Усяго ................. | 326.500.000 | 335.000.000 руб. |

Вывад зразумелы. Неабходна паменшыць вываз сырцу заграніцу і павялічыць абарот сваіх прамысловых прэдпрыемствау, каб заграніцу вывозіліcь гатовыя фабрыкаты, а не толькі адзін сырэц. На мейсцы для развітку гэтай прамысловасьці маецца і лес і торф.

## ЗЕМЛЯРОБСТВА.

Пры абараняючэйся сыстэме селянства ад эксплятацыі уласнага ураду натуральна, што сельская гаспадарка не магла развівацца. Ні паказальныя палеткі, ні лекцыі, ні нават незначны крэдыт на здабыцьцё сельска-гаспадарчых машын не маглі пераканаць селяніна у тым, што падняць культуру сельскай гаспадаркі, неабходна. Селянін не бачыў мэты у гэтым палепшаньні. Яго сыстэма задаволеньня малым заховывала яго ад лішніх падаткаў. Саха і барана свайго вырабу яго карміла, але не давала ураду надзей на лішнюю эксплёатацыю. Селянін бачыў у палепшеньні гаспадаркі за свой кошт, сваё паневоленьне і таму адхрышчываўся і ад аграномаў і паказальных палеткаў і іншых культурных пачынаньяў.

Так было пры царскам урадзе, які усёж такі прыкрываўся якімі небудзь культурнымі мэтамі, а пры бальшавіках гэта прараблялась бэз уселякага прыкрыцьця.

Паміж іншым земляробства, хоць і існуючае на надзвычайна нізкам ступню развітку, пры трохпольнай сыстэме, адсутнасьці сельска-гаспадарчых машын і штучных угнаеній, не так незначна на Беларусі, як гэта маглоб здавацца на першы пагляд.

Усяго аромай зямлі на Беларусі маецца 10.360.000 дзесанцін, альбо 34,5% усей тэрыторыі.

Па данным «Сборніка статистически-экономическихъ свѣдѣній по сельскому хозяйству Россіи и иностранных государствъ. С.-ПБ. 1916 г.» по 6 губэрням Беларусі у 1914 г. было засеяна 6.263.365 дзесянцін зямлі і знята галаўнейшых спажыўчых прадуктау 591.053,3 пудоў.

Самымі распаусюджанымі спажыўчымі прадуктамі зьяуляюцца

— жыта і пшаніца — азімыя, аднак сеюць і ярыцу. Пасеўная плошча пад жыта і пшаніцу выносіць 50—60% усей пасеўнай плошчы. За імі ідуць — ячмень, грэчка, просо, кукуруза, гарох, сачыўка, далей авёс, бульба, лён і каноплля.

Працентнае адношэньне пасеўнай плошчы да рэшты раслін такое:

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| Авёс ...... | 18,0% | Просо ........ | 0,3% | Бульба .... | 11,6% |
| Ячмень .... | 8,0% | Гарох ...... | 1,6% | Лён ........ | 3,8% |
| Грэчка .... | 3,3% | Боб ........ | 0,2% | Каноплі .... | 0,8% |

Калі прыняць пад увагу, што сярэдняя урода у Эўропе, згодна культуры і навуковым данным не менш, як у тры разы большая, чым на Беларусі, то лішка у міліард пудоў хлеба маглаб экспартавацца заграніцу так як і пры такой норме Беларусь сябе пракармлівала, маючы да 50 пудоў усіх спажыўчых прадуктаў на душу насельньня. Лішкі да вайны таксама вывозіліся заграніцу.

Лонкі на Беларусі займаюць плошчу у 3.180.000 дзесянцін, альбо 10,6% усей тэрыторыі.

Па данным тагож Зборніку (балон. 83) у 1914 г. было скошана 3.131.184 дзесянціны і сабрана сена 303.370,8 пудоў. Калі нельга гаварыць аб інстэнсыўнай гаспадарцы у земляробстве, то аб сенажацях на Беларусі ніхто не клапоціцца, паміж тым, як прадуктыўнасьць лонак надта лёгка можна былоб палепшыць у некалькі разоў, што магло бы даць значную лішку сена для экспорту.

## ЖЫВЕЛАВОДСТВА.

Як асобная галіна гаспадаркі жывёлаводства на Беларусі не практыкуецца. Скаціна, самай дрэннай пароды трымаецца выключна толькі для гною. Малако і масла ідуць толькі для свайго ужытку. Спроба каапэратыўных маслоробскіх заводаў да вайны давала добрыя вынікі, аднак вайна перашкодзіла перайсьці ад эксплаатацыі малака да палепшаньня пароды скаціны і павясьці правідловую малочную гаспадарку.

Аграмадныя абшары балоцістых і лясных выганаў, сенажацяў і ізлішак саломы даюць магчымасьць у некатарых мяйсцох трымаць па 30—40 кароў на гаспадарку. Аднак дробная парода скаціны і няўмелае вядзеньне малочнай гаспадаркі не давалі селянам тых прыбыткаў, якія яны магліб мець ад гэтага.

У лепшых варунках знаходзіліс коні і валы, як рабочая скаціна...Тут можна было бачыць лепшы дагляд і канкурэнцыю.

Добра даглядалі таксама авечак, якія адзягалі селян, но на кароў не зьвярталі ніякай увагі. Яны трымаліс, як запасны капітал, для аплаты падаткаў і нядоімак, калі нельга было іх аплаціць з гаспадаркі. У такіх выпадках адна з кароў выводзілась на рынак і прадавалась, а грошы ішлі на пакрыцьцё выдаткаў. Тое самае было пры вясельлях, хрэзьбінах, пахаронах і іншых выпадковых выдатках.



У 1914 годзе у 6 губэрнях Беларусі мелась:

| | |
|---|---|
| Рагатай скаціны ............. | 4.006.594 |
| Коней ...................... | 2.147.525 |
| Авечак ..................... | 3.490.170 |
| Коз ........................ | 40.313 |
| Свіней ..................... | 2.665.696 |

У Эўрапэйскіх гаспадарках, калі карова сваім малаком, сырам і маслам, утрымлівае толькі сябе і не дае 50% чыстага даходу у год, яе зараз выкідаюць з гаспадаркі і прадаюць на мяса.

Калі гэту сыстэму увясьці на Беларусі, то жывёлаводства стане адной з даходнейшых галін сельскай гаспадаркі і дасьць вялікі вываз заграніцу масла, сыру і іншых малочных прадуктаў.

Праўда, вайна, рэвалюцыя і акупацыі многа зменшылі лік жывёлы на Беларусі, але якастна яна палепшылась таму, што у сучасны момант карове прыдзяляюць на Беларусі такі самы дагляд, як на заходзе і глядзяць часта на яе, як на адзіны спосаб пракармленьня. Хто мае малочную карову, той усёж такі не баіцца, што яго дзеці і ён сам заўтра не памруць з голаду.

Конь цяпер у гаспадарцы цэлае багацьце і за ім гаспадар даглядае больш, як за самым сабой.

## ВІНАКУРЭНЬНЕ.

Самай большай галінай сельска-гаспадарчай прамысловасьці у краі можна лічыць вінакурэньне. У 1914 г. на Беларусі мелась 710 бровараў, на якіх выраблялась 15.841.072 вядра 40⁰ спірту.

З агульнага ліку вырабу на мейсцы ужывалась 3.510.884 вядра і вывозілась 12.330.188 ведзяр.

Па вырабу спірту Беларусь займала першае мейсца у былой Расеі, хоць сама ужывала яго куды менш, чым у другіх мяйсцох. На душу жухарства у Беларусі прыпадала 0,23 вядр., тады як у Петраградскай і Маскоускай губэрні ужывалась ня менш 1,5 вядра.

Выробляўся спірт амаль выключна з мяйсцовых прадуктаў — бульбы і жыта, хоць значны лік прывозіўся і кукурузы.

Калі гэта галіна гаспадаркі і знішчана рэвалюцыей, то аб ей асабліва плакаць не прыходзіцца. Для тэхнічных патрэб можна будзе пакінуць некалькі заводаў, а рэшту, лёгка можна прытарнаваць да другіх форм прамысловасьці.

## ПІВОВАРЭНЬНЕ.

Півоварэньне было таксама шырока распаусюджана на Беларусі. Усяго мелась 84 — півоварaных бровараў, з якіх 70 бровараў мелі свае саладзільнікі, а 14 ня мела.

У 1914 г. было выроблена 5.273.527 вёдзяр піва. Амаль усё піва спажывалась на мейсцы і надта незначны лік вывозіўся у другія губэрні. Усе заводы абслужываліcь солодам са свайго ячменю.

## МЕДОВАРЭНЬНЕ.

Пчалярства досыць шырока распаўсюджана на Беларусі. Множства садоў, лонак з размаітымі кветкамі, ліпы — даюць гэнай галіне гаспадаркі значную перавагу. Нажаль, ня маючы докладных данных па гэтаму пытаньню, гаварыць аб пчалярстве, як рэгулярнай галіне гаспадаркі не прыходзіцца.

Пчолы, толькі у апошні час, сталі перасаджывацца у рамачныя вульлі. Да апошняга часу яны выводзіліcь у бартах — паміж лясоў і не патрэбавалі за сабой ніякага дагляду. Уся праца выяўлялась у тым, каб паставіць пусты борт на дзерава, а пчолы ужо самі сяліліcь у ём. Гаспадар выбіраў толькі мёд. Значны лік мёду у старыя часы праславіў Беларуска-Літоўскае Княжства «Літоўскім мёдам», альбо па беларуску «Крупнікам». Гэта галіна гаспадаркі прадаўжаецца і да гэтае пары. Але мёд стаў не такім смачным, як быў раней.

У 1914 г. мелась 80 медоварaных заводаў, з якіх 38 знаходзілась пры півовараных броварах і 42 асобна. Усяго выдаткавана на медаварэньне 10.193 пуда мёду і 4.387 пудоў цукру. Выварэна 61.546 вёдзер мёду, які ахвотна спажываёся на мейсцы і вывозіўся як у цэнтр Расеі, так і заграніцу.

## ТАБАКАВОДСТВА.

Поруч з аграмадным ужыткам табаку на Беларусі гэта галіна развіта надта слаба і знаходзіцца у першапачатковам ступню. Данныя для развітку табакаводства ёсьць. Пакуль у большасьці выпадкаў сеюць табак толькі для сябе.

У 1914 г. было засеяна пад табак 10.559 незначных плантацый, размерам у 28.67 кв. дзесян. Табак сеяўся у Гродзенскай, Віленскай, Смаленскай і Менскай губэрнях. Усяго было сабрана табаку 3.007 пудоў.

Пры даваеннай разцэнцы 84 руб. за пуд (1 руб. 60 кап. фун) гэта маленькая галіна гаспадаркі давала Беларусі 192.448 руб. даходу. Во усякам выпадку, калі гэта быў і не даход ад табаку, то эканомія, так як жыхарам, маючым свой табак не прыходзілась траціць грошэй на куплю рыначнага табаку.

## РЫБАРСТВА.

Беларусь пакрыжована рэкамі і вазёрамі, у якіх маецца вялікі запас рыбы. Правідловага рабарства і ахароны рыбнай лоўлі не было. А між тым рыбалоўства можа і павінна даць Беларусі вялікія даходы. Данныя, якія тут прыводзяцца, не поуныя, так як яны рэгіструюць поўафіцыяльную лоўлю рыбы, якая вызначалась для продажы; тая лоўля, якую рабілі селяне, як для сябе так і для продажы, падліку не даецца. Апроч таго данныя аб рыбалоўстве збіраліcь



любіцелямі Губернатарамі, а не спэцыяльнымі людзьмі, ведаючымі статыстыкай і падлікам.

Аднак і па гэтым выпадковым данным рыбны промысел складае досыць значную галіну у гаспадарцы Беларусі.

Па рэчкам Прыпяці, Бярэзіне, Нёману з іх прытокамі, а таксама у вазёрах Менскай губерні у 1913 г. было злоўлена рыбы на агульную суму 164.650 руб.

У гэтых рэчках і вазёрах водзяцца: судак, лешч, карась, карп, окунь, голавень, язь, шчупак, налім, вьюн, сом, яршы, ліны, уклейка, піскары, плотка. Радчэй сустрэкаюцца: стэрлядзь, асётр і фарэль.

У Западнай Дзьвіне і яе прытоках, а таксама у вазёрах Вітебскай губерні у 1912 г. было злоўлена рыбы 97.599 пудоу.

Па сярэдный двааеннай разцэнцы за пуд 6 руб. і то атрымліваецца цыфра у 585.596 рублёў.

У Парэчскім павеце Смаленскай губерні у 1913 г. злоўлена 8.288 пудоу рыбы. Лічачы по той самай разцэнцы, па 6 руб. за пуд, атрымаем 49.368 руб.

Самы павярхоўны і, разумееца, недасканальны падлік рыбалоўства на Беларусі давау досыць значную суму дахода у 799.612 даваенных рублеў.

Правідлова пастаўляны рыбны промысел мог бы даць значна больш дахода і карміць не адзін дзесятак тысяч людзей.

## НУТРА ЗЯМЛІ

Звычайна пры гутарках а самастойнам існаваньні Беларусі, як довад немажлівасьці такога існаваньня, прыводзяць адсутнасьць на Беларусі каменнага вугля, нафты, жалезнай руды, солі і іншых мінэралаў. Праўда, ёсьць многа самастойных дзержаў, якія існуюць і бэз багацьцяў, а карыстаюцца такімі ад сваіх суседзяў. Але, не такая ужо бедная і Беларусь. Апрача лесу хлеба, льну, скаціны, сала, шэрсьці, скур і іншых сельска-гаспадарчых прадуктаў, Беларусь мае на абмен амаль раўназначныя прадукты вытворчасьці, ей нехапаючэй. Німа каменнага вугля, затое маецца 8.750.000 дзесянцін леса, чаго не мае ні адна старана Эўропы. Апроч таго мае, амаль заменяючы каменны вугаль — торф.

«Чорнае золата» — торф, як яго называюць на Беларусі маецца у вялікім ліку усюды. Вылічэньня інж. Орнацкага, як аб гэтым гаварылась вышэй, дае цыфру у 20 міліардаў пудоў сухога торфу. Натуральнага штогодняга прыросту выстарчае для таго, каб задаволіць поўнасьцю шырака пастауляную беларускую прамысловасьць.

Німа нафты, але ёсьць у вялізарным ліку спірт, тэрпэнтына і дзёгаць. Маецца і жалезная руда, хоць і не у вялікім ліку. Рэчкі і вазёры даюць такую масу белага вугля, што ім можна асьветліць усю Беларусь і прывясьці у рух значны лік фабрык і заводаў. Німа солі, але гэта такі танны прадукт, што мы яго заўжды дастанем.

Апроч усяго гэтага у нутрах беларускай зямлі маюцца вялі-

кія залежы вапны у Менскай і Магілёускай губэрні; у Смаленскай губэрні — залежы агнеупорнай гліны і крэйды. Есьць запасы балотнай жалезнай руды, колчадана і шлака.

Маюцца таксама і мінэральныя крыніцы: Жалезіста-вуглістыя у Сенненскам і Аршанскам павеце Магілёускай губэрні (вёскі — Любовічы, Філіпаўшчына, Славен і Івень); жалезістыя у Аршанскам павеце — (вёска Ульянаўка і Пажанак), Сеннскам (вёска Оўсішча) і Магілёускам — дзьве крыніцы каля мястэчка Цецерын; серна-жалезістыя у Барысаўскам павеце (м. Лагойск); вугліста-кіслыя у Чаўскам павеце (Слабада), Мсціслаўскам павеце (Слабада) у Рогачоўскам — (Тошыца, Рудня).

Усе гэтыя крыніцы не абследаваны і чакаюць свайго ужытку.

Правідловы курорт для выкарыстовываньня мінэральных крыніц арганізаваны толькі у м. Друзгенікі, Гродзенскай губэрні.

Адкрытыя і патаемныя багацьця беларускай зямлі, так доўга знаходзячыяся у нацыанальнай і эканамічнай няволі, чакаюць арганізатарскай рукі сваей улады, каб даць усё неабходнае для залечываньня цяжкіх ран культурнага і эканамічнага жыцьця стараны.

Калі наша старонка такая бедная і у ёй ніхто не зацікаўляны, то лепш за усё пакінуць нас самым сабе, бо трудна думаць каб гуманнасьць суседзяў перашкаджала, зьдзейсьненьню нашай назалежнасьці толькі таму, што яны баяцца, што мы загінем ад недастатку натуральных багацьцяў і культуры, але такія довады наіўны і імі закрыць праўды нельга.

## ПРАМЫСЛОВАСЬЦЬ

Цэнтралізацыя прамысловасьці у царскай Расеі ўсім вядома. Каб карыстацца сырцом акраін і не даваць ім прамыслова развівацца, Пётра Вялікі на балоцістых фінскіх берагох будуе Петраград, куды цягнулась за тысячы вёрст з усіх канцоў усё, пачынаючы ад Сібіры до Ташкенту. Штучна ствараліcь прамысловыя цэнтры у Маскоўскай, Яраслаўскай і іншых губэрнях, толькі дзеля таго, каб не даваць магчымасьці развівацца прамысловасьці на акраінах. Калі мы бачылі густа раскінутую сетку прамысловых прадпрыемстваў у Эуропе там, дзе ёсьць для гэтай прамысловасьці сырэц, нам зразумела рука гаспадара-эканаміста, хоць і уціскаушага народы не сваей нацыі, нацыанальна, але у гаспадарча-эканамічнам адносьненьні даваў поўную свабоду, разумеючы, што ад дабрабыту нацыаўальнага, хоць і не адзінай з ім нацыі, залежыць і яго дабрабыт. Такога зразуменьня у рускага ураду не было. Цемра у разумовам напрамку і жэбрацтва у эканамічнам, вось асновы, на якіх думаў рускі урад апіраць своё самаўладства.

Німа нічога дзіўнага, што паміж другімі акраінамі і Беларусь была прамыслова неразгорнута, не гледзячы на тое, што запасы сырых матэрыалаў і таннага топліва было досыць. Суседства з Заходам, сыстэма водных шляхоў і чугунак магла шырока спрыяць развітку беларускай прамысловасьці, але яна усё такі заставалась на мёртвай кропцы. Спробы да яе развіцьця былі, але недахват аваротных сродкаў і выразна варожага адношэньня цэнтру да акраін, затрымлівалі справу. Да вайны у межах 6 беларускіх губерняў было 11.822 фабрык і заводаў. Сума вырабчасьці выяўлялась у 107.250.000 рублёу, пры 81.635 рабочых.



Не гледзячы на усе перашкоды, якія ставілісь беларускай прамысловасьці, яна усё такі прабівала сабе шлях загранiцу і канкуравала у некаторых адносінах з цэнтрам. Беластоцкая мануфактура славілась не толькі у Расеі, але і заграніцай. Папяровыя фабрыкі Беларусі давалі лепшую паперу на усю Расею. Хэмічная вытварчасьць, скурная, шкляная, не гаворучы ужо аб абрабляючэй прамысловасьці дзерэва і дрэвясіны, стаялі на досыць высокам ступню і канкуравалі не толькі з рускімі, але і з заграгічнымі фабрыкатамі. Нарэшце дрэўляныя малацілкі, як больш лёгкія выціскалі з ужытку, малацілкі фабрычныя.

Высокаабдараны ад прыроды і працавіты беларускі народ не меў магчымасьці развярнуць свае сілы і здольнасьці. У такім стане застала яго вайна і рэвалюцыя.

З гэтай барацьбы ён бэзварункова выйдзя перАможцам і здабудзе сабе належнае мейсца паміж народамі.

## ШЛЯХІ ЗНОСІН

Пры развязаньні ўсясьветных пытаньняў, пасля таго, як вайна і рэвалюцыя перавярнулі ў верх нагамі усе старыя экнамічныя тэорыі і яскрава паказалі, што сьвет выяўляе з сябе адзінае эканамічнае цэлае, воляй-няволяй, прыйшлось прызнаць, што асобныя народы і нацыі, нават пакуль не адыгрываючыя палітычнай ролі ва ўсесьветнай гаспадарцы, таксама вольны, як і вялікія дзержавы. Беларускае пытаньне у Вільні, Украінскае у Галічыне, не даюць спакойна жыць Еўропе, не гаворачы ужо аб Савецкай Расеі, як значнай, самой па сабе, вялічыне.

Жаданьне захаваць ад бальшавіцкага разгрому культурныя Эўрапэйскія здабыткі — лгарства. Справа ідзе аб захаваньні сваей скуры таксама зусім, як і у камуністаў. Імпэрыялізм і гэгэмонія над слабейшымі народамі стварылі вялікую Антанту і Вэрсальскі рабункoвы мір. Усе як быццам-бы зацікаўляны у вастанаўленьні Эўропы і Расеі, а кожны думае толькі аб сабе і сваіх выгадах.

Каны, Генуя падкрэслілі усю недарэчнасьць Эуропы у шчырасьць сваіх пачынаньняў. Хвароба асьвятлялась правідлова, але лячыць яе збіраліся старымі, дыпляматычнымі спосабамі, якія не памагаюць хвораму, але і не псуюць аўтарытэту лекара.

Варта было загаварыць Ллойд-Джорджу аб раскрэпашчэньні народаў, паняволяных Польшчэй на Віленшчыне і ў Галічыне, як з бакоў усіх дабрадзеяў — староннікаў Эурапэйскага міру, падняўся такі гвалт і крык, што прыйшлось зняць гэтыя пытаньня з чаргі. Наадварот, надзвычайна горача абгаварываліcь пытаньня

аб Бакінскай нафце, замацаваньні граніц «Статус-кво» і недатычнасьці пытаньня аб меншынах.

Не гледзячы на тое, што пакуль што для адбудовы Расеі ніхто яшчэ нічога не даў, усе былі зацікауляны транзытам.

Польшча хацела атрымаць мандат на адбудову Расеі і узяць транзыт у свае рукі.

Такі уступ да беларускіх шляхоў зносін неабходна было зрабіць, каб высьвятліць важнасьць іх ва ўсесьветнам эканамічнам становішчы.

Цвікевіч у сваей кнізе «Адраджэньне Бералусі і Польшча», 1921 г. бал. 94, гаворыць: «Калі паглядзець на географічную мапу Беларусі, то абачым, што праз яе тэрыторыю праходзяць шляхі зносін паміж Балтыцкім і Чорным морам. Стары шлях з Рыгі у Адэсу праходзіць цалкам па беларускай зямлі. Улада, якая замацуецца на гэнаи тэрыторыі будзе мець у сваім распараджэньні самыя танныя і таму самыя выгодныя шляхі паміж гэтымі двума марамі па рэчкам Дзьвіна — Днепр з аднаго боку, Нёману і Прыпяці з другога і Нёману і Бугу з трэцяга. Гэтыя шляхі больш усяго прыгодны для транзыту цяжкіх тавараў — лесу, лясных матэрыалаў, дроў, пенькі, скаціны, скур і інш. Валадаючы гэтымі шляхамі Польшча абавязкова — будзе мець гэгэмонію над Балтыцкімі портамі і будзе эканамічна душыць усе Балтыцкія дзержавы, а таксама і Украіну».

«Каліб зьдзейсьніліся пляны Польшчы аб граніцах 1772 г., то янаб запанавала над усім тавараабменам ўсходу Эуропы. Да вайны, вядома, увесь увоз Расейскай імпэрыі у першую чаргу выкарыстовывала Нямеччына: ¾ усяго таварнага балянсу Расеі праходзіла праз яе рукі, выяўляючысь у круглай суме 3 мільёнаў залатых рублёў. Калі Польшча зьдзейсьніць праэкты сваіх капіталістычных колаў і сапраўды захопіць Беларусь у граніцах 1772 г., то гэтым самым яна перэймае не толькі пройшлую ролю Нямеччыны, але таксама Аўстрыі і часткова Румыніі. Лібава, Рыга, Рэвэль і Віндава на поўначы, і Мікалаеў, Адэса на поўдні будуць фактычна у яе распараджэньні. Уся быўшая сухапутная граніца Расеі з Нямеччынай і Аўстрыей, (а часткова і з Румыніей) у сілу залежнасьці Украіны ад водных шляхоў Беларусі будзе таксама у яе руках. Такім чынам, увесь вываз быушай Расеі у Нямеччыну, Чэхію, Вэнгрыю і ва львінай долі і у другія краі, таксама, як амаль і ўвесь увоз гэтых краёу на усход, — пойдзе праз Польшчу».

Вось істотнае становішчэ нашых шляхоў зносін і іх значэньне для усесьветнага эканамічнага жыцьця.

Трудна быць бэзстаронным, калі сэрца гарыць ад несправядлівасьці за паняволеньне беларускага народу ва імя мэркантыльных мэтаў Польшчы. Здавалась, што эканамісты Эўропы, таксама, як і рускія вучоныя, жадаючыя дзейсна адбудаваньня Расеі і Эуропы скажуць нам такжа, як калісь гаварылі рускія вуснамі «Дня» 50—60 г.г. «Мы віноваты перед вамі, простите нам, событія закрылі нам



глаза, ослѣплённые польскими мечтами, мы, русскіе, как-бы забылі о существованіи Белоруссіи, мы долго находились в невѣдѣніи о той молчаливой, неизвѣстной, і вмѣстѣ с тѣм величественной борьбѣ, какую белорусы вели за свою народность и вѣру» (А Пыпин — Исторія русской этнографіи, т. IV. стр. 89).

Мы гэту барацьбу вядзем і да гэтай пары. Мы добра разцэніваем становішча і няволю Беларусі пры варунках, калі нашымі шляхамі зносін будуць уладаць чужынцы, а не беларусы.

За гэтыя-то шляхі зносін, не гаворучы ужо аб натуральных багацьцях і вядзецца барацьба. Усё роўна, як бы Эўропа не вырашыла наша пытаньне, яно будзе заставацца адкрытым да тэй пары, пакуль не будзе вырашана беларускае пытаньне поўнасьцю.

Супраць прылучэньня Беларусі у цэлам, альбо нават і у незначнай частцы, з басэйнам Нёмана і Прыпяці, павінны будуць пратэставаць усе таму, што галоуныя водныя шляхі Беларусі павінны служыць не заборчым імпэрыялістычным пажаданьням Польшчы, а транзытам культуры і фабрыкатаў выробу для усей Эўропы, як гэта было у старыя часы. Шлях «З Вараг у Грэкі» павінен і у сучасны момант адыгрываць тую самую ролю, якую ён адыгрываў пры Полацкіх Князях. Свобода судаходства па беларускім рэчкам і таргоўлі была неадьемным правам усіх народаў того часу.

## ВОДНЫЯ ШЛЯХІ

Рэчкі і вазёра на Беларусі займаюць абшар у 8,7 % усей тэрыторыі. Беларусь зьяўляецца істокам галоўных чатырох рэчак Усходняй Эуропы — Волгі, Дняпра, Нёмана і Заходняй Дзьвіны Адсюль пачынаюцца і некаторыя прыткі Віслы.

У гэтыя галоўныя рэчкі упадае бэзлічнае множества рэк і рэчак, якія злучаюць воднымі шляхамі тэрыторыю Беларусі з поўначчу, поўднем, усходам і заходам. Такіх выгодных водных зносін ва усіх напрамках не мае ні адна старана у сьвеце.

Злучэньне Балтыцкага мора з Чорным пры павуціннай сыстеме рэчак на Беларусі — рэч надзвычайна лёгкая. Пачатак гэтаму злучэньню ужо паложан. Рэчка Ула, прыток Заходняй Дзьвіны Злучана Сяргучоўскім каналам з Беразіной, прытокам Прыпяці і Дняпра. Шчара, прыток Нёмана, злучана з Ясельдай і Прыпяцьцю Агінскім каналам. Нарэшця Віслу з Прыпяцьцю і Дняпром лучыць Дняпроўска-Бугскі канал. Варта толькі паглыбіць і ачысьціць днішча рэчак і каналаў, зрабіць іх больш прыгоднымі для плаваньня параходаў больш значнага тоннажа і Балтыцкае мора з Чорным будзе злучана. Есьць і іншыя праэкты такога злучэньня, але усе яны абавязкова павінны прайсьці праз беларускую тэрыторыю.

Правідловы параходны рух адбываецца па рэкам Беларусі на працягу 9.470 вёрстаў, галоўным чынам па рэкам: Дняпру, Беразіне, Прыпяці, Сожу, Заходняй Дзьвіне, Нёману і часткова Вільі.

## ЖАЛЕЗНЫЯ ДАРОГІ

Тэрыторыя Беларусі, апроч водных шляхоў, хоць і не асабліва густа прарэзана ва усіх напрамках і жалезнадарожнай сеткай. Жалезнадарожныя вузлы: Берасьце, Чаромха, Беласток, Вільня, Дзьвінск, Вялікія Лукі, Бранск, Гомэль і Лунінец злучаюць Беларусь са усімі галоўнейшымі эканамічнымі цэнтрамі нашых суседзяў і заграніцай.

Жалезная дарога — Берасьця—Масква, да станцыі Вязьма — 797 вёр. і Берасьце—Бранск — 757 в. — злучаюць Беларусь з Расеяй на ўсходзе і Польшчай — на заходзе. Седлец—Балагое, да станцыі Вялікія Лукі ад ст. Нурца — 714 в — з Расеяй на поўначы і Польшчай на заходзе. Граева—Беласток—Ковель — 313 в. — з Нямеччынай на заходзе і Украінай на поўдні. Сувалкі—Горадня — 231 в — з Нямеччынай, Вільня — Эйдкунен — 179 в. — з Літвой і Нямеччынай. Дзьвінск—Бранск — 631 в — з Латвіей на заходзе і Расеяй на усходзе, Вільня—Сарны — 478 в , Вітэбск—Жлобін — 265 в. і Вільня—Рамны — 584 в. з Украінай і г. д.

Усяго Беларусь мае жалезных дарог на працягу 6.188 вёрстаў. Шасэйных дарог Беларусь мае 6.622 в. і грунтовых — 78.315 в. На адну душу жыхарства прыходзіцца жалезных дарог 25 саж., шасэйных — 27 с. і грунтовых — 326 саж.

## ЭКСПОРТ і ІМПОРТ

Жалезныя дарогі Беларусі па грузаправознасьці можна падзяліць так:

| | Міль пуд. |
|---|---|
| Берасьце—Масква | 145 |
| Рыга—Арол | 118 |
| Палескія | 113 |
| Лібава—Рамны | 88 |
| Сызрань—Вязьма | 31 |
| Петраград—Варшава | 21 |
| Нова—Торжская | 9 |
| Адпраулялась хлеба | 58 |
| Лясных будауляных матэрыалау | 46 |
| Дроў | 38 |
| Увозіуся галоуным чынам хлеб з поўнач-ўсходу | 77 |

Пунктамі адпрауленьня дроў і будаўляных матэрыалаў зьяўлялісь галоўным чынам:

| | міл. пуд. |
|---|---|
| Смаленск | 9,5 |
| Дарагабуж | 1,5 |
| Гомэль | 6,0 |
| Асіповічы | 4,0 |
| Лунінец | 1,5 |
| Менск | 1,0 |



Праз Юрбургскую мытную станцыю водным шляхом штогод вывозілась заграніцу рожных тавараў каля 10 мільёнаў пудоў на суму — 4.270.000 рублёў. Усе гэтыя тавары і прадукты зьяуляюцца выключна прадуктамі Беларусі.

У гэту лічбу не уваходзіць лес, якого штогод адпраулялась па рэкам каля 300 мільёнау пудоў на суму — 60.000.000 р. Праз Эйдкунен і Вержбалова па жалезнай дарозе штогод правозілась каля 5 мільёнаў пудоу груза на суму до 10 міл. р.

Увоз тавараў з заграніцы на Беларусь дасягау штогод 15 міл. пудоў на суму — 50 міл. руб.; галоуныя прадукты прывозу:

Соль, селядцы, газа, жалеза, каменны вугаль і рэйкі.

Транзытам на Петраград праходзілі: гарбата, фарбы, хэмічныя прадукты, мануфактура і інш.

**П. Крэчэўскі.**

---

## ТАЕМНАЯ СМАГА.

Душна мне. Сэрца калоціць
Ў грудзі, як ў браму ў начы,
Той што лісты, тэлеграмы разносіць,
Спаць не дае, хоць крычы...

Душу мне страх агартае,
Стыгне у жылах і кроў...
Сэрца нічога не знае —
Цягнецца толькі дамоў.

*К.*

## КНІГА.

Прыемна над кнігай схіліцца
Ў кнігарні, ў музэі і знаць,
Што гэты прыяцель — забыцца —
Вам можэ адзін толькі даць

Магчымасьць у кожну хвіліну
Не так, як вядзецца ў людзей —
У кнізе павага ёсьць чыну,
Не рве яна сэрца з грудзей...

Тут дзеі мінулага ходзяць,
Я бачу ў іх продкаў сваіх,
Яны у жыцьцё мяне ўводзяць,
Бароняць ад поступаў злых.

Даюць мне напрямак і сілу
Змагацца за прауду, народ,
Каб мы адыйшоўшы ў магілу
Таксама маглі даць прыплод.

*К.*

## ЗДРАДА.

*Гістарычная драма канца XV і пачатку XVI сталецьця, у 3 актах, з пролагом.*

(Інсцэніроўка паэмы Рылеева «Глінскій»).

АСОБЫ:

Князь Міхась Глінскі.
Яго дачка.
Аляксандр — кароль Літоўска-Беларускі.
Яго жонка Галена.
Ваявода Астрожскі.
Васіль III — цар Маскоўскі.
Яго жонка Галена.
Прыказны дзяк.
Забжэзінскі.
Ганцы.
Сьвіта і варта.
Марс — бог вайны і духі палеглых.

### П Р А Л О Г.

Бойка Літоўска-Беларускіх войскаў з Маскоўскімі пад Смаленскам скончылась. Над полем бойкі зыйшоў месяц. Князь Глінскі, перабегшый на сторону Маскоўскага цара і біўшыйся проціў Літвіноў і Беларусоў выйшоў на поле бойкі. Кругом ляжалі трупы, даносіўся стогн уміраючых.

*Князь Глінскі (адзін).*

Дала мне прырода магчымыя рэчы,
Каб слаўным ў пакоі быць, страшным ў вайне,
Багацьце, навука і моцныя плечы —
Ўсе з шчодрасьцю была даравана мне...

*(Задумна).*

Жадаў яшчэ славы і лаўраў пабеды,
Душа трыпяцела, дух юны гарэў...

*(Успамінаючы).*

Тут хмарай як раз падняліся суседзі
На Польшчу — і славу схапіць я здалеў...

*(Сядае на пень).*

Мангольскія орды ўляцелі бядою,
Літва-Беларусь закурэлась агнем, —
Старыя і жонкі і дзеці таўпою
Цягнулісь ў няволю татарынам злым.
У попяле вёскі і горады гады —
Татары дзікія залілі крывёй,
Ні жонкі, ні дзеці — не мелі пашчады,
Зайздросны меч віўся над іх галавой...
Парушаны горам да дзікіх насустрэч
З дружынай харобрай імчуся гразой...
Дасяг — і адважна ў крывавую бойку...
Тут кроў палілася шырокай ракой.
Пакрылося трупамі поле, даліна...
Літвін і татарын упарта стаяў...
Тут з новай адвагай пусьціў я дружыны —
Паганны Мангол не стрымаў...

*(З агідай).*

Адзін быў мне вораг — то род Забжэзінскіх.
Яго больш ня мог я ў тэй славе зьнясьці,
Ен зьнік сярод ночы пад помстаю Глінскіх,
Но шчасьця і мне не прышлося знайсьці.
Ен згінуў — прыяцель мне ворагам стаўся,
Душою аддаўшыся помсце адной...

*(Са скрухай у сэрцы).*

З чужою дружынай здрадліва варваўся
Я хутка ў абшары старонкі сваей.
Тут, мукі сумленьня — тыран неадступны,
Ні погляд на сьцягі мне роднай старонкі,
Ні голас таемны з далоні праступнай
Не вырваў мяча у страшэнны час бойкі...
Сярод паразьюшаных, дышачых помстай
І ярых і страшных душой маскалёў,
Я больш ўсё і больш захопляўся зладзействам
Безлітасна біў Літвіноў...

*(Угледаецца на трупы літоўска-беларускіх ваякоў).*

Даруй мне, о Божэ, мае праступленьня,
Браты мае родныя, выбачьце мне
Запал мой і жорсткае славы імкненьне...
Хоць здрада усюды прэдбачылась мне —



Пазнаў я ня ў пору свае надужэньня...
Прасіў Жыгімонта за здраду прашчэньня,
І марыў аб роднай сваей старане...

*(Прыслуховаецца да стогнаў уміраючых)*

Так лёс мне судзіў і я здрадай ліхою
Братоў сваіх родных чужынцу прадаў...

*(З жалям).*

Я чую тут стогны іх сам прад сабою,
Мне Бог забыцьця ў тую пору не даў.
Навука замежнай нямецкай краіны
І слава харобрых, мне родных братоў,
Што тут пал

ягл — вось на гэнай лажбіне —
Прашченьня ня могуць прызначыць за кроў...
Адвагу ваякі і моцныя плечы
Сумленьня чарвяк развярушыў ураз,
Аб іх гаварыць мне цяпер не да рэчы,
Пакуты апошні настаў мусі час..

*(На вочах паказываюцца сьлёзы).*

У родным краі мне ня быць ужо болей,
Не мне пацешацца надзеяю тэй
Я здраднікам стаўся сваей толькі воляй
Баюся і ўспомніць аб здрадзе сваей.

*(З радасьцю на чале).*

Калі-б давялося адно мігаценьне
Мне чыстасьць сумленньня у сэрцы пачуць,
Шчаслівы я стаў бы і голас празрэньня
Не мучыў бы так мяне, мучыць як тут...

*(Схіліўшыся на грудзі ваяка).*

Ты, сын Беларускай, мне роднай, зямліцы,
Аддаўшый жыцьцё за зямлю, за бацькоў.
Скажы мне, дзе браў ты, з якое крыніцы
Вялікія сілы на бойку як шоў.
Ці можаш ты мне даравацьь на астатку,
Мой шэраг і брудных і здрадных падзей,
Зневажыўшых здрадаю родную матку —
Вось тут загубіўшага толькі людзей...
Мая мне крыніца давала ня тое,
Што меў ты у сэрцы, як біўся з Масквой, —
Мне слава прэдбачылась... Штосьці другое
Ты бачыў... то край родны твой...

*(Заглядаючы у вочы).*

Ты веды не знаеш сын простае вёскі,
Бог розуму даў табе дасыць на век —
Ты любіш свой край і любоў гэну ложкай
Земля надае табе век.
А мы, адарваўшысь ад роднае глебы,
Забыўшы народ, абавязак і суд, —
Гатовы служыць чужынцам бэз патрэбы,
Даруй мне мой родны, мне здраду забудзь.

*(Цалуе труп у чало).*

Забыць мне ўсе гэта-б цяпер да астатку,
З павіннай зьявіцца ў Літву галавой,
Прасіць сабе кары за здраду і матку —
Зямліцу паліць сваей здраднай крывёй...
Мы людзі другога і складу і духу:
Баліць хоць душа, а карыцца німа.
У нас ні адвагі, ні сілы за здраду,
Гаворым і мучымся толькі дарма...
Хто любіць народ свой, не ведае мукі,
Аб здрадзе і думкі не можа тут быць,
Яго ўсе жаданьня, так сама, як рукі
Працуюць для краю... вось труп іх ляжыць, —
Сыноў тых, што з гордаю славай не зналісь
Любілі дзержаву сваю, родны край,
За сьцяг незалежны харобра змагалісь,
І мёрлі, як час ім казаў: «умірай».
Была ім неведама сіла змаганьня,
Шаленства запал не круціў ім галоў,
Хацелась народу свайго панаваньня,
Вось біцца за гэта ён заўжды гатоў.
*(Угледаецца са страхам).*
Ўстаюць яны... стройна... радкамі...

*(Забітыя падыймаюцца і крычаць).*

На суд іх, на суд ваевод!..
З чужымі хто біўся, не з намі,
Хто здрадзіў свой край і народ!

Пачынаецца галюцынацыя — танец сьмерці. Ваякі падымаюцца з зямлі і з працягнутымі рукамі і пагрозай наступаюць на Глінскага — Глінскі дрыжыць ня можа вымавіць слова... З ваякоў спадаюць вопраткі ў адно мейсца — на іх становіцца бог вайны Марс — кругом у цяжкіх муках са стогнамі танцуюць духі палеглых у абліччу пекных кабет. Танец канчаецца рогатам Марса і лязгам мячоў. Усё знікае.

Па сярэдзіне сцэны Глінскі упаўшый на калені і падняўшый рукі да неба.



*Глінскі.*

Вялікае неба, ты Божжа будына,
Ў ім праўда і сам Ты на троне сядзіш,
Пашлі забыцьцё мне ад здраднага чына,
Я плачу... *(плача)* скажы мне, чаго Ты маўчыш?
Забій мяне громам, рукою сваею,
На векі мяне аднаго пакарай,
Народ із няволі, Ты воляй Тваею
Мой выбаві, Божа; Так сама і край —
Магутна свабодным зрабі за нешчасьця
Ўсе тыя, што здрадай своей я прынёс,
У хаты загляне нехай сонца шчасьця
І здрады ніколі не бачаць, ні сьлёз...

*(Падае на зямлю і плача).*

За дрэвам відаць цень незнайомага чалавека, які падслухваў жаль і плач Глінкскага.

З а с л о н а.

## А К Т І.

Вільня. У палацу на Замкавай гары кароль Літоўска-Беларускі Аляксандр прымае ганца з Масквы ад свайго цесьця, цара Маскоўскага Івана III.

### З ь я в а І.

Кароль Аляксандр, каралева Галена, князь Глінскі, ваевода Астрожскі і сьвіта.

Уваходзіць ганец і падае складную грамату ад Івана III.

*(Ганец да Караля Аляксандра).*

Іван, князь Маскоўскі і цар ўсей Русі,
Шле грамату, ўзбураны весткай,
Што ты не жадаеш яго прызнаваць
Царом ўсей Русі, — свайго цесьця.

*(Падае грамату. Кароль бярэ грамату і чытае).*
*(Кароль Аляксандр да ганца).*

Скажы ты Маскоўскаму князю Івану,
Хай гордым ня будзе адразу такім,
Я вызаў прыймаю на бойку і стану
З ім біцца, як з ворагам злым.

*(Генец выходзіць, кароль да Астрожскага і Глінскага).*

Пісаў я нядаўна ліст цесьцю Івану,
Я князям Маскоўскім яго празываў,
Усей жа Русі ён не мае і стану,
Знарок гэны тытул я там не прыдаў.
У злосьці вялікай за гэныя словы
Вайну апавешчуе горда ён нам,
Куе нам наперад ланцуг і аковы,
А ўсё-ж гэнай славы яму я ня дам.

*Каралева Гэлена.*

Рукой самалюбства і назвай нікчэмнай
Пад ўплывам ідэі зьбіраньня Русі,
Мой бацька у злосьці той думкі таемнай
У бойку зноў кінецца, як не прасі...
Пажараў і голаду зноў люд зазнае,
Безконца людзей на палёх пакладуць,
Ў шаленстве Масква, мо нарэшце сканае,
Не ведаю назвы ці гэтай дапнуць.

*Князь Астрожскі.*

Народ наш свабодны, пазнаў без прынукі
Усе назалежнага крокі жыцьця,
Ен прыме авхотна ўсе страты і мукі,
Сябе абароніць, парукай ў тым я.
Навалы чужацкай страшыцца ня варта,
Дружына прад воргам цьвёрда мая,
Паўстане як лес, будзе біцца упарта
І выкурыць ворага — пчол як з вульля.

*Кароль Аляксандр.*

Прыемна мне слухаць народа павагу
Да княжства майго і маей стараны,
За праўду, за веру пакажуць адвагу
Літвы-Беларусі вялікай сыны.
Рукой самаўладзьдзя у нашым княжэньні
Мы звычаяў веча, заветаў старых
Не мелі парушыць ніколі імкненьня, —
Любіў нас за гэта народ, а мы — іх.

*(Зварочаючысь да Глінскага).*

А ты, што мне скажаш, заморскай навукі
Прайшоўшый ў Нямеччыне шлях, верны сын,
Ці здолее вораг зайздросныя рукі
На нас налажыць, ці твой чын



Так сама, як наш дасьць адпор вражай сіле, —
І здольнасьці, сілу, навуку, жыцьцё
На поле ты зложыш ў халоднай магіле,
Ці ў вольнай Літве будзе шчасьця тваё.

*Князь Глінскі.*

Жаданьне мае, як і веды ўсе знаньня
Гатоў я у ног у тваіх палажыць,
Каб кінуцца ў бойку хутчэй на змаганьне,
З народам хачу я і біцца і жыць.
Прырода дала мне магчымыя рэчы
Быць слаўным ў пакоі і страшным у вайне,
Багацьце навука і моцныя плечы,
Ўсе з шчодрасьцю была дарована мне.
Я біўся не раз ужо з ворагам лютым,
І тут пастаю да канца галавой,
Я славу здабуду, нешчасьця акутым,
Табе — князь вялікі і край родны мой.

*Кароль Аляксандр.*

Хай Бог дапаможа вам ў бойцы суровай —
Прыказ вам даю зараз свой —
Астрожскі Маскоўскаю пойдзе дарогай, —
Ты Глінскі з Манголамі ўступіш у бой.

Астрожскі і князь Глінскі апускаюцца на калені, Кароль Аляксандр і каралева Галена благаслаўляюць іх мячамі.

*Кароль Аляксандр.*

Бог продкаў Вялікі і вера і звычай
Вас кліча край родны хутчэй бараніць,
Хай Бог вам поможа сьвятое аблічча
Яго пераможным на векі зрабіць.

*(Цалуюць мячы і выходзяць).*

З ь я в а II.

*Уваходзіць Забжезінскі.*

Не слухайся, княжа, дарадчыкаў злых
Ва мне Глінскі веры чамусьці не рушыць,
Глядзі, каб не здрадзіў ён думак тваіх,
Бо хто яго слухаць прымусіць.

*Кароль Аляксандр.*

Мне спрэчкі ўсе вашы даўно ўжо вядомы,
Баюсь, каб ня вышла якой тут бяды,
Варожасьцю поўны і вы і харомы,
І сэрца варушыць вам помста нуды.

Не будзь ты прарокам аб Глінскім зумысна,
У гэты хоць момант ты мне не кажы,
Сумленьня да княжства яго зусім чыста,
Ен храбрым ваякай быў тры ўжо разы.

*Забжэзінскі.*

Мылюсь мо я, княжа, і час твой дарэмна
Адняў толькі так сабе ў гутарках тых,
Хай сьвеціць нам радасьць і шчасьця нязьменна
Ў абшарах княжэньня тваіх.

*(Забжэзінскі выходзіць).*
*Каралева Галена.*

Нядоўга нас хмары варожжы мінalі
Ізноў закурыцца Літва-Беларусь.
Ты, Божа праўдзівы, скажы ім бяз жалю,
Ці варта уся таго назва іх Русь.

*Аляксандр.*

Ці варта, ці не — мы ня ведаем спрытна,
Каму ў гэнай справе пяршынства дано,
Твой бацька наперад ўсе пхнецца і пхнецца,
«Хочу ўсей Русі быць я князем даўно».
Ніхай папрабуе, шчэ сілы я маю.
Харобрых і слаўных есьць род ваявод,
Я з чэсьцю на межах маскоўцаў спаткаю,
Не дам у палон свайго краю, народ.

З а с л о н а.

З ь я в а III.

Кароль Аляксандр ляжыць цяжка хворы у ложку. Пры ім каралева Гэлена і блізкія.

*Аляксандр са стогнам.*

Мо час мой апошні надходзіць... не знаю.
Са сьмерцю барусь колькі дзен надзвычайна,
Ў мінулым сабе адпачынку шукаю...
Пайці... не так легка... негайна.
Як чорныя хмары маскаль і татары
Дзяржаву маю аблажылі кругом
Няволю суліць мне маскоўскі цар цараў,
Ланцуг вось... ён дразніць мяне ланцугом...

*(падае на падушку).*



*Каралева Галена (плачучы).*

Мой дружа, засьні, супакойся хоць трохі,
Харобрых і слаўных тваіх ваявод
Не возьмуць і сілай варожжы спалохі,
Не выдасьць дружына, паможа народ.

*Кароль Аляксандр.*

Я веру... Пажарышч народ не баіцца
Маскоўцы вучылі іх гэтаму шмат...
Там кроў маіх родных сыноў будзе ліцца
Дарэмна... бэз конца... Багат
Мой вораг не стане ад нашай руіны,
Людзей і скаціну ў палон пажане,
У пусткі аберне ўсе вёскі краіны
Зьневажыць народ мой... мяне...
Ад веку складалі мы нашу дзяржаву
Без гвалту, паціху... з любоўю... бэз сьлёз
Далі ей парадак, багацьце і славу —
Свабоду наш сьцяг, а не кроў толькі нёс...

*Каралева Гэлена.*

Народ твой і будзе на векі свабодны.
Не муч так сябе, адпачынь і забудзь
Ліхія ўсе мары, страшэнныя збродні —
Масквы панявольнікаў рэха не чуць.

З ь я в а IV.

Тыя самыя і ганец ад Глінскага.

*Ганец каралю Аляксандру.*

Твой сьцяг развіваецца слаўна у полі,
Я сын тваей міласьці, слаўны Кароль,
Прынёс табе вестку аб шчасьці, аб волі...
Вось ліст прачытаць толькі зволь...

*(Падае Каралю ліст. Кароль чытае. Абліччa караля прасьветляецца усьмешка й радасьціі.*

*Кароль Аляксандр.*

Нас Божая праўда пабедай здарыла,
Ты сьвята сьвяткуеш мая старана...
Я рад за цябе, а цяпер і магіла,
Паверьце мне родныя, ўжо не страшна...

*(Кароль падае на пасьцель і умірае. Кругом плач).*

З а с л о н а.

З ь я в а V.

Глінскі вярнуўся з пачотам, але каралю Жыгімонту абгаварылі Глінскага. Старыя ворагі Глінскага — Забжэзінскія не даюць яму спакою і выклікаюць помсту. Ад рукі Глінскага падае род Забжэзінскіх, ворагі Глінскага яшчэ павялычіліся і Глінскі хочэ перадацца на старану Масквы.

*Глінскі (адзін).*

Да славы прывёў я сваей перамогай
Літву-Беларусь — сабе славу здабыў,
Аблыжнікаў род Забжэзінскіх дарогай
У царства Нірваны паслаў...
Ен згінуў. Прыяцель мне ворагам стаўся,
Німа мне спакою, прытулку і тут,
Я храбра за край свой з Масквою змагаўся;
А можа ў Маскве мне спакой той дадуць?..
Я з помстай за зьдзекі, зневагу і мукі
Варвуся ў абшары сваей стараны,
Рахункі звядуць тады моцныя рукі
С табой, Жыгімонце, усягды...

*Сам да сябе.*

Не траць же дарэмна ні воднай хвіліны
Хутчэй як мага ты ў Маскву уцекай,
Не цэняць цябе сыны роднай краіны,
Ацэніць ніхай чужы край...

*(Рашуча).*

З братамі і сёстрамі зараз зьбяруся,
Як сьвет мы ў дарозе апынімся ўраз —
Цяпер я нікога тут з вас не баюся...
А час разлічыцца мо прыдзе для нас...

З а с л о н а.

АКТ II.

Масква. Харомы Васіля III, цара Маскоўскага. Глінскі уцёкшый з Літвы зьяўляецца да цара Васіля III.

З ь я в а I.

*Цар Васіль і яго блізкіе.*

*Цар Васіль III.*

Не со́ладка мусі жывецца на сьвеце
Ліхім ваеводам Вялікай Літвы,
Шчэ нам не вядома з якой да нас мэтай
Прыбеглі тры Глінскіх браты.



*(Са сьмехам).*

Маскоўскіх князёў так Літва і не хоча
Прызнаць «Усей Русі» за цароў — нашых род.
Кароль Жыгімонт больш аб Польшчы клапоча,
Ужо запрадаў Беларускі народ...

З ь я в а II.

*Тыя і Глінскі.*

Паклон і пачот цару Русі Маскоўскай,
Даруй, што не ў пору мой будзе прыход...

*Цар Васіль (перебівае).*

Што новага нам ваевода Літоўскі
Сказаць ты прыйшоў, нам скажы напярод...

*Князь Глінскі.*

Здабыўшы і славу і чэсьць свайму краю
Зьневажыў мяне Жыгімонт, асабіста,
Табе, цар Маскоўскі кажу я і раю
Прыдаць да Масквы край Літоўскі усей чыста.

*Цар Васіль III.*

Народ стараны той свабодны, няволі
Ня вынесе пэўна, не скорыцца нам...
Ен марыць аб вечах, правох і аб долі...
А ў нас рукой цьвердай караецца хам.
Народ нам павінен плаціць акуратна
Падаткі і ў войсках бэз конца служыць,
Мы правім тут жорстка, сказаць мушу, здатна,
Літва-Беларусь не захочуць так жыць...

*Князь Глінскі.*

Пад новай навалай шчэ горш абеднее
Ад вечных пажараў суровай вайны
Народ Жэгімонтаў і стане цішэе...
Не трапь толькі сілы на спрэчкі адны.

*Цар Васіль III.*

Ты сілы іх знаеш і мейсца стаянак,
Ты мусіш нас сам на сваіх павясьці
Даліны і горы цьвятучых палянак
У шчэнт ўсе разбурыць, з дарогі знясьці...

*Князь Глінскі.*

Мне жорсткасьці хопіць на помсту за зьдзекі,
Рахункаў са мной Жыгімонт мае досьць...
Я ім адплачу, памяталі, каб векі...
Шчэ здольнасьць і сіла ў душы маей ёсьць...

*Цар Васіль III.*

Я згодзен... прыймаю твае прадлажэньня
Клянісь, што служыць ты мне будзеш як сьлед
Да поўнага мэт маіх жорсткіх зьдзейсненьня,
Праз многа, мо страшных, нечуваных лет...
Народ, гарады твае, горы, даліны,
Зраўнаю з зямлёю, усіх перабью,
Залью крывёй рэчкі, паля і лажбіны,
За тое, што «Русі» назову люблю...
Я мушу абшары злучыць ўсе з Масквою
І Русі вялікай назову ей даць,
Спрэчацца я буду цяпер тут з Літвою,
Патомныя мусяць ўсю рэштку забраць.

*Князь Глінскі.*

Я літасьці больш не адчую да краю
Адкуль я уцёк пад твой, цар, верны сьцяг...
Вось тут я прыцелёў толькі і маю,
Да помсты мяне прывядзе гэны шлях...

*Цар Васіль III.*

Ідзі і гатуйся, негайна варвацца
Ў абшары калісь тваей роднай страны...
Не сьмей нават думкай на ей затрымацца,
Бо згінеш за гэта у склепах турмы.
Хай вочы твае не убачаць ніколі
Ні сьвету, ні шчасьця народу твайго...
За думку аб краі — ты згінеш ў няволі,
Ідзі і руйнуй мне яго...

З а с л о н а.

З ь я в а III.

Прайшло пяць гадоў. Глінскі увайшоў у даверра цара Васіля III. Дачка брата Глінскага — Галена выйшла замуж за Васіля III.

*Цар Васіль III і царыца Галена.*

*Цар Васіль III.*

Твой дзяцька Міхась, роду Глінскіх апора
Пяць год таму мне абецаў пакарыць,
Пашырыўшы ўладу Масквы аж да мора
Літву-Беларусь «Усею Русьсю» зрабіць...
Хацелі мы Полацк, Смаленск, нават Вільно...
Аднак не судзіў нам таго тады Бог,
Разьбіў Жыгімонт нашы войскі магільна,
Я «згоду на век» падпісаць толькі змог.



*Царыца Галена.*

Пра дзяцьку ты Глінскага слова ліхога
Казаць не павінен, ён слова стрымаў —
Рабіў ўсё і робіць для царства чужога,
Так сама як там, кладзе сілы і клаў...

*Цар Васіль III.*

Ня ў гэтым спрэчацца з табой я жадаю,
Мая ты царыца, здаецца мне так,
Хоць шчэ я напэўна аб тым і не знаю —
Сумліву даецца пад час небарак...

*Царыца Галена.*

Сумленьня законы каму з нас вядомы,
Калі-б і будзілі ў ём думку аб тым,
Што здрадзіў свой край і згубіў ўсе харомы
Свае... не лічы гэна умыслам злым.
Забыць ўсе зьдзекі да нас Жыгімонта,
Не здолее горды дух Глінскага — не...
На помсту ён сілай ўладае Мамонта,
Не просьціць тут разам ён роднай Літве.

*Цар Васіль III.*

Я веру у клятву яго, абецанкі...
Не зьдзейсьненьня... кару-б такую нясьлі,
Што неба Пярун і зяханьне маланкі.
Ласкавей яму ад мяне бы былі. ..

З ь я в а IV.

*Тыя самыя і Глинскі.*

*Князь Глінскі.*

Здароў, Цар Маскоўскі ты славай, як марай
Ўкрываеш абшары славянскай зямлі.

*Цар Васіль III (угледаючысь у Глінскага).*

А ты што так сумны і ходзіш як хмара,
Мо біцца зноў помсты гадзіны прыйшлі...

*Князь Глінскі.*

Гатоў за Цара я ўсей Русі вялікай
Бэз конца змагацца, калі толькі хоч.

*Царыца Галена.*

Я ведаю справіцца з помстаю дзікай
Мой дзяцька не можа і дзенна і ноч...
Яму род варожы Літоўскай Дзяржавы
Да сьмерці спачынку не дасьць, як не мар...

*(Да Цара Васіля III).*

А царству твайму, ў яго поступе славы
Ты знайдзеш не мала сабе у ём, цар...

*Цар Васіль III.*

Мы «вечную згоду» з Літвой падпісалі...
Прайшло з таго часу ўсяго вось пяць год
А войскі мае ўжо не раз мне крычалі
Вайны хочам, славы... так хоча народ...
Я дам ім у гэтым напэўна свабоду,
Хай шырацъ на захад уладу маю,
Спрабую яшчэ Жыгімондаву роду
Патроху адчуць даць і помсту тваю...

*Князь Глінскі.*

Ў тваім распараджаньні, волі паслушны
Гатоў я служыць табе, Цар, да магілы —
Пакуль не астыг ва мне помсты дух чорны
І рукі досьць маюць адвагі і сілы.

*Цар Васіль III.*

Зьбірайся, ніхай адпачынку не мае
Твая старана, пакуль Глінскі жыве,
І так пяць гадоў Жыгімонд спачывае,
Пара нам даць бойку варожай Літве.

*Царыца Галена.*

Мо шчасьце на долю табе дастанецца,
Не так як таму гадоў пяць,
І княства Смаленскага Глінскі дабьецца,
Як здолее город той ўзяць...

*Князь Глінскі (да царыцы).*

Прыйміце за добрае слова падзяку
Мой чын, мае сілы належаць Маскве
У сэрцу маім не асталась і знаку
Ня толькі пачуцьця, сымпатый Літве..

З а с л о н а.

З ь я в а V.

Вайна пачалась. Страшэнныя бойкі пад Смаленскам і Воршай не далі перавагі Маскоўскім войскам. Астрожскі гнаў Маскоўскія войскі аж да Дарагабужа. Цар Васіль III злаваўся і шукаў рожных прычын для апраўданьня.



*Цар Васіль III (адзін).*

Ні славы і царства майго пашырэньня
Дабіўся я гэнаю цяжкай вайной,
Ганебна я змушан прасіць замірэньня,
Абшар майго царства зьменшаецца мной.
Астрожскі палону пазбавіўшысь, злосьці
Да царства Маскоўскага мае як сьлед.

*(Задумаўшысь на хвілю).*

А мо яго Глінскі вядзе ка мне ў госьці,
Раптоўны штось надта шлях гэных пабед.

*(Успамінаючы).*

Маркотны і сумны... так, так... не дарэмна
Быў Глінскі між намі ў апошніе дні. ..
Няўжо-ж адагрэў я на сэрцы нікчэмна
Яшчэ сабе ворага — досыць маны...
Даведацца зараз я мушу... павінен
Адказ мне даць страшны за гэту вайну
Князь Глінскі — адзін ён у гэтым і вінен,
Пакуль не даведаюсь, я не засну.
*(Зьяуляецца ганец з-пад Смаленска.)*

З ь я в а VI.

*Цар Васіль III і ганец.*

*Ганец.*

Дазволь мне, мой Цар, у суму прад табою
Усю праўду, хоць горкую тут далажыць,
Я стуль, дзе лежаць нашы трупы гарою,
Смаленска німа — ён ня будзе ўжо жыць...
І верных сыноў тваей слаўнай дружыны
Рука не дрыжэла ў час страшнай вайны,
Разьбіць літвіноў, гэтай думкай адзінай
Былі перапоўнены нашы сыны...
Ад жалю ня можна ўстрымаць было сьлёзы,
Там трыццаць мо тысяч ляжыць ваякоў.
Літвін, беларус і масковец, як крозы
Ляглі маладымі на векі вякоў...

*Цар Васіль III.*

А Глінскі, астаўся жывы, што ён робіць.
Дзе войскі яго, абяцанкі, ён сам...

*Ганец.*

Ен нашэ Маскоўскае сэрца і злобіць,
Паслухай, што бачыў я там...

*(Украдчыва).*

Як толькі што скончылась бойка і поле
Пакрыла густая ноч цемры і цень...
Шалёна сярод гэных трупаў аб долі
Князь Глінскі тут марыў, прысеўшы на пень...
Сэрдэчная скруха яго агарнула,
Ен плакаў, маліўся, прашчэньня прасіў
За сьмерць тут палеглых... Душа яго чула
Сьвяты абавязак да краю, дзе жыў...
І многа сьлёз горкіх тэй скрухі сэрдэчнай,
Упаўшы на труп, ў тую ноч ён праліў...
Ен мучыўся здрадай і караю вечнай
Забыць Жыгімонта пра здраду прасіў...

*Цар Васіль III (абурана).*

Ты лжэш, Глінскі клятвы нарушыць не сьмее?
За здраду адкажа ён мне галавой!..
Шчэ сонца зыйсьці над Масквой не здалее,
Як ён пазнаёміцца з нашай турмой...

*Ганец.*

Я бачыў сваімі вачама ўсё тое,
Што, Цар мой вялікі, табе гавару...
Я чуў яго споведзь... ён быў сам з сабою
Я быў там за дрэвам у тую пару...
Маліў родны край ён забыць яго здраду,
Вярнуцца хацеў бы ў Літоўскі абшар...

*( Пауза).*

Прыказу мы жджэм, ты дасі мусі раду,
Як вывясьці здраду з Масквы хутка, Цар...

З ь я в а VII.

Цар Васіль III бье у далоні і клічэ прыказнага дзяка. Тыя самыя і прыказны дзяк.

*Цар Васіль III.*

Дарэмна, не трацячы воднай хвіліны
Пішы маім войскам суровы прыказ:
Прыслаць із паходу мне Глінскага зараз,
Пакуль не згубіў сваей здрадаю нас...

(са злосьцю)

Закуйце ў кайданы, ў турму пасадзіце,
Каб сьвету да сьмерці не бачыў ўжо ён!..
Мо нават і вочы яму адбярыце,
Каб здрада вісела над ім, як праклён.



*(З задаволенасьцю)*

Не лёгка з Масквы уцячы зноў да дому...
Мы здрайцу не выпусьцім з нашых акоў...

*(З усмешкай злой)*

Глядзець ты не будзеш больш ў вочы другому.
Асьлепнеш за здраду ..

*Прыказны дзяк.*

Прыказ ўжо гатоў...

Не зойдзе і сонцэ яшчо над Масквою
Князь Глінскі ў кайданах апыніцца тут.

*Цар Васіль III.*

Ідзі і рабі маей ўласнай рукою
Хутчэй, як мага ты яго раздабудзь...

З а с л о н а.

## АКТ III.

У глухім склепе пад зямлёй, куды ніколі не сягаў промень сонца, дзе вечна сьвеціў толькі сьвет газоўкі, з кайданамі на руках і нагах і шыі сядзеў слаўны князь Глінскі.

Астаткі сівых кучаравых валос у бэзпарадку падалі на старое чало; сядзеў ён абапершыся на далонь галавою і думкамі жыў у мінуўшчыне. Часам у цішы ночы званіў ланцугамі і цяжка, стогнучы, уздыхаў.

Пры ім неадступна у вастрозе сядзела цудоўнай пекнаты дачка Глінскага, якая у афяру айца пахавала у турме разам з ім сваю маладасьць і шчасьця. Роскаш палацаў замяніла ёй магільная цемра вастрога.

*Князь Глінскі і дачка.*

*Дачка.*

Ці доўга ты стогнучы ліць будзеш сьлёзы.
Не жалься на долю і сум свой забудзь...
Быць можа астатак жыцьця нешчасьлівы,
Бурэньня мінулага, хвалі душы,
Ты скончыш, як верны сын роднай краіны,
Ў абшарах зямелькі сваей, ў цішы...

*Князь Глінскі.*

На роднай зямлі?.. не!.. не мне пацешацца
Надзеяй сьвятога, мінулага мар...
На векі павінен, на векі застацца
Я мушу ў вастрозе... Хоць сэрца пожар

Пакуты суменьня нутро мае гложа, —
Агідным я сам сабе стаўся даўно...
Ніхто мне на сьвеце, ніхто не паможа...
Я сьмерці жадаю... засталась адно...

*(Успамінаючы).*

Да славы гарэў я бурлівай душою,
Ў вайне за палякаў яе я дастаў,
Змагаўся з мангольскаю дзікай ардою...
Народ мяне з чэсьцю і славай спаткаў...
Кароль Аляксандр быў мне другам сэрдэчным,
Я быў пры двары яго лепшым з усіх,
Яму я пакляўся у вернасьці вечнай,
Баюсь я і успомніць аб дзеях такіх.
Аддаўшысь варожасьці жорсткай душою,
Памсьціцца я моцна тады захацеў, —
І род Забжэзінскіх зьнік ноччу адною...
Трымацца ў Літве я ўсё-ж больш не здалеў.
Тут думка ліхая ва мне загорэлась,
Кароль Аляксандр, як на зло мне памёр,
А род Жэгімонда поціху, нясьмела
Здрадлівую думку далей мне ўсё пёр.. .

*(Паўза).*

Я здолеў варвацца з чужою дружынай,
Ў абшары, мне роднай, Літвы дарагой,
І знатная здрада праклятага сына
Зусім адурыла тады розум мой.

*Дачка.*

Ўспамінаў ня трэба, ты цяжкаю мукай
Сабе тут прашчэньня навекі здабыў,
Вастрог твой сыры, з тваім краям разлука,
Не скажуць табе, што ты іх не любіў

*Князь Глінскі (са стогнам).*

Гадоў ужо дзесяць я мучаюсь цяжка
Ні бачу ні сьвету ні блізкіх людзей...
Ні бачу цябе мая мілая пташка,
Усьмеху твайго, тваіх пекных вачэй...

*(Паўза).*

Нашто ім патрэбны былі мае вочы.
Ніхай бы ў жыцьці сваім раз хоць адзін
Я зоры абачыў бы роднае ночы. ..
Яшчэ хоць адзін раз... адзін... здрадны сын...



*Дачка.*

На Бога надзейся, адзін толькі мае
Ен літасьць над намі, настане мо час,
Мы вернемся з ласкі Яго... не ўтрымае
Тагды і Маскоўскі цар нас...

*Князь Глінскі.*

Лет дзесяць жыву я ў магіле халоднай,
Ні зьвезды, ні сонца ня сьвецяць тут мне,
Сумую пахмура душою нягоднай
І думкай у роднай жыву старане...
Што час, то слабею ў патрачаных сілах,
Чуць сэрца варушыцца, голас нямее,
Памалу кроў льецца халодная ў жылах,
І сьмерць набліжаецца... шлях карацее...

*Дачка.*

Ты жыць яшчэ будзеш і я тут з табою
Наколькі мне хопіць шчэ сіл маладых,
Я цешыць жыцьце твае буду сабою...
Мы вернемся шчэ да палацаў сваіх...

*Князь Глінскі.*

Дачка ты мая, над труной прычытая,
І кінуўшы попелу шчопаць зямлі,
Хутчэй, дружа юны, бяжы з таго краю...
Ад мілай старонкі жыць цяжка ў далі.
Свабодны народ наш, падзеямі слаўны,
Даўно ўсім вядомы ў далёкіх краёх.
Памылкі нешчасных бацкоў сваенраўных,
Не помсьціць на іхніх дзяцёх...
Край мілы а бачыш, і сэрца ўсе страты
Гадоў маладых, мо дасьць Бог, і зьвярнеш –
І вежы і цэрквы... ўсе прадкаў палаты,
Магілак сьвятых, родных сэрцу дапнеш...
Бацькоў праклінаючы, дочку прыхільна
Сустрэнуць мо роднай старонкі сыны,
І скончыш жыцьцё ты у міламу Вільні
Ў абшарах сваёй стараны...

*(Паўза).*

Хай лёс мой напоўнен і сумам і мукай,
Як прыклад застанецца роднай зямлі,
І будзе патомным пры здрадзе парукай,
Што помста пакою людзям не дае...
Хай бачаць на мне ўсе браты дарагія,

Што рана, ці позна, а здрада нясецъ
Страшэнныя сэрцу праклёны ліхія...
І сэрца сумленьне згрызецъ...
Даволі...

Склеп аглашае цяжкі стогн Глінскага і ён упаўшы на даччыны грудзі памер.

*Дачка (плачучы).*

Так бацька, муж думкі, адважны ваяка
Загінуў ў чужыне, як злодзей ліхі,
Ен варт быў пачоту і славы нязьмернай,
А лёс яму даў вось канчатак які.

*Плачэ і лашчыць голаву бацькі.*

Заслона.

2. II. 1923 г.
Коўна.

**П. Зніч.**

---

## РЭХА.

Калі мне рэха адзавецца,
Я чую лепш сябе, жыву...
Мацней у грудзях сэрца бьецца —
І сьмела я у сьвет плыву...

Калі пачую чалавека,
Ён слова скажа мне з душой —
Прэч адыходзіць небэзпэка,
Німа і страху прада мной.

Каліж народ мой адгукнецца —
І скажа мне ідзі сьмялей...
Тады, браты мае, здаецца
І мора пойдзе за гарой.

*К.*

# ГІСТОРЫЯ БЕЛАРУСКАЙ КНІГІ.

Гісторыя белорускай кнігі надзвычайна цікава і трагічна. Географічнае паложэньне Беларусі на рубяжу паміж каталіцкім Заходам і праваслаўным Усходам, было прычынай трагэдыі беларускай кнігі. З аднальковым барбарствам і жорсткасьцю, на працягу больш 300 гадоў нішчыліся беларускія кнігі каталіцкай Эўропай, у асобе Польшчы, як схызматычныя, і праваслаўным Усходам, у осабе Расеі, як вуніяцкія. Барацьба паміж Расеяй і Польшачй вялась за беларускую тэрыторыю у мэтах прыедананьня яе да сваей дзержавы і разам з тым, як-бы незнарок, па дарозе, нішчыліся усе гістарычныя памяткі незалежнай беларускай культуры з тым, каб удасканаліць своё права валаданьня на гэтых землях. Беларускія арыгіналы судовых законаў, літэратуры і мастацтва нішчыліся, а на іх мейсца даваліся тыя самыя творы у перэкладзе на польскую, аль-бо расейскую мову.

З утратай палітычнай незалежнасьці Беларусь траціла і культурныя здабыткі, якія гвалтоўнікі на міжнарадовам рынку выкарыстовывалі, як свае уласныя. Трудна пералічыць усе запазычаньня з Беларускай культуры у польскай, альбо расейскай мове, але самы факт запазычэньня сьведчыць аб тым, што культура Беларуска-Літоўскага Княжства зьявілась на ўсходзе раней, ніж іншые.

Гісторыю беларускай кнігі можна раздзяліць на пяць галоўных пэрыадаў:

1. Рукапісны пэрыад, пачынаючи ад XII стагоддзя да кнігадрукаў 1483 г.
2. Друкарскі пэрыад — росквіту кнігі ад 1483 г. да 1569 г.
3. Занепад — ад 1569 г. (Люблінская вунія) і асабліва — з 1697 г. (Забарона беларускага друкаванага слова) да 1790 г.
4. Пэрыад адражэньня ад 1790 г. да 1917 г. і
5. Новы пэрыад ад 1917 г. да сучаснай пары.

## РУКАПІСНЫ ПЭРЫАД.

Калі прышло хрысьцянства на Беларусь, пэўных данных не маецца. Есьць выпадковыя весткі, што, дзякуючы торговаму шляху «З Вараг у Грэкі» яно прыйшло сюды ужо у IX стагоддзі. Бэз-

пярэчна можна сказаць, што хрысьцянства на Беларусі не было ужо навіной у часы хрышчэньня Уладзіміра (988 г.).

Знаходзячаяся у выгнанстве жонка Уладзіміра — Палачанка Рагнеда, як вядома пражывала са сваім сынам у Ізьяславе, каля Менска.

Жаданьне Уладзіміра, ня толькі развязацца са сваей праступнай жонкай, але і злучыць у рэлігійнам адношэньні зямлю Полацкую з зямлёй — Кіеўскай, прымусіла Уладзіміра прысдаць паслоў да Рагнеды з прапазыцыей: «Аз убо ныне крэщон есьм і прыях веру і закон христиански; подобает мне едіну имети жену, юже поял в христианстве, избери себе от вельмож моих, его-же хошчэши, да сочетаю тя ему».

Гордая Полочанка адказала з гонарам: «Быв Княгинею могу ли быть рабою у слуги твоего».

Пасля гэтага новымі пасламі было запрапанована Рагнедзе прыняць хрысьцянства. Зусім спакойна, з чаго відаць, што гэта не было навіной для Рагнеды, яна згаджаецца на прыняцьце хрысьцянства і нават, каб аканчальна развязаць рукі Уладзіміру прыймае манашэскі пострыг, пад імянем Анастазыі і перраходзіць на жыцьцё у манастыр, дзе і жыве да самай сваей смерці у 1000 г.

Хрысьцянства павялічывае спрос на рэлігійную кнігу. Праўда, кніжнай справай пакуль што займаюцца толькі вярхі, амаль выключна вучоныя манахі, а кнігасховамі зьяўляюцца манастыры. Аднак адсюль некаторы сьвет новай навукі перэдаецца і у народ.

Беларусь тых часоў, асабліва XII стагоддзя, дала трох яскравых прэдстаўнікаў беларускай навукі. У Полацку, як цэнтру Княжства — Прэдславу — Афросіньню Палацкую, як перапішчицу і збіральніцу кніг і на пэрыфэрыях — у Смаленску — Клімэнта Смалятіча і у Тураве — Кірыла Тураўскага.

Прэдслава — Афросіньня, Княгіня Полацкая, унучка вядомага Князя Чарадзея — Усеслава Браті́слаўіча, не гледзячы на сваю пекнату, адмаўляецца ад выхаду замуж і патаемна бяжыць у манастыр, дзе становіцца прагавітай перапісчыцай кніг св. пісьма і збіральніцэй апошніх.

Мейсца яе працы было мейсцам распаусюджэньня кніг і прасьветы на усё Княжства Полацкае. Манастыр Афрасіньні Полацкай быў першым кнігасховам на Беларусі.

Адначасна з Афрасіньней Полацкай жыў на поўначы Беларусі, выдатны вучоны XII веку Клімэнт Смалятіч у Смаленску. Летапісец аб Смалятічу гаварыў так: «Это был кніжнік, какого не было на всей Руси». Жыў Клімэнт Смалятіч у манастыру, але больш быў вучоным, чым манахам. У яго бібліатэцы, апрача кніг — св. пісьма, былі і цывільныя кнігі грэцкіх класікаў — Гомэра, Платона і Арыстотэля.

Другім сучаснікам зьяўляўся на поўдню Беларусі, у Тураве — Кірыл Тураўскі. Гэта быў беларускі Златауст. Назова гэта застаецца



за ім і да сягоньняшняга дню. Яго казаньні сьведчаць аб шырокам знаёмстве са ўсей літэратурай таго часу.

Пералік гэтых асоб сьведчыць аб высокам культурнам ўзроўне Беларусі XII веку. Вучоныя манахі і манастыры групавалі каля себе ня толькі усю інтэлігэнцыю таго часу, але і усю прадукцыю беларускай кнігі.

Да нас дайшлі і гістарычныя запісы аб гэтым. Так, у 1180 г. у Смаленску была школа з выкладаньнем на грэцкай і лацінскай мове, якая мела бібліатэку больш 1000 рукапісных кніг.

(Н. Нікольскій «О литературных трудах Климента Смолятича писателя XII века». С-ПБ. 1892 г.; Лавровскій — «О Древне-русских училищах». Харьков 1854 г., стр. 49—50; Голубовскій — «Исторія Смоленской земли до конца XV столѣтія —стр. 244—254).

Смаленскі князь Расьціслаў Мсьціслававіч (1125—1159 г.) зьбіраў з усіх бакоў лацінскія і грэцкія рукапісы і меў пры сабе перэкладчыкаў і перапішчыкаў старой мудрасьці. (В. Вороновскій. «Отечественная война 1812 г. в предѣлах Смоленской губерніи» С-ПБ. 1912 г. стр. 40).

У цэлам шэрагу манастыроў: Чэснага Крыжу, Багародіцкам, Селішчанскам гісторыкі знаходзяць сьляды існаваньня вялікіх бібліатэк. (Н. Редков «Преподобный Авраамій Смоленскій і его житіе» — Смоленск 1909 г. стр. 40—41).

Усе гэтыя багацьця бібліатэк у большасьці загінулі у несканчаемых войнах з Польшчай і Масквой, а больш цэнныя кнігі вывезяны на чужыну.

Рукапісны пэрыяд носіць характар стара-славянскага пісьма з некаторымі мяйсцовымі асаблівасьцямі, што мы бачым з дайшоўшых да нас рукапісаў і кніг, асабліва належачых народнай творчасьці.

Да ліку такіх адносіцца «Смаленская леэгнда аб св. Мэркурыі XIII веку. Гэтай легенды мы маем 4 рэдакцыі: 1. Народнай вэрсыі, 2. Лірычнай у царкоўных вершах і кантах, 3. Літэратурнай, якая увайшла у Макарьеўскія Чэцьі-Мінэі і 4. Народнага паходжэньня, запісаная у пазнейшую эпоху у «Кніге глаголемой о россійских сьвятых».

(Буслаев «Смоленская легенда о св. Меркуріи і Ростовская о Петрѣ Царевичѣ Ордынском». «Древне-русская народная литература и искусство». С-ПБ. 1861 г. Народная рэдакцыя прыведзяна у «Синодальном цвѣтникѣ Жюлева» 1665 г. № 908).

## КНІГАДРУК.

Друкованая кніга зьяўляецца на Беларусі у 1483 г., праз 27 гадоў пасля вынахаду Гутэнбэрга. Варункі у самай Беларусі для друку кніг былі не зусім спрыяючыя і першая друкаваная беларуская кніга зьяўляецца з гэтае прычыны не на беларускай зямлі, а у Кракаве, дзе выдавец Шпайгольт Фіоль меў сваю друкарню, раней поль-

скай на 22 гады. (Польская 1505 г.) У 1483 г. выйшла кніга «Цветная Тріодь», а праз 8 лет у 1492 г. — «Октоіх».

Першая руская друкаваная кніга — «Апостол» выйшла на 90 гадоў пазней беларускай (1573 г.), а першая друкарня у Маскве заснавана у 1563 г., на 80 гадоў пазней беларускай.

Кракаускі беларускі кнігадрук скончыўся досыць сумна. Друкарня была разбурана каталіцкім духавенствам, а першы друкар панёс жорсткую кару.

Аднак, думка аб друкаванай беларускай кнізе не выходзіла з галавы новых наступнікаў. У 1517 г. мы бачым Доктара вызваленых навук, Францішка Скарыну за працай друку Бібліі на беларускай мове у Празе Чэшскай.

За тры гады 1517—1519 Скарыной было надрукавана 22 кнігі Старога закону.

Як першую друкаваную кнігу — «Цветную-Тріодь», так і «Біблію», на беларускай мове дала нам заграніца.

Узмацаваньне на Беларусі і Літве улады Князя Вітаўта і незалежная палітыка яго княжэньня, таксама як і яго наступнікаў, далі мажлівасьць Скарыне перанясьці сваю друкарскую працу з Прагі у родную Вільню.

У 1525 г. выходкіць з друкарні Скарыны ужо першая кніга на роднай зямлі — «Малая падарожная кніжыца», у якую увайшлі — Псалтыр з Пражскай Бібліі, Часасловец, Акафісты, Шастаднёў і Сьвятцы.

25 сакавіка 1925 г. у дзень выхаду першай кнігі у Вільні Беларусь сьвяткавала 400 летні юбілей друкаванага беларускага слова.

Шырокай хваляй кнігадрук распаўсюджыўся па ўсей Беларусі. Зьявіліся друкарні v Вільні, Полацку, Менску, Магілёве, Несвіжу, Любчы, Заславлю, Слуцку, Пінску, Заблудаве, Супраслю, Еўе, Куцеянску, Горадні, Буйніцку і інш.

(У. Ігнатоускі. «Кароткі нарыс гісторыі Беларусі», выд. 2., Вільня 1921 г., бал. 65).

Гэта быў расцвет беларускай культуры і кніжнай прадукцыі. Кнігі шырака разыходзіліcь па Беларусі і перакідаліcь у суседнія славянскія і неславянскія краіны. Але гісторыя гатавала цяжкі удар развіцьцю беларускай культуры. Дзесяць разоў прапанаваная Польшчай вунія, пачынаючы з дынастычнай вуніі Ягайла у 1386 г., нарэшце у 1569 г. у Любліне, супроць волі беларускага народу і ўсяго баярства была падпісана.

## ЛЮБЛІНСКАЯ ВУНІЯ І ЗАНЕПАД.

Ні прозьбы, ні пагрозы і нават слёзы беларускіх паслоў і вяльмож не папярэдзілі падпісаньня гэтага шкоднага па сваім наследствам і ганебнага акту. Жыгімонд III. Аугуст, баючыся са спыненьнем дынастыі Ягайлавічаў, (Ен быў бяздзетны), аддзяленьня Беларуска-Літоускага Княжства ад Польшчы, прымусіў 1 ліпеня 1569 г.



падпісаць вунію. Вунія шырака разчыняла дзьверы польскаму уплыву, які пачаў ажываць разам з каталіцтвам, пасля Трыдэнскага Сабору.

На барацьбу з рэфарматарствам пачатку XVI веку былі адразу, пасля падпісанія вуніі, запрошаны Іезуіты, якія у ліку пяці чалавек і убытаваліся у Вільні, дзе адчынілі добра пастаулянўю іезуіцкую школу.

Рэфармізм перакінуты з Нямеччыны на Беларусь, меў даволі шырокае распаўсюджаньне. Беларуская шляхта на чале з Радзівілам Чорным захапілась кальвінізмам, а мешчанства — рэфарматарствам.

Народныя масы былі зусім не закрануты і заставаліcь у сваей старой праваслаўнай веры.

З кальвінізмам і рэфарматарствам Іезуіты справілісь хутка і ужо дзеці самых заўзятых староннікаў рэфарматарства, пад уплывам іезуітскіх школ, сталі запраўднымі паборнікамі каталіцызму. Прыкладам можа служыць сын Радзівіла Чорнага — Мікалай Сіротка, які у сваім рэнэгатстве дайшоў да таго, што страціў больш пяці тысяч злотых, каб знайсьці Біблію выданую яго бацькам і спаліць яе ўласнаручна.

Рэфарматарства само у сабе крыла і нацыянальную барацьбу, як спосаб выйсьці з пад уплыву Рыма і Польшчы. Ідэйнымі прэдстаўнікамі яго былі на Беларусі — Сымон Будны і Васіль Цяпінскі. Першы напісаў на беларускай мове катэхізіс, а другі перэклаў на беларускую мову і выдаў Эвангелью.

У прадмове да Эвангеліі Цяпінскі яскрава адзначыў гэту нацыянальную барацьбу, калі пісаў: «Некоторые із беларусов у польскіе школы, або у іншыя сябе і дзеці свае бэз встыду заправуюць».

Гэты пэрыяд адзначыўся досыць вялікім нішчэньнем беларускіх кніг. Кожны рэнэгат, па прыкладу Мікалая Радзівіла Сіроткі, стараўся выявіць сваю адданасьць новай рэлігіі нішчэньнем таго, чаму яшчэ учора кланяўся. Перш за усё, разумеецца, цярпела кніга.

Досыць лёгкая барацьба з рэфарматарствам не задаволіла Іезуітаў, так як слабавольная шляхта асаблівага інтэрасу для іх не выяўляла. Важна было захапіць масы, з гэтай мэтай яны засноуваюць цэлы шэраг іезуітскіх школ у Полацку, Смаленску, Несвіжу, Мсціславлю, Вітэбску, Менску, Магілёву і інш.

У самай Вільні захапліваюць у свое рукі Іванаўскі касьцёл, абстаўляюць яго асаблівай роскашшу, заводзяць самы лепшы арган, які і да гэтае пары зьяўляецца гордасьцю Вільні і музыкай і пышнай Багаслужбай заманіваюць просты народ.

Аднак, не маючы пасьпеху і тут, шукаюць староннікаў сярод праваслаўнага беларускага духавенства і падгатауляюць грунт да царкоўнай вуніі.

Япіскап Луцкі — Кірыла Тэрлецкі і Уладзімірскі — Іпат Пацей, са згоды Кіеўскага Мітрапаліта Міхала Рагозы, самавольна падпісываюць акт вуніі і з ім едуць на паклон да Папы у Рым. Папа

Клімэнт VIII, узрадаваўшысь, благаславіў вунію і прыказаў выбіць прэдчасна мэдаль, з надпісам: «Ruthenis Receptis» а Жыгімонд III. выдаў дэкрэт аб злучэньні царквы.

Аднак уплыў старой беларускай культуры перамог і гэту здраду. Не гледзячы на надзвычайныя зусільля Польшчы у паланізатарскам напрямку, да якого далучаліcь вярхі беларускага баярства і нават духавенства — усё заставалась па старому і беларуская мова займала пануючае становішча, як мова дзержаўная.

У гэты самы час выдаецца трохразова на беларускай мове Статут Вялікага Княжства Беларуска-Літоўскага, які поўнасьцю захоўвае стара-рускія гуманныя традыцыі. Першае, самае поўнае выданьне выйшла у 1529 г., другое — у 1566 і трэцяе, нават пасля Люблінскай вуніі — у 1588 г.

Польшча, афіцыяльна не выступаючы яшчэ супраць беларускай мовы і культуры, стараецца ўнутранна прышчапіць польскую культуру і у гэтай барацьбе накіроўвае усе свое сілы на нішчэньне старажытных помнікаў беларускай культуры.

У сваем падліку, я не буду застанауліваццa на стыхійных нішчэньнях беларускіх кніг у часы неспыняючыхся войнаў з Масквой і Польшчай. Не буду лічыць загінуўшых ад умыслова, ці неумыслова адбыўшыхся пажараў. Не буду, нават, датыкацца і трафэяў вайны, вывезяных пераможцамі у Варшаву, ці Маскву.

Застанаўлюсь выключна на арганізаванам барбарстве — нішчэньня беларускіх кніг афіцыйнымі распараджэньнямі, як духоўнай так і цывільнай улады, да цароў і каралёў уключна.

Самымі прагавітымі вандаламі у нішчэньні і паленьні беларускіх кніг пакрыўшых сябе незмываемай ганьбай, былі тры каталіцкіх біскупа — Валерьян Пратасевіч, Рыгор Радзівіл і Грахоўскі.

Інквіцыцыя, заведзяная на Беларусі на 43 гады раней Гішпанскай, паліла публічна на вогнішчах разам з людзьмі і беларускія кнігі. Для большага эфекту такое паленьне заўжды адбывалася пры асаблівай урачыстасьці.

Першае публічнае паленьне кніг адбылося у 1581 г. перад самым сьвятам Вялікадня. У Вільні, у самым цэнтру гораду, на адным з пляцоў была вырыта аграмадная яма, куды звалілі два вазы, прывезяных параю коней, кніг. Шырыні і глыбіні ямы вочавідзец не паказывае, так як блізка да яе стража нікога не пускала. Над зямлёй же кнігі ўзвышаліcь на тры локці. (T. Narbut» Teodora Narbuta pomniejsze pisma historyczne». 1856 г.). Ксёндз Фэрдынанд Копэцкі, акружаны Іезуітамі, сказаў, адпавядаючую часу, гарачую прамову і кнігі, пераложаныя саломай і дровамі, былі урачыста падпаляны смалянымі факеламі. Гарэлі кнігі з ранку да самага вечару і толькі вялікі дождж перашкодзіў народнаму забурэньню і папярэдзіў рэлігійную бойку.

З гэтага часу і пачалося арганізаванае нішчэньне беларускіх кніг. Галоўнымі кіраўнікамі у гэтай справе былі — Іезуіты, Дамініканцы і Базыльяне. Гэна барбарства трывала амаль поўнасьцю Два



стагоддзья і колькі было знішчана кніг і дакумэнтаў не надаецца падліку і нікому не вядома, так як сляды гэтага барбарства старанна замяталіcь.

Апрача яўнага нішчэньня кніг прымяняліcь і іншыя спосабы іх адбіраньня ад беларускага жыхарства і праваслаўнага духавенства. Так, у 1590 г. староннікамі абьедналньня царквоў была вынясяна абавязковая пастанова для усіх праваслаўных Епіскопаў Вялікага Княжства Беларуска-Літоўскага прывязці на Сабор 1591 г. — «Все привилеи и фундуши и листы на всякия наданьня и о том обмыслити и постановити, где то ховано быти мает» (Акты Западной Россіи 4. № 25; Витебская Старина т. IV ч. I. стр. 91.).

Разумеецца, усе гэтыя дакумэнты былі забраны і знішчаны.

Зьявіўшысь у 1608 г. у Воршу, Іезуіты адабралі ва ўсіх жыхароў гораду кнігі, маючыя процікаталіцкі характар. (И. Митрошэнко «Іезуіты Восточной части Белоруссіи» стр. 56.).

У 1610 г. Іезуіты дабіваюцца у гэтым напрамку дэкрэту Караля Жыгімонда III., якім забараняецца пад страхам кары у 5.000 злотых купляць, альбо прадаваць кнігі, друкаваныя па беларуску у Віленскіх друкарнях і прапануецца паліць іх таму, што, быццам-бы, у іх зьмяшчаюцца пасквілі на духоўную і цывільную уладу. (Акты изданные Віл. Орхеогр. Ком. VIII. № 44—45).

Той жа самы Жыгімонд III., пры здабыцьці Смаленску, прыказаў узарваць Смаленскі Катэдральны Сабор, пабудованы у 1101 г., пад руінамі якога загінула і цэнная бібліатэка. (М. Аксенов «Очеркі» стр. 76—77 і 104).

У час навалы на Беларусь Маскоўскага цара Аляксея Міхайлавіча у Полацку, Вітэбску, Воршы і Магілёве было знішчана 36 манастыроў і касьцёлаў, дзе загінула многа дакумэнтау і кніг (И. Митрошэнко, «Іезуіты восточной части Белоруссіи с 1579 по 1772 г.», «Полоцко-Витебская Старина, Витебск. 1912 г. II., стр. 56».

Многа кніг і дакумэнтаў вывезяна у Швэцыю, пасля адбітага паходу Караля Густава у 1665 г. Тадыж была вывезяна у Швэцыю і частка Літоўскай Мэтрыкі. (Акты изд. Віл. Орхеогр. Ком. Вильна 1909 г., т. XXXIV. № 178).

У час Андрусаўскага перамірра 1669 г. Ордын-Нащокіным было вывезяна 210 кніг (С. Бѣлокуров «О библіотеке Московских Государей в XVI столѣтіи. 1899 г. Москва, стр. 35—36).

Прыказ Аляксея Міхайлавіча 1672 г. Ваяводзе Перамышльскаму адабраць ад жыхарства усе кнігі і дакумэнты (Н. Оглоблін «К истоpіи гоненій на Литовскія кнігі в XVII векѣ»).

Пры тым-жа, Аляксею Міхайлавічу, у часы Патрыяршаства Філарэта, быў выданы прыказ усім Ваяводам, каб кнігі «Литовской печати» якія папалі у Маскоўскае царства «Собирати на пожарех сжечь, чтобы та ересть и смута в мире не была». (Акты Московскаго государства, С-ПБ. 1890 г. I. стр. 24 № 201).

Польскі кароль Ян III. у 1764 г. забараняе ўвоз гэрэтычных і дысідэнскіх (разумеецца, беларускіх) кніг у Вільню і дае прыказ

Біскупу, Ваеводзе і Магістрату адбіраць такія у жыхароў. (Акты изд. Вил. Орхеогр. Ком. X. № 16).

У 1708 г., па прыказу Пятра I., быў спаляны да шчэнту горад Магілёў, пасля рабунку яго Калмыкамі. У пажарышчы загінулі усе старыя дакумэнты, рукапісы і кнігі, якія былі у горадзе. (Магилевскія Епархіальныя Вѣдомости 1885 г. № 4 і 1889 г. № 8).

У 1720 г. распараджэньнем Маскоўскіх улад было прыказана: «В монастырях смотреть и забирать древнія жалованыя грамоты и другія куриозныя письма, книги историческия, рукописныя и печатныя потребныя к известию» (И. Данилов. Правительственныя распоряжения относительно Отечественной древности с Императора Петра I., особенно в царствование Александра II. Вѣстник Археологии и Исторіи С-ПБ. 1886 г. вып. IV.).

У 1791 г. Кацярына II дапаручыла Мусіну-Пушкіну сабраць са ўсіх бібліятэк тагачаснай Расеі старадаўныя кнігі, дакумэнты і рукапісы, якія передала у Архіў Пецярбургскага Сіноду. (Описаніе рукописей хранящихся в Архиве Св. Прав. Синода т. I. С-ПБ. 1904 г. стр. VII).

Розыск старадаўных кніг для Кацярыны II. быў паўторна зробляны у 1794 г.) Розыск Западно-русских летописей для Императрицы Екатерина II. Древняя и Новая Россія 1880 г. № 4.).

У 1795 г., пасля раздзелу і прылучэньня усей Беларусі да Расеі, была вывезяна у Пецярбург Літоўская метрыка, з якой, да 1200 кніг і каля 1500 асобных дакумэнтаў было перэдана, не вядома чаму, Прусам, а застаўшыяся распрадзеляны паміж Архіваў рожных Міністэрстваў. (Памятная книга Сенатскаго Архива — С-ПБ. 1913 г. стр. 23—24; I. Янчук. Нарысы па гісторыі беларускае літэратуры. Менск 1922 г. бал. 61—62.: Иконников — Опыт русской истроіи I. стр. 464—465).

У часы французскай навалы у 1812 г. бібліятэкай Слуцкай Духоўнай Сэмінарыі Троіцкага манастыру французы тапілі печы і варылі сабе страву. (В. Краснянскій — Минскій Департамент Великаго Княжества Литовскаго С-ПБ. 1902 г. стр. 69).

Пасля захопленьня Смаленску у будынку Смаленскай Духоўнай Сэмінарыі быў змешчаны французскі шпіталь, а бібліятэка Сэмінарыі была выкінута на вуліцу. У ліку выкінутых кніг потым знайшлі і старажытнае Воршанскае Евангельле, напісанае на пэргамэнце у XIII веку і пераданае потым у Музэй Кіеўскай Духоўнай Акадэміі. (П. Пылаев. Описаніе пергаментнаго Евангелія, хранящагося в Музеѣ, состоящем при Кіевской Духовной Академіи. Труды Кіевской Духовной Академіи 1876 г. № 12.— приложеніе, стр. 1).

Пасля зачыненьня Полацкай Іезуіцкай Акадэміі, бібліятэка яе была перэдана у 1822 г. — Піарам. Спісак паказываў 14.000 сшыткаў але іх аказалась 23.561, з якіх поўных твораў было 19.572 і раскіданых 3.979. Пасля таго, як Піары былі выгнаны з Полацку, руская улада забрала гэты багацьця і разбіла на 6 катэгорый.

Полацкаму Корпусу было перэдана 2.080 кніг, Пецярбургскай



публічнай бібліятэцы дасталася 177, хаця было паслана 389, Пецярбургскаму Унівэрсытэту 6.260, Маскоўскаму 454 і Вітэбскай гімназыі — 2.619. (В. П. Викентьев. Полоцкій Кадетскій Корпус, Полоцк, 1910 г. стр. 43—44.; Императорская Публічная бібліотека за сто лѣт. С-ПБ. 1914 г. стр. 107).

У 1832 г. быў зачыняны Віленскі Унівэрсытэт. Яго бібліятэка у 1835 г. у ліку 3.000 тамоў была перэдана Харкаўскаму Унівэрсытэту, 7.554 — Кіеўскаму, рукапісы — Пецярбургскай публічнай бібліятэцы, а гістарычныя дакумэнты і рукапісы — Пецярбургскай Орхеографічнай Камісыі. (Иконников. Опыт русской исторіографіи, I, II, — стр. 936—994).

Распараджэння Мікалая I. 1837 г. зноў датыкающца збіраньня і адсылкі грамат і рэдкіх рукапісаў з беларускіх гарадоў і музэяў у Пецярбургскую Орхеографічную Камісыю. (Акты юридическіе или собраніе форм стариннаго дѣлопроизводства, С-Петербург, 1838 г. стр. 11; акты относящіеся к исторіи Западной Россіи, т. I. С-Петербург 1848 г. стр. 1—2, т. IV. стр. V).

У 1839 г. перэдана у Пецярбургскую публічную бібліятэку — канфіскаваная царскім урадам вязіларная бібліятэка К. Немцэвіча на Гродзеншчыне. (Императорская Публічная Бібліотека за сто лѣт. 1914 г. С-ПБ. стр. III).

З 1841 г. хваля нішчэньня і паленьня беларускіх кніг перэкідаецца з заходу на усход. Лаўры Пратасэвіча, Радзівіла, Грахоўскага не давалі супакою і праваслаўнаму Мітрапаліту Язэпу Семашко. Ен першы і пачаў новую эру паленьня беларускіх кніг, калі не лічыць Мітрапаліта Філарэта, ужо з боку праваслаўнага духавенства Ўсходу. З гэтага году пачынаюць сыстэматычна адбіраць у жыхароў кнігі уніацкага абраду па усей Беларусі і паліць іх. (Записки Іосифа Митраполита Литовскаго, т. II. С-ПБ. 1883 г. стр. 528).

Паленьне кніг, пачатае у 1841 г. даканчываецца толькі у 1857 г. Таксама, як іезуітамі, па прыказу Мітрапаліта Семашко у 1844 г. кнігі былі вевезяны на пляц і спаляны. (А. Миловидов. Судьба русской книги в Сѣверо-Западном Краѣ, стр. 496—497).

У 1867 г. была перавезяна у Бэрлін Несвіжская Радзівілаўская бібліятэка і Архіў, якія мелі да 400 тамоу дакумэнтаў XIV веку. Вітгенштэйнаўскі аддзел меў 334.460 дакумэнтаў і Радзівілаўскі — лістоў — 217.800, фамільных актау — 14.800, пэргамэнтаў — 1246, гістарычна-палітычных зборнікаў і Соймавых діарыушоў — 15.000, дакумэнтаў рожных — 6.000, а усяго — 589.206 дакумэнтаў. (Иконников. Опыт русской Исторіографіи I. II. стр. 1239 — 1241).

У 1865 г. Маскоўскім царом было даручана палкоўніку Камарову і Райкоўскаму «Изученіе причин мятежницких политических движений в Привисляни и Западном Краѣ». Тры гады з 1865 па 1867 уключна, старанна збіраліся ва ўсіх архівах гэныя матэрыялы. Было сабрана 22.000 аркушоў. У 1879 г. гэты Архіў быў выкрадзяны з кватэры Камарова, у часе яго выязду з Пецярбургу. Архіў быў выкрадзяны палякамі. Частка яго знішчана, а частка прадана на ры-

нак. (А. Пороховщиков. Подвиг Муравьева, Настольная книга правителям и правительствам. С-ПБ. 1898 г. стр. 45—46).

У 1881, 2, 3 г. г. Вітэбскім мяйсцовым начальствам было прадана з Вітэбскіх Архіваў у Рыгу 3.000 пудоў старых дакумэнтаў XVI—XVII веку і Архіў Полацкага Намесьніцтва да 1772 г. Пуд прадаваўся па 1 р. 18 к. і грошы былі выкарыстаны на наградныя чыноўнікам, абрусіцелям краю. (Историческій Вѣстник 1885 г. т. XIX, стр. 461—462. «Как у нас охраняют историческіе документы»).

У гэтам кароткам пераліку, я не мог даць і тысячнай долі тых утрат культурных здабыткаў, якія панясла Беларусь з Люблінскай вуніі да нашых дзён.

Аднак і пералічанага выстарчае, каб судзіць аб той трагэдыі, якую перанясла беларуская культура і кніга, дзякуючы таму, што Беларусь знаходзілась на узьмежжу каталіцтва і праваслаўя. Гэта быў цэнтр, як культурнай так і палітычнай барацьбы ўсходу з Заходам.

Німа нічога дзіўнага, што пэрыяд занепаду Беларусі ад канца XVI- стагодзя да канца XVIII- толькі траціў культурныя цэннасьці, але не даваў нічога новага.

Так мала-па-малу, ад багатай беларускай культуры, амаль не засталась нічога. Наружна яе не было зусім, унутранаж яе астаткі былі схаваны у Архівах Кракава, Варшавы, Петраграда, ды заграніцы.

Рэзкі упадак друкаванага беларускага слова зазначаецца з 1697 г., калі быў выкрeслян з ужытку беларускі тэкст Літоускага Статуту, а даны перэклад польскі з заменай галоўнага § Статуту, што «Пісар земскі мает по руску літэрамі і словы рускімі, усе лісты, выпісы і назвы пісаті, а не іным языком і словы», на заабавязаньне, што пісар павінен усе пісаць не па руску, а па польску. (У. Ігнатоускі, «Кароткі нарыс гісторыі Беларусі», бал. 63 і 89).

Забарона афіцыяльна ужываць беларускію мову цяжка адбілась на усім культурным жыцьці беларускага народу. Мова беларуская была зведзяна на ступень мовы простай, мужыцкай, якой гаварыла усё жыхарства, але не смела на ей ні пісаць, ні гаварыць у панскіх харомах.

Раздзел Польшчы і пераход усей Беларусі у 1795 г. да Расеі, не зьмяніў паложаньня. Расея таксама была зацікаўляна у знішчаньні беларускай нацыі, як і Польшча. Створанае пры Кацярыне II, беларускае генэрал-губэрнатарства, не гледзячы на абяцанкі Кацярыны Гродзянскаму Сойму пакінуць у краі стары уклад жыцьця, існавала толькі на паперы. Пад відам абароны праваслаўя, там праводзілась чыста руская палітыка.

## АДРАДЖЭНЬНЕ.

Некаторы рух беларускай культуры пасля гэтага адзначаўся толькі у гады паустаньняў — Касьцюшкі 1794 г., 1831 і 1863 г.

Цікава адзначыць характэрнае зьявішча, што палякі, якія больш усяго пакінулі сьледу у нішчэньні беларускай культуры, у цяжкія для сябе дні паустаньняў, пры пераходзе Польшчы і Беларусі да Расеі, заўжды карысталісь беларускай мовай у адозвах да жыхарства. Адраджэньне беларускай культуры часткова саўпадае з паустаньнем Касьцюшкі. Твор невядомага нам аутара паэмы «Энеіда» зьяуляецца якраз у 90-х гадах XVIII- веку. На колькі гэта была небэзпэчная рэч відаць з таго, што аутар не адважыўся назваць свайго імені.



Гэта была адзіная паэма, якая хадзіла па рукам і будзіла нацыянальную сьвядомасць і былую славу беларускага народу.

Пэрыяд паўстаньня 1831 г. выяўляе нам фігуры беларускіх паэтаў і пісьменнікаў — Яна Баршчэўскага, А. Рыпінскага, Яна Чэчота і Дуніна-Марцінкевіча.

А. Рыпінскі, толькі пасля адьезду у Парыж, пачаў пісаць па беларуску і тут выдау у 1840 г. кнігу «Bielarus». У Парыжу таксама друкуе свае лекцыі па беларусазнаўству і паэму — «Нячысцік». Рыпінскім быў напісаны і першы падручнік беларускага правапісу.

Ян Баршчэускі у 1844 г. выдае у Пецярбурзе зборнік твораў ў 4-х томах — «Шляхціц Завальня, ці Беларусь у фантастычных апавяданьнях».

Ян Чэчот працуе над беларускай этнаграфіей і у 1844 г. выдае у Вільні кнігу «Piosnki wiesniacze z nad Niemana i Dzwiny».

Дунін-Марцінкевіч выдае у 1846 г. «Селянку» камэдыю-опэру у двох актах, з музыкай Монюшкі, у 1854 г. «Гапон» — апавяданьне у вершах, у 1865 г. «Вечарніцы і Купала», у 1867 г. «Шчыраўскія Дажынкі», 1859 г. «Пан Тадэуш» — перэклад з польскага Міцкевіча, у 1866 г. «Пінская Шляхта», у 1870 г. «Залёты» — камэдыя у трох актах і многа іншых дробных твораў.

Перамога ураду над паўстанцамі 1831 г. больш усяго адбілась на культуры беларускага народу. У 1839 г. Мікалай I. забараняе друк беларускай кніжкі лацінкай.

Выхаваньне і асьвета у тыя часы, як і раней, была даступна — амаль выключна шляхце, а шляхта з 1697 г. пераняла польскую мову і лацінскі шрыфт, якім і пісала свае творы.

Забарона лацінкі, была фактычнай забаронай беларускага друкаванага слова, так як шляхты і асьвечаных людзей праваслаўнага абраду, амаль што не было.

Усе беларускія творы абачылі сьвет многа лет пазней, ніж былі напісаны і доўга хадзілі па рукам у рукапісах, калі не лічыць выданьняў заграцічных.

Паўстаньне 1863 г., не гледзячы на цяжкія страты людзьмі, бязвінна загінуўшымі і высланымі за межы Беларусі, культурна взварухнула беларускую масу і прымусіла ўспомніць сваю старую беларускую мову, нават, і беларускую шляхту.

У 1863 г. зьяўляецца першая беларуская газэта К. Каліноўскага «Мужыцкая Праўда» і шырака раскідаюцца палітычныя праклaмацыі і адозвы на беларускай мове, якія ужо будзяць не толькі нацыяналь-

нае, але і палітычнае усьвядомленьне беларускага народу, запатрэбаваньнем незалежнасьці як ад Масквы, так і ад Варшавы.

Падгатоўкай да такога ўздойму былі выданьня загранічных друкарняў. Робяцца спробы ўзнавіць беларускую мову афіцыяльна і у 1854 г. Ксавэры Нядзведзкі падае праэкт беларускай граматыкі у Пецярбургскую Акадэмію навук. Але, разумеецца, гэта граматыка, па палітычным варункам, сьвету не абачыла.

У 1858 г. П. Шпілеўскі выпускае кнігу «Падарожа па Палесьсю і беларускому краю».

У 1861 г. В. Каратынскі выдае у Пазнані «Гутарку старога дзеда», другое выданьне тагож самага твору зьяўляецца у 1862 г. у Парыжу.

Мураўёў жорстка расправіўся з беларускімі паўстанцамі і выціснуў беларускую кнігу з легальнага ужытку, ня гледзячы на тое, што блізкі яго радца, кс. Суфраган Сенчыкоўскі пераконываў прыняць беларускую мову, як форму нармальных адносін да мясцовага жыхарства.

Пасля Мураўёва зноў беларуская літэратура пераходзіць у стадыю рукапісу і ходзіць па рукам. Да такіх, шырока распаўсюджаных твораў, адносіцца «Тарас на Парнасе», а друкованай літэратурай Беларусь карыстаецца з-заграніцы.

«Пан Тадэуш» перэклад Ельскага, выдаецца у 1892 г. у Львове, «Дудка Беларуская» Багушэвіча у 1891 г. у Кракове, «Смык Беларускі» яго-ж у 1894 г. у Пазнані і толькі выпадкова «Сынок» Ельскага — у 1895 г. і «Вянок» Няслухоўскага у 1903 г. праходзяць у Пецярбурзе. Пры чым «Вянок» Няслухоўскага, па незнаёмасьці цензара са славянскімі мовамі, прайшоў, як твор Баўгарскі.

«Багачы» Брайцава (1889 г.) — аповясьць беларускага народнага жыцьця, адчыняе і на Беларусі эру зацікаулянасьці беларускім народам.

Выхадцы з Беларусі, узгадованыя на расейскай культуры, пачынаюць цікавіцца родным краем і сваім народам, так, як імі трохі раней цікавіліся і прадаўжалі цікавіцца, беларускія выхадцы польскай культуры. У такіх варунках зараджаецца беларусазнаўства, этнаграфія, філялёгія і гісторыя Беларусі.

Да учоных, выхадцау з беларусі, прылучаюцца некаторыя вучоныя і расейскія. Беларускай культурай і літэратурай, асабліва народнай творчасьцю, пачынаюць дужа цікавіцца, асабліва пасля 1863 г., каб даказаць Эўропе, што Беларусь ёсьць «Искони русская земля» (М. Гарэцкі. Гісторыя літэратуры 1921 г. бал. 75).

У сувязі з гэтым давалась шмат матэрыалу аб Беларусі, але яны не мелі таго значэньня для беларускай літэратуры, якое мелі працы выхадцаў Беларусі пасля 1889 г.

Беларусазнаўства і этнаграфія Беларусі у польскай літэратуры налічывае звыш ста выдатных вучоных пісаўшых аб Беларусі.

У расейскай літэратуры можна таксама налічыць не менш вучоных, каторыя прысьвяцілі сябе вывучэньню Беларусі.



Рэвалюцыя 1905 г. ўзбудзіла новыя надзеі і для беларускай культуры, зняўшы з яе забарону друку. З гэтага году зьяўляецца у Менску першая легальная газэта «Беларусь», а у 1906 г. — «Наша Доля» — 1. IX. 1906 г.

Беларуская інтэлігэнцыя, поруч з палітычнай працай, стараецца як мага хутчай даць беларускаму селяніну і першыя кнігі на роднай мове па сельскай гаспадарцы. Незабаўна зьяўляюцца: «Гутаркі аб гаспадарцы, Зямельная справа у Новай Зэляндыі, Казка аб Вадзе» і інш.

За гэтым, у том жа годзе, даецца «Беларускі лемэнтар» і «Першая чытанка для беларускіх дзетак». Якуб Колас выпускае «Гутаркі аб небе і зямлі» — другую чытанку для дзяцей.

Насунуўшаяся рэакцыя спыняе палітычную працу. З шасьці № вышаўшай газэты «Наша Доля» — было сканфіскована — пяць.

Перэгрупаваўшысь, беларуская інтэлігэнцыя перайшла на культурную працу і пачала выдаваць журнал «Наша Ніва» — 10. II. 1906 г.

З гэтага часу пачынаецца на Беларусі новы пэрыад літэратуры, які апрача агітацыйна-палітычных матэрыалаў як «Скрыпка Беларуская», «Хрэст за свабоду», ды іншыя, высоўвае імёны карыфеяў беларускай літэратуры, у лепшым яе слове — Янку Купалу, Якуба Коласа, Ядвігіна Ш. (Левіцкага) і іншых.

За гэты пэрыад Янка Купала дае у 1908 г. «Жалейку», 1910 г. — «Гусляра і Адвечную песьню», 1913 г. — «Сон на Кургане», драму «Паўлінка» і «Шляхам Жыцьця».

Якуб Колас — у 1910 г. «Песьні Жальбы», 1912 г. — «Апавяданьні», 1913 г. — «Нёмана Дар», «Тоўстае Палена» і «Прапаў чалавек», 1914 г. — «Родныя Зьявы».

Ядвігін Ш. — 1909 г. «Дзед Завала», 1912 — «Бярозка» і 1914 г. — «Васількі».

У Пецярбурзе закладаецца беларускае выдавецкае таварыства «Загляне сонца у наша ваконца», якое выдае 7- сшыткаў Альманаха «Беларускіе песьняры», куды увыходзяць «Дудка Беларуская» Багушэвіча, «Пан Тадэуш» — Марцінкевіча, «Смык Беларускі» — Багушэвіча, «Вечарніцыы», «Шчыраўскія дажынкі» і «Купала» — Марцінкевіча.

Апроч таго выдаюцца «Модны шляхцюк» — Каганца і перэклады — «У зімовы вечар» — Ожэшко, «Сватаньне» — Чэхава, «Па рэвізыі» Крапіўніцкага, «Пашыліся у дурні» і «Міхалка» — Далінскіх.

У 1912 г. выйшла тры нумары Альманаха у Пецярбурзе «Маладая Беларусь».

З 1912 г., апрача Пецярбургскага Альманаха, выходзіць у Менску «Саха», а з 1913 г. «Крапіва», «Bielarus» і «Лучынка». З 1914 г. «Раніца» у Пецярбурзе.

Вайна 1914 г. спыняе культурную працу беларускага народу — да рэвалюцыі 1917 г.

Усяго за час з 1790 г. г. па 1917 — (127 лет) выйшла на беларускай мове 54- назвы кніг і 32- газэт і журналаў.

Вось з якой труднасьцю і упартасьцю нараджалась новая беларуская культура у варунках польскай і расейскай залежнасьці.

1917 г. разрывае ланцугі залежнасьці беларускага народу і выводзіць яго на шырокі шлях далейшага развітку.

## НОВЫ ПЭРЫАД.

Трудна уявіць сабе, нават цяпер, усе тыя магчымасьці, якія нясла Беларусі лютаўская рэвалюцыя. Я гэтым не хачу сказаць, што беларуская культура хутка і лёгка адваявалаб сабе мейсца у будучым новым ладу. Не, барацьба былаб цяжкой і упартай, але стыхійны узрост самасьвядомасьці беларускага народу у барацьбе за сваю мову і культуру перамагліб усе перашкоды, якіяб не стаялі на іх шляху і бэзсумліву вывялі6 на шырокі шлях развою.

Рэха гэнай барацьбы мы бачым цяпер заграніцай паміж беларускай эміграцыей і расейскай. Тут яна носіць Акадэмічны характар, там-жа яна выглядалаб мусіць іначэй.

Націску беларускага народу, не магла не паддаца і дыктатура пралетарыяту са ўсімі жахамі Маскоускай Чекі і ГПУ.

Канец 1920 і пачатак 1921 г. закончыўся поўнай перамогай адраджаючэйся беларускай культуры, нават у варунках бальшавіцкага панаваньня. Гэта зрабілі тры папярэдніе гады. Тэрмін, надзвычайна малы, але кожны з гэтых гадоў у барацьбе адраджаючыхся народаў за сваё самаакрэсьляньне, рауняўся дзесяткам гадоў папярэдніх.

Гэтыя тры гады у варунках Нямецкай і Бальшавіцкай акупацыі пайшлі амаль выключна на палітычную барацьбу. Усебеларускі Зьезд 1917 г. зрабіў беларускае жыхарства сьвядомым грамадзянінам сваей рэспублікі і змагаром за сваю незалежнасьць з акупантамі. 1918 г. разрывае апошнюю сувязь з расейскай залежнасьцю і абвешчае Беларусь — Вольнай і Незалежнай Дзержавай — Беларускай Народнай Рэспублікай. Акт гэты адбыўся у сувязі з запрадажай беларускіх інтэрэсаў бальшавікамі у Берасьці.

1919 г. прадаўжае гэную барацьбу з бальшавікамі, але, не маючы ні адкуль падмогі, слабее у сілах і пераходзіць у падполье.

Дзякуючы гэтаму, для правідловай, арганізованай культурнай працы, не было ні сродкаў, ні часу. Кніжная прадукцыя таго часу дала надзвычайна мала: 1917 г. пяць назоў кніг, 1918 — восем і 1919 — тры.

Затое газэтная прадукцыя, як аружжа палтычнай барацьбы, вырасла значна.

У 1917 г. зьяўляюцца у Петраградзе — дзьве газэты: «Сьветач» і «Дзянніца» і у Менску — тры: «Грамада», «Вольная Беларусь» і «Беларуская Рада».

У 1918 г. да іх дадаюцца: «Гоман» у Вільні, «Беларускае Слова» у Кіеві і «Kryníca» і «Чырвоны Шлях» у Петраградзе.



У 1919 г. «Весткі», «Зорка», «Звон», «Беларусь» — у Менску; «Грамадзянін», «Беларускае Жыцьцё», «Незалежная Беларусь» — у Вільні; «Беларусь», «Зорка», «Бацькаўшчына» і «Родны Край» — у Горадні; «Савецкая Беларусь» — у Смаленску і «Часапісь» — у Коўні.

1920 г. зноў робіць Беларусь арэнай Савецка-Польскай вайны і спыняе культурную працу беларускага народу, накіроўваючы яго энэргію на барацьбу з акупантамі у форме паустаньняў, то з бальшавікамі (Менск, Вітэбск і Магілёў), то з палякамі (Слуцк і Пінск).

Напружаный стан вайны цягнецца увесь 1920 г. і пачатак 21-да Рыжскага міру 18- сакавіка 1921 г.

Аднак і у гэты час выходзяць новыя газэты: «Наша Каляіна» — у Слуцку, журнал «На чужыне» — у Рызе, «Наша Ніва» і «Незалежная думка» у Вільні, «Пагоня» — у Коўні, «Рабоча-Селянская Беларусь» і «Вольны Сьцяг» — у Менску.

Рыжскі мір разрэзаў жывое беларускае цела на дзьве часткі не толькі палітычна, але і культурна. З гэтай даты, мы зазначаем амаль поўны упадак культурнай дзеяльнасці беларускага народу пад Польшчай у Заходняй Беларусі і перамогу беларускага народу у нацыянальна-культурнам адношэньні ва Ўсходняй Беларусі.

Заходняя Беларусь пад Польшчай траціць усё, а Усходняя з нацыянальна-культурнай аўтаноміей прыбірае, хоць на паперы, форму Незалежнай Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі.

Вадараздел натолькі значны, што стары культурны цэнтр Беларусі — Вільня, разумеецца, часова, амаль зусім траціць сваё значэньне і служыць пасьпеху ўзвышэньня Менску.

Значэньне гэтага факту небэзпэчна на будучыну. Вільня — цэнтр заходняй культуры, ўзьмежжа Заходу са Ўсходам. На гэтым цэнтры будавалася будучына Беларусі. Стары дэмакратызм Беларуска-Літоўскага Княжства апіраўся на традыцыі Вільні, гістарычна зьвязанай з Заходняй Эуропай. Гэты традыцыі застаюцца. Расея зусім не была знаёма з парлямэнтарным ладам, нават пры апошнім падзеле Польшчы — 1795 г. Наадварот, правідловае Соймавае прэдстаўніцтва на Беларусі была далёка раней да гэтага часу. Гэту асаблівасьць Кацярына II. і абяцала захаваць на Гродзянскам Сойме. Аднак, гэта былі толькі словы. Уся будучая палітыка — была яскравым парушэньням даўно усталіўшагася укладу жыцьця на Беларусі.

1917 г. ўзбудзіў надзеі ўзнауленьня Соймавага ладу на Беларусі пры падтрымцы Еўропы. Некаторыя надзеі у гэтым адношэньні ускладаліcь і на суседку Польшчу, аднолькова пазбаўляную гэных правоў апошнім падзелам. Надзеі абманулі. Эўропа зусім не разумела адбываўшыхся падзей, а Польшча стала на стары грунт — ганаровай шляхты, марачай аб вялікай дзержаве «Ад мора да мора» з далучэньнем у свае абшары усіх беларускіх і украінскіх тэрыторый, не лічучысь зусім з жаданьнямі мясцовага жыхарства.

У той час, як Савецкая Расея папяровым прызнаньнем самаакрэсляньня народаў на сваю незалежнасьць і прагалошэньнем Савецкіх

нацыянальных рэспублік, набывала усё больш і больш сымпатый, Польшча уціскам і дэнацыяналізацыей, адвярнула ад сябе усіх суседзяў. Воляй-няволяй Беларусь апынулась у сфэры уплыву бальшавіцкага Ўсходу, мяжуючагася з Эўразыей.

Стары абсалютызм самаўладства, таксама як і новы — дыктутуры пралетарыяту, жорстка сціралі сьляды народапраўства на Беларусі і перарабклялі народную душу на лад рабалепства і мауклівага падпарадкаваньня пралетарскаму кіраўніцтву чужародных элемэнтаў.

У такіх варунках ўсплывае Менскі цэнтр культурнага адраджэньня Беларусі.

Трудна зараз сказаць, на колькі ідэі камунізму запануюць.

Селянства у сваей большасьці адносіцца да яго варожа. Аб гэтым красамоўна сьведчаць апошнія выбары 1926 г. у Сельскія Саветы, дзе элемэнт бэзпартыйных па ўсей Беларусі перавышае 75—80%.

Пакуль пакорным ворганам Компартыі зьяўляецца толькі камсамол, але на колькі ён праняўся камуністычным духам, сказаць трудна, за адсутнасьцю свабоды слова у БССР.

Усё іншае глыбака варожа бюракратычнаму ладу камуністычнай дыктатуры і жыве надзеяй хуткага выгнаньня няпрошаных самаўладцаў.

Аднак, сантымэнталізм у палітыцы ролі ніякой адыграваць не можа. Трэба лічыцца з фактамі, а факт стварэньня БССР., гаварыць за сябе і натуральна вырывае часова старую культурную глебу з пад ног Вільні і, па міласьці Польшчы, перадае яе Менску.

Утрымаць старыя пазыцыі, пры нэгатыўнам адношэньні Еўропы і варожым, усё руйнуючым Польшчы, немагчыма. Аднак думаючая незалежна Вільня, таксама, як і эміграцыя, пакідаюць за сабой права свабоднага манэўру у будучых зьявах.

Як бы на будучыну не зложыўся лёс Беларусі, але культурныя заваёвы застануцца пры ей неадьемна. Гэты заваёвы, не ёсьць наследкі кастрычнікаўскай рэвалюцыі, як гаворяць бальшавікі, а упартая і цяжкая праца усяго беларускага народу, не зложыўшага перад страхам сьмерці ад бальшавіцкага тэрору рук, у зьдзейсьненьні сваіх істотных імкненьняў.

Да гэтых заваёў належаць — Менскі Дзержаўны Унівэрсытэт, Горэцкая Сельска-Гаспадарчая Акадэмія і Беларуская Акадэмія Навук — (інбелкульт). За імі цягнецца доўгі шэраг пачатковых сярэдніх (сямігодак) школ, якія адной толькі беларускай мовай, заваёўваюць сабе палітычную незалежнасьць у будучыне.

У гэтым з відавочнасьцю можна перэканацца і на кніжнай прадукцыі, якую далі апошнія гады.

1921 г. даў — 7. назоў кніг, 1922 — 29. — 1923 — 53, 1924 — 93 і 1925 — 141.

Лік экзэмпляраў выданых у 1925 г. кніжак раўняуся 1.432.000.

Пры адсутнасьці літэратуры наогул, Беларусь зусім была пазбаўлена якіх бы то ні было падручнікаў для школ. Цяпер пачатковыя і сярэднія школы абслужаны усімі неабходнымі падручнікамі на беларускай мове. На чарзе стаіць пытаньне даць падручнікі і для вышэйшых школ.



Калі да 1917 г. Беларусь мела толькі 54- назвы кніг, а з 1917 г. па 1925 г. — 199, амаль уся прадукцыя Заходняй Беларусі, то у 1925 г. Ўсходняя Беларусь пабіла рэкорд.

Праўда, 141 назва кніг, лік незначны. Любое выдавецтва падыймае гэту цыфру штогадова, а тут мы маем незалежную рэспубліку. Але пры адсутнасьці свабоды слова, недапушчэньні інтэлігэнцыі да культурнай працы і недахваце сваіх, незалежных ад Масквы сродкаў, досыць і таго, што зробляна.

Гэта толькі пачатак, пасля доўгай барацьбы з цэнтральнай уладай РСФСР. Ў правядзеньні нацпалітыкі. Крок за крокам пазыцыі будуць заваёвывацца і культурная праца будзе бэзпярэчне расьці штогод.

Клясыфікацыя кніжнай прадукцыі нераўнамерна. Патрэбнасць у падручніках, прымусіла звыш 50% кніжнай прадукцыі адвясьцігэнай галіне. Другія проценты падаюць на т. зв. мастацкую бальшавіцкаю літэратуру, амаль выключна зборнікі вершаў, хвалячых кастрычнікаўскую рэвалюцыю і дыктатуру пралетарыяту. Навука ва усіх галінах веды, не выключаючы нават тэхнічнай і сельскагаспадарчай, стаіць нізка і ей адводзіцца самае незначнае мейсца па недастатку чырвоных прафэсароў з науковым стажам.

Мусіць па гэтай самай прычыне, нават, «Працы Беларускага Дзержаунага Унівэрсытэту» не адзначаюцца глыбінёй навуковых досьледау. Чырвоная прафэсура больш змагаецца з навукай, чым вучыць сваю моладзь і вядзе прапаганду пралетарскай культуры, якой яшче німа і невядома, ці калі будзе.

Па гэтаму і кніжная прадукцыя падлічывае толькі прапагандныя экзэмпляры, а не цікавіцца якасьцю выданага матэрыялу.

Цікава зраўнаць кніжную прадукцыю іншых, недаўна паўстаўшых народаў, якія карыстаюцца поўнай незалежнасьцю з прадукцыей БССР., якая лічыцца незалежнай толькі на паперы.

Увесь Саюз СССР. у справаздачы кніжнай прадукцыі абходзіць лік выданых кніг таму, што яно незначна і выяўляе з сябе у большасьці выпадкаў брашуры т. зв. бальшавіцкага пралетарскага мастацтва і дае за 1924 г. толькі лік экзэмпляраў — 64.504.849. Цыфра хоць і вялікая, але нічога не гаворачая ні розуму, ні сэрцу.

БССР. у 1925 г. выпусціла 1.430.000 экзэмпляраў (2,1%) усей прашлагодняй прадукцыі Саюза, але гэта усяго 141 кніга, у сярэднім на якую прыходзіцца толькі 6- друкованых аркушоў.

А вось рэзультаты незалежных рэспублік:

Чэхаславакія у 1924 г. выпусьціла 3.560 кніг, Баугарыя, не гледзячы на праіграную вайну і унутраныя закалоты — 2.472 кнігі, Фінляндыя — 1118 і нават Польшча, пры поўнам палітычнам і гаспадарчам хаосе — 4.144 кн. (Československá Republika 3. II. 26, č. 62).

Раўнаючы гэтыя цыфры можна бэзабмылкова сказаць якая культура і якая свабода пануюць у Саюзе Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік.

Што гэта за свабода, можна бачыць з забароны да ужытку Народным Камісарыатам Асьветы БССР. 11. III. 26 г. геаграфіі Еўропы Азбукіна у пачаткавых школах Беларусі за непралетарскае асьвятленьне беларускай нацыі і шовінізм, які даказывае, што культура на Беларусі зьявілася раней, чым у Расеі. Ціж гэта не свабода. Здаецца далей ужо німа куды ісьці.

8. III. 26 г. **П. Крэчэўскі.**

---

## МУРАШНІК.

Ў мурашнік кінуў я кусок цыгаркі,
Яна курэла дымам і агнём...
Зрабіў я гэта можа па дзікарскі,
Але хацелась бачыць здарыцца што ў ём...

З усіх бакоў, і з кожнае шчэліны
Мурашкі кідаліcь в агонь,
Жыцьцё губілі для дзяцей, радзіны —
І клаліcь на цыгарку, як далонь.

І сумна і прыемна мне тут стала:
Я шкадаваў мурашак, як людзей —
Стварэньне гэтае сябе абараняла
І гінула за свой мурашнік і дзяцей.

Паміж людзьмі мы бачым штось другое...
Для Бацькаўшчыны працаваць ім стыд,
Ім дзесьці сьвеціць шчасьце міравое,
А родны край ніхай гарыць!..

*К.*

## ПЕРЭКЛАД З УКРАІНСКАГА.

У тую ноч, з цяжкою думкай пры вакне
Сядзеў я, сэрца мучыла трывога:
Пытаньня сумныя насоўваліся мне,
Ці правідлова наша, ці хібна дарога;
Ці праца наша падыйме, дзьвігне
Наш люд, ці моў калека гэтая бэзнога,
Жыць будзе ў тым калецтве, мо й усхне?..
Чаму адступнікаў у нас так многа? —
Чаму-ж таіх адступства не страшыць,
Чаму іх родны сьцяг не цягне да сваёга,
Чаму на уласнай глебе працаваць ім стыд,
Але не стыд — у наймітах, ў чужога!

*І. Франко.*

## НОВЫ АГАСФЭР.

Ідзі!.. і ты ідзеш жыцьцю усяму адданы,
Ідзі!.. ты чуеш нейкі голас у імгле.
І ты ідзеш... хай сэрца поўняць раны, —
Хай кроў твая на змучаным чале...
Ты усё ідзеш... меняюцца так годы,
Дарогі новыя звіваюцца змяёй, —
Мігаюць вёскі, месты і народы,
І камені ляцяць з гары тваёй!
А ты ідзеш... твой шлях, як Агасфэра,
Блукаць па сьвету з сумам у грудзёх, —
Ідзі... ідзі!.. німа пакуце меры,
Німа, німа канцоў тваіх дарог!..
І ты ідзеш... ты новы сымвал веры
Ствараеш з слёз, з разбітых старых вер, —
Ідзеш далей, ідзеш ў шуканьнях веры,
Ты — эмігрант, — ты — вечны Агасфэр.

*В. Вальтэр.*

Хмары страшныя навіслі,
Быццам, рыхтуецца гром...
Эх, як уздоймуцца мыслі
З гэтым дажджом!
Нават паўстане з маланкай
Раб і зьняверaны трус, —
Толькі ці ўстанеш ты з спанку,
Брат — беларус?
Хмары страшныя навіслі,
Але-ж, няпраўда-жа, гром
Ўдара ў прагнілыя мыслі
І абліе іх дажджом!

*В. Вальтэр.*

# МАТЭРЬЯЛЫ І ДАКУМЭНТЫ.

## ГОЛАС ЭМІГРАЦЫІ.

Эміграцыя заўжды была рэхам народу і праваднікoм яго вольных думак і імкненьняў у шырокі сьвет агульна-чалавечага еднаньня. Тое, чаго ня мог сказаць і зрабіць народ у сябе дома, по варунках сваей, ці чужацкай улады і цанзуры, эміграцыя сьмела гаварыла, карыстаючысь свабодай слова заграніцай.

Біблію,— першую кніжку на беларускай мове, даў нам эмігрант Францішак Скарына, які ня мог заняцца гэтай працай на бацькаўшчыне, а мусіў працаваць у Празе Чэшскай.

Пасля занепаду беларускай дзержаўнасьці і культуры, зноў-такі, першыя беларускія кніжкі прыходзяць да нас з Лёндану, Парыжу, Кракова, — адтуль, дзе знаходзілісь, хоць адзінкі заўжды беднай беларускай эміграцыі .

Вайна і рэвалюцыя выгнала з беларускіх хат каля поўтара міліона беларускага жыхарства і раскідала іх па ўсіх абшарах быўшае Расеі. Недалік, пакінуўшых родныя мейсцы перад навалай, надзвычайна вялікі. Крыжыкамі і беларускімі касьцьмі услана уся дарога на ўсход — да Сібіры і на поудзень—Да Сярэдняй Азыі і Аўганістану. Вярнуўшыеся да гэтае пары жывуць у землянках і служаць інтэрэсам чужынцоў, то у ролі кулакоў непралетарскага паходжэньня, то беларускага быдла для польскіх паноў.

Ня толькі нешта рабіць, але гаварыць і нават думаць яны свабодна ня могуць. Кожны крок іх пад Польшчай кантралюецца дэфэнзывай, а у Савецкае Беларусі — Маскоўскім ГПУ.

У найлепшых варунках духоўнага развітку апынулася беларуская эміграцыя заграніцай, якая, ня гледзячы на цяжкі матэрыяльны стан і жорсткі кусок эмігрантскага хлеба, можа сьмела і аткрыта выказываць свае думкі на будучыну Беларусі. Карыстаемся гэтым правам і у абарону свайго народу заяуляем:

Мы прызнаем культурна-нацыанальную аўтаномію у Беларускай Савецскай Сацыалістычнай Рэспубліцы, вітаем бэзмерныя зусільля у адраджэньні беларускай культуры і дзержаунасьці, але ня можам пагодзіцца з панаваньнем чужынцоў на Беларусі. Да гэтае пары усё народна-гаспадарчае, палітычнае і адміністратыўнае



жыцьцё знаходзіцца у руках Расейскай камуністычнай партыі, а не у руках беларускага народу.

Беларуская Савецкая Сацыалістычная Рэспубліка не мае ня толькі незалежнасьці, а нават сваей беларускай камуністычнай партыі і кіруецца камуністычнай партыей чужынцоў на Беларусі. Не паможа гэтаму і апошняе перэтвараэньне Расейскай камуністычнай партыі ва Усесаюзную, бо усё роўна цэнтр будзе знаходзіцца у Маскве, а беларускіе члены будуць іх падслугачамі.

Калі канстытуцыя СССР (раздзел 2, артыкул 24, § 4) кажа, што дэмократычнай самастойнасьці Беларусі «Проціўпастаўляем нашу самастойнасьць БССР. якая пабудована на аснове праграмы РКП», то можна сабе уявіць, што гэта за свабода з правам свабоднага выхаду з саюзу, калі ею кіруе Расейская камуністычная партыя.

Нацыанальная па форме і пралетарская па зьместу (Сталін), культура да нас дапасовывацца ня можа, бо мы зусім не маем пралетарыату. Рабіць з сэрэдняка (у нас іх не менш 70—80%) бедняка — знача нішчыць гаспадарку і ствараць штучны кадр пралетарыату для абароны сваей дыктаруры над селянствам. Бедняк можа браць, но нічога ня можа даць, а абяртаць сярэднякоў у беднякоў — знача тварыць жабрацкую рэспубліку з ваяунічым нахілам у той бок, дзе хто нешта яшчэ мае.

Нацыанальная палітыка, якой яна павінна быць і па зьместу, дае права на абарону бацькаўшчыны, не залічываючы яе у контрэвалюцыйны лягер.

Аб гэтым гаварыў камуністам і сам Ленін, яшчэ далёка да рэвалюцыі, але камуністы, ледве адважылісь аб гэтым сказаць толькі у 1924 г. — Ленін кажа: «На абшарах Беларусі і Украіны бацькаўшчына тут яшчэ не адсьпевала сваей гістарычнае песьні. Абарона бацькаўшчыны яшчэ можа гут быць абаронай дэмократыі, роднай мовы, палітычнай свабоды супроць прыгнетаючых нацый, супроць сярэднявечча» (Сборник Звезда. Аб карыкатуры на Марксізм. 1924 г. бал. 120).

Знача гэта не ухіл, не контрэвалюцыя, а права, якое спешаюцца абмінуць камуністы у хуткам бегу да сусьветнай сацыальнай рэвалюцыі.

Такі ухіл камуністаў ад гісторычнага ходу падзей на Беларусі, калечыць ня толькі народную душу беларуса, але і яе будучыну — дзяцей.

Дыктатура над беларускім селянствам ёсьць найгоршы злачын сучаснага стану Беларусі і з ім мусіць змагацца кожная жывая беларуская душа.

Мы ня можам пагодзіцца і са станам прыгнечаньня беларускага жыхарства у Захадняй Беларусі пад Польшчай. Калі у Савецкай Сацыалістычнай Рэспубліцы жыхарства адпачывае хоць на роднай мове і школе, церпячы уціск палітычны і эканамічны, то у Заходняй, Беларусі яно не мае ніякіх правоў, з ім запраўды распраўляюцца як з быдлам. Родная мова ганьбіцца, школы зачыняюцца — беларус

абернут у бэзвольнага раба, які знаходзіцца у поўным распараджэньні пана, як у старые часы паншчыны.

Асадніцтва, выганяючы з родных хат беларускае жыхарства, калёнізуе Беларусь польскім элемэнтам. Галодная сьмерць заглядывае у вочы жыхара землянкі, пасля праўных і бэзпраўных пабораў даніны.

Замест абароны правоў беларускага народу Пасольскі Клюб Селянска-рабочай грамады у Варшаве разбівае адзіны нацыянальны фронт у гэтай абароне і шукае аб'еднаньня з польскай хлопскай партыей, якая бараніць інтэрасоў беларускіх ня будзе, а будзе падпарадкаваць сабе беларускія сілы таксама, як хоча падпарадкаваць сабе польская камуністычная партыя — камуністычную партыю Заходняй Беларусі. Адарваўшысь ад нацыянальнага фронту Селянска-рабочая грамада хістаецца паміж польскай і расейскай камуністычнай партыей і стараецца, не маючы зусім свайго пралетарыату, бараніць пралетарыат чужынцоў супроць беларускага селянства.

Пасол Тарашкевіч нападае на Беларускі Селянскі Саюз за тое, што ён разрожнівае інтэрасы вёскі і места — селян і рабочых. Разрожніваць трэба. Ніколі вёска не пагодзіцца з местам, калі нават не свой, а чужы пралетарыат будзе забіраць хлеб амаль дарма і нічога не даваць вёсцы.

Рабочэ-селянская грамада унясла разлад у беларускія арганізацыі Заходняй Беларусі і развязала рукі тым элемэнтам, якім даўно хацелася развязацца з беларускай незалежнасьцю. Група Паулюкевіча пачала вясьці працу за прылучэньне Заходняй Беларусі да Польшчы, каб пазбавіцца бальшэвізму, а Крыніца пястуэ думку прылучэньня Заходняй Беларусі да Літвы.

Атрута разладу праз Вільню дасягнула і заграніцы. Пасля зменатычніцкай нарады у Бэрліне, дзе некалькі чалавек перайшло на прызнаньне Савецкай улады — гэта самая акцыя павялась і паміж Чэхаславацкай беларускай эміграцыей. Пражскіе камуністы і зменатычнікі, хацелі майоранізацыей захапіць Беларускую Раду у Празе у свае рукі, каб знішчыць праўную нацыянальную арганізацыю заграніцай і абярнуць эмігрантаў у бэзпраўную массу, якая б выпрашывала міласьці у Масквы для звароту на бацькаўшчыну. Гэты напор беларускай эміграцыі з гонарам быў адкінуты і Саветы ня толькі не захапілі Беларускай Рады у Празе у свае рукі, але самі ганебна былі усе дачыста выкінуты з Рады.

Дэфэрэнцыацыя сіл, такім чынам адбылася заграніцай таксама, як і на бацькаўшчыне. Далей мусіць пайсьці спакойная творчая праца і змаганьне за ідэалы незалежнасьці. Мы прапануем аб'еднаць усе незалежніцкія сілы беларускага народу у барацьбе за сваё вызваленьне на падставе другой Устауной Граматы Выканаучага Камітэту Рады першага Усебеларускага Зьезду ад 9 сакавіка 1918 г.:

§ 5. У межах Беларускай Народнай Рэспублікі абвешчаецца свабода слова, друку, сабраньняў, забастовак, саюзаў; бэзумоўная свабода вызнаньня, недатычнасьць асобы і памешканьня;



§ 6. У межах БНР усе народы маюць права на нацыянальна-пэрсанальную аўтаномію; абвешчаецца раўнапраунасьць усіх моў народаў Беларусі;

§ 7. Зямля бэз выкупу перадаецца тым, хто сам на ей працуе. Лясы, вазеры і нутра зямлі абвешчаюцца уласнасьцю БНР.

§ 8. У межах БНР. устанаўліваецца найбольшы асьмігадзінны дзень працы. Усё гэтыя свабоды і вольнасьці сьцьвержджаюцца і трэцьяй Устаўной Граматай Рады Беларускай Народнай Рэспублікі 25 сакавіка 1918 г., калі скінуўшы апошние ярмо дзержаўнай залежнасьці ад Расеі, беларускі народ прызнаў сябе сувэрэнным гаспадаром Беларусі і абвесьціў Беларускую Народную Рэспубліку — незалежнай і вольнай дзержавай.

Беларуская палітычная эміграцыя, якая у сваіх радах не мае буржуазна-капіталістычных, ці абшарніцкіх элемэнтаў, бо выхадцы з Беларусі — рэнэгаты — да нашай групы належаць не могуць, — зьяўляецца натуральным рэзультатам паневоленьня Беларусі і нашага часовага занепаду. Прабываньне эміграцыі заграніцай ёсьць, хоць сумны, але немінучы факт усясветнага пратэсту супроць пагвалчэньня нашай дзержаунасьці з аднаго боку і вольная трыбуна вольнай беларускай думкі з другога. Але выканаць сваю гісторычную ролю поўнасьцю палітычная эміграцыя зможа толькі пры маральнай падтрымцы беларускага народу. Трэба адмовіцца ад недарэчных папрокаў сваім братам, выкінутым заграніцу і не маючым магчымасьці бараніцца. Жорсткі кусок эміграцкага хлеба ніхай не дзярэ горла Беларускай Крыніцы (11. X. 25. № 3) і Беларускай Нівы (2. XII. 25, № 5). бо усё роуна:

> Напасьцяй, лаянкай напраснай
> Грудзей не варта мазаліць.
> Не пагасіць вам праўды яснай:
> Жыў беларус і будзе жыць.

можам сказаць разам з Я. Купалай не толькі ворагам беларушчыны — чужынцам, але і сваім, хто вырэкаецца незалежнасьці.

*В. Русак.*

20. XII. 25.
Прага.

## МАНДАТЫ Б.Н.Р.

Усебеларускі Кангрес 1917 г., у ліку каля 2000 дэлегатаў Імем Беларускага Сувэрэннага Народу, абвесьціў рэспубіканскі лад на тэрыторыі этнографічнае Беларусі. Працы сваей З'езд да канца не давёў і быў разогнаны рукамі насільнікаў — Маскоўскіх бальшавікоў. Кангрэс быў разогнаны аружнай сілай, а беларуская тэрыторыя акупавана Маскоўцамі. Давясьці справу да канца Кангрэс даручыў выбранай Кангрэсам Радзе Зьезду і Выканаўчаму Камітэту, якіе ня гледзячы на бальшавіцкі тэрор, на другі жа дзень пасля разгону — 18. XII. 17 г., сабраўшысь у Дэпо Лі-

бава-Роменскай чыгункі, выняслі рэзалюцыю, у каторай абвесьцілі сябе насіцелямі сувэрэннай улады Беларускага Народу. Рада Зьезду сабралася патаемна і ухваліла такія пастановы: 1) лічыць, што першы Усебеларускі Зьезд разогнаны сілаю; 2) Раду Зьезду прызнаць выканаўчым органам Зьезду; 3) папоўніць Раду дэлегатамі зямляцтваў; 4 і 5) лічыць распушчанымі усе беларускія арганізацыі, існаваўшыя дагэтуль, апроч цэнтральнай Вайсковай Рады, якая існуе, як орган падуладны Радзе; 6) склікаць другі Усебеларускі Зьезд у найкаротшы тэрмін і 7) для павялічэньня аўтарытэту Рады, Прэзыдыумам Рады зрабіць Прэзыдыум Зьезду, павялічыўшы яго адным намесьнікам Старшыні і двумя Сэкрэтарамі.

(Зборнік «Беларусь» бал. 199—200).

Рада Зьезду папоўненая прэдстаунікамі з мейсц, у 1918 г. перэтварылася у Беларускі Парлямэнт — Раду Беларускай Народнай Рэспублікі, а Выканаўчы Камітэт у Раду Народных Міністраў.

У такім выглядзе, на падставе права самаакрэсляньня народаў, пастаноў Усэбеларускага Кангрэсу і абвешчэньня Рады Рэспублікі 25 сакавіка 1918 г. — была вызнана Беларуская Дзержава — Беларуская Народная Рэспубліка.

З гэтымі актамі лічылісь ня толькі нашы прыяцелі, але і нашы ворагі. Гэта мы бачым з тых заяў, якія былі зроблены на перэгаворах у Рызе Старшынямі Расейскай і Польскай Дэлегацый.

Старшыня Савецкай Дэлегацыі Іоффэ у сваей дэклярацыі 24 верэсьня 1920 г. на 7 сходзе расейска-польскай Канфэрэнцыі заявіў:

«Выходзячы з поўнага прызнаньня прынцыпу самаадзначэньня, РСФСР. ужо у 1917 г. прызнала і незменна прызнае бэзумоўна і бэз усякіх агранічэньняў, незалежнасьць і сувэрэннасьць Польскай Рэспублікі .У 1918 г. Незалежнасьць Украіны і Беларусі, а у 1920 г. падпісала мірную умову з Незалежнай і Сувэрэннай Літоўскай Рэспублікай».

Тое самае заявіў і Старшыня Польскай Дэлегацыі — Домскі 4 кастрычніка 1920 г.: «Польская Рэспубліка, не чэкаючы пачыну з боку Расеі, вызнала незалежнасьць Літвы, Украіны і Беларусі.» (Акт Рэгенцыйнай Рады 1918 г.).

На падставе гэтых заяў Рыжская умова 18. III. 21 г.сцьвердзіла гэта прызнаньне. § I умовы гаварыць: «Абедзьве дагаварываючыяся стараны, згодна прынцыпу самаадзначэньня народаў, прызнаюць незалежнасьць Украіны і Беларусі. «Акупанты беларускай тэрыторыі, як на Заходзе (Палякі), так і на Ўсходзе (Расейцы), прызнаўшы Сувэрэннасьць Беларускай Народнай Рэспублікі, а тым самым і яе законадаўчыя і выканаўчыя органы, бэз згоды і у адсутнасьці на Канфэрэнцыі Рады Рэспублікі і Ураду, падзялілі паміж сабой Беларусь Рыжскай умовай і сталі шукаць спосабаў набыцьця нейкіх, хоць і заведама фальшывых, сувэрэнных правоў на тыя тэрыторыі, якіх яны пазбавілі адна другую. Гэты момант у тым-жа § Рыжскай умовы зафіксованы так: «Расея і Украіна адмаўляюцца ад усякіх правоў і дамаганьняў на землі, распаложаныя на Захад ад гэтай граніцы.



Са свайго боку Польшча адмаўляецца на карысьць Украіны і Беларусі ад усякіх правоў і дамаганьняў на землі, распаложаныя на Усход ад гэтай граніцы».

Важна адзначыць тут, што афіцыяльных прэдстаунікаў ад Савецкай Беларусі на Канфэрэнцыі не было, а тому і Іоффэ не адважыўся, побач з Расеяй і Украінай, сказаць, што і Беларусь адмаўляецца ад зямель, ляжачых на Захад ад Рыжскай граніцы.

Само сабой разумеецца, што ні Расея, ні Польшча ня мелі права, як прэтэндаваць на беларускую тэрыторыю, так і адмаўляцца ад той, ці іншай часткі неналежачэй ім зямлі, згодна папярэдняму вызнаньню незалежнасьці і сувэрэннасьці Беларусі.

РСФСР на Ўсходзе знайшла выхад і абвесьціла паўторна, як толькі абачыла, што вайна 1920 г. праграна, Савецкую Сацыялістычную Беларускую Рэспубліку. Улада, утвораная Маскоўскімі акупантамі, сама сабой прэтэндаваць на сувэрэннасьць не магла. Тут запанавала дыктатура прышлага Маскоўскага пралетарыяту над Беларускім сялянствам з некаторай дамешкай і нацыанальна-беларускага элемэнту камунсітычных напрамкаў. Гэта не была воля народу, а прымус акупантаў.

Зусім іначэй глядзела на справу Польшча. Страціўшы надзею на граніцы 1772 г., Польшча не хацела адмовіцца ад нейкага сувэрэнітэту на падставе гістарычных правоў Люблінскай Вуніі 1569 г. на значную частку Заходняй Беларусі, з Менскам уключна. Дзеля гэтага Пілсуцкі і Падарэвскі, прыкінуўшысь прыяцелямі Беларусі, угаварылі Старшыню Рады Міністраў Луцкевіча у Парыжу, выехаць у Варшаву і Менск, каб там распачаць нібы-то дзержаўную дзейнасьць і склікаць чарговую сэсію Рады. Гэта абецанка была дана пад варункам, што Луцкевіч угаворыць Раду і Беларускае грамадзянства стаць на лаяльны шлях да Польшчы.

Фальш і недарэчнасьць гэтай справы была вочавіста для усіх загранічных прэдстаунікаў Беларускай Дзержаунасьці, але суперэчыць гэтаму і адмовіцца ад паездкі у Менск на чарговую, быццам, сэсію Рады, было немагчыма, бо варункі складаліcь так, што бэз іхняга удзелу пастанова аб лаяльнасьці да Польшчы былаб вынесена абавязкова, так як на гэтым грунце ужо даўно працаваў Нацыанальны Камітэт у Менску і да яго далучыўся ня толькі Старшыня Рады Народных Міністрау Луцкевіч, але і Старшыня Рады Беларускай Народнай Рэспублікі Лёсік, са сваім Намесьнікам Уласавым.

Пілсудскаму і яго спадручнаму у Менску — Ваевудскаму хацелася атрымаць ад Рады Рэспублікі мандат на сувэрэнітэт у Заходняй Беларусі.

Калі высьветлілась, пасля прыезду загранічных дэлегатаў у Менск, што большасьць Рады настрояна варожа да Польшчы і ні на якія кампрамісы з Польшчай пайсьці не можа, тады Ваевудскі, паманіўшы міліонамі перад паланафільскай часткай Рады, запатрэбаваў расколу Рады. Але настрой у Радзе і паміж беларускім грамадзянствам быў настолькі варожы да Польшчы і перэкідчыкаў —

Радных, што пакорные Пілсудскаму сябры Рады, не адважыліся прыйсьці на сход Рады 13 сьнежня 1919 г.

Сход Рады за прысутнасьцю кворума, адбыўся бэз паланафілаў і замест прывітаньня Пілсудскаму, як яны прапанавалі, выняс рашучы пратэст супроць акупантаў.

Рада Б.Н.Р. не здрадзіла сувэрэнітэту свайго народа і захавала мандаты і правы на уладу.

Новаабранаму Прэзыдыуму Рады былі перэданы вярхоўныя правы Беларускага Народу, да тае пары, пакуль яны ня будуць мець магчымасьці зьвярнуцца на Бацкаушчыну.

Аднак, ня гледзячы на такі абарот справы, на другі, ці трэці дзень пасля праўнага і паўнамочнага сходу Рады, адбыўся і прыватны сход адкалоўшыхся паланафілаў, якія пабаяліся выявіць свой твар перэд Беларускім народам і яны, зыйшоўшысь на кватэры Уласава стварылі фальшывы прэдстаўнічы орган Беларускага народу, патрэбны для Палякоў, пад нзвай «Найвыжэйшай Рады».

Але пачуцьцё «Найвыжэйшых» было надзвычайна дрэннае, бо нават і Палякі абачылі, што ніякай юрыдычнай ценнасьці такая установа мець не можа і на яе падставе, прэтэндаваць на голас беларускага народу, а тым барждзэй на сувэрэннасьць Беларусі, не прыходзіцца.

Пры такіх варунках, нават Старшыня польскай дэлегацыі Домскі у Рызе не мог карыстацца заявай «Найвыжэйшай Рады», падпісаннай Іваноускім, што беларускі народ згаджаецца на культурна-нацыянальную аўтаномію у Польшчы. Здрада «Найвыжэйшай Рады» стала яснай не толькі для Палякоў, але і самых «Найвыжэйшых». Свае мандаты як нікому непатрэбные сведкі абмылак і здрады прывёз у Рыгу і здаў Радзе Рэспублікі, адзін з членаў Найвыжэйшай Рады у 1921 г. — Тэрэшчэнка.

Не удаушаяся спроба захопленьня мандатаў праз Раду Рэспублікі прымусіла Польшчу шукаць абходнага способу пры дапамозе Віленскага Сэйму, скліканага на 8 студзеня 1922 г.

Усьвядомленае сваей нацыянальнасьці і сваіх правоў, як нам вядома, беларускае жыхарства байкатавала выборы у Сойм. Сойм праваліўся, скампрамітаваўшы Польшчу у вачах Эўропы і яшчэ больш падкрэсліў значэньне мандатаў Б.Н.Р. Але Польшча не траціла надзеі і надалей.

У звязку з тым, як з часам умацоўвалась становішча акупантаў беларускіх тэрыторый і асабліва, пасля прызнаньня Status quo пастановай Амбасадораў 14 сакавіка 1923 г. за Польшчай і прызнаньнем некаторымі з вялікіх дзержаў Антанты РСФСР — стала павялічывацца смага і на беларускія мандаты.

Старыя способы былі немагчымы, жыхарства, як пад Польшчай, так і у Саюзе Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік, адносілась варожа да акупантаў. Трэба было знайсьці новы спосаб — спосаб раскладу самага Ураду і Прэзыдыуму Рады. Польшча натраўлівала на кампрамітацыю беларускіх дзержаўных устаноў — беларускіх паланфілаў, РСФСР — камуністаў у Менску і камуніствуючых у Вільні, Літва ужо унясла заразу раскладу у самы Урад.



Гэнай справай занялась і частка С.Р. партыі заграніцай.
(Извещеніе 8. XII. 23 г.).

Літва скарысталась цяжкім матэрыяльным становішчам Рады Рэспублікі і Ураду і запрапанавала Старшыне Рады Міністраў Ластоўскаму — службу на акрэслянай пэнсыі і нейкую, для вока, беларускую культурную працу, замест шырокага супрацоўніцтва з Беларускім Урадам на падставе умовы 11 кастрычніка 1920 г.

«Сымпатыі» Ластоўскага да Літвы былі усім даўно вядомы, але да Генуэзскай Канфэрэнцыі яны ня шкодзілі беларускай справе і ня суперэчылі умове з Літвой.

Пасля падачы у Генуі у 1922 г. заявы на імя Старшыні Рады Міністраў Літоўскай Рэспублікі Гальваноўскага аб перэдачы Вільні Літве, на што беларусы ніколі не згаджаліся і не маглі згодзіцца бэз народнага вырэшэньня, Ластоўскі, а таксама і Цвікевіч, падпісаўшы гэную заяву, змушаны былі падацца у адстаўку. Адстаўку, у адсутнасьці Старшыні Рады Рэспублікі, прыняу Наместнік Старшыні В. Захарко. Пры звароце з Прагі Старшыні Рады Рэспублікі, пры новых умовах і адказе, як Ластоўскага, так у Цвікевіча ад паданай заявы часова была утворана Дзержаўная Калегія, пад кіраўніцтвам Старшыні Рады, у якую былі запрошаны, за адсутнасьцю людзей заграніцай, зноў Ластоўскі і Цвікевіч. Аднак ужо пасля усяго таго што было — пройшлай салідарнасьці не заставалась і адносіны паміж сябрамі Ураду с кожным днём псаваліся і надалей працаваць у такіх умовах ужо было немагчыма.

20 красавіка 1923 г. Ластоўскі змушаны быу выйсьці у адстаўку і са складу Калегіі падаўшы такую заяву:

Яго Дастойнасьці, пану Маршалку Прэзыдыуму Рады Беларускай Народнай Рэспублікі. Высокапаважаны Пётр Антоновіч. Пры існуючых узаімаадносінах далейшую працу лічу для сябе немагчымай, а дзеля гэтага прашу Вас, ад сягоняшней даты лічыць мяне выбыўшым са складу Дзержаўнай Калегіі. Прыміце запэўненьне у належнай да Вас пашане і прыхільнасьці В. Ластоўскі.

Пратаколам ад таго ж 20 красавіка 1923 г. адстаўка Ластоўскага была прынята.

Ластоўскі адыйшоў, адмовіўшысь зусім ад палітычнай справы, абецаючы ня толькі не перэшкоджаць справе, а нават памагаць (той жа пратакол 20. IV. 23 г.).

Аднак з ад'ездам Рады Рэспублікі і Ураду у Прагу, Ластоўскі мусіў рабіць не тое, што яму хацелась, а тое, што прыказываў Літоўскі Урад. Хутка прйшлось абачыць Ластоўскага у Жэнэве, як беларускага прэдстаўніка у ролі абаронцы Літоўскіх інтэрэсаў.

У гэтай суперэчнасьці з яго заявай, адыгрывала не малую ролю і асабістыя узаімаадносіны паміж Ластоўскім і Цвікевічам, які так-

сама адмовіўся ехаць у Прагу, ссылаючысь на сваё фамільнае становішча, а фактычна, сачышуый нейкія свае асабістыя мэты.

Перад адʼездам у Прагу паўстала пытаньне і аб утварэньні новага Ураду. Цвікевіч зусім не адпавядаў становішчу Старшыні, бо і да яго ужо не было веры пасля Генуэзскай заявы, але нажаль і не было другой адпавядаючэй гэтаму становішчу асобы. Прыйшлось дару-чыць утварэньне габінэту усёж такі Цвікевічу, асабліва пасля яго раптоўнай і скромнай заявы, што яму будзе надзвычайна непрыемна, калі старшынства будзе аддана другому, бо ён на правах былога намесьніка Старшыні, у сваю апошнюю паездку у Прагу, рэкамэндаваўся Чэхаславацкому Міністру Заграчічных спраў, як Старшыня Рады Міністраў Б.Н.Р.

Прыйшлось зрабіць уступку, але усёж такі ня верачы яму цалкам, абмежыць яго дзейнасьць, аб чым можа сьведчыць ніжэй падаеная пастанова:

## ПРАТАКОЛ

Абʼеднанага Сходу Членаў Прэзідіуму Рады і Ураду Б.Н.Р. ад 23 жніуня 1923 году. м. Коўна.

Былі прысутны: П. Крэчэўскі, А. Цвікевіч, В. Захарка, Л. Заяц, Я. Варонко і У. Пракулевіч.

| *Слухалі:* | *Пастанавілі:* |
|---|---|
| Заяву Старшыні Ураду Б.Н.Р. А. Цвікевіча аб стварыўшымся Урадзе у складзе: Старшыні Рады Міністраў і Міністра Заграчічных Спраў А. Цвікевіча, Міністра Асьветы Я. Варонкі, вып. аб. Міністра Фінансаў В. Захаркa, Дзержаўнага Кантралёра Л. Зайца і Дзержаўнага Пісара У. Пракулевіча. | Новы склад Ураду прыняць да ведама. Падцьвердзіць, што уся праца Ураду вядзецца згодна пастановы Рады Рэспублікі ад 13 сьнежня 1919 г. Прэзыдыюмом Рады і Радай Народных Міністраў супольна пад кіраўніцтвам Старшыні Рады Рэспублікі П. Крэчэўскага. У в а г а: Прэзыдыюмум Рады і Рада Народных Міністраў асоб на не заседаюць. |

Старшыня Рады Рэспублікі П. Крэчэўскі
Старшыня Рады Міністраў А. Цвікевіч
Сябры Рады Міністраў: В. Захарка, Л. Заяц, Я. Варонка
Дзержаўны пісар У Пракулевіч.

2 лістапада 1923 г. Рада і Урад аканчальна пераехалі у Прагу і там, як эміграНты знайшлі поўную падтрымку з боку Чэхаславацкага Ураду на роўне з усімі эмігрантамі народаў былшае Расеі. Цвікевіч, хоц і застаўся у Коўне, але карыстаўся аднальково з усімі падтрымкай і у гэты самы момант углядаўся то на Літвіноў, то на Савецкую Беларусь.

Літва, жадаючы падтрымаць Ластоўскага, агітвала сама на Віленшчыне супроць Беларускага Ураду і ужывала для гэтых мэтаў



Ластоўскага. Увесь час х-дэкі беларускія у Вільні былі у зносінах з х-дэкамі Літоўскімі, у руках якіх была улада.

Пачалі гаварыць, што трэба дагаварывацца бэзпасярэдна з Віленшчынай, абмінаючы Урад і вясьці справы з народам. Ластоўскі у сваіх мэтах гэта падтрымліваў. Віленшчына пачала гутаркі аб спыненьні працы Ураду і перэтварэньні яго для культурнай працы у Нацыянальны Камітэт. Прыслана была нават нейкая дзікая пастанова Краёвага Цэнтра ад 11 лютага 1924 г. дзе прапанавалась спыніць працу Ураду, на што яны ня мелі ніякага права, і залажыць Камітэт, які бы звязаўся з Лігай Нацый, а усім арьентаавцца на Ўсход пакінуушы для культурнай працы у Літве Ластоўскага.

Думка аб спыненьні Ураду падхапілась і камуністамі, якія пачалі напіраць у гэтым сэнсе на спрыяючых ім Паслоў Беларускага Пасольскага Клюбу у Варшаве праз Варшаўскае Полпрэдства.

Такім чынам да раскладаючэй працы Ураду Б.Н.Р. Польшчы і Літвы далучылась Масква і стала сачыць за гэтай справай. Два гады рабілісь падкопы пад Беларускую Дзержаўнасьць і справа ніяк не удавалась, бо на варце даручаных яму інтэрэсаў беларускага народу цьверда стаяу Прэзыдыум Рады.

Нарэшце у 1925 г. камуністы захапілі у свае рукі беларускія галоўкі у Вільні і пачалі націскаць, як мы даведалісь толькі пасля Бэрлінскай Канфэрэнцыі, на Цвікевіча, патрэбуючей здачы мандатаў Б.Н.Р.

Аб гэтым гаварыла і адбышаяся 2 верасьня 1925 г. нарада, аб якой Цвікевіч Прэзыдыуму Рады да Бэрлінскай Канфэрэнцыі не дакладаў. А паміж іншым там Цвікевіч не маючы ніякага права гаварыць за Раду Рэспублікі, Прэзыдыум якой толькі і мог вясьці размову аб мандатах, абяцаў здаць мандаты, склікаўшы канфэрэнцыю у Бэрліне.

Прэдстаўнікі Віленшчыны і Савецкай Беларусі, хоць і абецалі зьявіцца на Канфэрэнцыю, але не зьявілісь, ня хочучы браць адказнасьці за авантуру Цвікевіча.

Да самага моманту склікаьня канфэрэнцыі 10 кастрычніка, ніхто ня ведаў, што гэта будзе за канфэрэнцыя і хто сапраўды на ёй будзе. Невядома было нават на які кошт канфэрэнцыя склікаецца.

Акрэсляна, з нахілам на Менск, Цвікевіч выступаць баяўся, ведаючы, што спачуцьця у гэтым напрамку, яго акцыя мець не можа, а таму працаваў паціху. Зьвязаны пратаколам 23 жніуня 1923 г. Цвікевіч аткрыта выступаць ня мог, бо яго Старшынства было фікцыей. Трэба была заканспіравацца і апіраючысь, быццам-бы, на Край напіраць усе сілы на ліквідацыю Ураду.

Прыкрывалась гэта і перегаворамі з Літвой. Літва была зацікаўлена у ліквідацыі Ураду, каб дагаварыцца з прыватнымі асобамі у стасунку да Вільні і Віленшчыны, вырваўшы ад іх прызнаньне Вільні за Літвой.

Патайныя перэгаворы з камуністамі Менска і Масквы падавалі надзеі Цвікевічу, што камуністы за перэдачу мандатаў даруюць яму

усё пройшлае і ўзнагародзяць добрай пасадай у Менску. Але, нажаль, камуністы ня зналі, ці не хацелі знаць, што гэтыя мандаты Цвікевічу не належаць, Цвікевіч рабіў выгляд, што ён гэта зрабіць можа, калі толькі раней аб гэтым ніхто не даведаецца. Дзеля гэтага у свой прыезд у Прагу, Цвікевіч запэўніў усіх, што справа аб мандатах на канфэрэнцыі ставіцца не будзе, а на нарадзе 2 верасня сам па сабе згодзіўся перадаць мандаты Менску.

Каб таемніца не раскрылась, невядомым нам чынам пасля перэгавораў з Пурыцкім, быўшым Міністрам Загранічных Спраў у Літве, Цвікевіч вырваў ад Літвіноў 3000 літаў на канфэрэнцыю і рабіў уражэньне, што гэта канфэрэнцыя склікаецца для абгавору Літоўска-Беларускіх узаімаадносін а не з той мэтай, якую сачыў Цвікевіч і ужо атрымаў грошы ад бальшэвікоў.

Таемніца гэта была раскрыта толькі у Бэрліне, калі на абгавор была пастаўлена зьмэнатычніцкая рэзалюцыя і за яе галасавалі тыя, хто, як відаць, раней быў у змове з Цвікевічам, але яшчэ поўнасьцю не аддаваў сабе адчоту ў тым, што гэта ёсьць авантура прадажы мандатаў.

Ніхто не сумляваўся у тым, што Менск становіцца цэнтрам культурна-нацыянальнай працы ва Ўсходняй Беларусі, як і прызнаваў у гэтым яго дасягненьня. Але нам таксама было вядома, што уся палітычная, эканамічная праца у Савецкай Беларусі вядзецца чужынцамі, элементам прышлым, нічога супольнага з Беларусьсю не маючым. Да гэтае пары Беларуская Савецкая Сацыялістычная Рэспубліка не мае сваей беларускай камуністычнай партыі, а мае сэкцыю Ўсесаюзнай камуністычнай партыі, на Беларусі.

Але партыя РКП., цяпер Ўсесаюзная, хацела мець мандаты БНР., як сувэрэннай установы не толькі на Ўсходнюю, но і на Заходнюю Беларусь. Торг з гэтага і пачаўся.

Як крумкачы сядзелі за вуглом прыёмшчыкі мандатаў Ульянаў і Жэлуновіч у Бэрліне, прысланыя з Менску, каб заплаціць сваіх 30-срэбрэнікаў Цвікевічу за жывую душу Беларускага народу.

Паводженьне Членаў Ураду Зайца і Пракулевіча было невыразнае, не глядзячы на тое, што пры ад'ездзе з Прагі ім дана была інструкцыя, абгавораная усімі разам, а з іхняга боку падана заява аб адстаўцы. Вось гэта заява:

Старшыні Рады Беларускай Народнай Рэспублікі П. Крэчэўскаму.

Прыймаючы пад увагу, што пытаньне ліквідацыі Ураду Беларускай Народнай Рэспублікі можэ быць пастаўлена на павестку дня канфэрэнцыі у Бэрліне, просім прыняць, гр. Старшыня, нашу адстаўку, каб мець свабодныя рукі у абароне Беларускай Дзержаунасьці, на падставе Усебеларускага Кангрэсу 1917 г.

Дзержауны Кантралёр Л. З а я ц

Выкон. абав. Міністра Фінансаў В. З а х а р к о

Дзержаўны Сэкрэтар У. П р а к у л е в і ч

Прага 4- кастрычніка 1925 г.



На заяве рэзалюцыя: Адстаўка прынята 10- кастрычніка 1925 г.

Старшыня П. Крэчэўскі.

Апрача таго у інструкцыі гаварылась:

§ 1. Правы канфэрэнцыі выплываюць з паўнамоцтваў конфэрыруючых старон. Рэзалюцыі і пастановы набываюць сілы толькі пасля зацьверджэньня іх праўнымі органамі трох частак Беларусі на раўнапраўных асновах;

§ 2. Дэлегаты Ураду БНР. едуць на Канфэрэнцыю з інфармацыйнымі мэтамі. Абмен поглядамі з адпаведнымі кіраўнікамі трох частак этнаграфічнай Беларусі і перэкананьне у добрай волі супрацоўніцтва на карысьць адраджэньня Беларусі, могуць даць дэлегатам права прыняць у Канфэрэнцыі удзел на стала.

§ 3. Пры разбежнасьці поглядаў, толькі падаўшы адстаўку на рукі Старшыні Рады БНР. Сябры Ураду могуць прыняць удзел у Канфэрэнцыі пэрсанальна, бэз адказу за іх паводжаньне Ураду.

Не гледзячы на паданую адстаўку, невыпауненьне інструкцыі і супроць пастановы 23- жніуня 1923 г. — Члены Ураду Пракулевіч і Заяц, пад гіпнозам Цвікевіча, пайшлі на здрадны крок авантурнага рэволюцыянізму — сэпаратнага сходу Ураду, нават бэз чацьвертага Члена Ураду, прысутнага на канфэрэнцыі, В. Захарко і падпісалі пратакол прызнаньня Савецкай Беларусі.

Пратэст Захарко прымусіў авантурнікаў перэглядзець пратакол і напісаць другую рэдакцыю толькі аб ліквідацыі Ураду, пад якой бы мог падпісацца і Захарка, каб спыніць авантуру Цвікевіча тут і не даць магчымасьці выступаць ему, як Старшыні Рады Народных Міністраў у Менску.

Разумеецца, і такая форма не меняла зьместу авантуры і не магла мець юрыдычнага значэньня, як бэзпраўная з усіх бакоў пастанова.

Аднак і пасля гэтага Цвікевіч, Заяц і Пракулевіч, падпісаўшысь як Міністры, прылажылі сваю першую пастанову, як дадатак да пратаколу і перэдалі прыёмшчыкам.

Трудна думаць каб прэдстаўнікі СССР. і Менску не бачылі усей авантуры Цвікевіча. Усё роўна, пры адстаўцы, ці нават бэз адстаўкі, пратакол аб ліквідацыі Ураду, а тым барджжэй, перэдачы мандатаў бэз зацьверджэньня Старшыні Рады, ніякай вагі мець не мог і зьяуляўся падлогам і спэкуляцыей з аднаго боку, і юрыдычным абсурдам, разлічаным на несьвядомасьць, калі не сказаць глупоту, як сябе так і тых, каму гэтыя пастановы і мандаты гатаваліся.

Што гэта так, можа сьведчыць і ліст быўшага Старшыні Рады БНР. Цвікевіча, надрукованы у Савецкай Беларусі (15. II. 25 г. № 259, 1558), дзе авантурызм Цвікевіча знайшоў апошні свой выраз і сказаў тое, чаго не было нават у пратаколах, але на чым асабіста Цвікевіч хацеў здабыць ласку камуністаў: «Пасля гэтага, німа нічога дзіўнага, калі Урад рашыў здаць сваe мандаты і тым падкрэсліць значэньне Менску)».

Гыйшла падвойная авантура. Замест ліквідацыі Уряду, як

установовы. Цвікевіч ліквідаваў толькі сябе і сваіх таварышчоў. — Зайца і Пракулевіча і цяпер ад імені Ураду гаворыць у Савецкай Беларусі, што Урад рашыў здаць мандаты.

У высцігах выслуговываньня перэд камуністамі гэта група зайшла так далёка, што рэзалюцыей на канфэрэнцыі у Бэрліне абвесьціла усіх, хто выступае супроць Савецкай Беларусі, здраднікам справы вызваленчага беларускага руху. (Савецкая Беларусь 18. IX. 25 г. № 262).

Атака на Урад БНР. пад уплывам камуністаў, вялась на Віленшчыне даўно, але дасягнула свайаго аппогею, як раз у часе канфэрэнцыі.

У гэты момант былі надрукованы (Жыцьцё Беларуса 10.X. 25 г. №10 і Беларуская Крыніца 11. X. 25 г. №3) агідныя артыкулы, дакараючыя Беларускі Урад куском эмігрантскага чорнага хлеба, запамятаваушы тое, што адзін Пасол у Варшаускім Сойме меў у месяц больш пэнсыі, як усе чатыры сябры Ураду разам. Ня будзем гаварыць аб тым, ці кожны з іх рабіў у чатыры разы болей працы на карысць Беларусі, ніж Урад, но факт застаецца фактам.

Аб гэтым можна былоб і не пісаць, але той факт, што на Канфэрэнцыію не зьявліcь прэдстаўнікі Віленшчіны і Менска, калі яны лічылі што гэта патрэбна для адраджэньня Беларусі, каб узяць на сябе адказнасьць, прымушае мяне гаварыць аб гэтым.

Гэта запатрэбаваньне ліквідацыі, было не толькі запатрэбаваньнем газэтным, але і пунктамі нарады прэдстаунікау Віленшчыны 2 вересьня.

Відаць, што язык гаварыў адно, а сумленьне і адкрытае выступленьне у гэтым напрямку на Канфэрэнцыі спужалі храбрых ліквідатараў і яны вырэшылі лепш палажыцца на авантурызм Цвікевіча, які скончыць гэту справу самаліквідацыей, гэта знача самагубствам і выдасьць ім распіску у тым, што просіць у сьмерці Беларускага Ураду нікаго не вінаваціць. Як і заужды бывае Вільня у гэты адпаведны момант умыла рукі...

Такім чынам Цвікевіч і компанія ліквідавалі сябе і выкінулі свае імёны з Беларускай Незалежніцкай групы, але установа як Урад, засталася. Выканаўчая улада да часу перайшла у рукі Прэзыдіуму Рады і можа быць узноўлена, калі гэта будзе патрэбна.

Юрыдычнай падставай дзеля гэтага служыць пастанова Рады БНР. 13- сьнежня 1919 г.

Дармо гэтую пастанову са сваім выхадам са складу Беларускага Ураду хацеў скампраміттаваць і Ластоўскі, калі надрукаваў у Літоўскай газецэ «Летува» 24. IX. 25 г. №215. сваё абвешчэньне, дзе гаворыць: «Беларускі Урад, выбраны у Менску 13. XII. 1919 г. Пленумам Рады БНР. у працілежнасьць яўна паланафільскай «Найвыжэйшай Радзе» скончыла сваё існаваньне 20- траўня 1923 г., калі галава Ураду В. Ластоўскі злажыў свае паўнамоцтва. Новы Урад ня мог быць сфармаваны, так як не было правамоцнага органу, які бы



мог яго выбраць. Па Канстытуцыіж Беларускі Урад павінен быў выбірацца выключна Пленумам Рады Рэспублікі».

Апрача таго, што такой пастановы не было. В. Ластоўскі дармо хацеў даказаць, што, з яго адыходам ад Ураду, нічога не засталась і ніхто не мае права стварыць новы Урад.

Фактыж нават з яго жыцьця у бытнасьць Старшыні Рады гаварацьь зусім не на яго карысць:

Так 6- чэрвеня 1920 г. мы маем пратакол сходу Прэзыдіуму Рады Беларускай Народная Рэспублікі, запісаны уласнаю рукою В. Ластоўскага:

с л у х а л і:

Пытаньне аб тым, што некаторые Члены Ураду (Рады Міністраў) Беларускай Народнай Рэспублікі, па варункам акупацыі на Беларусі, не маглі узяць удзелу у даручанай ім Урадовай працы, што адбілась і адбіваецца на працы Рады Народных Міністрау.

п а с т а н а в і л і:

Каб пазбавіцца шкод, якія выплываюць з гэтага ненармальнага становішча, — скарыстаць надзвычайныя паунамоцтвы, перэдадзенные Радай Беларускай Народнай Рэспублікі 13- сьнежня 1919 г. Прэзыдіуму Рады і даручыць Старшыне Рады Народных Міністрау, гр. Вацлаву Ластоўскаму, зрабіць належныя і вымаганыя варункамі Дзержаўнай працы рэорганізацыю габінэту Рады Народных Міністрау з уключэньнем у яе склад новых асоб і партфэляў.

Віцэ-Маршалка Прэзыдіуму Рады БНР. В З а х а р к о.
Віцэ-Маршалак Прэзыдіуму Рады БНР. Палута Б а д у н о в а
Сэкрэтар Прэзыдіуму Рады БНР. Яз. М а м о н ь к о.

Як бачым у адносінах да надзвычайных правоў — вярхоунай улады на Беларусі Прэзыдіума Рады і да гэтай пары нічога не зьмянілась. Здрадны адыход ад працы асоб, ня можа меняць Канстытуцыю Рэспублікі. На іх мейсца, як абаронцаў незалежнасьці, могуць быць запрошаны другіе людзьі.

Наша нешчасьце у тым, што на працягу усей дзержауна-адраджэнскай працы, мы на адпаведных становішчах выканаучай улады, бачылі мало сумленных людзей і цяпер яны апынуліcь у варожым стане свайаго народу. Людзі, якія учора служылі ідэалу незалежнасьці і на гэтым будавалі сваю палітычную карьеру, сёньня яе паганяць...

Німа пакуль дзержавы і німа аружжа бароцца з гэтым злом, але гэта не значыць, што мы у роспачы павінны адмовіцца ад сваіх лепшых ідэалаў. Права не у сіле. Часовая перэмога — не ёсьць закон на будучыну. Рамантызм ідэі творыць рэальнысць, а не наадварот. Рэальнасьць падпарадкаўвае слабейшых, а моцны духам рамантызм змагаецца і накрэслівае новыя шляхі будучыны.

Не апраўдаушыя народнага даверра рэалісты адыйшлі у старану,

ці перайшлі у варожы стан, а цьверды рамантызм ідэі незалежнасьці і ея дзержаўных устаноў жывець далей і будзя жыць, пакуль жыве сама ідэя.

2. XII. 25 г. (Бюлетэнь Рады БНР. № 1 — Студзень 1926 г.).
Прага.

## МЭМОРАНДУМ У ЛІГУ НАЦЫЙ

### Абшар і насяленьне.

Беларуская Народная Рэспубліка па большасьці (ад 62% да 82%) беларускага жыхарства абыймае поўнасьцю 6. губэрній былой Расеі: Віленскую, Гродзенскую, Вітэбскую, Менскую, Магілеўскую, Смаленскую і некаторые прылегаючые паветы сумежных губэрній. Площча абшару выносіць 415.453 кв. кілем., з насяленьнем, па статыстыцы Расейскай 1915 г. у 15.521.900 чалавек.

Сумежаць з Беларусcю на поўнач-усходзе — Велікаросія, на поўдзень— Украіна, на захадзе і поўнач-захадзе — Полшча, Нямеччына, Літва і Латвія.

### Эканамічны стан.

82% жыхарства займаецца сельскай гаспадаркай і жывелаводствам. Аснаўны фонд багацця Беларусі складае зямля і лес. Зямельны абшар раскладаецца так:

| | | | |
|---|---|---|---|
| Аромай зямлі | 15.912.000 | кв. | гэкт. |
| Лонак і сенажаці | 5.668.000 | ,, | ,, |
| Лесу | 11.719.000 | ,, | ,, |
| Балот і нягоднай зямлі | 5.559.000 | ,, | ,, |
| Рэчак і вазер | 2.518.000 | ,, | ,, |
| Усяго | 41.376.000 | ,, | ,, |

### Сельска-гаспадарчая прадукцыя.

Па данным 1914 г. урода пры трохполнай сыстэме і самай нізкай сельска-гаспадарчай культуры выносіла у 6- губэрнях Беларусі 590 мільёнау пудоў, у тым ліку жыта — 150 мільон., аўса — 50, ячменю — 18, бульбы 350 льнянога і канапланага семяні — 7 мільёнау і іншых.

Сабрано было валакна льну — 6.600.000 пудоў і пенькі 1.500.000 пуд.

Із сельска-гаспадарчых прадуктаў, апроча хлеба экспартаваліcь у Польшчу, Велікаросію і заграніцу па данным тагож году:

| | | |
|---|---|---|
| Малочных прадуктаў | 226.800 | пуд. |
| Бітай і жывой птушыны | 996.200 | ,, |
| Кароўяго масла | 244.000 | ,, |
| Сала і тлушчаў | 149.000 | ,, |
| Крахмалу | 764.000 | ,, |
| Алейнага семяні | 3.000.000 | ,, |
| Кармовых траў | 854.000 | ,, |
| Жмыхаў | 2.000.000 | ,, |
| Невырабляных скур | 432.000 | ,, |
| Чыстага спірытусу | 12.000.000 | ,, |
| Піва | 3.000.000 | ведзяр |
| Мёду | 50.000 | ,, |



### Лясы.

Лясы Беларусі страевые і мачтавые. Маецца многа дубовых пушч. Адна Белавежская пушча займае абшар ўзвыш 1.000 кв. кілямэтраў, якую Польшча стараецца запрадаць супроць пратэстам беларускага народу, бэз яго згоды, Лёндданскаму Лясному Трэсту. Экcплоатацыя лясоў па данным 1913 г. давала для вывазу з Беларусі 46-мільонаў пудоў леса і лясных матэрьялаў. Апрача таго вывозілась вырабоў з дрэва:

| | | |
|---|---|---|
| Кавальскага угля | 3.111.000 | пуд. |
| Запалок | 1.022.000 | ,, |
| Паперы рожнай | 1.600.000 | ,, |
| Тэрпэтыны | 393.000 | ,, |

Вываз сельска-гаспадарчых прадуктаў уключна з прадуктамі вырабаў з дрэва выносіў да 100-мільёнаў пудоў. Увозілісь у Беларусь

| | З Польшчы: | | З Вялікарасеі | |
|---|---|---|---|---|
| Пшонная мука | 215.100 | пуд. | 258.000 | пуд. |
| Штучнага гною | 315.700 | ,, | 1.196.000 | ,, |
| Суконных матэрый | 208.000 | ,, | 645.000 | ,, |
| Паперова-бавэльнян. | 287.000 | ,, | 615.300 | ,, |
| Жалеза | | | 2.845.000 | ,, |

Цукер і камянны вугаль атрымліваўся з Украіны, нафта і газа — з Каўказа.

### Балоты, рэкі і вазера.

У балотах і нягоднай зямлі Беларусі ляжыць аграмадны лік торфу, прырост якога, па вырахаваньню інжанера Орнацкага, можа здаволіць шыроканаладжаную беларускую прамысловасьць.

Рэкі і вазеры, акрамя выгоды і таннасьці транзыту даюць вялізарны лік рыбы і бязмерны запас белага вугля для прамысловасьці і электрафікацыі.

### Прамысловасьць.

Прамысловасьць на Беларусі знаходзілась у першапачатковам стане, аднак таргова-прамысловые цэнтры — Вільня, Горадня, Беласток, Бранск, Менск, Смаленск, Пінск, Вілейка і інш. канкуравалі с прамысловасьцю агульна-расейскай. Усяго на Беларусі было каля 12.000 фабрык і заводаў. Самы большы лік фабрык прыпадае на прамысловасьць харчовых прадукт. (5.500), хімічных — (3.500), керамічных и мінэральных (800), апрацоўка жывёльных вырабоў — (700), тэкстыльных (200), дрэваабрабляючых і запалачных (400),

паперовых (150), мэталічных (80), бровароў (710), піваварных (84) і медаварных (38). Вартасьць вырабоў раўнялась 110- мільён. рублеў, пры 100- тысяч. рабочых.

### Падзел Беларусі.

У сучасны момэнт Беларусь разарвана на пять частак. У цэнтры камуністамі створана незалежная Савецкая Беларуская Рэспубліка

| | | | |
|---|---|---|---|
| з тэрыторыей: .......... | 113.115 кв. кл. насел. | 3.859.000 | чел. |
| Анексірав. Р.С.Ф.С.Р. .. | 183.039 ,, ,, ,, | 6.479.200 | ,, |
| Анексірав. Польшчэй.... | | | |
| па Рыжскай умове .... | 101.990 ,, ,, ,, | 4.458.700 | ,, |
| прылучана да Літвы .. | 5.433 ,, ,, ,, | 231.000 | ,, |
| прылучана да Латвіи .. | 11.870 ,, ,, ,, | 494.000 | ,, |
| Агулам | 415.453 ,, ,, ,, | 15.521.900 | ,, |

### Версальскі мір і Польшча.

Па 3 § Вэрсальскай умовы межы Польшчы на ўсходзе акрэсляюцца межамі Гродзенскай і Сувалскай губ. быўш. Расеі 1914 г. па Бугу і Нараву. Захват Желігоўскім Гродзенщыны, Сувалшчыны і Віленшчыны і Рыжскі мір разглядаюцца намі, як акупацыя беларускай тэрыторыі. Польшча па Вэрсальскай умове у гэтых абшарах павінна была перэдаць уладу Ураду Беларускай Народнай Рэспублікі. Незалежнасьць Беларускай Народнай Рэспублікі §1. Рыжскай умовы, прызнана як Савецкай Расеяй, так і Польшчай. Каб паралізаваць пратэст Беларускага Ураду а падзеле Беларусі, Савецкая Расея стварыла у 6- паветах Менскай губэрні Савецкую Беларускую Рэспубліку, якую цяпер павялічыла Магілеўскай і Вітэбскай губ.

Польшча-ж анэксаваўшы заходнюю Беларусь, адкінула не толькі варункі Рыжскай умовы, але парушыла у частцы і Вэрсальскую умову, пашырыўшы, свае межы на усход і адкінуўшы §93 аб правох меншасьцяў, пазбавіўшы, як відаць з далейшаго, беларускае жыхарства самых прымітыўных правоў на істнаваньне у польскай рэспубліцы.

### Эксплоатацыя Беларусі.

Польшча па Рыжскаму міру аккупавала 101.990 кв. кіляметраў беларускай тэрыторыі з 4 з паловай мільёнамі гэтароў аромай зямлі і 3.124.679- кв. гэкт. леса, у том ліку красу і гордасьць усей Еўропы — Белавежскую пущу.

Да Польшчы перайшлі галоўнейшые таргово-прамысловые цэнтры Заходняй Беларусі: Вільня, Горадня, Беласток, Берэсьцье, Пінск, Вілейка і інш. з 6.417 фабрыкамі і заводамі, на вартасьць вырабоў да 60- мільёнаў рублеў.

Жалезнадарожные вузлы — Берісьце, Беласток, Вільня, Чаромха, Горадня, Баранавічы, Пінск, Лунінец, а таксама і водные шляхі — Нёман, Прыпяць, Дзьвіна, Піна, Буг, Нароў, Днепроўско-Бугскі і Аугустоўскі каналы перайшлі у рукі Польшчы.



Эксплоатацыя леса, апрача даходаў у казну ад прадажы, дала мажлівасьць польскаму ураду адбудаваць зруйнованые вайной мейсцовасьці этнаграфічнай Польшчы.

Ападаткаваньне беларускага жыхарства — пазямельнае, падымнае, падушнае, страхавое (бэз выплаты страхоўкі), падаткі на жывелу да сабак і кошак уключна, даюць вялізарные прыбыткі у казну, так як стаўкі падаткаў перавышаюць у некольні разоў стаўкі падаткаў даваенных.

Даремная рэквізыцыя быдла, коні і спажыўчых прадуктаў у жыхарства, кормяць польскую армію па мейсцох і даюць мажлівасьць лішкі вывозіць у Варшаву.

Польскія войскі налічываюць у сваіх радох не менш 30—40 тысяч салдат беларускай нацыанальнасьці, раскіданых па некалькі чалавек па усей тэрыторыі этнаграфічнай Польшчы.

Прэдстаўнікі польскіх сацыалістычных партый Недзялкоўскі, Жулаўскі і Тугут, выходзячы з перадпасылак эканамічнай зацікауленасьці Польшчы у Беларусі, імкнулісь асьветліць беларускае Пытаньне у Лёндане, Парыжу, Рыме і Жэнэве, як пытаньне эканамічнае, а не нацыанальнае.

З гэтым не можа згодзіцца беларускі народ, бачучы у эканамічнай зацікаўленасьці сваіх суседзей і залог свайго будучага незалежнага істнаваньня.

### Што Польшча дала Беларусі у замен.

Із паловы зруйнованых селаў і весак Заходняй Беларусі да гэтай пары, пры дапамозе дзержавы не адбудована ні водная. Вярнуўшаеся населеньне жыве у землянках.

Лес эксплоатуецца і вывозіцца заграніцу і у Польшчу, а на мейсцох даецца толькі польскім ваенным асаднікам, але не беларускаму жыхарству.

Да 1- студзеня 23 г. было пасаджана у Беларусі 8.700 вайсковых асаднікаў і у 23 г. размешчана 9.000 семьяў невайсковых.

Самаурадаў німа, камандуюць назначаные старасты і войты. Фактычная улада знаходзіцца у жандараў і таемнай паліцыі.

Усе натуральные павіннасьці выпаўняюцца мяйсцовым жыхарствам бэзплатна.

Ніякіх выдаткаў на культурна-нацыанальные, грамадзкіе і іншые не паліцэйскіе патрэбы польская дзержава не нясе. Навэт сярэдніе і ніжэйшые школы істнуюць на прыватные грошы населеньня.

Із 400- беларускіх школ, істнаваўшых у часе вайны зачыняна 380. Вучыцялі у большасьці выпадкаў сідзяць у польскіх турмах за беларускую прапаганду.

Із 500- царквоў пераробляна на касьцелы і зачыняна 305. У астаўшыхся царквах права Божыей службы і выпаўненне хрысціанскіх абрадаў даюць атпрауляць толькі тым свяшчэнікам, якіе маюць права польскага жыхарства, а такіх свяцэнікаў, як верных польскай дзержаве маецца — толькі восем.

Каапэратывы усе зачыняны. Эканамічныя цэнтры зруйнованы.

За пяць гадоў панаваньня у Заходняй Беларусі польскай уладай зачыняна 48- беларускіх газэт і журналаў: у сучасны момэнт, з частымі канфіскацыямі выходзіць толькі адна газэта.

У турмах Польшчы і концэнтрацыйных лагерох томіцца бэз суда і следства да 10- тысяч беларусоў.

Инквізыцыя.

Гэнэральны Сэкрэтар Лігі Нацый Друмонд назваў форму улады у Польшчы рабоўладарскай, але праўда пераходзіць і гэту назову.

Тут немажліва расчыніць крывавые старонкі страшэннай чорнай кнігі 19—23 г., калі польскіе янычары распраўляліс з беларускім жыхарствам горш, чым у сярэдніе векі.

Агульная порка селян целымі вескамі, не выключаючы жанчын і дзяцей, зруйнаваньне сёлаў і вёсак пажарамі, рабункі, забойства і разстрэлы масамі, бэз уселякага суда і следства — былі звычайнымі подвігамі польскай арміі. Такіх фактаў тысячы.

Адкінушы газэтные і прыватные срога спраўджаные весткі, скарыстаемся фактамі 23- і 24 г. толькі афіцыяльнага характэру, абапертых на інтэрпэляцыях паслоў польскага Сойму, у той час, калі Польшча, здавалась, як і уся Еўропа перайшла на мірны стан.

Вось першая інтэрпэляцыя польскай Сацыялістычнай партыі Тугута — «Вызваленьне» 1- лістапада 23 г., дзе прыведзяна 17- выпадкаў сярэднявяковага катаваньня святой інквізыцыі, прароблянай ужо не цвярозай рукой фанатыка іезуіта, а пьянай, раскелзанай рукой польскай адміністрацыі.

Той жа самы малюнак маем і у інтэрпэляцыях Беларускага Пасольскага Клюбу 12- лютага, 18- сакавіка, 2 і 3 красавіка г. г. Катаваньне і зьдзекі не шчадзяць ні старых 60—70 г., роўна, як жанчын і дзяцей вучняў.

Агонь, вада, гарачае жалеза, голкі пад пазногці, ушчымленьне пальцаў рук і ног, біцьце па пятам, падвешываньне, крыжаваньне, цкаваньне сабакамі, біцьце да поусмерці і ачўчываньне вадой — вось катаваньня, афіцыйна засьведчэныя інтэрпэляцыямі Паслоў і спраўджаныя Сэймавай Камісіяй на мейсцох пад старшынствам Тугута.

Нявінных людзей пасля біцьця і катаваньня садзілі у турмы для скрыцця доказоў, каб незажыўшыя раны не служылі повадам да абвінавачэньня катаў у іх катаваньнях.

Польскім сацыалістам, жадаючым падтрымкі Англіі, Францыі і Італіі, куды яны ездзілі у красавіку месяцы гэтага году, былоб выгадней замест эканамічнай зацікаўленасьці у беларускам пытаньні прэд'явіць партфэль катаваньня беларускага жыхарства, знаходзіўшыйся у руках посла Тугута, каб адсэпаравацца ад сучастнай палітыкі імпэрыалістычнай і ваявнічай Польшчы.



Гыстарычная спраука.

Беларускі народ 240- гадоў — з 1569 г. знаходзіўся пад уціскам Польшчы і 140 г. — з 1772 г. пад уціскам Расеі.

Сувэрэннасьць Беларуска-Літоўскага Княжства заховывалась, не гледзячы на Люблінскую вунію 1569 г., але культурные здабыткі, гістарычные памятнікі у пярыад ваявнічага каталіцызму нішчыліс іезуітамі.

Бібліатэкі і музэі Радзівілла Чорнага, Астрожскага і іншых былі публічна спалены у 1581 г., як гэрэтычныя на пляцох Вільні. Таксама нішчыліс беларускія памятнікі і маскоўскімі князямі, пачынаючы з Івана Грознага. Многа спалена было беларускіх уніятскіх кніг нават у 1860 г.

Кацярына другая прылучыла Беларусь да Расеі — з гэтага момэнту быў страчан і сувэрэнітэт Беларусі.

Наступніцей Полацкага, Турава-Пінскага, Смаленскага і іншых, а пасля самахотнага злучэньня з Літвой у XIII- сталецьці Беларуска-Літоуская Княжства, зьяуляецца Беларуская Народная Рэспубліка, абвешчаная на падставе Усебеларускага Кангрэсу 1917 г. Радай Рэспублікі 25- сакавіка 1918 г. у Менску.

Патомкі старажытных Крывічоў, Дреговычоў і Радзімічоў — беларусы — прыйшлі зноў да дзержаўнай незалежнасьці і патрэбуюць адраджэньня сваіх дэмакратычных правоў. Крывічы, па сведчаньню летапісца адпачатку справляліс вечам, гэта знача, народам. Князь адыгрываў толькі прэдстаўнічую ролю. З 1181 па 1190 г. у Полацку істнавала дзевяць гадоў Рэспубліка, кіруемая трыдцацю выбарнымі старэйшынамі.

Культурны стан дзержаўнага і сацыяльнага жыцьця як у Полацкім, так потым і Беларуска-Літоўскам Княжстве быў не ў параўнаньні выжэйшы, чым у Польшчы і Маскоўскам Княжстве.

Старажытны водны шлях із Чорнага мора у Бальтыцкае па рэчкам Беларусі прыносіў не толькі тавары купцоў, але і культуру старажытнай Візантыі і Рыму. Яшчэ нібыло Масквы, а у Полацку ужо істнавала Акадэмія, якая потым абдарала вучонымі і кнігамі Маскоўскае Княжство.

Друкаваньне кніг у Беларусі пачалось з 1483 г. У Польшчы з 1505 г. на 22 г. пазней, а у Маскве з 1563 г. — на 80 гадоў пазней.

Біблія на беларускай мове Юрыя Скарыны, надрукованная у Празе Чэшскай, зьявілась у 1517 г., трэцяй пасля нямецкай бібліі Гутэнбэрга — (1445 г.), і чэшскай (1488 г.).

Адменнай адзнакай дзержаўна-праўнага жыцьця (Літоўскі статут 1529 г.) быў дэмократызм у працівулежнасьць абсалютызму Масквы і возглавляемай бязвольнымі каралямі, алігархіі Польшчы.

Беларуска-Літоўскае Княжства до падзела 1772 г. не было уключана у польскую дзержаву, прымусоваяж прылучэньне да Расеі, ні Польшчы, ні Расеі ніякіх гістарычных правоў на Беларусь, не дае; таксама як Беларуска-Літоускае Княжства не дае гістарычных

правоў на Вільню аднэй толькі Літве, так як гістарычные правы на гэты тэрыторыі прыналежалі Беларусі сумесна з Літвой, а этнаграфічные правы заставаліcь выключна на старане Беларусі. Вільна заснована Беларуска-Літоускімі князямі, якіе і гаварылі і пісалі па беларуску.

Беларускае насельньне Віленскага края, дадаючы і горад Вільню, дзе большасьць жыдоуская, выносіць 56%; бяз Вілніж яно мае 64%.

### Спецыфічнасьць Беларусі.

Аграмадныя багацьця леса, торфу, льну, не гаворучы а другіх мажлівасьцях сельска-гаспадарчай прадукцыі, былі заўжды цэнтрам увагі як расейскай, так і польскай эканамічнай зацікаўленасьці; прычым гэта зацікауленасьць натуральна ігнаравала як тэрыторыальна-эканамічную спэцыфічнасьць Беларусі, так і абмежываемые ею патрэбы самага краю.

Старана недатыкаемых лясоў і балот налажыла на беларускі народ печатку містыцызму і веры у выжэшую справядлівасьць пры бэзпрыкладнай працы і барацьбе з прыродай. Адсюль прывязаннасьць да зямлі, павага да ўласнасьці як сваей, так і чужой, дастаўшэйся у рукі цяжкай упартай працай многіх пакаленьняў.

Стэпы і раўніны Велікарасеі, абшчыннае землеуладаньне, незаінтэрэсованнасьць у культывіраваньні грунту (адхожые промыслы і обрабляньне зямлі жанчынамі (стварыл тып расейскага імпэрыялізма. Хіжацкі лёзунг Леніна «граб награбленаё» не выяуляе выключэньня із агульнага правіла.

Паверховае знаемства з Еўропай, фэодальны устрой ўзмежны з паншчынай, рабаўладарскі уклад жыцьця, дзе інтэрэсы тэрыторыальнага захопленьня панують над дзержаўнай будовай уласнай стараны, а уцекачамі выходцамі з Польшчы каланізуюцца чужыя землі дзеля таго, каб захаваць сваі вялікія маёнткі у незачэпнасьці, даюць тып другога імпэрыялізму, мяжуючага з варьяцтвам аб выжшай дастойнасьці польскай нацыі над усімі другімі народамі.

Дэмакратычны лад Беларусі, бытавое, эканамічнае тэрыторыальнае і языковае адрожніваньне беларускай нацыі ад нацыі вялікарасейскай і польскай з перамогай раўназначных адносін да рожнанацыанальных угруповань унутры сваей стараны на падставе дэмакратызма і нацыанальнай роўнасьці, дае права і самой Беларусі абасабленьня у форме незалежнай рэспублікі.

### Вывад.

Зацікаўленасьць Польшчы і Расеі у Беларусі чыста эканамічная. Задоўжанасьць Польшчы у сучасны момант дасягае аграмадных размераў. Унутраны доўг раўняецца двум з паловай квадрыльонаў польскіх марак, а вонкавы поўтара міліарда залатых францускіх франкау.

Ціжар сваей задоўжанасьці Польшча імкнецца паралажыць на



анэксаваныя тэрыторыі Беларусі і Украіны з іх цьвердым бюджэтам — хлеба, лесу і лёну.

Расея разбурана камуністамі — ей неабходна адбудаваць свае старое эканамічнае становішча за рахунок тых-жа окраін.

Ні у бэзкантрольным раскіданьню народных сродкаў Польшчы, ні хіжацкам рабунку Расеі, Беларусь удзелу не прыймала. Ніхто не можа і не мае права прымусіць Беларусь плаціць па чужым рахункам, бэз запытаньня і згоды Беларускага народу.

Прыймаючы пад увагу позытыуную спэцыфічнасьць Беларусі у тэрыторыяльнам, эканамічнам і нацыанальнам адношеньні — беларускі народ на падставе сацыяльных передпасылак усяго выжэйсказанага і выяўленьня сваей волі на Усебеларускам Кангрэсе 17-сьнежня 1917 г. і пастановы Рады Рэспублікі 25- сакавіка 1918 г. патрэбуе поўнай незалежнасьці Беларусі як ад Польшчы, так і ад Расеі.

Старшыня Рады
Беларускай Народнай Рэспублікі П. Крэчэўскі.

20.V.
1924 г.

---

## ТВОРЧАСЬЦЬ.

Хто творыць, меж не знае...
Ціж можна вольны дух загнаць
У рамкі формы, як схаластыка гукае —
Над рыфмай нельга працаваць.

Яна, як дар прыходзіць з неба,
Прад ею ўсё ў той час маўчыць...
Незнаўцы кажуць — мерка трэба —
Дзе мерка, творчасьць там маўчыць.

*К.*

# ХРОНІКА ПАЛІТЫЧНАГА ЖЫЦЬЦЯ.

*Англія.* Вочы усяго сьвету зьвернуты, мо на апошнюю барацьбу працы з капіталам у Англіі. Культурна — узгадованыя і арганізаваныя ангельскія рабочыя хочуць даказаць усяму сьвету бэзпадстаўнасьць рэвалюцыі. Бэз насільства і крыві, бэз руйнацыі здабыткаў культуры і дабрабыту можна здабываць свае правы. Такім чынам выбіваецца апошні грунт з-пад ног трэцяга інтэрнацыяналу аб сусьветнай сацыяльнай рэвалюцыі. Волі працоўных мас у сучасны момант выстарчае для таго, каб сыстэма капіталізму адыйшла у вечнасьць, а калі гэтага німа, то вінавата неарганізаванасьць рабочых. Талькі ўзгадованасьць і арганізацыя, а не помста, кроў і руйнацыя вядуць да сацыялістычнага ладу. Трэба гэта запамятаваць і вучыцца.

*Амэрыка.* Злучаныя Штаты сумленна падлічываюць даўгі Эуропы, бэз надзеі нават калі атрымаць іх, але не хочуць прылажыць рукі да эканамічнай стабілізацыі Эуропы.

З гэтае прычыны яны не увыходзяць і у Дзержаўны Саюз Эўропы — Лігу Нацый.

Эканамічны уклад — мэханічнага капіталізму — закрывае вочы Амэрыканцам на істоту справы. Толькі раўнавага выкарыстоўваньня сырцу і фабрыкатаў вырабчасьці на усім сьвеце, можа даць мажлівасьць Амэрыцы зьвярнуць свае страты і вясьці далей сваю індустрыялізацыю у тым шырокам росьцягу, як яна вялась да гэтае пары.

Збанкрутаваўшая Эўропа пацягне за собай і Амэрыку. Калі палітычныя камбінацыі Эуропы могуць не цікавіць Амэрыку, то эканамічных пытаньняў яна абыйсьці не можа. А эканоміка зробіць лепшай і палітыку — гэта цяпер усякаму ясна.

*Францыя.* Барацьба у Мароко, па прыкладу Польшчы з Крэсамі, зводзіць Францыю на другарадную дзержаву.

Франк хутка зраўнаецца з польскім злотым. Стабілізацыя франка ад сталага мейсца у Лізе Нацый не залежыць. Не станецца гэтага нават і тады, калі на падмогу прыдзе у Лігу Нацый Польшча — гэта залежыць ад палітікі унутранай, і асабліва у гаспадарчым кірунку. Памалу, але разумеюць і французы, што лепш незалежнасьць Мароко,



пад пратэктаратам Францыі, ніж залежнасьць Францыі ад міжнародовага рынку.

*Гэрманія.* Нямеччына як за саломінку хапаецца за СССР. Падвойная ігра у цяперашніх варунках — рэч шкодная. Разумеюць гэта і немцы, але карыстаючись слабасьцю Эўропы, хочуць выехаць на СССР. Гэтага мусіць не станецца: саломка не вытрымае і абедзьве сяброўкі могуць апынуцца на дне.

*Італія.* Рымляне першы народ у сьвеце, гэтай думкай захапіўся Мусоліні і пры дапамозе фашыстаў, хоча змешаць з грязёй усе другія нацыі.

Быў Рым і знік — а цяперашнія рымляне нават і не подобны на сваіх продкаў. Раней умелі жыць і уміраць. Сучасная Італія апрача Мусоліні, нічога сьвету не дала, а каб быць першай нацыей, трэба быць першай усюды, асабліва у культуры і справядлівасьці. Рымскага права не выкрэсліць са свайго ужытку і Мусоліні.

*СССР.* — гэта чарвонец. Есьць грошы, носа не дастанеш, німа грошы, кланяюцца буржуям, грызуцца, а камунізм падае.

Электрофікацыя, індустрыялізацыя ужо больш нікога не вабяць, усе памалу пераходзяць на лучыну. Міравы пажар выціснуў з ужытку газу і сернікі. Цяпер агонь пазычаюць з печы у печ ад суседзяў. Як толькі пасля змычкі, камуністы павярнуліся «тварам да вёскі», вёска з жахам адвярнулася ад іх, абачыушы нешта звярынае.

Аблічча чалавечага у СССР. не відаць. Там пануець мешаніна вырадкаў усіх нацый і народаў, якія хочуць падпарадкаваць сабе чалавека.

Штыкі і кулямёты не падыймаюць чарвонца, заграніца не верыць а бэз грошы камуністы не хочуць працаваць. Ленін хацеў знішчыць грошы, а яго наступнікі, як мага друкуюць паперкі, а золата і каштоўныя каменьня перэпрауляюць заграніцу у «Фонд старой камуністычнай гвардыі».

*Чэхаславакія.* Малая, але моцная дзержава. Нацыанальны розум і гаспадарчая практычнасьць падносяць яе у міжнародовам сэнсе на першарадную дзержаву.

Усе партыі і групы апрача камуністаў, немцау і мадьяраў, працуюць за адно. Дзержава і народ — падстава палітыкі. На гэтай падставе будуюцца і будучыя узаімаадносіны са усімі славянскімі і не славянскімі народамі. Тут знайшлі прытулак і помач усе нацыі пакрыўджаныя бальшавіцкай рэвалюцыей. Адсюль і пачнецца саюз народаў у будучыне.

Цяпер у Празе (6 чэрвеня па 6 ліпеня) адбудзецца рэальнае еднаньне ўсіх нацый і народаў — «Усесакольскі Злёт». Чэкаецца прыезд не менш як поў-мільёну гасьцей, якія носяць у сваім сэрцы думку агульда-чалавеччага братняга еднаньня.

*Польшча.* Польшча перэжывае вульканічны пэрыад. Мае тры сопкі: Пілсудскага, крэсы і камуністаў.

Наследкам непэўнасьці свайго стану зьяуляецца поўная бэз-

гаспадарнасьць, вымога непамерных падаткаў і нішчэньне багацьця, як эканамічнага, так і культурнага іншых нацый.

Барацьба не прыпыняецца. Крэсы патрабуюць незалежнасьці у форме нацыянальна-тэрытарыяльнай аўтаноміі, Пілсудскі дабіваецца улады кампрамісу з нацыянальнымі меншасьцямі, а камуністы патрэбуюць прылучэньня Польшчы з Беларусьсю і Украінай да Саюзу СССР.

Розум гаворыць за дагоду з нацыянальнасьцямі і саюзу з імі, а польскі гонар патрэбуе вялікай Польшчы у саюзе з Францыей.

Не пасьпелі дапісаць мы апошніх радкоў, як прышла вестка, што у Польшчы выбухла рэвалюцыя. Шчасьце Польшчы, што на чале рэвалюцыі стаў Пілсудскі і такім чынам Польшча унікла многіх непрыемнасьцяў, якія нясе рэвалюцыя знізу.

Мы спадзеямося, што цяпер Пілсудскі зробіць тое, чаго не дала яму зрабіць правіца у 1920 г., заключыўшы, нават, прэдчасна Рыжскую умову, каб не дапусьціць да абвешчэньня у Вільні Беларускай Рэспублікі.

Час паказаў, што правіца мылялася. Мы жджэм абвешчэньня Беларускай Народнай Рэспублікі у Вільні. Словы і дзеі Пілсудскага, у 1920 г., калі яны былі шчырымі у адносінах да беларусоў, мусяць быць зьдзейсьняны у 1926 г.

*УССР.* Украіна цьвёрда становіцца на грунт украінскай дзержаунай мовы. Не украінізацыя, а дзержаўная мова. Думаецца, што пры такіх варунках пасьпех будзе лепшы.

*БССР.* Беларусізіруецца Гомэльшчына і Смаленшчына, а Савецкая Беларусь карыстаецца мовай расейскай. Нельга дражніць пана, які з ласкі дазваляе мужыцкую мову у Сель-Саветах, бо там іншай не разумеюць.

Чырвоны Кітай, капіталістычныя акулы заходу, панская Польшча, кулацкая Літва, белая Латвія — звычайныя эпітэты газэт Савецкай Беларусі, а ўсе гэтыя кулакі і акулы, але толькі з Масквы, сядзяць у Менску і скубуць беларускае селянства, якое стогне ня менш, як у панскай Польшчы і кулацкай Літве. Тут можна крычаць і бараніцца, а там папрабуй — зараз вывядуць у расход.

*Літва, Латвія і Эстонія.* Усе гэтыя маленькія дзержавы сумуюць па саюзі між сабой. Чуецца старая туга па саюзу — Украіна, Беларусь, Літва, Латвія і Эстонія, але зараз трудна што небудзь зрабіць. Масква, якмага, разбівае гэту думку і цягне у Саюз Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік, але паасобку, каб зусім абэзсіліць іх у барацьбе за свою незалежнасьць. Есьць чуткі, што Літва згаджаецца на такую камбінацыю. Пажадаем ей пасьпеху у працы на карысьць «Единой неделимой».

*Эміграцыя.* Эмігранты рэзка раздзяліліся на непрымірэнцаў з бальшавіцкай уладай і зваротнікаў.

Аднак гэта не датычыць эміграцыі непалітычнай, яна як і раней, жыве ціха заграніцай і таксама паціху выезджае, альбо ідзе па пяхоту дамоў.



Спэкулятыўны элемэнт палітычнай эміграцыі робіць шум, ладзіць дыскусыі на тэму зваротніцтва, склікае нарады і канфэрэнцыі, каб чым небудзь прыкрыць сваю прадажную думку і з пачотам пераехаць да новых валадыроў.

Між беларускай эміграцыей, дзякуючы бэзкарнасьці, выпрацаваўся асобны від выслугоўваньня. Туды усе хацелі ехаць, як Міністры і нават з пашпартамі БНР. Міністрамі паехаць не удалося, але пашпарты на усялякі выпадак захапілі. Разам з тым не парупіліся, каб здаць дакумэнты, матэрыялы, печаткі і каштоўнае майно, а павязлі усё у Менск, каб, па звыкам ахраннай службы, прэдставіцца з дакумэнтамі у руках перад новым начальствам.

Трэба памятаваць Беларускаму Народу, што дакумэнты і матэрыалы, вывязеныя Цвікевічам і Пракулевічам не могуць лічыцца прыватнай ўласнасьцю, а мусяць быць бэзадкладна зданы у дзержауны архіў.

За усякія неспадзеўкі, звязаныя з тым, што дакумэнты і матэрыалы будуць знаходзіцца у руках непэўных людзей, альбо пападуць у чрэзвычайку, адказнасьц нясуць выключна Цвікевіч і Пракулевіч.

Да гэтага дадаем, што Пракулевіч, адьезджаючы з Прагі прысвоіў 10 лепшых і каштоўных кніг бібліатэкі Беларускай Бібліаграфічнай Сэкцыі у Празе, таксама як і многа кніг і журналаў прыватных асоб, якіе мусяць быць зьвернуты па прыналежнасьці.

# З КУЛЬТУРНАГА БЕЛАРУСКАГА ЖЫЦЬЦЯ.

*Менск.* У БССР. адбываюцца пад націскам беларускага народу звычайныя рэчы. Нельга пакінуць вёску бэз роднай мовы і школы — яна там пануе, але далёка не ўсюды.

З агульнага ліку 3.573-х школ — беларускіх па істоце 1.005, а далей у 1335 школах беларусская мова выкладаецца (?) адзін год, у 881 — два гады і у 333 — тры гады (Полымя, 1925 г. № 4—5). Думаецца, што хваліцца асабліва німа чым.

У семігодках яшчэ гарэй, там чыста беларускіх семігодак толькі тры, з агульнага ліку 190. Адзін год беларуская мова выкладаецца у 48, два гады у 32, тры гады у 61, чатыры у 49, пять у двух і шесьць у пяці. (Там) Нашто-ж іх тады называць беларускімі, калі моладзь у іх узгадоўваецца не па беларуску.

Вывеска Беларускага Дзержаунага Унівэрсытэту даецца для прыманкі, а німа ні воднага факультэту з выкладаньнем на беларускай мове «Труды Беларускаго Государственнаго Універсітета» (Минск 1922 г.) нічога не гавораць аб Беларусі, калі не лічыць зацемку ад рэдакцыі, што «Внутреннее развитіе белорусской культуры отнюдь не должно выражаться, однако, в ее обособленіи от общечеловеческих источников культуры» а далей «Феодалізм в древнем израиле... новый израиль» і, як не здіўна, выкладаньне «Талмуда і кабалы» па 4 гадзіны.

Працэнтнага нацыанальна складу студэнства не буду зусім кранацца, бо дэмагогі зараз гатовы абвінаваціць у антысэмітызме, аднак, мушу сказаць, што першы выпуск «Беларускага Дзержаўнага Унівэрсытэту» — даў толькі 4-х беларусоў.

Тое самае і у другіх выжэйшых школах: шыльд беларускі, а зьмест чужаземны.

*БССР.* хваліцца лікам газет, — тыраж якіх выносіць 90.486 экзэмпляраў. Не будзем гаварыць аб зьмесьце, яны усе аднаго напрамку, аднак і тут беларускіх газэт маецца толькі 4 («Савецкая Беларусь, Беларуская Вёска, Чырвоная Полаччына і Наш Працаўнік»), расейскіх з беларускімі назвамі — 9, польскіх — 2 — жыдоўскіх — 2. («Савецкая Беларусь 5.V.26 г. № 99-1694).

Нарэшце гучнае «Дзержаўнае Выдавецтва», якое за 1924 — 25 г. выдала 141 назву кніг — 679¼ друкованых аркушоў.



Гэта-ж запраўды сьмех. Ластоўскі у Коуне адзін, жывучы на ласкавам хлебе літвіноў, за той самы час выдаў 6 назоў кніг (два №№ Крывіча, два падручнікі Гісторыі, Слоўнік і Гісторыю беларускай кнігі,) якія выносяць больш 100 друкованых аркушоў, — гэта, знача, шостую частку усяго дзержаунага выдавецтва Савецкай Рэспублікі.

Дармо Жылуновіч кажа, што, «Падобныя лічбы павіснуць каменям на языках тых, хто яшчэ асьмеліваецца дагэтуль заікацца аб «прыгнечэньні» нацыанальнае культуры, ці аб непоўнай свабодзе яе развіцьця». А нам здаецца, як казаў Багушэвіч, што вас, паны камуністы, абдурываюць на селядцох. Гэтыя лічбы могуць многа казаць таму, хто нічога не бачыць і гатоў кланяцца і дзякаваць, па старому звыку, за кожную падачку, забыўшы аб правох народу.

Пралетарскі жар ўсезнайства прайшоў і, як не дзіуна, камуністы хочуць вучыцца, хоць тэхніцы у прагніўшай Эуропы. Для гэтай мэты створана камісыя сувязі.БССР. з заграніцей у асобах найвыдатнейшых беларускіх прафэсароў — Цвікевіца, Жылуновіча і Гэльтмана. Думаецца, што Эуропа адразу падпарадкуецца такім вялікім аутарытэтам пралетарскай дзержавы.

*Вільня.* Заходняя Беларусь зьяўляецца асяродкам арганізацыі беларускага грамадзянства і палітычнага жыцьця. Там, як і усюды заграніцай, маюцца усе напрамкі беларускай думкі, якія гуртуюцца каля сваіх органаў друку: — селяне, каля «Селянскай Нівы», хрысьцянскія дэмакраты каля «Bielaruskaj Krynicy», паланафілы — каля «Беларускага Слова», зьменатычнікі каля «Беларускай Справы», а камуністы падпольна — каля «Чырвонага Сьцягу».

Студэнства мае свой журнал «Студэнскую Думку».

Не гледзячы на уціск, Вільня дазваляе сабе часам і сьмяяцца над сваімі гвалтаўнікамі і выдае гумарыстычную часапісь «Маланку».

Выдавецтва ідзе слаба за бракам коштаў, аднак, у апошнія часы якбыццам, торхі рухаецца.

Як бачым, з газэтамі Віленшчына стаіць не горш, як Савецкая Беларусь. Лік аднальковы, а зьмест куды шырэйшы, бо тут ёсьць свабодны крытыцызм усякага напрамку. У Савецкай Беларусі усе мусяць думаць па казённаму.

Нажаль, беларускіе зьменатычнікі, не толькі Віленскіе, але і усе наогул заграніцай, хочуць быць больш камуністамі, чым самі камуністы у Менску. Іх прэсу амаль ня можна чытаць. Апрача бруду, лаянкі і прыслугоўваньня начальству, там нічога німа.

Рабочые і селяне — для іх шырма, а на вуме дваранскія прывілеі камуністычнага начальства за верную службу і пачэсны, як яны кажуць, зварот на бацькаушчыну.

*Прага.* 8-10 сакавіка г. г. адбылася выстаука беларускай кнігі у Празе. Выстаука была невялікая, але прыгожа улаштованая і выклікала вялікую зацікаулянасьць у любаведаў кнігі.

Одзывы аб выстауцы, апрача чэшскай прэсы, можна бачыць у «Prager Presse» 9.III.26 г. № 68, «Дні» 21.III.26 г. № 960, — «Послѣд-

нія Новости» 18.III.26 г. № 1821. і Рыжскае «Сегодня» — 18.III.26 г. № 58.

Цяпер Беларуская Рада у Празе гатуецца да Міжнародовай выстаукі і зьезду Бібліографаў, якія адбудуцца 28 чэрвеня па 3 ліпеня у Празе. Даклад аб гісторыі беларускай кнігі на зьездзе прачытае гр. Крэчэускі.

Культурная праца, не гледзячы на прысутнасьць у Празе больш 100 студэнтаў — ідзе вяла. Студэнства раскладае камуністычная агітацыя, абяцаючая зварот на бацькаушчыну перад страхам невытрыманьня экзаменаў. Грунт гэтага зьявішча ляжыць у тым, што большасьць беларускага студэнства у Празе мала чым розьніцца ад рабфакаў.

*Коўна.* Літвіны за здраду беларускай справе, хочуць хоць трошкі адыграцца на культурнай помачы у працы Ластоўскага.

Апошняе выданьне «Гісторыя Беларускай Кнігі» ( in. 8⁰ — 775 балонак) гаворыць за тое, што яшчэ ёсьць сумленьне у людзей. Ніхай палітычныя страты нагараджываюцца хаця культурнымі здабыткамі.

*Рыга.* У Латвіі выходзіць беларуская газэта «Голас Беларуса» і у апошнія дні выдана дзьве невялічкія кніжкі — «Беларускі працэс» і «Праграмы Беларускае пачатковае школы у Латвіі». Добра працуюць культурна-прасьветныя таварыства «Беларуская хата і Рунь».

*Дзьвінск.* Пры беларускай дзержаўнай гімназыі выдаецца журнал «Школьная праца», дзе прыкладуюць свае літэратурныя сілы вучні гімназыі.

*Амэрыка.* Як відаць з лістоў і карэспандэнцый у Чыкаго прабуджаецца беларускі нацыянальны рух. Неправідловая пастаноўка пытаньня, якогась паразуменьня з русыфікаванымі, ці полёнізаванымі беларусамі, амаль не загубіла беларускую справу у Амэрыцы. Патраціўшы больш трох гадоў, беларуская інтэлігэнцыя цяпер становіцца на правідловы грунт. Ня трэба ганяцца за масамі, трэба адбіраць хоць адзінкі, але сьвядома беларускія — рэшта прыдзе сама стыхійна, калі абачыць запраўдную творчасьць беларускай групы. Добрымі словамі нікога не угаворыш, патрэбна афярная дзейнасьць на карысьць свайго народу.

# СЬМЕХ І ЖАРТЫ.

## ФЭЛЬЕТОН.

з газеты «Савецкая Беларусь» 10. II. 23. №30.

На Савецкай Беларусі,
Як ва ўсей камуне, мусіць,
«Не ўсе дома», як відаць:
Бо ці-ж можна так казаць:
Мы па Марксу ўсе чытаем,
А што робіцца, не знаем,
Не цікавіць нават нас:
Ад Масквы ідзець прыказ.
Але гэныя прыказы,
Шчэ не бачучы, адразу
Выпаўняюцца на сьпех,
(Падліпалы проста сьмех)
Не дайшоўшы. Адамовіч
Іх з паветра проста ловіць...
І не дзіва — Беларусь,
Сьмела я сказаць бярусь,
Хоць Савецкай і завецца,
А Маскоўшчынай вядзецца.
Беларусь маўчыць, бо сьценка
Іх чакае, як паненка,
Адамовіч тут як тут,
Два-тры словы і капут...
Ну, а справамі Чэ-ка
Возьмеш нават Чэрвяка.
Але гэта ўсё дадаткі
Зразумець Масквы ухваткі.
Трэба цьверда і ўсім знаць,
Гэту назву як чытаць.

---

Горад ўсё — паскудства вёска,
Продналог калі-ж, развёрстка,
Ім патрэбны, то і шэф,
Так пустыя словы, блеф.
Маркс па Леніну, як дышла
Павярнеш куды і вышла,
А карміць усё-ж патрэбна
Вёскай горад, бо бяз хлеба
Камуніст — гультай звычайна —
Стане ворагам негайна, —
Нават Марска, што казаць,
Хлеб яму мы мусім даць,
На селян увагі мала
Нам цяпер зьвяртаць прыстала,
Бо раскідаўшысь шырока
Із нуды і цемры, вока
Іх не бачыць, як мы дрэнна
Ўсе рабілі тут дарэмна.
А падгледзяць — зварухнуцца,
Там курсанты апынуцца.
Навядуць парадак сьмела,
Да сялян нам мала дзела.

---

Пралетарый — селяніну
Намазоліў добра сьпіну,
А каб лепш яго карміў —
Два разы у тыдзень біў.
Зямлю так даюць паволі,
Але сей мага як болей,

Нават восеньню зьбіраць,
Мы не прыдзем памагаць.
А зьбярэш — снапы палічым,
Па зубам табе натычым,
Адашлем у Совнархоз, —
Щчэ каб сам ты і прывёз —
Гэта значыць продналог
Ад тваей галоўкі злёг.
Сам карміся чым папала
Нам быды шчэ не хапала
Клапаціцца аб г..не
Каму «на», а каму «не».

---

Беларускі «Белтрэст-друк»
Нам крычыць, як цецярук:
На газэту трэба грошы...
Але пэўна трэсьне друк,
Бо там ходзіць многа рук,
А патрэбны кнішаношы...
На адну газэту трэста
Не патрэбна нават зрэшта,
А каб выдаць кніжак пяць,
То бярэцца ўсё падняць:
Ў Вільні — Клецкін, Знамяроўскі,
Ў Коўне Бак, ці Сакалоўскі,
А ў Рэспубліцы Савецкай —
(Ці-ж выдавец гэта — пэцкель)
Выдаў «Полымя» і «Сьцяг»,
Кажэ мёты ўжо дасяг...
А падручнікі, а дзеці,
Што бадзяюцца па сьвеці
І бяз хлеба і бяз кніг,
Што зрабілі вы для іх.

---

Пралетарская дзержава,
Кажуць горда, наша слава,
А дзержавы той бюджэт
Кніжку выдаў — вось і нет».
Колькі страху набярэшся,
Да Масквы пакуль дапнешся,
Колькі кланяцца прасіць,
Трэба, каб «лімон» дабыць.
Кажуць нам, што тут ўсё роўна
У саюзе безумўона
Карыстаюцца павагай
І «грашоваю» бумагай
Ўсё рэспублікі Саветаў,
Но гаворка толькі гэта...
Так, за полеўку з сачыўкі
Жылуновічы з абмылкі
Смільга, Кнорын, cetera
Прадаюць селян не зра.
На абшарах Беларусі,
(Ў гэтым я не памылюся)
Пралетарскі цэлы «Ком»
Гэта і будзе Совнарком.
Больш німа там ані званьня
Пралетарскага вызнаньня,
Есьць проацоўны толькі люд,
То селянства, а не бруд...

---

Наагул, як агладзецца,
То німа куды ім дзецца,
Спраў ніякіх тут не маюць,
Больш харчоў усё шукаюць —
Зьелі ўсё: кароў і коні,
Селянін ня сее гоні,
Бо прылад німа, ні снасьці,
Наваліліся ўсе напасьці
На камуны нашай мары,
Абляглі яе, як хмары:
Дармаеды-камуністы,
Ці зладзеі, ці чэкісты.
А гезэты пішуць ясна,
Што камуна наша красна
(Так вучоны іх даводзіць)
Есьць бацылла — Маркс разводзіць
Гэну пошасьць, як шаленства
І дайшла яна да Менска...

---

Што мы робім. А нічога...
Так, патроху лаем бога.
Пра папа, паповых дочак
Піша нам «Звезда» лісточак.
Выганяем з нашай хаты
Сорам, Бога, бо рагаты
Чорт ён будзе, ці прачвара,
Больш прыемны нам, — да твару.



Сьвят німа — царква карчмою
Мусіць стацца, ці турмою.
А заместа веды, школы
Мы даем будынак голы.
Калі хоча хто вучыцца,
Можа на яго дзівіцца.
А падручнікаў, ці кніжак —
Не шукай выжэй і ніжэй,
Бо ў Маскве Нівэрсітэту
Далі толькі па партрэту
Маркса-Леніна, усёга,
А з падручнікаў, нічога...
Вось і вучаць там на вока
Камунізму ўсіх глыбока,
А на вёсцы школа сьпіць,
Бо німа каму вучыць.
Кніг даўно ніхто ні бачыць,
Моладзь бэсьціцца, лайдачыць,
Із «Савецкай Беларусі»
Папіросы круціць мусіць,
Селянін, як пападзецца,
«Калі дарма раздаецца»
Нумэр гэныя газэты
Праз якіе камітэты.
Так і кормяцца газэтай,
Бо вядома, што за гэта
Дасьць махоркі вам бяз меры
Кожны, як дасі паперы.

---

Вось яшчэ адна забава:
Селянін жыве без права,
Корміць зграю камуністаў,
(Абдзіраюць яго чыста)
Кажуць — ты для нас буржуй,
Хлеб давай і «не талкуй»
Но «селянская» улада
Нібы нейкая прылада,
Да «рабочай» дадаецца
Так, для слова, як здаецца.
Эх, на вогнішчы «босые»,
Хто скажыце вы такіе. —
Но напэўна не селяне,
А Маскоўцы — гаражане.
І дарэмна так Чарот
З імі пхнецца напярод
Што на вёсках здабывалі
У Маскву ўсё адсылалі
Так рабіў калісьці цар,
Робіць так і камісар.
Мы падзякаваць ня можам,
Тут Чарот нам не паможа,
Нашых сябраў камуністаў,
Што нас знішчылі дачыста...
Як пажарышча — то «вёска —
Там бяды, нуды дарожка —
Вось дзе вогнішча ўсіх босых,
А не у Пітерскіх матросаў.
Не пры чым мы тут — так знайця
Нас з тэй хэўрай не раўняйця,—
Нас — дзяцей палеў, балот, —
З імі хай ідзе Чарот.

---

Ўсім патроху будзе роўна,
Гэта праўда, безумоўна,
Але й працу падраўняць
Трэба разам з тым казаць.
Ты фабрычны, я вясковы,
Завядзём парадак новы —
Табе хлеб, а мне прылады,
Каб былі абодва рады —
Будзем шчыра працаваць,
Каб багацьце здабываць.
А калі ты панам ходзіш,
А мяне на працу гоніш,
То які же ты мне брат...
Каб ты здох, я быўбы рад.

---

Выдавецтча «Наркомзем»
Кажа: барацьбу вядзем
Мы з яловасьцю скаціны,
Вучым, як разводзіць свіні,
Але тут бяда, ей-ей,
Развялося ў нас свіней
Больш на дзьвёх нагах. Жывёлы
Гэнай поўны нашы долы,
А скацінкі — не, німа,
Адабраў «Совхоз» дарма.
Нішчыць шкоднікаў палеў,
Агародаў і садоў,
Сеяць лубін, як патрэба,
Каб бяз гною болей хлеба

Урадзіла, вучым цьвёрда,
Але усе зачыць не горда...
Торф і попел, косьці ёсьць —
Ў гаспадарцы гэна досьць —
Сей пялюшку, сэрадэлю
Дзе, як хочаш дабрадзею,
А насеньня усёж німа
І не дасьць зямля сама
З агітацыі нам хлеба,
Бо насеньне нам патрэба.
А апроч яшчэ таго,
Не хапае аднаго —
Бараны, сахі і плуга.
Вось із гэнага то круга
Нас не выключыць «Совхоз» —
Дулю тыча нам пад нос
Агітуе тое-сёе,
А патрэбна нам другое,
Бо галоднае куме —
Хлеб адзіны на вуме...

---

Але досыць пісаніны,
Бо заместа хлеба, гліну
Будзем есьці, калі зноў
Будзем слухаць тлумачоў
Із Масквы, ці Петраграда,
А мая вам тут парада:
Пралетарый! будзь на варце!
Кулаком камуну шпарце!
Дайце волю селяніну,
Разамне нехай ён спіну —
Потым разам да работы,
Каб ня елі вас сухоты.
Абъеднаньне — ваша сіла.
Горад вам усім — магіла.
Хто гультай, хай застаецца
Галавой аб сьцену бьецца.
А свабодны, працаздольны —
Выйдзе хай на вёску вольны
І за плугам і сахой
Знойдзе шчасьце і пакой.

---

Гарады не зьнішчаць болей,
Бо зруйнованы даволі.
А як вёска адпачыне,
То і горад не загіне.
Гэй, селяне, не сумуйця.
Добра сілы разрахуйця,
Як прыдзецца бараніцца,
Каб маглі за волю біцца —
За сваю і за чужую,
Але толькі не такую,
Як вы бачылі пры Нэпах
Ў рожных «вол» і «ком» совдэпах
А праўдзівую як сьвет,
Каб усім жылось як след...

---

Сацыяльны строй бяз меры
Нам патрэбны — не паперы
У жыцьці, об нас паны
Душаць векі не адны.
Пан Варшаўскі, ці Маскоўскі,
Камісар нават жыдоўскі,
Нам ня будзе свой як брат
Камуніст, ні дэмакрат,
Бо у нас душа такая,
Што наперад добра знае:
Беларуса — беларус
Зразумее толькі густ.
Што Масква нам і Варшава,
Калі наша гіне справа:
Гэна справа — ёсьць дзяржава
І дзержаве гэнай слава
К чорту хітрыкі і зьдекі
Помні беларус навекі:
Дзе загон твой — гаспадар,
Там адзін ты пан і цар.

*Заноза.*

30. III. 1923 г.



## ПЛАЧ ПАЭТА.

Савецкая Беларусь 7-III 25. № 54. «Трымуф»

«Эй вы, бабы, дзеўкі, мужчыны, падросткі
«Выдзе сталічмы паэт на падмосткі.
«Зьбірайцеся, людзі «Савецкія»,
«Слухаць песьні маладзецкія.
«І танна і люба!
«Гэй, марш да клюба!

---

«Бурапень, ты, мая песьня новая!
«Сэрца рыжае скачы!
«Вечар пьяны носам клёвае,
«А з стрэх віснуць смаркачы...

---

Вечар праўда пьяны,
Бо таргуюць гарэлкаю:
Клююць носам яны —
Камуністые з дзеўкамі.
Павярнулісь часы
Зноў баярскія
Манапольку насы
Чуюць царскую.

---

Стрэх німа, смаркачы
З носу льюцца ад холаду
І куды уцячы
Ад камуны, ад голаду.
Уцірай рукавом,
Калі лахі трымаюцца.
Смаркачамі, як злом
І камуна трымаецца.

---

«Эх, засьмейся ты, постаць радняная,
«Спачывайце вы, сярпы!
«А ты, стрэшка саламяная,
«Выкінь вон свае цапы!

---

Добра выкінуць радно,
Калі ёсць крамніна.
Апушчаемся на дно:
Губіць нас даніна.
Разумеецца сярпы
Ў зімку не да твару,
Але што рабіць, цярпі
Шчэ гадок, ці пару.
Малаці, малаці —
Рукі маюцца,
Праднлог заплаці —
Скарыстаюцца.
Хоць ты выкінь цапы,
Бо карысці німа,
Забіраюць снапы
Бэз заплаты, здарма.
І працоўны народ
Ходзіць з торбаю,
Бо камуна яго
Лічыць мордаю —
Не якою нібудзь,
А кулацкаю...
І жывём бэз пакут
Боскай ласкаю.

---

«Эх, зазьзяе электрафікацыя.
«Пусьцім трактар-самацяг:
«На два локці грунт абмацае
«Пралетарскае дзіця!

---

Гэта добра, але змрок
Душыць нас бяз меры:
Газы не даюць знарок,
Толькі шлюць паперы.
Ну, а мацаюць як след
Сьвірны, нават скрыні.
Не схаваеш і абед,
Бо зьядуць, як свіні.
Трахтар гэты, чорт із ім,
Ці нетрафікацыю:
Ты аддай яго чужым,
Будзеш мець хоць рацыю.
Бо у нас і так жыцьцё
Стала неспакойна:
Ты усё мацаеш маё
І бярэш падвойна.

Што нам трахтар такі
Электрофікацыя,
Калі вочы чэкі
Усё абмацаюць.

---

«Кавалюйжа, мая вёская зрэбная
«Ты выкоўвай новы быт.
«Каласіся, поля хлебнае,
«Лайся вецяр, вол рабы!

---

Зразумець я не магу,
Што кавапь ты кажэш.
Калі гнуць цябе ў дугу,
Як ім не падмажэш.
Каласіся, каласісь...
Але трэба сеяць:
Не пасееш, як калісь...
Не прыдзецца веяць.
Волік быў у нас рабы,
Танна так прадалі,
Каб сабе хоць, на дзяды...
А то так забралі.

---

«Бразне, дзынкне у лесі золак ключыкам,
«Цэдь на травы лье туман;
«Эх, кацісяж ты абручыкам,
«Сказ мой, хмелева — буян!

---

Вось заусёды, дзе гулянка —
Там і вы абручыкам.
Гэта робіць так мой Янка
З саўнаркома ключыкам:
Дзе гарэлка, там і ён —
Лаецца паскудна...
Малады, а самагон
Пьець, аж стане нудна.
Падла гэта — малады —
Кіпцём прыдушыць бы,
Возьме лаяцца — куды...
А не знае лічбы...

---

Плач паэт, барані
Родную краіну
Сваей музай кляймі
Гэту блутаніну.
Хоць і скованы язык —
Бачым між радкамі —
Тую праўду, што прывык,
Ты казаць між намі.
Ланцугоў для нас німа —
Волатоў для слова —
Хай ня цешацца дарма...
Нам цярпець не нова!

*Заноза.*

29. III. 25.

## МАНА.

Нідзе не лёгка так блудзіць,
Як ў горах і далінах:
Дзе ўсё ля вашых ног ляжыць,
А покуль дойдзеш — згінеш...

Сьцежынкі пекныя бягуць
Уздоўж, — налева, ўправа,
Але, якраз цябе вядуць
У другі бок ласкава...

Хоць на гарэ, а не відаць
І быстрым вочам мэты,
І як сляпы гатоў блукаць
Ад ночы ты да сьвету.

На вышку ўлезшы камуніст
Пажарам сьвет пужае...
А што крывёй ўнізе чэкіст
Яго згасіў — не знае.

З гары спусьціўшысь толькі ўніз
Дарога пазнаецца...
Ў гары, на купале нам крыж
Маленечкім здаецца...

З гары у ніз і з нізу ўверх
Абман так і крадзецца,
Ў камуне грэх, у правых сьмех.
А людзям дастаецца.

*К.*

# АБВЕСТКІ.

## АДРЭСЫ

### Беларускіх газэт і журналаў.

Выпісывайце і пашырайце беларускае друкованае слова. Для цела патрэбен хлеб, а для духа — друкованае слова. На стале кожнага беларуса мусіць быць абавязкова і тое і другое.

1. **Селянская Ніва** — Орган беларускага селянскага саюзу выходзіць адзін раз у тыдзень. Wilno, Polocka 4.
2. **Bielaruskaja Krynica** — Тыднёвая селянская газэта. Wilno, Polocka 4—10.
3. **Беларуская Справа** — Выходзіць два разы у тыдзень. Wilno, Wilenska 12 m 6.
4. **Беларуская Слова** — Выходзіць раз у тыдзень. Wilno, ul. Niemecka 1, Hotel «Sokolowski», pokoj № 23.
5. **Голас Беларуса.** — Выходзіць — 1, 10 і 20 кожнага месяца. Riga, Dzirnavu iela № 33, Latvija.
6. Бюлетэнь загранічнай групы сацыялістау рэвалюцыянэрау Č. S. R. Radotin u Prahy č 266.
7. Бюлетэнь Рады Б. Н. Р. — Praha II, Vencigova 4.

## ЖУРНАЛЫ.

1. **Студэнская Думка.** — Месячнік беларускага студэнства у Вільні. — Wilno, Wilenska 12 m. 6.
2. **Крывіч.** — Месячнік літаратуры, культуры і грамадскага жыцьця. — Kaunas.
3. **Школьная Праца.** — Часапісь Дзьвінскай Дзержаунай Беларускай гімназыі. — Daugaupils, Varsavas iela 16.
4. **Замежная Беларусь.** — Зборнік гісторыі, культуры і эканомікі. Tchecoslovaquie, Praha XII, Erbenova č. 1.
5. **Маланка** — Гумарыстычная тыднёвая часапісь Wilno, Wilenska 12. m. 6.